М. МАТУКОЎСКІ

# МУДРАМЕР

ВЫБРАНЫЯ
П'ЕСЫ



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1989

ББК 84Бел7
М 33

Прадмова *Г. Бураўкіна*

В сборник пьес известного белорусского драматурга Николая Матуковского вошли комедии «Амнистия», «Мудромер», драма о подвиге Константина Заслонова «Поединок» и другие пьесы, пользующиеся заслуженным успехом у зрителей.

**Матукоўскі М.**

М 33 Мудрамер: Выбр. п'есы/Прадм. Г. Бураўкіна.— Мн.: Маст. літ., 1989.— 344 с., 8 л. іл.

ISBN 5-340-00406-6.

Матуковский Н. Мудромер. Избр. пьесы.

У зборнік п'ес вядомага беларускага драматурга Мікалая Матукоўскага ўвайшлі камедыі «Амністыя», «Мудрамер», драма пра подзвіг Канстанціна Заслонава «Паядынак» і іншыя, што карыстаюцца заслужаным поспехам у гледачоў.

М $\frac{4702120203-100}{М 302(03)-89}$ 104—89

ББК 84 Бел 7

ISBN 5-340-00406-6

© Выдавецтва «Мастацкая літаратура», 1989

## НА СЛУЖБЕ ДАБРА І СПРАВЯДЛІВАСЦІ

Не сумняваюся, што жыхары ціхіх пасляваенных Расонаў памятаюць прасторны па тагачасных уяўленнях раённы Дом культуры і самадзейныя спектаклі на прапахлай сасновымі дошкамі сцэне. Я і сёння, зусім без іроніі, называю тыя вечары ў цёмнай перапоўненай зале сапраўднымі святамі мастацтва. Гэта былі адзіна магчымыя тады шчаслівыя выпадкі сустрэч з «жывым тэатрам», бо па разбітых, гразкіх дарогах партызанскага краю часта не маглі прабіцца нават спрытныя «палутаркі», каб прывезці сталічных ці абласных артыстаў. Дык вось на той любімай усімі расонцамі сцэне трыумфаваў зусім малады яшчэ супрацоўнік раённай рэдакцыі з не па гадах рэдкай чупрынай і ўдумлівымі, трошкі сумнымі вачамі. Асабліва запомніўся мне яго Чычыкаў, дужа ж ужо хітры і самавіты. Усе мы, малыя і дарослыя местачковыя «тэатралы», верылі, што побач з намі вырастае выдатны акцёр — і, калі ён перабраўся ў Мінск, успрынялі гэта як заканамерны шлях абранніка Мельпамены.

Але ён артыстам не стаў. Ён выбраў сабе лёс журналіста, дарэчы, наколькі нялёгкі, настолькі і шчаслівы. І сцэна пры гэтым ад яго нікуды не ўцякла — вось ужо не адзін дзесятак гадоў, прыходзячы ў многія тэатры краіны, гледачы сустракаюцца з ім, саркастычным і ласкавым, суровым і расчуленым, заўсёды ваяўнічым і даверлівым...

Я кажу ўсё гэта пра знакамітага нашага драматурга Мікалая Матукоўскага.

Мы нарадзіліся з ім на адной зямлі? у лясным, знявечаным вайною Расонскім раёне. Мы надыхаліся ўдосталь і мядункавым водарам лугоў і баравін, і горкім дымам пажараў і перастрэлак і наглядзеліся ў дзяцінстве такіх пакут і жахаў, што да канца дзён сваіх і час, і людзей будзем судзіць меркамі таго жыццёвага вопыту. Недарма ж героі яго п'ес (ды і газетных публікацый таксама) у самым страшным праведным гневе, калі ўсё цямнее ў вачах і, здаецца, немагчыма знайсці патрэбнае слова, кідаюць у твар непрыяцелю: «Фашыст!» — і як вышэйшую атэстацыю доб-

расумленнасці і надзейнасці паўтараюць строгую ацэнку бацькоў і старэйшых братоў: «Я з ім пайшоў бы ў разведку». Усё гэта настолькі арганічная асабістая пазіцыя М. Матукоўскага, што ён міжволі аддае яе дзеючым асобам сваіх твораў — надзённых і бескампрамісных.

У многіх інтэрв'ю пісьменнікі нярэдка гавораць пра адмоўны ўплыў доўгай журналісцкай практыкі на літаратурную творчасць. І доля праўды, пэўна, у гэтым ёсць: газетныя законы надзённасці, аператыўнасці не могуць не абсякаць, не «габляваць» бязлітасна разгалінаванае зялёнае дрэва мастацтва. Успамінаючы выдатную журналісцкую работу карэспандэнта «Известий» Мікалая Матукоўскага і ягоныя шырока вядомыя п'есы, я не магу не пазайздросціць радасна таму рэдкаму «кампрамісу», які яму ўдалося знайсці. Праз усё сваё творчае жыццё ён умела і ашчадна нясе кволыя сазлучаныя сасуды журналістыкі і літаратуры. Ніводзін яго карэспандэнцкі матэрыял не напісаны халоднай рукой бойкага інфарматара — у ім абавязкова адчуваецца і трапяткая душа мастака, і чуйнае стаўленне да слова, і імкненне знайсці ўнутраную «драматургію», інтрыгу. І ні ў адной ягонай п'есе няма хітрага аб'ектывісцкага погляду «збоку», з адлегласці часу — яны дакладна выходзяць на самыя балючыя праблемы жыцця, рашуча ўмешваюцца ў вострыя грамадскія дыскусіі, адкрыта і горача даказваюць, сцвярджаюць, папярэджваюць. Нават па нашых сённяшніх «перабудоўных» крытэрыях і «Амністыя», і «Апошняя інстанцыя», і «Мудрамер» — творы па-сапраўднаму смелыя і мужныя...

У гісторыі савецкай прэсы не так ужо і багата выпадкаў, калі пасля крытычных публікацый здымалі з важных пасад высокіх чыноўнікаў. Часцей усё заканчвалася даволі памяркоўна — «указаць», «звярнуць увагу», «запатрабаваць», у крайнім выпадку — «аб'явіць вымову». А вось пасля артыкула «Цень адной памылкі» былі зняты міністр унутраных спраў, пракурор рэспублікі і іх першыя намеснікі. Думаю, што гэты прыклад дзейснасці друку доўга яшчэ будзе адным з надзвычайных. І не сам сенсацыйны факт мне хацелася б падкрэсліць, а тую рэальную адказнасць і мужнасць, якія браў на сябе журналіст, рыхтуючы матэрыял. Акрамя гранічнай дасведчанасці і дакладнасці тут патрабаваліся яшчэ сумленнасць і прынцыповасць. І яны ў М. Матукоўскага былі.

Калі я пытаюся ў сябе, чаму ўсё-такі знаны драматург не кідае сваю турботную газетную справу, сярод многіх адказаў не на апошняе месца стаўлю асязальнасць канкрэтных жыццёвых сітуацый і канкрэтных чалавечых лёсаў, якую дае журналісцкая работа. Добра ведаючы Мікалая Ягоравіча як вельмі спагадлівага, уражлівага і энергічнага, я разумею, наколькі важна яму бачыць «персаніфікаванымі» дабро і зло, розум і невуцтва, працавітасць

і безгаспадарчасць, наколькі неадольная ў яго прага неадкладна ўмяшацца ў іх барацьбу і дабіцца найхутчэйшай перамогі справядлівасці не ў прынцыпе, а «датычна» пэўнага выпадку і пэўнага чалавека. Ён — не з назіральнікаў сучаснасці, ён — з яе актыўных удзельнікаў і стваральнікаў.

І ўсё ж я думаю, што спектаклі па яго п'есах даюць не меншую выхаваўчую карысць, чым тэмпераментныя газетныя выступленні. Я не раз бачыў, як з рук у рукі перадавалі «Известия» з ягонымі артыкуламі, але з яшчэ большай гордасцю я чуў, як пыталіся пра лішні білецік каля тэатральных афіш з «Амністыяй», «Мудрамерам», «Апошняй інстанцыяй». Дык ці варта вылічаць меру ўздзеяння журналіста на драматурга і наадварот? Калі яны так добра дапамагаюць адзін аднаму, калі яны патрэбны адзін аднаму, не будзем расхістваць іх суладны палюбоўны саюз сваімі здагадкамі і літаратуразнаўчымі пошукамі. Але адну цікавую асаблівасць Матукоўскага-драматурга абавязкова хочацца адзначыць. Зусім не спецыялізуючыся на фельетонах і будучы па натуры сваёй чалавекам разважлівым, інтэлігентным і мяккім, ён найбольшага прызнання дасягнуў сатырычнымі камедыямі. Парадокс? Не. Выпадковасць? Не. Сапраўды чулы і добры, ён ваяўнічы ў сваёй чуласці і дабрыні. Таму і выбраў для ідэйных баёў, разам з іншаю, і такую вострую, такую «забойную» зброю, як сатыра. І не ягоная віна, што і пасля здзеклівага рогату перапоўненай залы, пасля дружных апладысментаў асуджэння побач з намі ўсё яшчэ даволі ўпэўнена працягваюць жыць і дзейнічаць салавейчыкі і залівакі, божашуткавы і папсуевы, кічкайлы і вяршылы. Перамагчы іх на сцэне нярэдка куды лягчэй, чым у рэчаіснасці.

Што забяспечыла п'есам М. Матукоўскага такі бясспрэчны, такі працяглы і шырокі поспех («Амністыю», напрыклад, паставілі больш за сто тэатраў краіны, «Мудрамер» ідзе ўжо ў дваццаці)? Думаю, што гэты поспех у іх сацыяльнай значнасці, іх абвостранай непрымірымасці да ўсялякай бездухоўнасці і несумленнасці, іх яркай сцэнічнасці. І яшчэ ў тым, што густа населены яны не пацешнымі дзівакамі і блазнамі, а рэальнымі грамадскімі тыпамі. Можа, часам ім не хапае рознабаковасці характараў і складанасці лёсаў, але якія дакладныя (і нярэдка страшныя ў сваёй рэальнасці) з'явы нашага жыцця нясуць яны ў сабе — і бюракратызм, і кар'ерызм, і беспрынцыповасць, і лянота, і падхалімства, і раўнадушнасць... Як жа не падзякаваць пісьменніку, што ён своечасова, таленавіта і бязлітасна разгледзеў іх, выкрыў і вывеў на народны суд!

...Часта, калі праходжу па ціхім Бранявым завулку Мінска, у туманнай раніцы ці ў вячэрнім змроку бачу ў знаёмым доме асвет-

лепае яркай пастольнай лямпай акно на другім паверсе і за ім — схіленага над пісьмовым сталом засяроджанага чалавека. Мікалай Матукоўскі працуе. Можа, заканчвае свой чарговы праблемны артыкул для родных «Известий». Можа, складае пісьмо ў высокія інстанцыі з просьбай дапамагчы ў бядзе адзінокай удаве ці зняверанаму вынаходніку. Можа, рыхтуецца да інтэрв'ю з Васілём Быкавым ці Міхасём Савіцкім. Можа, занатоўвае ўражанні пасля адказнай замежнай паездкі (а пабываў ён больш чым у пятнаццаці далёкіх краінах). А можа, пачаў сваю новую п'есу, самую запаветную, самую галоўную...

Што б ён ні рабіў, я ведаю: ён як і раней на службе дабра і справядлівасці. І я адчуваю сябе больш упэўнена па нашай неспакойнай зямлі.

*Генадзь Бураўкін*

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Якаў Фаміч Добрых — дырэктар фабрыкі цацак.
Рагнеда Іванаўна Божашуткава — галоўны канструктар.
Ізабела Дрозд — галоўны мастак.
Іван Кічкайла — старшыня фабкома.
Рыгор Салавейчык — слесар-самародак.
Андрэй Таратута — канструктар.
Сцепаніда Моўчан — работніца.
Кузьма Хаценьчык — рабочы.
Зойка Гусельнікава — работніца.
Тамара Мажэйка — работніца кандытарскай фабрыкі.
Іпаліт Секержыцкі — пенсіянер.
Варвара Феафілаўна Ягадка.
Міліцыянер.

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Сціплы кабінет Якава Фаміча. Сталы літарай «Т». На сталах, стэлажах — узоры і макеты дзіцячых цацак. На сценах — чарцяжы, эскізы, малюнкі. Маўклівая, але бескампрамісная, бязлітасная барацьба двух стыляў, дзвюх эпох.

У кабінеце Якаў Фаміч і Ізабела.

Ізабела. Як галоўны мастак фабрыкі я адмаўляюся зацвярджаць гэтыя ўзоры! Мы з калыскі павінны выхоўваць у чалавеку мастака!

Якаў Фаміч. Ну, калі ўсе будуць Шышкінымі ці Рэпінымі...

Ізабела. Якаў Фаміч, вы добра разумееце, што я маю на ўвазе. *(Паказвае на ўзоры.)* Гэта ж поўная дэградацыя! Я згодна з вамі, яны танныя і простыя па тэхналогіі, але няўжо вы не бачыце, што гэта ж прымітыў! І па думцы, і па форме! Гэтымі цацкамі мы канчаткова загубім у дзіцяці фантазію. Мы свядома ствараем вакол яго свет нейкіх пачвар!..

Якаў Фаміч *(разглядае ўзоры на стале)*. Нічога страшнага — прылады працы. І грабелькі, і вядзёркі дзецям таксама патрэбны. Вы бачылі, Ізабела Сямёнаўна, як яны любяць у зямлі корпацца?

Ізабела. Патрэбны, Якаў Фаміч, але не такія, як гэты. І не яны галоўнае...

Якаў Фаміч. А што галоўнае?

Ізабела. Таты і мамы гэтых дзетак запускаюць касмічныя караблі, лятаюць на рэактыўных самалётах. А мы іх дзецям — грабелькі, лапаткі, тачкі. Давайце запусцім саху і жорны. Таксама прылады працы!

Якаў Фаміч. Ізабела Сямёнаўна... На нашым абсталяванні толькі і стругаць тачкі! Трэба ж быць рэалістам, а не лятаць у воблаках.

Ізабела. Значыць, трэба замяніць абсталяванне.
Якаў Фаміч. Ха! Лёгка сказаць — замяніць!..

Тэлефонны званок.

Так, слухаю... Так, гэта я, Добрых... Што? *(Вялікая паўза.)* Ужо сядзіць?.. Разумею... Разумею... Ну што ж я магу сказаць... Кожнаму сваё... Усяго добрага. *(Кладзе трубку і глядзіць перад сабой невідушчым позіркам.)* Вы нешта сказалі?

Ізабела *(здзіўлена).* Я сказала, што трэба замяніць абсталяванне. Ужо даўно пара.

Якаў Фаміч *(думаючы пра нешта сваё).* Так-так... Замяніць... Перамяніць... Выкінуць...

Ізабела. Мне ісці, Якаў Фаміч?

Якаў Фаміч. Так-так, ідзіце... Мы як-небудзь потым... Пазней. Скажыце, няхай да мяне зойдзе Рагнеда Іванаўна. Цяпер! Зараз жа!

Ізабела выходзіць. Неўзабаве з'яўляецца Божашуткава.

Якаў Фаміч. Сядайце, Рагнеда Іванаўна. Сядайце...

Божашуткава. Можа, крыху пазней, Якаў Фаміч? Я сабрала ў сябе невялічкую нараду па танку.

Якаў Фаміч. Пакуль вайны няма, танкі пачакаюць. Сядайце.

Божашуткава. Непрыемнасці?

Якаў Фаміч. Ха! «Непрыемнасці»! Не тое слова, Рагнеда Іванаўна, не тое слова. Катастрофа!

Божашуткава. Новыя мадэлі міністэрства забракавала?

Якаў Фаміч. Якія мадэлі? Я кажу — ка-та-строфа! Пад нашай фабрыкай узарвалася міна!

Божашуткава. Дзе? Калі? Я нічога не чула!

Якаў Фаміч. Яшчэ пачуеце... І ведаеце, хто гэтую міну падклаў?

Божашуткава. Акуль жа?..

Якаў Фаміч. Вы, паважаная Рагнеда Іванаўна!

Божашуткава. Ну, ведаеце!.. Так і да інфаркту недалёка. Што гэта значыць? Заўсёды ў вас нейкія дзіўныя гіпербалы! Я нічога не разумею.

Якаў Фаміч. Гіпербалы? Не разумееце?.. Зараз зразумееце. Рыгора Салавейчыка помніце? Хто-хто, а вы павінны яго помніць.

Божашуткава. Слесара з цэха механічнай цацкі?

Я к а ў  Ф а м і ч. Слесара? Хулігана! Архараўца! Бандыта з цэха механічнай цацкі! Таго самага, каго я двойчы хацеў звольніць! І за каго двойчы заступаўся мой намеснік!

Б о ж а ш у т к а в а. Я заступалася за яго, Якаў Фаміч, таму, што ў нас людзей не хапае. Вы ж ведаеце: у канцы кожнага квартала інжынераў і тэхнікаў да станкоў ставім. А ён першакласны слесар і токар адначасова. Можна сказаць, самародак...

Я к а ў  Ф а м і ч. Ну дык вось... У турму сеў гэты ваш самародак!

Б о ж а ш у т к а в а. Як... у турму? За што?

Я к а ў  Ф а м і ч. За што? Напіўся да зялёнага змія, уварваўся ў чужую кватэру, пабіў гаспадара. Мала гэтага — пайшоў на пляж і там яшчэ пакалечыў дзяўчыну.

Б о ж а ш у т к а в а. Хто вам сказаў?

Я к а ў  Ф а м і ч. Толькі што начальнік міліцыі званіў. Салавейчык ужо сядзіць у КПЗ. На яго заводзіцца крымінальная справа.

Б о ж а ш у т к а в а. Які ідыёт! Божа мой, які ідыёт!

Я к а ў  Ф а м і ч. Вось яна, ваша міна, Рагнеда Іванаўна! Цудоўна бабахнула! Усё ўшчэнт! Граматы, дыпломы, званне — усё!

Тэлефонны званок.

Так, слухаю!.. Слухаю вас, Мікалай Аляксандравіч... Ужо ведаю. Начальнік міліцыі званіў... Вось сядзім са сваім намеснікам, раімся, што рабіць. Вядома, ганьба... Горш, здаецца, няма куды. Будзем думаць, Мікалай Аляксандравіч, будзем думаць... Так-так, вядома. *(Кладзе трубку.)* Ну вось, калі ласка! Ужо сакратар райкома ведае, выклікае да сябе. Аператыўна працуе ў нас міліцыя!

Б о ж а ш у т к а в а. Не прымайце так блізка да сэрца, Якаў Фаміч. Вядома, непрыемнасць. Але не трэба рабіць з гэтага трагедыю...

Я к а ў  Ф а м і ч. Хацеў бы я на вас паглядзець, Рагнеда Іванаўна, калі б вы сядзелі на маім крэсле! Мы ж цяпер год, а то і два ва ўсіх даведках і дакладах будзем красавацца! Як адмоўны прыклад! Шчэ які прыклад! Сёння або заўтра чакайце фельетаніста з «Вячоркі». А можа, і цэнтральная прэса ўважыць.

Б о ж а ш у т к а в а. Няўжо нічога нельга прыдумаць?

Якаў Фаміч. Прыдумаць? Ну што ж, калі ласка, прыдумвайце! А я — пас.

Божашуткава. Начальнік міліцыі сказаў, калі Салавейчыка будуць судзіць?

Якаў Фаміч. Ну якая розніца — праз дзень або праз тыдзень? Што ад гэтага зменіцца?

Божашуткава. Многа што, Якаў Фаміч, вельмі многа. Калі судовая машына скранулася з месца, яе ўжо не спыніш. А калі не — яшчэ не ўсё страчана. Трэба зрабіць так, каб Салавейчыка не судзілі.

Якаў Фаміч. Як гэта... не судзілі? Ён ужо сядзіць у КПЗ!

Божашуткава. Трэба яго адтуль вызваліць. І як мага хутчэй.

Паўза.

Якаў Фаміч. Рагнеда Іванаўна... Вы на што мяне падбухторваеце?

Божашуткава. На добрую справу, Якаў Фаміч... Трэба каму-небудзь з нас неадкладна, вось зараз жа, ехаць у міліцыю і хадайнічаць.

Якаў Фаміч. Хадайнічаць? Аб чым хадайнічаць?

Божашуткава. Каб адпусцілі Салавейчыка.

Якаў Фаміч. Адпусцілі?!

Божашуткава. На парукі, пад распіску.

Якаў Фаміч. Я хадайнічаць не буду! Не буду! Не буду!.. Адмаўляюся! Катэгарычна!

Божашуткава. А хто сказаў, што хадайнічаць павінны абавязкова вы? Народ будзе хадайнічаць, Якаў Фаміч. Народ.

Якаў Фаміч. Ха! Народ будзе хадайнічаць за гэтага бандыта?

Божашуткава. Народ, Якаў Фаміч, я бяру на сябе. Убачыце. Салавейчык яшчэ будзе нашым казырным тузам!

Паўза.

Якаў Фаміч. Даруйце, Рагнеда Іванаўна... Я неяк не паспеў злавіць паварот вашай думкі. Занадта яна арыгінальная і нечаканая... Чаму козыр? Які туз?

Божашуткава. Ну гэта ж элементарна. Калі будзе вырашацца пытанне: прысвоіць нам званне ці не прысвоіць, вось мы і кінем тады на вагі Салавейчыка. Кінем і ска-

жам: глядзіце, што можа зрабіць з мярзотніка сапраўдны калектыў! Перавыхавалі! Перакавалі!..

Паўза.

Я к а ў  Ф а м і ч. Гм... Увогуле, у гэтым нешта ёсць... А вас, Рагнеда Іванаўна, не бянтэжыць тая акалічнасць, што ён, як гасподзь бог — у трох асобах?

І п'яніца, і хуліган, і... наконт жанчын не вельмі ўстойлівы. Нават з жонкай з-за гэтага разышоўся. Хаця б штонебудзь адно, а то адразу цэлы букет.

Б о ж а ш у т к а в а. Цяжкая перамога даражэй цэнiцца, Якаў Фаміч. Давайце разважаць чыста па-чалавечаму, адкінуўшы нашы меркантыльныя вытворчыя інтарэсы... Так, я згодна: Салавейчык п'яніца, дэбашыр...

Я к а ў  Ф а м і ч. Бандыт з вялікай дарогі!

Б о ж а ш у т к а в а. Гэта ўжо занадта. Але ён наш работнік, член нашага калектыву.

Я к а ў  Ф а м і ч. Каб не вы, ён бы ўжо даўно не быў нашым членам!

Б о ж а ш у т к а в а. Мы не можам пакінуць яго ў бядзе. Гэта было б жорстка, бессардэчна. Чалавек чалавеку друг, таварыш, брат.

Я к а ў  Ф а м і ч. Ха! Знайшлі брата!

Б о ж а ш у т к а в а. Усе газеты зараз пішуць, што мужчыны — слабы пол, што іх трэба берагчы. Вось мы з вамі і пачнём усесаюзны паход за зберажэнне гэтага слабага полу.

Я к а ў  Ф а м і ч. Вы яшчэ жартуеце?

Б о ж а ш у т к а в а. Званіце ў міліцыю, Якаў Фаміч. Скажыце, што мы бяром Салавейчыка на парукі.

Паўза.

Я к а ў  Ф а м і ч. Не магу... Не магу крывіць душой. Мне хутка шэсцьдзесят. Я ў сваім жыцці яшчэ нікому не хлусіў.

Б о ж а ш у т к а в а. Якая ж тут хлусня, Якаў Фаміч?.. Трэба ратаваць гонар фабрыкі. А то як пачнуць зараз свянціць у кожным дакладзе! Справа ж не ў Салавейчыку...

Я к а ў  Ф а м і ч. Чорт ведае, што такое! Вось сітуацыя!

Б о ж а ш у т к а в а. Вы толькі скажыце: бяром Салавейчыка на парукі, каб зрабіць з яго чалавека. І ўсё, і больш ніякіх абавязацельстваў.

Я к а ў  Ф а м і ч. І больш ніякіх? Так мала?

Б о ж а ш у т к а в а. Ну, Якаў Фаміч!..

Я к а ў  Ф а м і ч. Вы думаеце, міліцыя яго адпусціць?

Б о ж а ш у т к а в а. Не сумняваюся.

Я к а ў  Ф а м і ч. Чаму гэта вы не сумняваецеся?

Б о ж а ш у т к а в а. А ў міліцыі таксама свае паказчыкі ёсць! У нас — чым больш, тым лепш, а ў іх — чым менш, тым лепш. Ну што вы яшчэ раздумваеце, Якаў Фаміч? Дзейнічаць трэба, а вы думаеце!

Я к а ў  Ф а м і ч. Ведаеце, як гэта называецца? Узяць чалавека за гарляк. Рызыка вялікая, Рагнеда Іванаўна.

Б о ж а ш у т к а в а. Калі справа ідзе аб выратаванні чалавека, пра рызыку не думаюць, Якаў Фаміч. Вунь людзі не думаюць, калі пад поезд кідаюцца, каб чалавека выратаваць!

Я к а ў  Ф а м і ч. Чалавека, а не... Самае ж месца яму ў турме! Няхай яго там і выхоўваюць!

Б о ж а ш у т к а в а. Вы мне верыце, Якаў Фаміч?

Я к а ў  Ф а м і ч. Дзіўнае пытанне...

Б о ж а ш у т к а в а. Дык вось аўтарытэтна вам заяўляю: усю адказнасць, усю рызыку бяру на сябе. Вы нічога не ведаеце.

Я к а ў  Ф а м і ч. Як гэта не ведаю?

Б о ж а ш у т к а в а. Я ваш намеснік. Магу я прымаць самастойныя рашэнні ці не магу?

Я к а ў  Ф а м і ч. Гм... Нейкая логіка ў вашых разважаннях ёсць. Тым больш што гутарка ідзе пра вашага пратэжэ.

Б о ж а ш у т к а в а. Якаў Фаміч!

Я к а ў  Ф а м і ч. Добра, добра, не буду... А вы ўпэўнены, што народ нас падтрымае?

Б о ж а ш у т к а в а. Народ трэба арганізаваць, Якаў Фаміч. Арганізаваць і перакапаць. Я ж вам сказала: народ я бяру на сябе. Вам застаецца толькі адно — пазваніць начальніку міліцыі. Скажыце, што наш калектыў бярэцца зрабіць з Салавейчыка чалавека. Чалавека з вялікай літары... Якаў Фаміч, я проста не пазнаю вас. Пастарэлі вы, ці што?

Я к а ў  Ф а м і ч. А, чорт, было не было! Не столькі перакапалі, колькі... Дзе тут у мяне яго тэлефон запісаны? *(Шукае ў настольным календары, здымае трубку тэлефона, набірае нумар.)* Міліцыя? Мне начальніка... Ну якая розніца — хто гаворыць... Дырэктар фабрыкі цацак Добрых. Гэта маё прозвішча такое — Добрых!.. Васіль Фядотавіч,

гэта вы? Добрых... Мы вось тут параіліся і наважылі хадайнічаць перад вамі... Ага. Ці нельга пераглядзець нашу справу?.. Так, Салавейчыка... Ну няўжо мы з адным хуліганам не справімся?.. Што?.. Ага, зразумела... Само сабой. Усё зробім як след. Дзякую, шчыра дзякую, Васіль Фядотавіч! Так-так, сёння ж. Будзьце здаровы! *(Паклаў трубку.)*

Б о ж а ш у т к а в а. Ну што? Што ён сказаў?

Я к а ў Ф а м і ч. Выпусцяць... Сказаў, каб рабочыя яго самі судзілі. Сваім судом, таварыскім...

Б о ж а ш у т к а в а. Цудоўна! Гэта якраз тое, што нам патрэбна! Ну вось бачыце, Якаў Фаміч? А вы сумняваліся!

Я к а ў Ф а м і ч. Прасіў строга судзіць, не патураць...

Б о ж а ш у т к а в а. Не турбуйцеся, Якаў Фаміч. Мы такі трыбунал яму наладзім!..

Я к а ў Ф а м і ч. Ён прасіў зрабіць гэта аператыўна.

Б о ж а ш у т к а в а. Марудзіць не ў нашых інтарэсах.

Я к а ў Ф а м і ч. Толькі вось якая штука, Рагнеда Іванаўна... Разам з хадайніцтвам мы павінны прысланць у міліцыю і характарыстыку на гэтага... самародка.

Б о ж а ш у т к а в а. Ну дык што? І пашлём.

Я к а ў Ф а м і ч. Пашлём?.. Калі мы напішам такую характарыстыку, якой ён заслугоўвае, то яго трэба трымаць у турме ўсё жыццё! А калі мы напішам такую, каб адпусцілі, гэта будзе, мякка кажучы, няпраўда.

Б о ж а ш у т к а в а. Канечне, трэба напісаць такую, каб адпусцілі! Інакш...

Я к а ў Ф а м і ч. Гэта значыць, напісаць хлусню?

Б о ж а ш у т к а в а. Які вы наіўны чалавек, Якаў Фаміч! Гэта ж пустая фармальнасць! Паперка! Грош ёй цана! Колькі я такіх паперак за сваё жыццё падпісала! І, як бачыце, нічога, жывая.

Я к а ў Ф а м і ч. Гэта не паперка, Рагнеда Іванаўна, а дакумент. І маніць у ім...

Б о ж а ш у т к а в а. Добра. Паглядзім на гэтую справу з другога боку. Так, мана, хлусня. Але хлусня ў імя высакароднай справы — гэта святая хлусня, Якаў Фаміч!

Я к а ў Ф а м і ч. Вы так думаеце? А хто будзе падпісваць гэтую святую хлусню? У мяне, між іншым, партыйны білет у кішэні.

Б о ж а ш у т к а в а. Добра, Якаў Фаміч. Я падпішу характарыстыку на Салавейчыка. Як ваш намеснік.

Паўза.

Я к а ў  Ф а м і ч. Брыдка ўсё гэта! Агідна!

Б о ж а ш у т к а в а. Але ў нас з вамі няма іншага выйсця... Ёсць яшчэ адна непрыемная справа, Якаў Фаміч.

Я к а ў  Ф а м і ч. Ха! Калі гэта бяда хадзіла адна!.. Якая?

Б о ж а ш у т к а в а. Я зноў пра гэтую Дрозд...

Я к а ў  Ф а м і ч. Зноў вашы мадэлі рэжа?

Б о ж а ш у т к а в а. Яна ўвесь калектыў рэжа, Якаў Фаміч!

Я к а ў  Ф а м і ч. Якім чынам?

Б о ж а ш у т к а в а. Ці бачылі вы, у якой спадніцы яна ходзіць па фабрыцы. Увойдзе ў цэх — уся работа спыняецца. Усе мужчыны ад семнаццаці да шасцідзесяці на яе спадніцу вочы вылупліваюць. Больш правільна — не на спадніцу, а на яе ногі. На калені!

Я к а ў  Ф а м і ч. Прыгожыя ногі, таму і глядзяць. Не разумею, якая ў гэтым крамола? Жаночае цела спакон вякоў лічылася ідэалам прыгажосці і наогул усялякай гармоніі...

Б о ж а ш у т к а в а. Няхай яны гэтай гармоніяй у музеях цешацца. Там усе статуі ў касцюмах Адама і Евы. А на вытворчасці, Якаў Фаміч...

Я к а ў  Ф а м і ч. Няўжо вы хочаце, Рагнеда Іванаўна, каб я яшчэ жаночымі спадніцамі займаўся, нарматывы ўводзіў — каму насіць ніжэй калена, а каму вышэй? Жанчына ёсць жанчына!

Б о ж а ш у т к а в а. Яна не жанчына!

Я к а ў  Ф а м і ч. А калі дзяўчына — тым больш!..

Б о ж а ш у т к а в а. Яна не жанчына і не дзяўчына. Яна член партыі!

Я к а ў  Ф а м і ч. А што, хіба член партыі бясполая істота? Я, напрыклад, лічу сябе ў некаторай ступені мужчынам.

Б о ж а ш у т к а в а. Міні-спадніца не да твару савецкай жанчыне ўвогуле. Дрозд — член партбюро, галоўны мастак фабрыкі, у нейкім сэнсе заканадаўца мод. На яе гледзячы...

Я к а ў  Ф а м і ч. Усе жанчыны стануць насіць міні-спадніцы?.. Кіньце, Рагнеда Іванаўна! Не хачу слухаць! Па мне, дык няхай яна хоць галышом бегае. Калі прастуды не баіцца... Не было б большай бяды. Не нам з вамі спадніцамі займацца!

Б о ж а ш у т к а в а. Ну, ведаеце, Якаў Фаміч!..

Я к а ў  Ф а м і ч. Я ведаю, што ў мяне сёння няма ліс-

тавой сталі, што нам на трэці квартал піламатэрыялы ўрэзалі, будзем рабіць цацкі з паветра! Патэнт возьмем — цацкі з паветра! Заўтра пластмасы канчаюцца, а латэкса ўжо цэлы тыдзень няма. Вось што я ведаю! А тут яшчэ Салавей-разбойнік на маю галаву зваліўся! З мяне хопіць. Вось так хопіць! Ідзіце, Рагнеда Іванаўна, і займіцеся лепш танкам.

Б о ж а ш у т к а в а. Добра, Якаў Фаміч. Але запомніце, што я вас папярэджвала. І калі ўзнікне персанальная справа аб маральным вобліку таварыш Дрозд...

Я к а ў Ф а м і ч. Я скажу, што вы мяне своечасова папярэджвалі...

Б о ж а ш у т к а в а выходзіць.

*З а с л о н а*

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Клуб фабрыкі цацак. На сцэне, накрыты чырвоным, стол для членаў суда і трыбуна; лаўка, задрапіраваная чорным,— для Салавейчыка і два рады крэслаў для сведак і клакераў. На сценах плакаты і лозунгі: «Ганьба Салавейчыку!», «Скажам хуліганам і п'яніцам — не!», «Наша лепшая зброя — прынцыповасць!». Сэнс лозунгаў і плакатаў рэзка супярэчыць сэнсу тых падзей, якія будуць адбывацца на сцэне.

У кутку А н д р э й і І з а б е л а. Ізабела ў смелай міні-спадніцы.

І з а б е л а. Каб ты толькі ведаў, як вы мне надакучылі! Ну няхай Божашуткава... Гэта мяне не дзівіць. Гэта ж поп Гапон у спадніцы. А вось ты, Таратута! Сучасны чалавек! Інтэлігент! Няўжо ты не разумееш элементарных рэчаў? Мо-да! Зменіцца мода, і я апрану крыналін ці андарак! Вунь, кажуць, Еўропа ўжо пераходзіць на мідзі і максі. Толькі я супраць іх. Тут я хачу застацца кансерватарам.

А н д р э й. А калі мама не хоча лічыцца з модай? А мне ж трэба цябе з ёю пазнаёміць. Яна ўжо тры разы прасіла, каб я прывёў цябе. Паслухай... Ну, ідучы да нас, ты можаш надзець што-небудзь іншае? Можаш ці не? Адзін раз!

І з а б е л а. Ідучы да вас? Не, не магу. У мяне проста няма нічога іншага.

А н д р э й. Хочаш, я куплю табе што-небудзь?

І з а б е л а. Не, Таратута. Я прынцыповая. Не хачу двурушнічаць і прыкідвацца не тым, хто я ёсць. Мне гэта агідна. Тым больш — перад тваёй маці. І потым... Наво-

шта хаваць тое, чым адарыла жанчыну прырода? Можа, скажаш, што ў мяне ногі непрыгожыя?

Ізабела ўстала і прайшлася. Андрэй, не таячыся, любуецца яе фігурай і сапраўды вельмі прыгожымі нагамі.

Андрэй. Прыгожыя.

Ізабела. Ну вось бачыш? Дык навошта ж я павінна іх хаваць? Вось калі будзе мне семдзесят... Ну, ці хаця б шэсцьдзесят пяць...

Андрэй *(крычыць)*. А я не хачу, каб усе мужчыны на твае ногі глядзелі! Разумееш? Не хачу!

Ізабела. Ах, вось яно што! Эгаіст ты, Таратута! Эгаіст і дробны ўласнік. Не пайду я за цябе замуж.

Андрэй. Не трэба, Іза. Мне не да жартаў.

Ізабела. Чаму ты думаеш, што я жартую? Я сур'ёзна.

Уваходзіць Божашуткава.

Божашуткава. Што гэта вы тут робіце?

Ізабела. А ў нас тут, Рагнеда Іванаўна, любоўнае спатканне.

Божашуткава. У рабочы час?

Ізабела. Прызначылі ж вы суд у рабочы час! Чаму мы не можам прызначыць спатканне?

Божашуткава. Шкада мне вас, Андрэй Іванавіч. Прападзяце вы з ёй.

Андрэй *(успыхнуўшы)*. Не трэба, Рагнеда Іванаўна!.. Мы як-небудзь самі...

Божашуткава. Вы хочаце прысутнічаць на судзе?

Ізабела. А што? Хіба нельга?

Божашуткава. Не, чаму ж... Нават пажадана, каб вы выступілі. Ад імя ІТР.

Ізабела. Можа, і гэта будзе.

Божашуткава *(працягваючы ёй паперу)*. Вось тэкст вашага выступлення.

Ізабела. Прабачце... Я заўсёды гавару толькі тое, што думаю сама. Дзіўна, вядома, але факт.

Божашуткава. Але я павінна загадзя ведаць, пра што вы будзеце гаварыць.

Ізабела. Даруйце, але я яшчэ сама не ведаю, пра што буду гаварыць. Усё будзе залежаць ад абставін, ад таго, як пойдзе суд.

Божашуткава. Значыць, вы супраць арганізацыі і парадку? За стыхійнасць і анархію? Так?

Ізабела. Не, я за парадак. Але і за праўду. За шчырасць.

Божашуткава. У такім разе, хай ваша шчырасць будзе пры вас! Выступіце вы, Андрэй Іванавіч. *(Падае яму паперу.)* Пазнаёмцеся да пачатку...

Божашуткава падыходзіць да стала прэзідыума, папраўляе настольнік, адсоўвае крыху трыбуну.

Ізабела. Вазьмі маё люстэрка.

Андрэй *(здзіўлена)*. Навошта яно мне?

Ізабела. Ну як жа! Цыцэрон, кажуць, заўсёды перад люстэркам свае прамовы рэпетыраваў!

Андрэй. Іза... Я не буду выступаць.

Ізабела. Чаму ж ты адразу ёй гэтага не сказаў?

Андрэй. Я... Я... разгубіўся. Няёмка... Яна пакрыўдзіцца. Не магу я так, Іза!

Ізабела. Як памыліўся Дарвін! Чалавек паходзіць не ад малпы. Ён паходзіць ад амёбы. Ад інфузорыі! Ад рэптыліі!

Андрэй. Іза... Я ж і пакрыўдзіцца магу!

Ізабела. Ты?! Не можа быць!

З шумам і смехам уваходзяць у клуб клакеры.

Галасы:

— Гэта надоўга?

— Сёння ж спектакль па тэлебачанні!

— Гэта па другой праграме. А па-першай — футбол!

Божашуткава цішком інструктуе клакераў, як паводзіць сябе на судзе. Уваходзіць Кічкайла.

Божашуткава *(адвёўшы Кічкайлу ўбок)*. Можна пачынаць. Публіку я падрыхтавала. Але вы ўсё ж сачыце, каб не было непажаданых эксцэсаў. Нам усю справу можа сапсаваць гэтая Дрозд... І нам трэба ўсё гэта закончыць да перапынку.

Кічкайла. Зразумеў. *(Садзіцца за стол.)* Прашу суд заняць свае месца!

За стол садзяцца Сцепаніда Моўчан і Кузьма Хаценьчык.

Грамадскага абвінаваўцу і грамадскага абаронцу — таксама!

На месца абвінаваўцы, паспешліва дажоўваючы цукерку, садзіцца Зойка Гусельнікава, на месца абаронцы — Божашуткава.

Пацярпеўшыя тут?

Галасы:
— Тут!
— З'явіліся!
— А каго судзіць будзем?
— Дзе Салавейчык?
Кічкайла. Не хвалюйцеся, таварышы. Ён ужо тут. Скажыце там, няхай яго прывядуць сюды...

Міліцыянер прыводзіць Салавейчыка, вялізнага бамбізу, абстрыжанага «пад нуль».

Салавейчык *(кланяецца)*. Добры дзень. *(Сядае ў другім радзе.)*
Кічкайла. Не-не, калі ласка, сюды!
Салавейчык. Дзякую. Мне і адсюль добра відаць.
Міліцыянер *(падштурхоўваючы Салавейчыка)*. Ідзі-ідзі, калі людзі просяць!
Галасы:
— Без рук, без рук, грамадзянін начальнік!
— Храбры!
— Нізавошта да людзей чапляецца!
Кічкайла. Заклікаю да парадку! *(Салавейчыку.)* Прозвішча, імя?
Салавейчык. Як быццам не ведаеш, Іван Пятровіч?
Міліцыянер. Устань! Устань! У судзе знаходзішся, а не ў гасцях у цешчы!
Кічкайла. Прашу назваць сваё прозвішча, імя і імя па бацьку.
Салавейчык *(устае)*. Ну, Салавейчык... Грыша. Рыгор Рыгоравіч.
Кічкайла. Узрост?
Салавейчык. Дваццаць восем.
Кічкайла. Адукацыя?
Салавейчык. Сярэдняя. Амаль сярэдняя...
Кічкайла. Што значыць «амаль»?
Салавейчык. Восем класаў.
Кічкайла. Выключылі?
Салавейчык. Не, сам кінуў. Абрыдла.
Кічкайла. Сямейнае становішча?
Салавейчык. Жанаты... Я хацеў сказаць — не...
Кічкайла. А ці нельга больш канкрэтна? Жанаты ці не?
Салавейчык. І так і не. Я... бацька-адзіночка.

К і ч к а й л а. Разышліся?

С а л а в е й ч ы к. Не сышліся. Характарамі не сышліся.

К і ч к а й л а. Вінаватым сябе прызнаяце?

С а л а в е й ч ы к *(змрочна ўздыхае)*. Ну, было...

К і ч к а й л а. Што было?

С а л а в е й ч ы к. Ну, выпіў трохі... Штаны новыя замочваў...

Г о л а с. Вось парадачкі пайшлі! Выпіў чалавек ад радасці сто грамаў, дык яго адразу за каршэнь і ў міліцыю! Нішто сабе жыццё!

К і ч к а й л а. Толькі выпілі ці яшчэ што-небудзь было?

Г о л а с. Ну чаго ты, як лапух, прыстаў да чалавека?

К і ч к а й л а *(узлаваўшыся)*. Ціха! А то буду выганяць! *(Устае і, надзеўшы акуляры, чытае.)* «Дваццаць дзевятага чэрвеня гэтага года грамадзянін Салавейчык Рыгор Рыгоравіч, знаходзячыся ў нецвярозым стане, уварваўся ў кватэру грамадзяніна Секержыцкага Іпаліта Іпалітавіча. Для гэтай мэты ён прасек дзверы Секержыцкага тапаром. Пасля таго грамадзянін Салавейчык прыйшоў на пляж Камсамольскага возера, дзе падышоў да грамадзянкі Мажэйкі, якая загарала, і папрасіў у яе закурыць. Калі грамадзянка Мажэйка не задаволіла яго просьбу, ён ударыў яе два разы па тулаву, у вобласць плечавога пояса. Выкліканаму на месца здарэння старшыне звыштэрміновай службы Лапатку Салавейчык аказаў супраціўленне, парваў яму кіцель і закінуў у возера фуражку. З дапамогай дружыннікаў грамадзянін Салавейчык быў дастаўлены ў райаддзел міліцыі і пасаджаны ў ізалятар.

У дзеяннях грамадзяніна Салавейчыка Р. Р. утрымліваюцца крымінальныя злачынствы, якія караюцца, паводле адпаведных артыкулаў крымінальнага кодэкса, пазбаўленнем волі ад аднаго да пяці гадоў з адбываннем тэрміну ў калоніі строгага рэжыму.

Улічваючы хадайніцтва фабрыкі дзіцячых цацак (глядзі пісьмо ад 30 чэрвеня), крымінальную справу супраць Салавейчыка Р. Р. не ўзбуджаць. Прапанаваць калектыву фабрыкі разгледзець учынак грамадзяніна Салавейчыка Р. Р. на таварыскім судзе ў прысутнасці пацярпеўшых.

Следчы райаддзела міліцыі Праўдзін.

Пракурор раёна Стальноў».

Б о ж а ш у т к а в а. Дазвольце пытанне.

К і ч к а й л а. Калі ласка, Рагнеда Іванаўна.

Б о ж а ш у т к а в а. Грамадзянін Салавейчык, гэта праўда?

Салавейчык змрочна маўчыць.

Усё, што напісана ў пратаколе, адпавядае сапраўднасці?

Паўза.

С а л а в е й ч ы к. Было...

Б о ж а ш у т к а в а. Не, вы раней, чым адказаць, падумайце!

Салавейчык напружана думае.

С а л а в е й ч ы к. Калі б цвярозы... Прашу ўлічыць, што я быў без памяці.

Х а ц е н ь ч ы к. Пачакай, пачакай, Грыша. Ты не вельмі спяшайся. Ты падумай, добра падумай. Можа, усё ж чаго-небудзь не было? Можа, на цябе напрасліну ўзвялі? Ты падумай, Грыша, падумай...

Салавейчык думае.

Б о ж а ш у т к а в а. Мы разумеем і цэнім высакароднае пачуццё вашага шчырага раскаяння. Але я яшчэ раз пытаю: ці ўсё, што напісана ў пратаколе, адпавядае сапраўднасці?

Нарэшце Салавейчык уцяміў, чаго ад яго хочуць.

С а л а в е й ч ы к *(няўпэўнена)*. Ды не... Усё было не зусім так...

Б о ж а ш у т к а в а *(з аблягчэннем)*. Ну вось бачыце!

С а л а в е й ч ы к *(зразумеўшы, што патрапіў у цэль)*. Успомніў! Вядома, усё было зусім не так!

К і ч к а й л а. Значыць, вы заяўляеце, што пратакол неаб'ектыўна паказвае тое, што адбылося з вамі? Ці правільна мы вас зразумелі?

С а л а в е й ч ы к. Вось іменна! Панапісвалі тут усякага! Зрабілі з мяне нейкага хунвэйбіна!

Г а л а с ы:

— Міліцыя ўсё можа!

— Яна гэта ўмее!

К і ч к а й л а. Ціха! Без рэплік!.. Вось вы, калі ласка, і раскажыце, як было ўсё на самой справе. Як выйшла, што вы зламалі чужыя дзверы?

Б о ж а ш у т к а в а *(прыходзячы на дапамогу)*. Відаць, вы проста памыліліся?

С а л а в е й ч ы к. Ну, вядома, абмыліўся! Папабудоўвалі, ведаеце, дамоў — стаяць, як блізняты. Трохі вып'еш і ўжо не разбярэш, дзе свой дом, а дзе чужы!

Б о ж а ш у т к а в а. Значыць, чужы дом вы памылкова прынялі за свой?

С а л а в е й ч ы к. Ну!.. Падпімаюся па трэці паверх — кватэра адзінаццаць... Значыць, мая. Піхаю ключ — не лезе. І раптам чую: за дзвярамі хтосьці на дыбачках ходзіць. Вось, думаю, здорава! Пакуль пітаны мачыў, да мяне зладзюга забраўся! Пачаў стукаць...

Х а ц е н ь ч ы к. А ты, Грыша, не прасіў, каб табе адчынілі дзверы?

С а л а в е й ч ы к. Як не прасіў? Прасіў! Ды хіба ж ён адчыніць?

Б о ж а ш у т к а в а. Значыць, вы прасілі адчыніць дзверы, каб удакладніць, ці ваша гэта кватэра?

С а л а в е й ч ы к. Не. Хацеў даведацца, што гэтаму тыпу патрэбна ў маёй кватэры!

К і ч к а й л а. Але потым, калі высветлілася...

С а л а в е й ч ы к. Дык гэта ж калі высветлілася?.. А ён пачаў лаяцца, пагражаць...

Б о ж а ш у т к а в а. Хто пачаў лаяцца?

С а л а в е й ч ы к. Ну, гэты тып... Секержыцкі. І міліцыяй, і турмой мне пагражаў. Ну, я і пакрыўдзіўся...

Б о ж а ш у т к а в а. Пагражаў вам, яшчэ не ведаючы, хто вы і навошта стукаеце?

С а л а в е й ч ы к. Ну!.. Вось мяне і разабрала злосць, калі я ўвайшоў...

К і ч к а й л а. А як вы ўвайшлі ў кватэру?

С а л а в е й ч ы к. На першым паверсе тапор ляжаў. Я ўзяў яго і... увайшоў.

Вясёлае ажыўленне сярод клакераў. Салавейчыку спачуваюць даволі адкрыта.

К і ч к а й л а. Сядайце, Салавейчык. Пацярпеўшы Секержыцкі!

С е к е р ж ы ц к і *(выходзячы да трыбуны)*. З вашага дазволу, гэта я.

К і ч к а й л а. Прозвішча, імя, імя па бацьку?

С е к е р ж ы ц к і. Секержыцкі Іпаліт Іпалітавіч.

К і ч к а й л а. Род заняткаў?

С е к е р ж ы ц к і. Пенсіянер абласнога значэння. Дазвольце растлумачыць?

Божашуткава. Хвілінку, грамадзянін Секержыцкі. Вы прызнаяце, што пагражалі Салавейчыку?

Секержыцкі. Дазвольце!..

Хаценьчык. Не віляйце, грамадзянін Секержыцкі! Адказвайце на пытанне: пагражалі ці не пагражалі Салавейчыку?

Секержыцкі. Пачакайце, шаноўны! Ён жа ламаўся ў маю кватэру!

Хаценьчык. Вось так проста і скажыце — пагражаў!

Божашуткава. І міліцыяй, і турмой пагражалі? Было такое?

Хаценьчык. Што ж выходзіць, грамадзянін Секержыцкі? Міліцыя — гэта пудзіла, а савецкая турма — канцлагер? Так, па-вашаму, выходзіць?

Секержыцкі. Дазвольце, дазвольце! Вы, шаноўны, блытаеце. Што значыць — пагражаў? Я папярэджваў. Папярэджваў, што, калі ён будзе буяніць, я выклічу міліцыю і яго, з вашага дазволу, пасадзяць у турму.

Хаценьчык. Не, вы бачылі яго?!

Клакеры абураюцца.

Секержыцкі. Можаце разглядаць маю пагрозу як від пасіўнай самаабароны. У яго была зброя — тапор. А ў мяне толькі слова. З вашага дазволу, гэта рэчы нераўназначныя!

Божашуткава. Чаму вы пагражалі чалавеку, якога не бачылі?

Секержыцкі. Злітуйцеся!.. У гэтага чалавека быў тапор!

Божашуткава. Адкуль вы маглі ведаць, што ў яго тапор?

Хаценьчык. У вас што, дзверы шкляныя?

Секержыцкі. Гэта было чуваць! З вашага дазволу, ён ім стукаў.

Хаценьчык. Пачакайце, пачакайце, грамадзянін Секержыцкі. Не спяшайцеся. Ён прасіў вас адчыніць дзверы?

Секержыцкі. Што значыць — прасіў? Ён патрабаваў...

Божашуткава. Чаму ж вы не адчынілі?

Секержыцкі. Дазвольце!.. Калі незнаёмы чалавек патрабуе адчыніць дзверы...

Б о ж а ш у т к а в а. Адчынілі б, і не было б ніякага непаразумення!

С е к е р ж ы ц к і. Але ж ён быў... з вашага дазволу, нецвярозы!

Х а ц е н ь ч ы к. Як вы маглі праз дзверы пазнаць: цвярозы ён ці нецвярозы?

Г о л а с. Ён у Кіо працаваў — праз сценку бачыць!

С е к е р ж ы ц к і. Я здагадаўся... па голасу.

Б о ж а ш у т к а в а. Вы зняважалі яго, калі ён увайшоў да вас у кватэру?

С е к е р ж ы ц к і. Даруйце, не памятаю! Я быў тады досыць такі ўзбуджаны і не мог, натуральна, выбіраць далікатныя выразы. Магчыма, я сказаў нешта лішняе...

Х а ц е н ь ч ы к. Грыша, ты помніш, якімі словамі ён цябе абзываў?

С а л а в е й ч ы к. Ну, вядома, помню! «Грубіян, хуліган, хам!» Распусціліся зусім, разумееш! Яшчэ інтэлігенцыя! Акуляры начапіў!

Б о ж а ш у т к а в а. Было такое, грамадзянін Секержыцкі?

С е к е р ж ы ц к і. Магчыма... Але гэта было толькі маёй рэакцыяй на зняvагу з яго боку!

К і ч к а й л а. А як ён вас зняважаў?

С е к е р ж ы ц к і. Злітуйцеся... Мне гэта непрыемна...

К і ч к а й л а. Тут суд, які павінен устанавіць ісціну.

Б о ж а ш у т к а в а. Грамадзянін Секержыцкі, вы даяце суду падставу сумнявацца ў шчырасці вашых паказанняў.

С е к е р ж ы ц к і. З вашага дазволу. Ён назваў мяне... гнідай у акулярах.

С а л а в е й ч ы к *(ускочыўшы)*. Няпраўда! Маніць ён! Не казаў я так!

К і ч к а й л а. Сядайце, Салавейчык!

Б о ж а ш у т к а в а. І толькі? Ці ён яшчэ што-небудзь сказаў?

С е к е р ж ы ц к і. Ён сказаў... *(Успамінае.)* «Як трахну зараз па твайму курынаму чарапку, і нічога мне за гэта не будзе!»

С а л а в е й ч ы к *(ускочыўшы)*. Маніць ён! Не было гэтага! Сам абзываўся, бэсціў рознымі брыдкімі словамі незнаёмага чалавека, а цяпер выкручваецца! Не выйдзе, грамадзянін Секержыцкі! Не выйдзе! Наш суд справядлівы, ён разбярэцца!

Б о ж а ш у т к а в а. Супакойцеся, Салавейчык. Грама-

дзянін Секержыцкі, хто-небудзь чуў, як ён вас зневажаў?

Секержыцкі. На шчасце, у кватэры нікога, апрача мяне, не было. Прабачце, унукі былі.

Божашуткава. Колькі ім?

Секержыцкі. Аднаму тры гадкі, другому пяць...

Божашуткава. Непаўналетнія. Іх паказанні не могуць быць прыняты... Цяпер давайце, грамадзянін Секержыцкі, адновім аб'ектыўную карціну таго, што здарылася... Незнаёмы чалавек стукаецца ў вашы дзверы і просіць адчыніць. Вы яго не ведаеце, як і не ведаеце таго, з якой мэтай ён стукаецца. Не ведаеце, але адразу ж пачынаеце зневажаць, пагражаць яму турмой і міліцыяй! Пасля таго як ён зайшоў у кватэру, зноў вы яго аблаялі на чым свет стаіць. Салавейчык... Таварыш Салавейчык вымушаны быў адплаціць вам той жа манетай. Разумееце? Быў вымушаны!

Секержыцкі. Так, так, разумею...

Божашуткава. Вядома, ніхто з нас не апраўдвае Салавейчыка. Але памылка, якая адбылася з ім, можа адбыцца з кожным. І калі мы пачнём караць людзей за памылкі... Што ж у нас з вамі атрымаецца, дарагія таварышы?

Галасы:

— Во-во!

— Правільна!

— Не Салавейчыка, а гэтага старога правакатара трэба судзіць!

Божашуткава. Вы, грамадзянін Секержыцкі, разумны, інтэлігентны чалавек, і раптам такое!.. Як жа так, га?

Секержыцкі. Прашу ўлічыць, што ён... быў з тапаром. І сапраўднай мэты яго візіту ў маю кватэру я не ведаў. Спадзяюся, гэта змякчае маю віну.

Божашуткава. У пэўнай ступені — так...

Кічкайла. У вас няма больш пытанняў?

Божашуткава. Няма. Усё ясна.

Кічкайла. Сядайце, грамадзянін Секержыцкі.

Секержыцкі. Дзякую... *(Спатыкаючыся, ідзе на сваё месца.)*

Ізабела *(ускочыўшы)*. Спыніце гэтую... камедыю!

Галасы:

— Што такое?

— У чым справа? Што спыніць?

— Якую камедыю?

Ізабела. Я прапаную паклікаць сюды рабочых з цэха, дзе працуе Салавейчык! Няхай паглядзяць, што тут адбываецца!

Галасы:

— А мы што — не людзі?

— Мы таксама рабочыя.

— Разам з ім працуем!

Ізабела. Вы сабутэльнікі! Вы клакеры, а не рабочыя!

Бурнае абурэнне клакераў.

Божашуткава. Таварыш Дрозд! Не ператварайце суд у базар!

Ізабела. А вы не рабіце з яго пасмешышча!

Божашуткава. Вы забыліся, таварыш Дрозд, што рашаюць тут не прысутныя гледачы. Ні яны, ні вы не можаце зрабіць уплыў на рашэнне суда! І хто б тут ні прысутнічаў...

Ізабела. Але чаму вы не запрасілі сюды рабочых?

Бурнае абурэнне клакераў.

Кічкайла. Заклікаю да парадку!.. Пацярпеўшая Мажэйка!

Мажэйка *(выходзіць да трыбуны)*. Тут.

Напэўна, такое ўражанне на прысутных зрабіла б жывая Венера Мілоская. Мажэйка надзвычай прыгожая.
Захапленне сярод мужчын.

Кічкайла. Ваша імя, імя па бацьку і прозвішча?

Мажэйка. Мажэйка Тамара Аляксандраўна.

Кічкайла. Месца работы? Род заняткаў?

Мажэйка. Кандытарская фабрыка. Работніца...

Хаценьчык. Колькі вам гадоў?

Мажэйка. Дваццаць два.

Хаценьчык. Замужам?

Мажэйка. Не...

Кічкайла. Што вы можаце сказаць нам пра тое, што адбылося ў нядзелю на беразе Камсамольскага возера?

Мажэйка. Усё сказана ў пратаколе. Мне дадаць няма чаго.

Божашуткава *(перахопліваючы ініцыятыву)*. Скажыце, за што ён вас ударыў?

Мажэйка. Ён падышоў і папрасіў закурыць. Я адказала, што гэта не самы дасціпны ход, каб загаварыць з

незнаёмай дзяўчынай. Потым ён сказаў нейкую гадасць. І я папрасіла яго пазбавіць мяне ад сваёй кампаніі.

Б о ж а ш у т к а в а. Ну, вы маглі б адказаць і больш ветліва. Выходзіць, што вы самі падштурхнулі яго на бойку. Вы ж бачылі, што чалавек нецвярозы!

М а ж э й к а. У мяне чамусьці няма прывычкі весці свецкія размовы з незнаёмымі людзьмі. Тым больш калі паводзяць яны сябе не вельмі сціпла. Што ж датычыць іншага... Салавейчык быў не настолькі п'яны, як хоча зараз даказаць.

С а л а в е й ч ы к *(ускочыўшы)*. Няпраўда! Я быў п'яны як свіння.

М а ж э й к а *(саркастычна)*. Не думаю... Вы проста тып, які лічыць, што яму ўсё дазволена.

Б о ж а ш у т к а в а *(перахопліваючы ініцыятыву)*. Што вы там рабілі?

М а ж э й к а. На пляжы? Тое, што і ўсе.

Х а ц е н ь ч ы к. Што на вас было?

М а ж э й к а. Лыжны касцюм!

С а л а в е й ч ы к *(ускочыўшы)*. Прашу слова!

К і ч к а й л а. Пачакай...

Б о ж а ш у т к а в а. Не, няхай гаворыць!

С а л а в е й ч ы к. Я ўдарыў яе таму... таму, што яна мяне спакушала.

Хваляванне сярод прысутных.

К і ч к а й л а. Што-о?

Х а ц е н ь ч ы к *(устрапянуўшыся)*. Грыша! Раскажы, як гэта было. Толькі падрабязна, з дэталямі.

С а л а в е й ч ы к. Іду я, значыць, па пляжы. Пакупацца захацеў, асвяжыцца. Іду, а яна ляжыць... голая!

Б о ж а ш у т к а в а *(спалохана)*. Як... голая?

С а л а в е й ч ы к. Ну, амаль голая. У адным бікіні. Ведаеце, такі малюсенечкі-малюсенечкі... Калі ты добрая, прыстойная дзяўчына і ў цябе няма паганых думак, навошта ж табе ў грамадскім месцы надзяваць такі недамерак? І потым, таварышы, што гэта такое?.. Чаму гэта мужчыны і жанчыны ляжаць побач голыя? Га? І дзе ляжаць? Амаль у самым цэнтры вялікага горада. Выйшаў з трамвая, а тут адразу — голыя... жываты! Гэта ж распуста.

Б о ж а ш у т к а в а. Правільна, таварыш Салавейчык!

М а ж э й к а. Паслухайце!.. Мяне паклікалі сюды, каб зняважаць?

Б о ж а ш у т к а в а. Ніякай знявагі я не бачу. Я падзя-

ляю яго думку. Занадта многа волі вам далі! Міні! Бікіні! А вы ведаеце, што за гэтым хаваецца? Варожая ідэалогія!.. Вось такія, як вы, і зводзяць чужых мужоў, разбіваюць сем'і!

Мажэйка. Каго тут судзяць? Гэтага грамадзяніна або мяне?

Божашуткава. Мы судзім Салавейчыка, а заадно і цікавімся асобамі пацярпеўшых. Я, напрыклад, упэўнена, што вы самі выклікалі Салавейчыка на бойку. А вось з якой мэтай...

Мажэйка. Ну, ведаеце! Усяму ёсць мяжа! Нават глупству.

Кічкайла. Ён вас моцна ударыў?

Мажэйка. Моцна!

Хаценьчык. А сінякі ў вас ёсць?

Мажэйка. Ёсць!

Хаценьчык. Вы можаце паказаць іх суду?

Мажэйка *(разгублена)*. Што? Як гэта?

Хаценьчык. Ну, вы можаце паказаць іх нам? Каб мы пераканаліся...

Мажэйка. Вы... разумееце, што кажаце?

Божашуткава. Грамадзянка Мажэйка, папрашу вас паводзіць сябе больш прыстойна.

Хаценьчык. Калі сінякоў няма, так і скажыце. А калі ёсць...

Мажэйка. Да пабачэння, грамадзяне суддзі! *(Выходзіць.)*

Божашуткава. Грамадзянка Мажэйка! Вярніцеся! Чуеце? Добра... Мы зробім з гэтай выхадкі пэўны вывад. У нас застаўся адзін сведка — Лапатка... *(Спахапіўшыся.)* Ох, даруйце, Іван Пятровіч!

Кічкайла. Нічога, нічога, Рагнеда Іванаўна... Прашу вас, таварыш Лапатка.

Галасы:

— Ну, гэты насведчыць!

— Яму ж верыць нельга!

Міліцыянер *(выходзячы да трыбуны)*. Грамадзяне! Прашу захоўваць парадак!

Кічкайла. Таварыш Лапатка, што там адбылося на пляжы?

Міліцыянер. Вось што я вам скажу, грамадзяне суддзі. Дарма вы тут катуеце чалавека, публічна здзекаецеся з яго. Ён жа яшчэ зусім малады, у яго ўсё жыццё наперадзе. А вы яго так жорстка, бязлітасна траўміруеце!

Пасля такіх пакут можна і рукі на сябе налажыць. Быў адзін такі выпадак... Выпусцілі чалавека з выцвярэзніка, а ён прыйшоў дамоў і задавіўся...

Кічкайла. На пляжы былі вы або іншы міліцыянер?

Міліцыянер. Я быў.

Кічкайла. Вы затрымлівалі Салавейчыка?

Міліцыянер. Затрымліваў.

Божашуткава. Дык, можа, дарма затрымлівалі?

Міліцыянер. Ды як вам сказаць... З кім не бывае? Выпіў чалавек, пакуражыўся трохі. Гэта ў яго ад маладосці...

Божашуткава. А можа, ён і не куражыўся зусім?

Міліцыянер. Ды не, куражыўся...

Хаценьчык. Калі вы яго ў машыну садзілі, ён супраціўляўся?

Міліцыянер. На яго месцы, відаць, і вы супраціўляліся б.

Хаценьчык. У пратаколе запісана, што ён кіцель вам парваў. Гэта праўда?

Міліцыянер. А хто ж яго ведае? Можа, я і сам яго парваў, калі падсаджваў у машыну грамадзяніна Салавейчыка.

Хаценьчык. А фуражка? Ён закідваў яе ў возера?

Міліцыянер. Вось яна, фуражка гэтая. Мне яе адзін хлапчук адразу ж выцягнуў!

Божашуткава. Таварыш Лапатка, калі б вы так гаварылі з самага пачатку, то, напэўна, і пратакола не было б?

Міліцыянер. Дык я ж не ведаў тады, з кім справу маю. Думаў — хуліган, злачынца!

Кічкайла. А цяпер ведаеце?

Міліцыянер. Цяпер ведаю. Хіба стаў бы калектыў за злачынца хадайнічаць? Прасіць міліцыю, каб яго вызвалілі? Нізавошта? Усё было б наадварот!.. І начальнік райаддзела, калі я ішоў сюды, сказаў мне: ты глядзі, Лапатка, не плявузгай лішняга на чалавека. Відаць, вельмі добры хлопец. Увесь калектыў за яго просіць.

Клакеры апладзіруюць.

Божашуткава. У вас усё?

Міліцыянер. Здаецца, усё.

Кічкайла. Дзякуй. Сядайце!.. *(Да Моўчан.)* Вы маеце што сказаць?

Моўчан. А што тут гаварыць? Вызваліць трэба хлопца. Чаго ён тут мучыцца? Не такі ўжо вялікі грэх у яго...

Кічкайла *(да Зойкі)*. Абвінаваўца выступаць будзе?

Зойка *(паспешліва праглынуўшы цукерку)*. Таварышы! Я не разумею, за што яго абвінавачваюць? Ён жа цудоўны хлопец. Наш, савецкі. Ну, здарылася з ім гэта бяда. Дык гэта ж проста недарэчнае непаразуменне. Ён жа нікога не зарэзаў, не абрабаваў. Проста пажартаваў. Ён гумарыст. У нас такое цудоўнае жыццё! У нас такі прыгожы горад! Наша фабрыка адна з лепшых! Нам бы толькі жыць ды радавацца. А мы псуём адзін аднаму нервы, сварымся, спрачаемся, шукаем сярод сябе нягоднікаў. Ды няма іх у нас, няма! Усе вывеліся!

Кічкайла. Як я зразумеў, вы за апраўданне Салавейчыка?

Зойка. Так! Я за апраўданне. Нельга нам, таварышы, хлопцаў крыўдзіць. Вы ведаеце, колькі іх, паводле статыстыкі, на дзесяць дзяўчат?

Голас. Ведаем. Дзевяць.

Зойка. Ну вось. А вы хочаце... *(Садзіцца і кладзе ў рот цукерку.)*

Кічкайла. Таварыш Салавейчык, вам даецца апошняе слова. Ці будзеце вы гаварыць?

Салавейчык. Хто? Я? Абавязкова! *(Разгарнуў паперку, чытае.)* Паважаныя грамадзяне суддзі! Дарагія таварышы па рабоце! Горка і балюча мне стаяць на гэтым ганебным месцы! Вельмі балюча. Але трэба. Трэба адказваць за свае ўчынкі. А яны, гэтыя ўчынкі, вельмі і вельмі нядобрыя. Брыдкія ўчынкі, якія ганьбяць савецкага чалавека, будаўніка светлай будучыні. І ставіцца да іх ін...

Божашуткава *(падказвае шэптам)*. Індыферэнтна!

Салавейчык. Ага! І ставіцца да іх ін-ды-фе-рэнтна нельга. Гэта можа стварыць у нашым калектыве нездаровую атмасферу дабрадушнасці і ўсёдаравання. А гэтага мы не можам дапусціць, не маем на тое права. Мы з усёй рашучасцю павінны сказаць хуліганам і п'яніцам — не! Не дазволім! Не пацерпім!

Хваляванне сярод клакераў.

Але давайце, таварышы, уважліва паглядзім, а хто ж такі Салавейчык? Хто ён? Закаранелы злачынец ці не такі ўжо благі чалавек?

**М о ў ч а н.** Які ж ты, Грыша, злачынец?

С а л а в е й ч ы к. Бацька мой — прадстаўнік слаўнага рабочага класа. Маці таксама работніца. Сам я член прафсаюза, член ДТСААФ і таварыства Крыжа і Паўмесяца. Чырвонага Крыжа і Паўмесяца. Я ганаруся тым, што мне выпала шчасце працаваць на прадпрыемстве, якое змагаецца за званне калектыву камуністычнай працы! Я ганаруся, што жыву сярод такіх цудоўных людзей, як таварыш Кічкайла, як таварыш Таратута, як таварыш Гусельнікава, як *(паглядзеўшы на Божашуткаву)* Рагнеда Іванаўна. Гэта сапраўдныя будаўнікі камунізму.

К і ч к а й л а. Наконт мяне ты крыху перабольшыў!

С а л а в е й ч ы к. І мне вельмі сорамна, што я сваімі паводзінамі кінуў цень на гэтых выдатных людзей. Нядобра я зрабіў, таварышы. Вельмі нядобра. Непрыгожа. Але я, таварышы, усё зразумеў і ўсвядоміў. І тое, што здарылася, будзе мне добрай навукай на ўсё жыццё. *(Ідзе да трыбуны.)* Напэўна, я не перанёс бы такой ганьбы, калі б не адчуваў, што побач са мной калектыў, які заўсёды дапаможа. *(Канчаткова ўвайшоўшы ў ролю прамоўцы.)* Таварышы! У нашым цудоўным сацыялістычным грамадстве дзейнічае выдатны закон — усе за аднаго і адзін за ўсіх. Чалавек чалавеку друг, таварыш, брат! Дык няўжо ж вы не працягнеце руку дапамогі свайму другу, таварышу і брату?!

М о ў ч а н *(выціраючы хусціначкай вочы)*. Працягнем, Грыша! Працягнем!

С а л а в е й ч ы к. Няўжо вы адштурхняце мяне, пакінеце ў бядзе? Не, вы гэтага не зробіце! Вам не дазволяць ваша крыштальнае сумленне і залатое сэрца. Вы возьмеце мяне на парукі і не зробіце памылкі! Я скончыў, таварышы. Дзякую за ўвагу.

Салавейчык накіраваўся, каб сесці побач з членамі суда, але, перахапіўшы позірк Божашуткавай, схамянуўся і сціпла вярнуўся на сваё месца. Клакеры апладзіруюць.

Б о ж а ш у т к а в а. Хто хоча выступіць? *(Да Кічкайлы.)* Ой, даруйце, Іван Пятровіч!

К і ч к а й л а. Нічога, нічога, Рагнеда Іванаўна. Ці жадае хто выступіць?

Г а л а с ы:

— А што тут гаварыць?

— Усё і так зразумела! Невінаваты!

— Вызваліць! Сёння ж футбол!..

Ізабела *(ускочыўшы)*. Я пратэстую. Гэта не гуманнасць, а патуранне!
Божашуткава. Чаго ж вы хочаце?
Ізабела. Я прашу слова!
Галасы:
— Не трэба!
— Хопіць прамоў!
— Якія могуць быць прамовы, калі сёння футбол!
Ізабела. Паслухайце! Амністыя, якую вы далі зараз Салавейчыку,— гэта злачынства перад грамадствам.
Зойка. Ізабела Сямёнаўна! Ён жа ўсё ўсвядоміў! Ён жа цудоўны хлопец!
Ізабела. Зойка, гэта не хлопец! Гэта траянскі конь!..
Салавейчык. Чулі? Усе чулі? Яна рабочага чалавека абзывае скацінай!

Галасы абурэння.

Божашуткава. Як бачыце, Ізабела Сямёнаўна, народ супраць вас! А з народам жартаваць нельга!
Ізабела. Добра... Я зараз прывяду народ! *(Выбягае.)*
Божашуткава. Таварыш Таратута! Я бачу, вы хочаце нешта сказаць ад імя ІТР? Давайце смялей...
Андрэй. Я перадумаў. *(Дэманстратыўна рве паперу.)*
Божашуткава. Дзіўна... У такім разе ў мяне ёсць некалькі слоў. Я толькі вось што хачу сказаць...

Салавейчык таропка запісвае штосьці ў блакнот.

Грыша Салавейчык — член нашага калектыву. І калі ён зрабіў нешта недазволенае, то ў першую чаргу вінаваты не ён, а мы з вамі. Так-так, мы! Прагледзелі свайго таварыша! Упусцілі! Гэта трэба сказаць сёння сумленна і адкрыта... Цяпер ваша слова, Іван Пятровіч. Чытайце прыгавор...

Кічкайла ўстае, надзяе акуляры і чытае прыгавор.

Кічкайла. Суд, параіўшыся на месцы, вырашыў... Першае: указаць таварышу Салавейчыку Рыгору Рыгоравічу на яго нетактоўныя паводзіны ў грамадскіх месцах. Суд палічыў магчымым абмежавацца гэтай мерай, улічваючы шчырае прызнанне Салавейчыка ў яго апошнім слове. Другое: калектыў бярэ на сябе ўсю адказнасць за вы-

хаванне Салавейчыка Рыгора Рыгоравіча. Трэцяе: гэты прыгавор зацвердзіць на цэхавым сходзе. Усё. Суд закончаны.

Бурна лікуюць клакеры. Яны абдымаюць, віншуюць Салавейчыка.

*Заслона*

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Пакой адпачынку па фабрыцы. Канапа, зручныя мяккія крэслы, вазоны з кветкамі, шахматныя столікі і столік з тэлефонамі. Ва ўсім адчуваецца прыгажосць і добры густ, калі б не мноства крыклівых плакатаў аб карысці працы, аб шкодзе алкаголю і нікаціну. «Праца — гэта маці асалоды. Стэндаль», «Які я шчаслівы, калі я працую! Л. Талстой», «Праца надае высакароднасць чалавеку. В. Бялінскі», «Адна кропля нікаціну забівае каня!», «Калі хочаш болей жыць, значыць, трэба меней піць». Жудаснае ўражанне пакідае вялізны плакат «Печань алкаголіка ў разрэзе». Надзвычай маляўнічы плакат, на якім рука — безумоўна, варожая — падносіць чалавеку чарку гарэлкі. а ён, адштурхоўваючы яе, кажа рашучае «не!».

Салавейчык захапіўся размовай па тэлефоне.

Салавейчык. Слухай, Жорык! *(Рагоча.)* Станок мне самы лепшы далі. І тэлефон побач паставілі... Не, раней не было. Спецыяльна для мяне паставілі. А я сказаў, што мне трэба часта званіць. *(Рагоча.)* Каля станка ў мяне аранжарэя, батанічны сад! Толькі цытрусаў не хапае!.. Паслухай, якіх яны тут лозунгаў навешалі... Ага, для мяне. «Праца — гэта маці асалоды. Стэндаль». Усёк? Асалоды! *(Рагоча.)* А мы з табой і не ведалі!.. Слухай далей... «Які я шчаслівы, калі працую! Талстой». Не, Лы Талстой... *(Рагоча.)* А яшчэ тут адзін плакацік ёсць... «Печань алкаголіка ў разрэзе»! Паглядзіш, і не тое каб піць — жыць не хочацца! *(Рагоча.)* А ты як думаў? Трэба ўмець жыць, Жорык!.. Ды не... Куды ж яны падзенуцца? Яны ж узяліся мяне перавыхоўваць. А я доўга буду перавыхоўвацца, усё жыццё! *(Рагоча.)*

Уваходзіць Ізабела з вялікім эскізам новай цацкі. З абурэннем аглядае сапсаваныя плакатамі сцены.

Убачыўшы яе, Салавейчык прыкрывае трубку далонню і гаворыць цішэй.

Добра... Дамовімся... Тут прыйшлі. Я табе пазней пазваню. Гуд бай, бэбі!

Ізабела. Чаму вы не працуеце?

Салавейчык. А вы што — дырэктар?.. У мяне перапынак.

Ізабела. Да перапынку яшчэ пятнаццаць мінут.

Салавейчык. А ў мяне персанальны перапынак, падоўжаны.

Ізабела залезла на крэсла, каб павесіць эскіз на плакат «Печань алкаголіка ў разрэзе». Ззаду, пажадліва ўхмыляючыся, падыходзіць Салавейчык і хапае яе за калені.

Ух ты, якое хараство!

Ізабела *(працягваючы яму эскіз)*. Патрымайце, калі ласка.

Салавейчык. Прыходзь да мяне сёння ўвечары. Бульвар Гогаля, сем-адзінаццаць. Я адзін жыву, у асобнай кватэры. Прыйдзеш?

Ізабела, саскочыўшы з крэсла, раптам заляпіла яму такую аплявуху, што Салавейчык ледзь утрымаўся на нагах. Другая аплявуха, трэцяя...

Ізабела *(спакойна)*. Павесьце гэты эскіз на сваю печань, вунь туды...

Ачумелы Салавейчык хуценька ўскаквае на крэсла, вешае эскіз на плакат «Печань алкаголіка ў разрэзе». І толькі потым ужо пачынае разумець, што адбылося.

Салавейчык. Ты што?! Хочаш, каб я табе крэндзеляў навешаў?

Ізабела *(спакойна)*. Паспрабуйце...

Салавейчык. Ты на каго замахнулася? На каго руку ўзняла? На яго вялікасць рабочы клас? На гегемона? А ты ведаеш, што я з цябе зараз зраблю?.. Блін! Мокрае месца! І нічога мне за гэта не будзе! Таму што я, я... праізвадзіцель матэрыяльных каштоўнасцей!

Ізабела. Вон адсюль, «производитель»!

Салавейчык. Што-о-о?!

Ізабела. Вон адсюль!

Гэта сказана спакойна, але такім тонам, што Салавейчык адступіў.

Салавейчык. Ну, я табе гэтага не дарую! Ты мяне надоўга запомніш!

Салавейчык выбягае, моцна грукнуўшы дзвярамі. Звініць званок на перапынак. Ізабела наліла шклянку вады з графіна і выпіла. Уваходзяць Божашуткава, Кічкайла, Хаценьчык, Зойка і Андрэй.

Божашуткава. Ну вось, усе ў зборы. Можна адразу аб усім дамовіцца.

Зойка. Рагнеда Іванаўна, а хіба дваццаць восем гадоў адзначаюць?

Б о ж а ш у т к а в а. Афіцыйна — не. А неафіцыйна... Тут жа не толькі дваццаць восем гадоў, але і пуцёўка ў Крым... Вы ж зразумейце псіхалогію адзінокага мужчыны... Жыве чалавек бабылём, жонка яго пакінула. У чалавека вялікая маральная траўма. Трэба, каб ён адчуў цяпло, чалавечую ласку, зразумеў, што вакол яго добрыя, сардэчныя людзі. Чалавек чалавеку друг, таварыш, брат. Разумееце?

Х а ц е н ь ч ы к. Усё гэта будзе, так сказаць, насухую? Ці прадбачыцца маленькі сабантуй?

Б о ж а ш у т к а в а. Стол, канечне, павінен быць. Апрача падарунка мы сёе-тое купім. Трэба вырашыць спачатку, хто пойдзе. Ты, Гусельнікава...

З о й к а *(праглынуўшы цукерку)*. Ага! А потым пра мяне скажуць, што я да халасцяка на кватэру бегаю?

Б о ж а ш у т к а в а. Ён разведзены.

З о й к а. Тым горш!

Б о ж а ш у т к а в а. Ты ж не адна пойдзеш! Пайду я, затым Моўчан, Кічкайла, Хаценьчык... *(Глядзіць на Ізабелу.)* Не-не, не бойцеся! Вас мы не запрашаем... І таварыш Таратута.

І з а б е л а. Не, ён з вамі не пойдзе.

Б о ж а ш у т к а в а. А чаму гэта вы за яго рашаеце?

І з а б е л а. Я сказала: нікуды ён з вамі не пойдзе.

Б о ж а ш у т к а в а. І вам не сорамна, Андрэй Іванавіч? Яна яшчэ не жонка вам, а ўжо камандуе?

А н д р э й. Прабачце, Рагнеда Іванаўна... Я сапраўды не магу... У мяне хутка сесія ў інстытуце, і кожны выхадны для мяне...

К і ч к а й л а. Няхай вучыцца.

Б о ж а ш у т к а в а. Добра. Абыдземся як-небудзь без вас... Значыць, у асноўным мы дамовіліся. Дэталі потым.

Х а ц е н ь ч ы к. Трэба было б адразу і наконт выпіўкі вырашыць. Калі будзем браць «Белавежскую», то яе не так проста дастаць. А ў мяне ў адным магазіне знаёмая ёсць...

Б о ж а ш у т к а в а. Вазьміце гэта на сябе. Таварыш Кічкайла, за вамі тэксты ўсіх застольных экспромтаў. Інакш атрымаецца звычайная п'янка, а не арганізаванае мерапрыемства.

К і ч к а й л а. Будзе зроблена. У мяне ёсць кніга афарызмаў і выказванняў «У свеце мудрых думак».

Б о ж а ш у т к а в а. Падыдзе...

Выходзяць.
Андрэй ставіць на стол прыгожую вялікую ляльку ў скафандры касманаўта. «Касманаўт» асцярожна рухаецца па стале. Над скафандрам успыхвае агеньчык. Гучаць сігналы спадарожніка, чуцен голас Андрэя: «Я Сокал-150. Выйшаў з кабіны. Вывучаю паверхню планеты Тау-кіта. Увага! Увага! Вы чуеце мяне, зямляне? Я бачу людзей. Бачу людзей. Яны такія ж, як мы!.. Увага! Я Сокал-150. Бачу людзей. Іду да іх! Іду да іх!..»

А н д р э й *(спыняючы «касманаўта»)*. Ну як, падабаецца?

І з а б е л а *(з пяшчотай)*. Таратута! Ты геній!..

А н д р э й *(прыглядаючыся да Ізабелы)*. Чакай, чакай... Што з табой?

І з а б е л а . А што?

А н д р э й. Ты нейкая не такая, як заўсёды... Што здарылася, Іза?

І з а б е л а. Я ўдарыла Салавейчыка... Толькі што...

А н д р э й. Што? Ударыла? Ты?

І з а б е л а. Калі гэта дойдзе да Божашуткавай...

А н д р э й. Але за што? За што? Ты звар'яцела?

І з а б е л а. Здаецца, яшчэ не...

А н д р э й. Што ён табе зрабіў?

І з а б е л а. Рукі ён свае распусціў.

А н д р э й. Не разумею... Ён што, першы цябе ўдарыў?

І з а б е л а. Нявінны агнец!.. Прыставаць ён да мяне пачаў. За ногі хапаў. Запрашаў да сябе на кватэру... Увечары!

А н д р э й. Казаў я табе не насіць гэтую... Казаў жа!

І з а б е л а. Па-твойму, я павінна насіць ватныя штаны і ўвогуле нікуды не вытыркаць носа, паколькі ў нас яшчэ ёсць хамы і нахабнікі? Так?

А н д р э й. Я заб'ю яго! Знявечу! Прымушу на каленях перад табой поўзаць, зямлю грызці і прасіць прабачэння! *(Кідаецца да дзвярэй.)*

І з а б е л а *(трымае яго)*. Не рабі глупства! Не трэба... Ён сваё атрымаў.

А н д р э й. Пусці мяне! Пусці! Я павінен яго правучыць! Гэта нельга так пакідаць!.. І нічога ты не бойся. Няхай толькі хто-небудзь рот раскрые...

І з а б е л а. Ах, Таратута, Таратута! Божашуткава гэта першая зробіць.

А н д р э й. Няхай толькі паспрабуе!.. Адным словам — ты нічога не бойся...

*З а с л о н а*

## КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

Кватэра Салавейчыка. Вечарынка ў самым разгары. Божашуткава сядзіць побач з Салавейчыкам, паклаўшы яму руку на плячо. У кутку ў вялікім крэсле дрэмле Моўчан. Кампанію ўзначальвае Хаценьчык, у якім угадваецца вопытны, гаваркі тамада.

Хаценьчык. Сябры-прыяцелі! Самадзейнасць падыходзіць толькі для сцэны. А за сталом павінна быць жалезная дысцыпліна. Праўду я кажу, Рагнеда Іванаўна?

Божашуткава. Праўду, Кузьма Данілавіч. Гасцям патрэбны добрыя лейцы. Давай дзейнічай!

Хаценьчык. Сябры-прыяцелі! Наш прафсаюзны галава— таварыш Кічкайла — скажа зараз чарговы тост!

Зойка *(набіўшы рот цукеркамі)*. Ціха!

Кічкайла *(устае з чаркай)*. Таварышы! Жанчыны і мужчыны! Я прапаную тост за найпрыгажэйшую палавіну чалавецтва. І гэта, таварышы, не проста слова — палавіна. Вы глядзіце, што атрымліваецца... У народнай асвеце ў нас... *(збіўся і паглядзеў на паперку)* занята семдзесят пяць працэнтаў жанчын, у медыцыне — шэсцьдзесят, а ў гандлі і ўсіх дзевяноста пяць! Атрымліваецца, таварышы, не толькі найпрыгажэйшая палавіна, але і большая, мацнейшая палавіна!.. Дык вось я прапаную тост за жанчыну-настаўніка, за жанчыну-ўрача, за жанчыну-прадаўца. І за жанчыну, з якой мы жывём, дзелім радасць і гора,— за жанчыну-жонку! Інакш кажучы, за жанчыну, без якой мы, мужчыны, нуль без палачкі!

Хаценьчык. Сябры-прыяцелі, толькі да дна! Толькі да дна!

П'юць. Хаценьчык хацеў разбудзіць Моўчан, але яго стрымаў Кічкайла.

Кічкайла. Не трэба, не чапай яе. У яе ўнук нарадзіўся, спаць не дае. Хоць тут старая падрэмле.

Божашуткава. Грыша, што ў цябе з жонкай?

Салавейчык. Ат!.. Ну, была і сплыла. Няма!

Божашуткава. Чаму?

Салавейчык. Ат!.. Кінь ты пра яе! Не хачу ўспамінаць!

Божашуткава. Зойка! Не еш столькі цукерак! Растаўсцееш.

Зойка *(ледзь не падавіўшыся цукеркай)*. Не магу ўтрымацца, Рагнеда Іванаўна! Сілы волі не хапае.

Б о ж а ш у т к а в а. Не, Грыша, скажы ўсё ж — чаму?

С а л а в е й ч ы к. Ну, кінула яна мяне! Кінула! Узяла сына і пайшла. Зрабіла мне горш, дурніца! *(Рагоча.)* Не падыходжу я ёй! Пляваць я хацеў! Вып'ем за мужчын!

Б о ж а ш у т к а в а. Пачакай, Грыша. Няхай закусяць спачатку. Яна дрэнна да цябе адносілася?

С а л а в е й ч ы к. Ну! Бялізну ў пральню — занясі! Яна, бачыце, працуе і вучыцца! Я, можа, таксама вучыўся б, калі б захацеў!.. У магазіне ў чарзе стаяць — зноў жа я! Ну дзе вы бачылі, каб мужчыны ў чарзе стаялі? Хіба толькі за півам!

Х а ц е н ь ч ы к. Такога волата ў магазін? Ды людзі ж смяяцца будуць!

С а л а в е й ч ы к. Яшчэ як смяяліся!.. Не, Савецкая ўлада ўвогуле нішто сабе... Вось толькі адну памылку яна зрабіла. У самым пачатку. У адна тысяча дзевяцьсот семнаццатым... І мы за гэтую памылку плацім уласнай скурай шэсцьдзесят з лішнім гадоў!..

Б о ж а ш у т к а в а. Гэта якую ж памылку, Грыша?

С а л а в е й ч ы к. Зраўняла жанчыну з мужчынам. Гэтага рабіць нельга было! Ні ў якім разе!.. Вып'ем за мужчын! Няхай жыве свабода і незалежнасць мужчын!

Б о ж а ш у т к а в а. Грыша, дальбог, хопіць ужо. Каньяк канчаецца. А яшчэ трэба будзе выпіць за твой адпачынак на беразе самага сіняга мора...

С а л а в е й ч ы к. Каньяк канчаецца? Будзем гарэлку піць!

Х а ц е н ь ч ы к. Не здагадаліся, Грыша. Не ўзялі мы гарэлкі!

С а л а в е й ч ы к. Гэта вы не ўзялі. *(Устае з-за стала, ідзе ў куток і адкрывае занавеску.)* Глядзіце сюды!

У кутку за занавескай некалькі скрынак з гарэлкай.

Вось! Дзве скрынкі «Маскоўскай», дзве скрынкі «Белавежскай горкай» ды яшчэ шампанскага адна скрынка. Спецыяльна для апахмелкі.

Х а ц е н ь ч ы к *(свісну́ў)*. Навошта табе столькі, Грыша? Яна ж пракісне ў цяпле! Градусы выйдуць...

С а л а в е й ч ы к. Залаты запас! Як пачалі ў газетах спрачацца: піць ці не піць, уводзіць сухі закон ці не ўводзіць,— я адразу скеміў: супраць нашага брата нешта такое зацяваюць. Як ваўка ў бярлозе, чырвонымі сцяжкамі абкладваюць. Вось я і апярэдзіў іх! *(Вяртаецца да стала з бутэлькай гарэлкі.)*

К і ч к а й л а *(са страхам)*. Не трэба, Грыша, не трэба! Хопіць!

Х а ц е н ь ч ы к. Адкуль у цябе, Грыша, такія грошы?

С а л а в е й ч ы к. Не бойся, не крадзеныя... Ты ведаеш, колькі новых кватэр здаецца ў горадзе за квартал? Мільён! А як здаюцца, таксама ведаеш? Форткі не зачыняюцца, бачок працякае, водаправодны кран, як буйнакаліберны кулямёт — ды-ды-ды! А выключальнікі, ведаеш, якія? Пойдзе хто-небудзь ноччу ў туалет... Пардон! Святло ўключыць — тры кватэры з ложкаў ускакваюць і пытаюцца, хто страляў?

Х а ц е н ь ч ы к. Грыша! Мілы! Ты што, у нашым доме быў?

С а л а в е й ч ы к. Ну вось... Кран папраўлю — траяк. Выключальнік бясшумны пастаўлю — тры пяцьдзесят. Замок новы прыладжу — пяцёрка. Бывае, за адзін вечар трыццаць рублёў у кішэнь кладу. Які прафесар такую стаўку мае?

Б о ж а ш у т к а в а. Грыша, гэта ж рабунак сярод белага дня!

С а л а в е й ч ы к *(рагоча)*. Рабунак! Яны ж мне ручкі-ножкі гатовы цалаваць, каб толькі я прыйшоў і зрабіў! На сподачку з залатой каёмачкай грошы выносяць. А ты — рабунак! Вось яны, мае мазольныя! *(Салавейчык трасе грашамі.)* Зойка! На, бяры ўсе! Толькі ведаеш што? Зрабі мне гэты... Як яго? Во! Стрыптыз!..

Зойка ўскочыла, ледзь не падавіўшыся цукеркай.

З о й к а. Ты што? Здурэў?

С а л а в е й ч ы к. А што? Хачу стрыптыз!

Б о ж а ш у т к а в а. Як табе не сорамна, Грыша? Што ты кажаш? Які стрыптыз? Апамятайся! Ты што, п'яны?

С а л а в е й ч ы к. Хто? Я п'яны? Лухта! Чаму ты, маманя, супраць стрыптызу? А калі я хачу?.. У нас жа свабода сумлення! Я гэта так разумею: што хачу, тое і раблю! Зойка! Давай стрыптыз!

З о й к а. Шызік! Калі ты зараз не змоўкнеш!..

Б о ж а ш у т к а в а. Грыша, кінь дурыцца. Глядзі, Зойку ледзь не да плачу давёў.

З о й к а. Я яго спачатку па мазгаўні трахну, а потым заплачу! *(Азвярэла накідваецца на цукеркі.)*

Х а ц е н ь ч ы к *(злавіўшы позірк Божашуткавай)*. Сябры-прыяцелі! Не будзем ухіляцца ў бок ад намечанай

праграмы, а то ў канцы квартала не атрымаем прэміяльных. Ёсць прапанова выпіць, Іван Пятровіч!

Кічкайла ўстае. Рыхтуючыся сказаць чарговы тост, выцягнуў з кішэні паперку, зазірнуў у яе.

Салавейчык. Цю! Зноў гаварыць будзеш? Злітуйся! Замучыў прамовамі. Тут жа не прафсаюзны сход!

Кічкайла *(просіць)*. Дальбог, Грыша, ёсць цудоўны тост! Думка Спінозы...

Салавейчык. Забараняю! Катэгарычна! Хто імяніннік — я ці твой Спіноза? Вось... Вершамі кажы тост!

Кічкайла. Вершамі я не гатовы.

Салавейчык. Тады сядай і сядзі! Хто можа вершамі?

Божашуткава. Я! *(Устае і цудоўна чытае.)*

Жди меня, и я вернусь,
Только очень жди.
Жди, когда наводят грусть
Желтые дожди.
Жди, когда снега метут,
Жди, когда жара.
Жди, когда других не ждут,
Позабыв вчера...

Кічкайла непрыкметна знікае.

Салавейчык. Старо! Старо, Рагнеда Іванаўна! Ты давай што-небудзь такое... пра любоў!

Божашуткава. А гэта хіба не пра любоў?

Салавейчык. Якая ж гэта любоў? Цяпер чалавеку любоў з сэксам патрэбна! Разумееш: с-э-к-с! Еўтушэнку ведаеш: «Ты говорила шепотом, а что потом, а что потом?..»? Га?

Божашуткава. Не, не ведаю...

Салавейчык. Ну хаця б Ясеніна Сяргея?

Божашуткава. Некалі ведала, а цяпер забылася...

Салавейчык. Якія ж з вас выхавацелі, калі вы ні Еўтушэнкі, ні Ясеніна не ведаеце?

Божашуткава. Зойка! За табою Еўтушэнка і Ясенін. Ды кінь ты есці цукеркі! Дыябет будзе!

Салавейчык. Няхай есць, не шкада. *(Бярэ гітару і па-майстэрску робіць некалькі акордаў. Спявае.)*

Сидели, ели мы цыпленка табака.
А в это время нас попутала Чека —
Зэка — Петрова, Васильева — зэка!

Б о ж а ш у т к а в а. Грыша! Гэта ж... вульгарна! Гэта ж крымінальшчына!

С а л а в е й ч ы к. Добра. Пераходжу на грамадзянскую лірыку, паколькі гэтага патрабуюць госці! *(Спявае.)*

И рубают финики лопари,
А в Сахаре снегу — невпроворот!
Это гады физики на пари
Раскрутили шарик наоборот!
И не верится и верится,
Что минует та беда!
А шарик крутится и вертится
И все время не туда!..

Б о ж а ш у т к а в а. Спяваеш ты, Грыша, цудоўна, як Лемешаў. Але густ у цябе...

С а л а в е й ч ы к. Пардон! Гэта мой лепшы рэпертуар!

Б о ж а ш у т к а в а. Нічога, хутка ў цябе будзе іншы рэпертуар. Гэта наш клопат... Зойка, ты ведаеш добрыя песні? Сучасныя?

Зойка, набіўшы рот цукеркамі, круціць галавой.

Няўжо ніхто з нас не ведае добрых песень?

І раптам зусім нечакана Сцепаніда Моўчан, якая драмала да гэтага часу ў крэсле, прыгожым голасам заспявала «Очи черные». І адразу падхапілі ўсе. Спяваюць добра, з пачуццём. З'яўляецца К і ч к а й л а, якога цяпер не пазнаць. Ён у касцюме цыгана. На ім чырвоная кашуля, бліскучыя боты, нават завушніца ў адным вуху. Схапіўшы ў зубы нож, пускаецца ў скокі. Павязаўшы на галаву ручнік у выглядзе шалі, зрываецца з месца Божашуткава. Яна танцуе цудоўна, тэмпераментна, з нейкім асаблівым самазабыццём. У адным са складаных па яна пахіснулася і, напэўна, павалілася б, калі б яе не падхапіў Салавейчык. Бурны танец ператвараецца ў агнявы віхор...

*З а с л о н а*

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## КАРЦІНА ПЯТАЯ

Кабінет дырэктара фабрыкі. У кабінеце — Д о б р ы х, Б о ж а ш у т к а в а і Д р о з д. Усхваляваны Якаў Фаміч ходзіць з кутка ў куток, спыняючыся па чарзе перад тым, хто гаворыць.

І з а б е л а. І зноў жа, Якаў Фаміч... Танк каштуе восем рублёў, цягач — пяць, пісталет-аўтамат — сем рублёў. Для плана, вядома, ідэальна.

Я к а ў  Ф а м і ч. А што я магу зрабіць? Сабекошт, Ізабела Сямёнаўна, рэч упартая. Але ж мы апрача танка, цягача і аўтамата выпускаем больш за дзвесце відаў цацак. Гэта не так ужо і дрэнна!

І з а б е л а. Але якіх цацак, Якаў Фаміч. Якіх? Дзесяць гадоў аднаго піянера штампуем!

Б о ж а ш у т к а в а. Няпраўда! Няпраўда! Піянера мы асвоілі толькі летась! А да гэтага выпускалі акцябронка.

І з а б е л а. Прытрымліваючыся вашай логікі, Рагнеда Іванаўна, у наступным годзе мы асвоім камсамольца, а затым...

Я к а ў  Ф а м і ч. Не трэба так, Ізабела Сямёнаўна, не трэба. Гэта не робіць вам гонару.

І з а б е л а. Мне апрыкрала наша ўбоства думкі! У нас распрацаваны ўзоры новых цацак. Выдатных, прыгожых! Я ўзяла толькі некаторыя.

Б о ж а ш у т к а в а *(з сарказмам)*. Хто ж аўтар гэтых унікальных шэдэўраў? Выпадкам не Таратута?

І з а б е л а. Таратута. Ну і што?

Б о ж а ш у т к а в а. Хм... Не дзіва, што вы так настойліва прабіваеце яго ўзоры!.. А хто за нас зробіць план, пакуль мы будзем эксперыментаваць з новымі ўзорамі? Вы пра гэта падумалі?

І з а б е л а. Але ж гэта проста нейкі ідыятызм, Якаў Фаміч! Так жа нельга далей працаваць! Жыць так нельга!

Б о ж а ш у т к а в а. А хто вас, уласна кажучы, трымае? Знайдзіце сабе работу адпаведна свайму высокаму інтэлекту!

І з а б е л а. Не, Рагнеда Іванаўна, я адсюль не пайду. Не пайду, таму што я невыпадкова выбрала сабе гэтую прафесію... А вось вам, відаць, рана ці позна, але прыйдзецца пайсці. Калі не зразумееце, што зараз канец дваццатага стагоддзя, а не васемнаццатага.

Б о ж а ш у т к а в а. На шчасце, гэта не залежыць ад вас — пайсці мне адсюль ці застацца!

І з а б е л а. На жаль, не ад мяне... Паглядзіце, Якаў Фаміч, хіба гэта лялькі? Гэта ж дэгенераты! Гэта ж нейкія квазімоды! Іх жа нельга перад сном дзецям паказваць! А сукенкі якія?

Б о ж а ш у т к а в а. Вы сама бессаромніца і лялек хочаце бачыць такімі ж? У міні-спадніцах! Дзяцей хочаце разбэшчваць!

Я к а ў  Ф а м і ч. Рагнеда Іванаўна! Ну што вы такое

кажаце! У нас ідзе творчая размова, і ўжываць такога роду аргументы...

Ізабела. Я ўжо прывыкла да такіх папрокаў, Якаў Фаміч... Мы саромеемся жаночых каленяў, а потым абураемся, чаму нашы дзеці, убачыўшы Венеру Мілоскую або Данаю, непрыстойна хіхікаюць. Але гэта ўжо іншая тэма... Дзе каляровыя пластмасы, Якаў Фаміч? Дзе яркія фарбы? Чаму мы атрымліваем полісцірол толькі белага колеру? З яго ж не цацкі, а толькі нябожчыкаў рабіць!

Якаў Фаміч. Не даюць, Ізабела Сямёнаўна. Я прасіў.

Ізабела. Прасілі? Не прасіць, а патрабаваць трэба. У вас жа не прыватная майстэрня!

Якаў Фаміч. У каго патрабаваць?

Ізабела. У каго хочаце! У галоўснабе, у міністэрстве!..

Якаў Фаміч. У міністэрстве нічога няма!

Ізабела. Напішыце ў Саўмін, у ЦК!

Якаў Фаміч. Ну, вы скажаце!.. У ЦК! Цераз галаву свайго міністра? Ведаеце, што мне за гэта будзе?

Ізабела. Нічога вам за гэта не будзе! Вы ж кіраўнік, дырэктар!

Якаў Фаміч. Вы думаеце, што ў Саўміне і ЦК няма больш сур'ёзных праблем, чым дзіцячыя цацкі?

Ізабела. Напэўна, ёсць. Але вы зразумейце... У краіне амаль семдзесят мільёнаў дзяцей! Уяўляеце, што гэта такое? Наша прадукцыя не менш важная, чым трактары і аўтамабілі.

Бажашуткава. Не, вы толькі паслухайце яе! Яна ўжо павучае дырэктара! Мы, бачыце, нейкія невукі, а яна — вундэркінд!

Якаў Фаміч. Ізабела Сямёнаўна... Я вас прашу... Выйдзіце адсюль... Я вас потым паклічу.

Ізабела моўчкі ўзнялася з-за стала, пастаяла крыху і амаль выбегла з кабінета.

Бажашуткава. Правільна зрабілі, Якаў Фаміч, што выставілі яе за дзверы. Яна ўжо ні меры, ні такту не ведае. Сама сябе прызначыла ў ментары!..

Якаў Фаміч *(раптам крычыць)*. Замаўчыце, Рагнеда Іванаўна! Я вас прашу — замаўчыце!

Паўза.

Бажашуткава. Ну... Калі вы дазваляеце сабе гаварыць са мной такім тонам...

Якаў Фаміч. Яна ж, чорт пабяры, мае рацыю! Я ж таксама гэтак думаю! Ды вось не хапае смеласці сказаць пра гэта ўголас! Вось сядзіць у мяне недзе тут *(стукае сябе ў грудзі)* подленькі чалавечак, які не дае мне рот расрыць, калі мне трэба гаварыць! Крычаць! Калі я абавязаны крычаць! Дык не... Гэты мярзотнік *(зноў стукае сябе ў грудзі)* хоча спакойнага жыцця! Хоча дажыць да пенсіі, да глыбокай старасці! Непрыемнасцей баіцца, лішніх турбот! Баіцца сапсаваць адносіны з начальствам!.. А яна вось не баіцца! Таму што гэтага мярзотніка ў яе няма! Таму гаворыць яна тое, што думае! Праўду гаворыць. А мы з вамі, Рагнеда Іванаўна, любім іншы раз прамаўчаць. Калі нам выгадна прамаўчаць... І кукіш у кішэні паказваем...

Сцэна паварочваецца, і мы бачым прыёмны пакойчык перад кабінетам дырэктара. Тут зараз толькі адна Ізабела. Моўчкі стаіць каля акна. Па яе плячах можна здагадацца, што яна плача. Асцярожна ўваходзіць Андрэй, глядзіць на Ізабелу, ціха падыходзіць да яе.

Андрэй. Ну што? Не прайшлі?

Ізабела, не паказваючы твару, працягвае да Андрэя руку. Андрэй, адразу зразумеўшы, хуценька выцягвае з кішэні насавую хусцінку і кладзе яе ў руку Ізабелы. Выцерпы вочы, Ізабела паварочваецца да Андрэя і сумна ківае галавой: «Не прайшлі».

Андрэй. Чаму?

Ізабела. План, тэхналогія, Божашуткава...

Паўза.

Андрэй. Паслухай, Іза... Зрэдку і я магу даць добрую параду. Плюнем мы на гэтую фабрыку! Хіба на ёй свет клінам сышоўся? Без работы не застанемся. У другі горад пераедзем!

Паўза.

Ізабела. Гэта было б здрадай.

Андрэй. Здрадай? Каму?!

Ізабела. Свайму дзяцінству. У дзіцячым доме мы самі сабе рабілі лялек... З розных рызманоў... Нязграбныя, няўклюдныя... А потым у нас з'явілася адна сапраўдная... Вялікая, прыгожая... Адна на ўвесь дзіцячы дом. А нас там было дзве сотні... Мы карміл яе, купалі, лячылі, спявалі ёй песні... Па чарзе... Раз у тыдзень... І вось аднойчы маленькая дзяўчынка — яе Фросяй звалі — папрасіла ў мяне ляльку. Я не дала... Разумееш, раз у тыдзень?.. А ўначы яна памерла. Нешта з сэрцам... Ніколі сабе гэта-

га не дарую... Колькі жыць буду... Можа, вось тады я інтуітыўна і зразумела, што такое цацка для маленькага чалавека... Ах, Таратута, Таратута! *(Хуценька адварочваецца да акна.)*

Андрэй. Не трэба... Не трэба нікуды ехаць. Будзем тут.

Убягае Кічкайла.

Кічкайла *(паказвае на дзверы)*. Там?

Андрэй. Там...

Кічкайла кідаецца да дзвярэй кабінета. Сцэна паварочваецца. Зноў мы бачым кабінет Якава Фаміча. Урываецца Кічкайла.

Кічкайла. Прашу пасадзіць мяне ў турму!

Паўза.

Якаў Фаміч. Вы пераблыталі адрас. З такім высакародным жаданнем трэба звяртацца да пракурора ці начальніка міліцыі. Можна ў ОБХСС.

Кічкайла. Я патрабую пасадзіць мяне ў турму!

Якаў Фаміч. Што вы і дзе натварылі?

Кічкайла. Ды не я! Не я, а Салавейчык! Ён жа ўсю фабрыку тэрарызуе! Яго ж усе, як чумы заразнай, баяцца. Я ўжо псіхам, шызафрэнікам зрабіўся! У мяне бяссонніца. Я ж нават дома, у сям'і, стаў заводзіцца з паўабарота! Толькі турма можа выратаваць мяне ад вар'яцкага дома.

Якаў Фаміч. Давайце больш стрымана, без эмоцый. Гэты спектакль тут недарэчы.

Кічкайла *(смяецца нейкім вар'яцкім смехам)*. Спектакль? Правільна! Гэта ўжо спектакль! Захацеў, каб яму лепшы станок далі. Далі! Тры разы прэміі за рацпрапановы выплачвалі. А гэтыя рацпрапановы — цьфу! Захацеў бясплатную пуцёўку ў Крым. Далі! Гэтаму пародзістаму бугаю пуцёўку, калі ў мяне адных франтавікоў і партызан трыццаць дзевяць чалавек! Баксёр яму морду за жонку набіў, а мы яму страхоўку выплацілі! Няшчасны выпадак на рабоце, зваліўся чалавек з лесвіцы!..

Якаў Фаміч. А навошта вы ўсё гэта рабілі?

Кічкайла *(смяецца)*. Навошта? Таму што ў мяне дзеці і я яшчэ пажыць хачу! Ён жа ледзь што — адразу сігнал у газету, у райком, у народны кантроль. Мяне ж праверкі замучылі! Я ж не працую, а толькі пішу тлумачэнні!

Я к а ў  Ф а м і ч. А ў вас што, капіркі няма?.. У мяне таксама было пяць камісій.

К і ч к а й л а. Пяць? *(Смяецца.)* У мяне іх было ўжо ведаеце колькі?..

Я к а ў  Ф а м і ч. Потым, потым падлічым. Чаго ён цяпер хоча?

К і ч к а й л а *(звар'яцела рагоча)*. Дробязь! Патрабуе характарыстыку для турыстычнай паездкі за граніцу. Ну хоць бы ў сацыялістычную краіну! Дык дзе там! Яму падавай толькі Францыю ці Італію. У крайнім выпадку згодзен на скандынаўскія краіны.

Я к а ў  Ф а м і ч. Выгнаць яго к чортавай матары! Каб і духу ягонага не было на фабрыцы!

К і ч к а й л а. Дык нельга ж выгнаць, Якаў Фаміч! Суд усё роўна адновіць. Спачатку патрэбны тры вымовы. А мы яму толькі адну далі. І тую суд адмяніў.

Я к а ў  Ф а м і ч. Выгнаць!

К і ч к а й л а *(зноў смяецца)*. Мы ж за яго паручыліся, Якаў Фаміч! На выхаванне ўзялі! Як жа звольніць цяпер?

Я к а ў  Ф а м і ч. Добра... Паклічце яго сюды.

К і ч к а й л а выходзіць.

Ну, што ж вы маўчыце, Рагнеда Іванаўна? Дзе ваша красамоўства? Помніце, як вы ўгаворвалі мяне ў гэтым кабінеце? І ўгаварылі...

Уваходзяць С а л а в е й ч ы к і К і ч к а й л а. Салавейчык трымаецца салідна, упэўнена. Падыходзіць адразу да стала, вітаецца з усімі за руку, садзіцца, не чакаючы запрашэння.

С а л а в е й ч ы к. Я слухаю вас, Якаў Фаміч.

Я к а ў  Ф а м і ч. Кажуць, у вас зноў нейкія прэтэнзіі да фабкома, да кіраўніцтва фабрыкі? На што вы скардзіцеся?

С а л а в е й ч ы к. Я скарджуся? Я не скарджуся, а крытыкую. Вось гэты дзеяч *(паказвае на Кічкайлу)* заціскае рабочы клас. Не дае, разумееце, ніякага ходу. Нібыта ў нас не дзяржава рабочых і сялян, а нейкая задрыпаная капіталістычная краіна.

Я к а ў  Ф а м і ч. Ну, гэта ж не зусім так, таварыш Салавейчык. Вы і прэміі атрымліваеце, і пуцёўкамі карыстаецеся.

С а л а в е й ч ы к. Як усякі працоўны. Маю поўнае права.

Я к а ў  Ф а м і ч. І ўмовы вам на рабоце стварылі такія, якіх вы, можа, і не заслугоўваеце...

С а л а в е й ч ы к. А чаму мяне не хочуць пускаць за граніцу? Чаму не даюць характарыстыкі? Я што — заразны? Ці не такі грамадзянін СССР, як усе іншыя? Магу зараз пашпарт паказаць!

Паўза.

Я к а ў  Ф а м і ч. Бачыце, якая справа, Рыгор Рыгоравіч... Мы не можам рэкамендаваць вас для замежнай паездкі.

С а л а в е й ч ы к. Не можаце? Дазвольце даведацца — чаму?

Я к а ў  Ф а м і ч. Разумееце, Рыгор Рыгоравіч... Ну, калі гаварыць ужо зусім шчыра... Мы не давяраем вам.

С а л а в е й ч ы к. Думаеце, застануся там? Ха-ха-ха! Не такі я дурань, як вы думаеце!

Я к а ў  Ф а м і ч. Не, мы гэтага якраз не баімся, што вы там застанецеся.

С а л а в е й ч ы к. Тады ў чым справа? Што вам канкрэтна не падабаецца? Толькі канкрэтна!

Я к а ў  Ф а м і ч. Канкрэтна?.. Ваш, так сказаць, маральны воблік, Рыгор Рыгоравіч. Мы баімся, каб за мяжой не падумалі, нібыта ў нас тут усе такія. А вы ж... унікум!..

С а л а в е й ч ы к. Ах, вам не падабаецца мой маральны воблік! Хвілінку. Зараз я вам дакажу, што вы гаворыце лухту! *(Выцягвае з кішэні і беражліва разгортвае паперу.)* Вось, калі ласка!.. Копія той характарыстыкі, якую вы паслалі ў міліцыю! І тут вы, між іншым, сцвярджаеце, што Салавейчык... Таварыш Салавейчык Р. Р.— маральна ўстойлівы, высокасвядомы, працуе над павышэннем... Над павышэннем — значыць, ёсць што павышаць! — свайго агульнаадукацыйнага, палітычнага і культурнага ўзроўню, акуратна выконвае грамадскія даручэнні і гэтак далей, і гэтак далей. Зачытаць поўнасцю ці дастаткова цытаты?.. Пячатка з гербам, подпіс ваш, Рагнеда Іванаўна. Пра чалавека недастойнага так не пішуць. Гэта ж, прабачце, не характарыстыка, а прадстаўленне да ордэна «Знак Пашаны»!

Б о ж а ш у т к а в а. Мы пісалі гэтую характарыстыку, каб выратаваць вас ад турмы!

С а л а в е й ч ы к. Ды ну? А што вы казалі на таварыскім судзе, Рагнеда Іванаўна? Хвілінку!.. *(Шукае ў кішэнях, выцягваючы адтуль паперкі, знаходзіць патрэбную,*

*чытае.)* «Я толькі вось што хачу сказаць, Грыша Салавейчык — член нашага калектыву. І калі ён зрабіў нешта недазволенае, нядобрае, то ў першую чаргу вінаваты не ён, а мы. Так-так, мы!..» Можа, вы, Рагнеда Іванаўна, гэтага не гаварылі? Можа, я няправільна запісаў? Наблытаў?

Б о ж а ш у т к а в а. Паслухайце, грамадзянін Салавейчык!..

С а л а в е й ч ы к. Ну вось бачыце... Я ўжо стаў грамадзянінам Салавейчыкам. А яшчэ зусім нядаўна я быў для вас проста Грыша...

Б о ж а ш у т к а в а. Так, я гэта гаварыла, не адмаўляюся. Вы правільна запісалі, Салавейчык. Не наблыталі. Я гаварыла толькі для таго, каб ратаваць вас! Ратаваць ад турмы! Але ж вы на таварыскім судзе публічна ва ўсім прызналіся! Прызналіся і шчыра раскаяліся! Хіба не было гэтага?

С а л а в е й ч ы к. Фантазія!

Б о ж а ш у т к а в а. Як?.. Гэта ж усе чулі!

С а л а в е й ч ы к. Што чулі? Што я чытаў? Дык я ж чытаў тую прамову, якую вы для мяне напісалі! Не гаварыў, а чытаў. Чаму я павінен адказваць за тое, што хтосьці штосьці напісаў? Хто напісаў, той няхай і адказвае!

Б о ж а ш у т к а в а. Гэта ж подла, грамадзянін Салавейчык!

С а л а в е й ч ы к. Нядобра так лаяцца, Рагнеда Іванаўна. Непрыгожа. Узяліся мяне выхоўваць, а самі нядобрымі словамі лаецеся, вучыце мяне подласці. Пісьмовую хлусню падмацоўваеце гербавай пячаткай. І выказваеце нездавальненне маім маральным воблікам.

Б о ж а ш у т к а в а. Так... Цяпер я раскайваюся.

С а л а в е й ч ы к. У чым? Ну, дапусцім, вы манілі міліцыі, пракуратуры з высакароднай мэтай. Дапусцім... Хаця, вядома, гэта вас не ўпрыгожвае... Дапускаю, што на таварыскім судзе вы таксама пакрывілі душой з высакародным намерам. Гэта зноў-такі не ў вашу карысць. Не ўпрыгожвае ваш маральны воблік...

Б о ж а ш у т к а в а. Грамадзянін Салавейчык! Я вас папрашу не забывацца!

С а л а в е й ч ы к. Не, паважаная Рагнеда Іванаўна, забываецеся вы, а не я. Хто вас цягнуў за язык у мяне на імянінах? Хвілінку! *(Корпаецца ў кішэнях.)* Хвілінку, зараз знайду... Вось яны, вашы экспромты, таварыш Кічкайла! Пазнаеце почырк? Не, гэта не тое... Не тое... Гэта пра каханне, гэта пра жанчын... Гэта за мой вясёлы адпачы-

нак. Ага, вось ён!.. «Добры работнік... Добры чалавек... Таленавіты самародак...» Гэта ўсё пра мяне. Пра аднаго мяне. Вы паперкі выкінулі, а я іх падняў. Хаваю. На ўсякі выпадак. Не, я не стану імі злоўжываць, шантажыраваць. Але давайце ўсё ж не траўміруйце яго вялікасць рабочы клас... Не трэба. Рыхтуйце дакументы для маёй заграмічнай паездкі. Абрыдла, ведаеце, сядзець на адным месцы. Трэба прашвырнуцца па Еўропах. Гуд бай!

Салавейчык працягвае на развітанне руку. Як загіпнатызаваныя, паціскаюць яе Якаў Фаміч, Божашуткава, Кічкайла. Паўза. Кічкайла глядзіць услед Салавейчыку і смяецца вар'яцкім смехам.

Я к а ў Ф а м і ч *(крычыць).* Перастаньце, чорт вас пабяры! *(Божашуткавай.)* Ну?! Цяпер вы пачынаеце разумець, што нарабілі?

Б о ж а ш у т к а в а. Пачынаю...

Я к а ў Ф а м і ч. Дакаціліся! Тосты за сталом на сяброўскай вечарынцы пачалі па паперках гаварыць! Ведаеце, што сказаў пра гэта таварыш Пётр Першы?

Б о ж а ш у т к а в а . Я ж хацела, каб лепш... Арганізавана.

Я к а ў Ф а м і ч. «Арганізавана»! Хутка ў сям'і будзем арганізаваныя папяровыя прамовы гаварыць, каб перад дзецьмі глупства не ляпнуць!.. Кічкайла! Узніміце на ногі ўсіх юрыстаў у горадзе. Знайдзіце любы артыкул, любую прычыну, каб неадкладна, зараз жа выгнаць яго з фабрыкі!

К і ч к а й л а. Якаў Фаміч! Ён жа нас па судах зацягае!

Я к а ў Ф а м і ч. У суд пойдзеце вы і... таварыш Божашуткава!

К і ч к а й л а. У такім разе хачу зрабіць адну заяву. Прыміце да ведама... Калі мяне ўпякуць у турму за наўмыснае забойства, прашу не пакінуць маіх дзяцей.

Я к а ў Ф а м і ч. Добра. Дзяцей не пакінем. Гэта я вам гарантую.

*З а с л о н а*

## КАРЦІНА ШОСТАЯ

Пакой адпачынку. Тая ж абстаноўка, што і ў другой карціне. За сталом В а р в а р а Ф е а ф і л а ў н а Я г а д к а. Піша. Курыць. Перад ёю сядзіць заплаканая З о й к а.

Я г а д к а. Чым вы яго хацелі ўдарыць?

З о й к а. Бутэлькай...

Я г а д к а. Пустой ці поўнай? Калі пустой, гэта яшчэ паўбяды. А вось калі поўнай — гэта ўжо замах на жыццё чалавека!

З о й к а. Здаецца, поўнай... Але ж я не ўдарыла яго, а толькі замахнулася.

Я г а д к а. Не хапала яшчэ, каб вы яму чэрап праламалі! У такім разе вы сядзелі б не перада мной, а перад следчым па крымінальных справах. *(Піша.)* «Не ўдарыла яго, а толькі замахнулася». Што вы пілі?

З о й к а. Я?

Я г а д к а. І вы, і іншыя.

З о й к а. Сухое віно, шампанскае і... каньяк.

Я г а д к а. Колькі?

З о й к а. Бутэльку каньяку і дзве бутэлькі сухога. Потым Грыша... Салавейчык бутэльку шампанскага паставіў...

Я г а д к а. Гэта колькі ж атрымліваецца? Амаль па бутэльцы на брата. Нішто сабе вечарынка! А хто з вас пад сталом поўзаў?

З о й к а. Ніхто.

Я г а д к а. Так-такі і ніхто?

З о й к а. Дальбог, ніхто.

Я г а д к а. Ну добра. *(Піша.)*

З о й к а. Мне ўжо можна ісці?

Я г а д к а. Ідзіце і добра падумайце аб сваёй будучыні. Мне шкада вас. Вы добрая дзяўчына... Скажыце, няхай зойдзе таварыш Божашуткава.

З о й к а, усхліпваючы, выходзіць. Ягадка піша, курыць. Уваходзіць Б о ж а ш у т к а в а.

Б о ж а ш у т к а в а. Добры дзень...

Я г а д к а. Добры дзень... Сядайце. Варвара Феафілаўна Ягадка.

Б о ж а ш у т к а в а. Божашуткава... Рагнеда Іванаўна.

Ягадка доўга і ўважліва ўглядаецца ў Божашуткаву. Паўза.

Я г а д к а. Галоўны канструктар?

Б о ж а ш у т к а в а. Так.

Я г а д к а. Адукацыя, безумоўна, вышэйшая?

Б о ж а ш у т к а в а. Так.

Я г а д к а. Курыце?

Б о ж а ш у т к а в а. Не.

Я г а д к а. П'яце?

Б о ж а ш у т к а в а. Прабачце, не разумею...

Ягадка жэстам адкручвае «вуха» на бутэльцы.

Я г а д к а. Гарэлку ці каньяк ужываеце?

Б о ж а ш у т к а в а *(абражана)*. Ну што вы!

Я г а д к а. Дык на якога ж д'ябла вы ўблыталіся ў гэтую брудную справу? Вы! Чалавек з вышэйшай адукацыяй, галоўны канструктар і... калектыўная п'янка!

Б о ж а ш у т к а в а. Варвара Феафілаўна! Не было калектыўнай п'янкі!

Я г а д к а. А што было?

Б о ж а ш у т к а в а. У Салавейчыка быў дзень нараджэння. Мы вырашылі проста, як блізкія людзі, адзначыць разам з ім. Хацелі зрабіць чалавеку прыемнае. Тым больш што ён у адпачынак ад'язджаў. Гэта былі імяніны і праводзіны.

Я г а д к а. Ён вас запрашаў да сябе?

Б о ж а ш у т к а в а. Не, не запрашаў.

Я г а д к а. Ну вось бачыце! Не запрашаў! Вы прыйшлі самі! Прыйшлі са спіртнымі напіткамі... Хто падаў ідэю пайсці туды?

Паўза.

Б о ж а ш у т к а в а. Я прапанавала.

Я г а д к а. Значыць, гэта вы з'яўляецеся арганізатарам калектыўнай п'янкі?

Б о ж а ш у т к а в а. Не было калектыўнай п'янкі, Варвара Феафілаўна.

Я г а д к а. А што было?

Б о ж а ш у т к а в а. Культурнае мерапрыемства. Сяброўская вечарынка.

Я г а д к а. Нішто сабе мерапрыемства! Упіліся ўсе да ўпаду! *(Заглядвае ў паперы перад сабой.)* Вы што, сапраўды зваліліся пад стол?

Паўза.

Б о ж а ш у т к а в а *(разгублена)*. Звалілася?.. Мы танцавалі, і я ўпала. Але не пад стол і не ад віна... Проста паслізнулася, калі танцавала...

Я г а д к а. Што?

Б о ж а ш у т к а в а. «Цыганачку».

Я г а д к а. Так... А вось на цвярозую галаву ці сталі б вы скакаць гэтую... «Цыганачку»?

**Б о ж а ш у т к а в а.** Не, пэўна, не стала б... Я ўжо нават не прыпомню, калі танцавала ў апошні раз... Сама не разумею, як гэта магло здарыцца...

**Я г а д к а.** А што ж тут разумець, мая мілая? П'яная жанчына ўсё можа. Не толькі «Цыганачку», але і сёе-тое іншае... Скажыце, у той вечар нічога такога... іншага не было?

**Б о ж а ш у т к а в а.** Што вы маеце на ўвазе?

**Я г а д к а.** Ну, самі разумееце... Мужчын было трое, жанчын таксама трое...

**Б о ж а ш у т к а в а** *(успыхнуўшы)*. Не, нічога «іншага» не было! І не магло быць!.. Скажыце, Варвара Феафілаўна, пісьмо вам Салавейчык напісаў?

**Я г а д к а.** Якая вам розніца — хто напісаў? Нават калі і Салавейчык...

**Б о ж а ш у т к а в а.** Дык ён жа разам з намі піў! Піў больш за ўсіх нас разам узятых!

**Я г а д к а.** Ёсць дзве акалічнасці, якія змякчаюць яго віну.

**Б о ж а ш у т к а в а.** Цікава, якія ж?

**Я г а д к а.** Ну, па-першае, ён сумленна ва ўсім прызнаўся і раскаяўся.

**Б о ж а ш у т к а в а.** Гэта ён можа!..

**Я г а д к а.** А па-другое... Вось паслухайце. *(Чытае.)* «Я горка раскайваюся, што па сваёй легкадумнасці і нявопытнасці стаў міжвольным саўдзельнікам гэтай агіднай папойкі. Так, я таксама піў разам з імі. Вымушан быў піць. Але прашу ўлічыць, што мяне адразу ж званітавала. Так што я нібыта і не піў зусім...»

**Б о ж а ш у т к а в а.** Гэта ж... езуіцтва!

**Я г а д к а.** Таварыш Божашуткава! Не трэба кідацца такімі абвінавачваннямі! Атрымліваецца так: ён усё ўсвядоміў, шчыра прызнаўся, а вы адмаўляеце, цямніце. Вы і не пілі, і другіх не падбухторвалі піць, і благіх намераў у вас не было. Адным словам, не жанчына, а анёл... Херувім! Толькі крыльцаў не хапае. Я б на вашым месцы згарэла ад сораму! Ідзіце. І папрасіце гэтую... Як яе? Ізабелу Дрозд. Не прадпрыемства, а нейкі прытон!

Пахіснуўшыся, **Б о ж а ш у т к а в а** выходзіць. Ягадка зацягваецца, доўга глядзіць ёй услед, адкладвае папяросу і піша. Уваходзіць **І з а б е л а**. Паўза.

Вы заўсёды ходзіце ў такой спадніцы?

**І з а б е л а.** Заўсёды. А што?

Я г а д к а. Нічога. Проста так спытала... Вы ведаеце, навошта я вас запрасіла?

І з а б е л а. Здагадваюся.

Я г а д к а. Дык гэта праўда?

І з а б е л а. Што іменна?

Я г а д к а. Што вы з хуліганскімі намерамі ўдарылі слесара Салавейчыка па твары?

І з а б е л а. Не, няпраўда.

Я г а д к а. Няпраўда?

І з а б е л а. Няпраўда, што я яго ўдарыла. Я яму добра-такі надавала па фізіяноміі.

Я г а д к а. За што?

І з а б е л а. За хамства.

Я г а д к а. Ён прыставаў да вас?

І з а б е л а. Прыставаў...

Я г а д к а. Як? У якой форме? Пастарайцеся больш канкрэтна. Мне трэба запісаць... *(Паўза.)* Ну, што ж вы маўчыце?

І з а б е л а. Прабачце, калі ласка... Вас мужчыны калі-небудзь лапалі?

Я г а д к а *(сумеўшыся)*. Як гэта?

І з а б е л а. Ну, хапалі вас за калені ці яшчэ за якія-небудзь месцы? Было гэта?

Я г а д к а *(абурана)*. Ну, ведаеце! Я б ніколі гэтага не дазволіла!

І з а б е л а. Вось і я не дазволіла. Дык чаму ж вы бачыце ў маёй асобе злачынцу і робіце гэты, прабачце, бязглузды допыт? Хамаў трэба выхоўваць усімі даступнымі сродкамі. Ці, можа, вы супраць?

Я г а д к а *(збянтэжана)*. Вы маглі б зрабіць гэта неяк больш далікатна. Неабавязкова ж адразу... па фізіяноміі!!!

І з а б е л а. Разумееце... Даруйце, не маю гонару...

Я г а д к а. Варвара Феафілаўна.

І з а б е л а. Разумееце, Варвара Феафілаўна... Хам таму і хам, што ён не прызнае звычайных норм чалавечага абыходжання. Прыгожыя і правільныя словы на яго проста не дзейнічаюць. Інакш ён не быў бы хамам.

Я г а д к а. Колькі разоў вы яго ўдарылі?

І з а б е л а. Чатыры ці пяць. Можа, нават і больш. Не памятаю дакладна, не лічыла.

Я г а д к а. Маглі б абмежавацца і адной аплявухай. *(Запісвае.)* «Ударыла два ці тры разы...»

І з а б е л а. Чатыры ці пяць...

Я г а д к а. «Ударыла два ці тры разы, дакладна не па-

мятаю...» Ну, гэта я яшчэ магу зразумець. Ну, а навошта вы, інтэлігентны чалавек, публічна абразілі яго? Пры людзях. Навошта вам гэта было?

І з а б е л а. Абразіла? Публічна? Штосьці я гэтага не прыпомню.

Я г а д к а *(заглядваючы ў паперы перад сабой)*. Калі быў таварыскі суд, вы назвалі яго пры ўсіх траянскім... жарабцом.

І з а б е л а. Даруйце, у вас недакладна запісана. Я назвала яго траянскім канём.

Я г а д к а. А хіба гэта не адно і тое ж?

І з а б е л а. Не зусім...

Я г а д к а *(запісвае)*. «Назвала яго не траянскім жарабцом, а траянскім канём...»

І з а б е л а *(у тон ёй)*. Хаця першае, бадай, будзе больш трапным у адносінах да Салавейчыка... Паслухайце, Варвара Феафілаўна... Вы сапраўды хочаце ўзяць пад абарону гэтага траянскага... каня?

Я г а д к а. Калі чалавеку нос расквасілі, трэба ж у гэтым хоць разабрацца як след. У нас, дзякуй богу, законы ёсць, і рукапрыкладства ніколі не ўхвалялася.

І з а б е л а. Добра. У такім разе я пастараюся спрасціць вашу місію. Пішыце. Я буду дыктаваць. «Я, Ізабела Дрозд, ударыла чатыры ці пяць разоў...»

Я г а д к а *(піша)*. «...два ці тры разы...»

І з а б е л а *(дыктуе)*. «...чатыры ці пяць разоў грамадзяніна Салавейчыка па фізіяноміі». Прабачце, па твары. «За непавагу да жанчыны, за абразу яе жаночага і чалавечага гонару. Калі падобнае здарыцца яшчэ раз, стукну яго малатком ці кувалдай па галаве, тым, што трапіць мне пад руку».

Я г а д к а *(паспешліва запісвае)*. «...малатком ці кувалдай па галаве, тым, што трапіць мне пад руку».

І з а б е л а. «Не магу даць гарантыі, што ў гэты момант не адбудзецца забойства». Усяго добрага!

І з а б е л а шпарка выходзіць.

Я г а д к а *(піша)*. «Не магу даць гарантыі, што ў гэты момант не адбудзецца забойства. Усяго добрага». Э!.. Пачакайце! Куды ж вы?!

І раптам нястрымна зарагатала.

Ну і дзеўка! Чорт у міні-спадніцы, а не жанчына! Дальбог, яна мне падабаецца! *(Перачытвае.)* «Стукну яго ма-

латком ці кувалдай па галаве, тым, што трапіць мне пад руку».

Рагоча і выцірае слёзы насоўкай. Нясмела, бачком уваходзіць Кічкайла. Ягадка адразу гасіць смех і робіцца непазнавальнай.

Кічкайла. Добры дзень... Кічкайла маё прозвішча.

Ягадка. Добры дзень. Ведаю. Сядайце. Старшыня фабрычнага камітэта?

Кічкайла. Так точна!

Ягадка. Таварыш Кічкайла, колькі прафсаюзных сродкаў пайшло на калектыўную п'янку?

Кічкайла *(адразу спацеў, выцірае лоб)*. Дваццаць пяць рублёў.

Ягадка. Вось людзі! Дай вам волю, вы ўсю дзяржаву праз бутэльку прапусціце!

Кічкайла. Гэта не на гарэлку... Гэта на падарунак. Мы яму брытву электрычную купілі — «Харків»...

Ягадка. «Харків», значыць?

Кічкайла. Ага, «Харків». А на астатняе кветак...

Ягадка. А гарэлка, закусь?

Кічкайла *(выцірае спацелы твар)*. За свае, у складчыну. Але я асабіста п'ю толькі сухое... У мяне парок сэрца. Камбінаваны, левага жалудачка. Я нават курыць кінуў праз гэта.

Ягадка. Як вы паводзілі сябе на вечары?

Кічкайла *(выцірае лоб)*. Як паводзілі?.. Трохі выпілі, трохі закусілі. Потым песні спявалі...

Ягадка. Якія песні?

Кічкайла. Ужо не прыпомню...

Ягадка. А вы ўспомніце, успомніце!..

Кічкайла. Гэта так важна?

Ягадка. А як жа? Адразу стане зразумела, які характар насіла ваша ігрышча.

Кічкайла *(выцірае лоб)*. Здаецца... «Черные глаза».

Ягадка. Напэўна, вы хацелі сказаць «Очи черные»?

Кічкайла. Во-во, іменна гэту!

Ягадка. А вы што, іншых песень не ведаеце? Скажам, «Падмаскоўныя вечары» або «Карабейнікі»? «Очи черные» — гэта ж любімая песня нэпманаў і ўсялякай белагвардзейшчыны! А вы — член партыі, старшыня фабкома. Ці не памыліўся калектыў, вылучаючы вас на гэтую пасаду?

Кічкайла. Напэўна, памыліўся. Напэўна.

Ягадка. Скажыце, таварыш Кічкайла, гэта праўда, што вы там цыгана з сябе строілі?

К і ч к а й л а. Строіў...
Я г а д к а. Пад Слічэнку, значыць, працавалі?
К і ч к а й л а. Не... Я так... Сам па сабе...
Я г а д к а. Арыгінальны жанр, так сказаць?.. Дзе вы ўзялі цыганскі касцюм?
К і ч к а й л а. У клубе, у самадзейнасці... Я там калісьці Алека іграў...
Я г а д к а. І нож у зубы бралі?
К і ч к а й л а *(выціраючы лоб)*. Ага, браў...
Я г а д к а. Навошта?
К і ч к а й л а. Не ведаю...
Я г а д к а. Кіньце, так не бывае! Дарослы чалавек і раптам не разумее, што ён робіць і навошта. Вы былі п'яны?
К і ч к а й л а. Ды не!.. У мяне ж парок... Я толькі гамзу і рыслінг...
Я г а д к а. Хм... Усё ж навошта вы пераапраналіся ў цыгана і бралі ў зубы нож?
К і ч к а й л а *(прыціскаючы рукі да сэрца)*. Дальбог, не ведаю! Зацямненне нейкае найшло... Пажартаваць хацеў...
Я г а д к а. Нішто сабе жартачкі! Вы ж сказілі вобраз савецкага цыгана і кінулі цень на ўвесь працалюбівы, таленавіты цыганскі народ! Яны што — з нажамі па вуліцах ходзяць? Людзей рэжуць?
К і ч к а й л а *(выціраючы лоб і шыю)*. Што вы! Не...
Я г а д к а. Дык навошта вы іх так паказваеце? З якой мэтай?
К і ч к а й л а. Без мэты... Я ніколі нічога такога... Ніхто вам пра мяне благога слова не скажа. Вось вы спытайце пра мяне ў дырэктара...
Я г а д к а. З вашым дырэктарам у мяне будзе гутарка асобная. А цяпер я хачу высветліць, навошта вы, прафсаюзны кіраўнік, зрабілі карыкатуру на савецкага цыгана?
К і ч к а й л а. Я не рабіў карыкатуры!
Я г а д к а. Значыць, не рабілі? А як вы дакажаце гэта? Вось што... Зараз вы мне пакажаце, як гэта было.
К і ч к а й л а. Як паказаць?
Я г а д к а. Проста. Я зачыню дзверы, каб сюды ніхто не ўвайшоў. А вы будзеце строіць з сябе цыгана, як тады, у той вечар. Павінна ж я разабрацца, з намерам вы рабілі гэта ці без... *(Ідзе да дзвярэй, зачыняе іх.)* Пачынайце...

*З а с л о н а*

### КАРЦІНА СЁМАЯ

Кабінет дырэктара. *Якаў Фаміч*, расшпіліўшы каўнер і адпусціўшы вузел гальштука, ходзіць па пакоі. За сталом *Варвара Феафілаўна Ягадка*.

*Якаў Фаміч.* ...Хочаце вы гэтага ці не, але выходзіць іменна так. З паклёпнікам вы цырымонiцеся. А дырэктар фабрыкі — свой чалавек! З ім можна і не лічыцца. Не пакрыўдзіцца. Не мае права! А паклёпнік можа не толькі пакрыўдзіцца, але і паскардзіцца! Турботаў не абярэшся! Крыўдна...

*Ягадка.* Юрыдычна яго паклёпнікам не назавеш. У многім яго сігналы пацвярджаюцца!..

*Якаў Фаміч.* У чым пацвярджаюцца? Што нашы цацкі яшчэ кепскія? Дык мы ж самі на кожным сходзе за гэта адзін аднаму горла грызём!.. Ён ніводнага сходу не прапускае. Сядзіць, слухае і ўсё — у блакноцік, у блакноцік! А потым сігналіць ва ўсе інстанцыі, і адусюль камісіі. Мяне за апошні час дванаццаць камісій правярала. Вы — трынаццатая... Ператварылі мяне ў нейкага зламысніка! Вось сяджу тут, у гэтым кабінеце, і ўвесь час думаю, як бы больш нашкодзіць сваёй роднай дзяржаве! Дык ёсць жа вельмі простае выйсце — здыміце зламысніка. Ізалюйце яго ад грамадства!

*Ягадка.* Я разумею вас, Якаў Фаміч... Вы нас таксама павінны зразумець. Адразу ж, з ходу не раскусіш — нягоднік напісаў пісьмо або сумленны чалавек. Сігнал ёсць сігнал. І калі ў ім хоць адзін працэнт праўды, мы абавязаны праверыць. І карысць ад гэтага будзе...

*Якаў Фаміч.* Карысць?! Каму? Камісіі адрываюць людзей ад работы, траўміруюць людзей, выкідаюць у трубу процьму дзяржаўных грошай. Калі падлічыць усе гэтыя матэрыяльныя страты — тры такія фабрыкі, як наша, можна пабудаваць! Вось што такое Салавейчык! А маральныя страты? Як іх падлічыць, на якіх вагах узважыць?.. Вы думаеце, як пойдзеце, я змагу працаваць? Не... Я ўжо да канца дня выбіты з каляіны. Хаця, як бачыце, стараюся трымацца спакойна. Нават усміхаюся вам...

*Ягадка.* Выходзіць, ніякі кантроль вам не патрэбен? Самі з вусамі?

*Якаў Фаміч.* Э не, Варвара Феафілаўна! Я за самы строгі кантроль! Найстражэйшы! Кантроль — гэта ў нейкім сэнсе дысцыпліна. Але разумны!..

*Ягадка.* Значыць...

Я к а ў  Ф а м і ч. Калі мяне правяраюць восем, дзесяць разоў па адной і той жа справе, то, прабачце, як гэта можна назваць?

Я г а д к а. Крытыка...

Я к а ў  Ф а м і ч. Крытыка? Крытыка можа быць лякарствам, а можа быць і... атрутай. Усё залежыць ад таго, у чыіх яна руках, хто лечыць — сапраўдны доктар ці знахар-шарлатан!.. Вось вы, калі ласка, пацікаўцеся, якія, уласна, матывы рухаюць Салавейчыкам. Думаеце, ён пра дзяржаўныя інтарэсы клапоціцца? Гэта ж у яго такі метад самаабароны — напад. Вось не пусцілі мы яго ў заграцічную паездку — ён жа за граніцу хацеў ехаць! — ён і пачаў дзейнічаць. І, уявіце, мы бездапаможныя ў гэтай барацьбе з ім.

Я г а д к а. Не можа быць. Вас многа, а ён адзін!

Я к а ў  Ф а м і ч. А што мы яму можам зрабіць? Звольніць яго нельга.

Я г а д к а. Чаму?

Я к а ў  Ф а м і ч. Таму што гэта адразу будзе кваліфікавана як помста, расправа за крытыку. Мне ўжо аб гэтым неаднойчы намякалі. Вось мы і далікатнічаем, а працей кажучы — баімся яго. А ён гэта разумее. Дзіўна выходзіць, Варвара Феафілаўна: сумленны чалавек аказваецца абсалютна бездапаможным перад нягоднікам.

Я г а д к а *(зацікаўлена)*. Няўжо яго сапраўды нельга звольніць на законнай падставе?

Я к а ў  Ф а м і ч. Усе камісіі прасілі мяне: зрабі ласку, не чапай ты яго. А то ён яшчэ ў Маскву напіша. Цяпер у аднаго цябе непрыемнасці, а тады ва ўсіх нас будуць.

Я г а д к а. Так...

Я к а ў  Ф а м і ч. Скажу вам па сакрэту. Мы нават так хацелі пазбавіцца ад яго... Хацелі выбраць фабкомаўскім касірам. Ён, вядома, грошы прап'е, а тут мы яго адразу ў суд!

Я г а д к а. Ну і што?

Я к а ў  Ф а м і ч *(смяецца)*. Кічкайла не згадзіўся. Кажа, грошы прап'е Салавейчык, а ў турму сяду я!

Я г а д к а *(нечакана)*. Якаў Фаміч, вы гісторыю добра помніце?

Я к а ў  Ф а м і ч. Якую гісторыю?

Я г а д к а. Старажытную... Сорам прызнацца, але вось ніяк не магу ўспомніць, што такое траянскі конь? Калісьці помніла, а вось зараз...

Я к а ў  Ф а м і ч. Траянскі конь?.. Калі не памыляюся,

была некалі такая дзяржава — Троя. Грэкі ваявалі з ёю ці то дзесяць, ці то пятнаццаць гадоў і ніяк не маглі яе перамагчы. І вось калі ў іх нічога не выйшла, яны пайшлі на хітрасць.

Я г а д к а. Ну-ну?

Я к а ў  Ф а м і ч. Яны зрабілі вялізнага драўлянага каня, паставілі яго перад крэпасцю і знялі асаду. Траянцы былі настолькі цікаўнымі і даверлівымі, што не ўтрымаліся і ўцягнулі гэтага каня ў крэпасць. Разумееце, настолькі вялікай была іх цікаўнасць, што яны нават сцяну крапасную разабралі. Праз вароты конь не пралазіў. А ўночы з гэтага каня выйшлі грэкі, адчынілі вароты крэпасці і ўпусцілі сваіх. І Троя загінула. Стала ахвярай сваёй празмернай даверлівасці і... цікаўнасці.

Ягадка літаральна ўзрываецца рогатам.

Што з вамі? Я што-небудзь не тое сказаў?

Я г а д к а. Ды не! Усё правільна! Гэта я ўспомніла!.. Не дзеўка, а д'ябал! Малайчына. *(Выцірае слёзы.)* Даруйце, гэта я так... Прыгадала адну цікавую гутарку... Скажыце, Якаў Фаміч, а што такое траянскі... жарабец?

Я к а ў  Ф а м і ч. А што, хіба і такі ёсць?..

Я г а д к а *(рагоча)*. Ёсць і такі... Ой, не магу! Даўно так не смяялася... Паслухайце, Якаў Фаміч, што ў вас у тым сейфе?

Я к а ў  Ф а м і ч. Дакументы...

Я г а д к а. А каньяку там няма?

Я к а ў  Ф а м і ч. Вось чаго няма, таго няма. Не трымаю.

Я г а д к а. Ну, які ж з вас пасля гэтага дырэктар? Нават каньяку ў вас няма.

Я к а ў  Ф а м і ч. У наступны раз я абавязкова пляшку падрыхтую. Армянскага.

Я г а д к а. Вы спадзяецеся, што «наступны раз» хутка будзе?

Я к а ў  Ф а м і ч. Вопыт, Варвара Феафілаўна, падказвае, што мы з вамі яшчэ не адну бутэльку вып'ем.

Я г а д к а *(смяецца)*. Аптыміст вы, як я пагляджу! *(Уздыхае.)* Што ж зробіш... Давядзецца без каньяку высвятляць адну далікатную дэталь. Але мы з вамі, дзякуй богу, не дзеці. А я павінна высветліць усё да канца.

Я к а ў  Ф а м і ч *(усміхаецца)*. Ну што ж, высвятляйце да канца.

Я г а д к а. Якія ў вас адносіны... з жанчынамі?

Я к а ў  Ф а м і ч *(усміхаючыся).* Здаецца, самыя што ні ёсць рыцарскія. *(Паўза. Якаў Фаміч ужо не ўсміхаецца.)* Я разумею вас, Варвара Феафілаўна... Вы хацелі спытаць, ці ёсць у мяне палюбоўніца?

Я г а д к а *(збянтэжана).* Я хацела больш дыпламатычна...

Паўза.

Я к а ў  Ф а м і ч. Гэта... таксама ёсць у пісьме Салавейчыка?

Я г а д к а. Ёсць і гэта...

Я к а ў  Ф а м і ч. Дык вось, мушу вам прызнацца, як ні сумна такое прызнанне для мужчыны, што жанчыны ў такой якасці, якую вы маеце на ўвазе, мяне ўжо больш не цікавяць.

Я г а д к а *(спрабуе перавесці размову на жарт).* Так я вам і паверыла! Вунь які вы Дабрыня Мікітавіч!

Я к а ў  Ф а м і ч. Адзін выгляд, Варвара Феафілаўна. Такі паклёп самі на сябе не ўзводзяць. Хутчэй наадварот! Так што я перад вамі, як на споведзі!

Я г а д к а. Добра...

Я к а ў  Ф а м і ч. Гледзячы для каго — добра. *(Усміхаецца.)* Калі б мне было гадоў на трыццаць — трыццаць пяць менш, відаць, я закахаўся б у адну асобу...

Я г а д к а. Во гэта ўжо цікава. Можаце сказаць, хто яна?

Я к а ў  Ф а м і ч. Магу. Бо раней я сказаў — «калі б». Галоўны мастак нашай фабрыкі Ізабела Сямёнаўна Дрозд.

Ягадка раптам заходзіцца рогатам.

Я г а д к а. Ой, не магу! Траянскі жарабец! *(Рагоча.)*

Я к а ў  Ф а м і ч. Гэта вы пра мяне так?

Я г а д к а *(рагоча і махае рукамі).* Ды не! Што вы! Што вы! Гэта я ўспомніла вашу Дрозд... Сапраўды ў яе можна закахацца. Не толькі прыгожая, але і разумная. Кажуць, што гэтыя дзве якасці не так часта супадаюць у жанчыне... Як бачыце, я самакрытычная.

Я к а ў  Ф а м і ч. Ёсць у ёй нешта значна большае, чым проста розум... Нейкае асаблівае, абвостранае непрыняцце зла і несправядлівасці. Нейкая, ведаеце, дзівосная бескампраміснасць.

Я г а д к а. Але ж вось кватэрку вы ёй не далі! Тры гады дзеўка ў інтэрнаце пакутуе. І расла без бацькоў, сірата.

Я к а ў  Ф а м і ч. Што зробіш — незамужняя! Да такіх чарга не хутка прыйдзе.

Я г а д к а. Вы можаце і без чаргі. Далі ж вы без усякай чаргі са свайго дырэктарскага фонду дзве кватэры. І абедзве — адзінокім жанчынам, бязмужнім. Лазаравай і Антаненка. Асобныя, з усімі выгодамі, у ціхім завулку. Можа, іменна тая акалічнасць, што яны бязмужнія, і ўзяла верх над іншымі меркаваннямі?

Я к а ў  Ф а м і ч. Ах, Салавейчык, Салавейчык!.. Уявіце, вы адгадалі. Іменна тая акалічнасць, што яны, як вы мелі ласку сказаць, бязмужнія, і ўзяла верх над усімі меркаваннямі.

Я г а д к а *(смяецца)*. І абедзве зграбныя, я сказала б, нават прыгожыя.

Я к а ў  Ф а м і ч *(садзіцца ў крэсла)*. У адной муж памёр, на руках засталося двое дзяцей... Другая — маці-адзіночка...

Я г а д к а. Ведаю, ведаю, Якаў Фаміч. Я ўжо гаварыла і з адной, і з другой. Добрыя жанчыны. Яны ж моляцца на вас!

Я к а ў  Ф а м і ч *(усміхаючыся)*. Значыць, чакайце пісьма ад Салавейчыка, дзе ён будзе сцвярджаць, што я Ісус Хрыстос.

Я г а д к а *(смеючыся)*. А можа, і Ісус Хрыстос не такі ўжо бязгрэшны? Ды вы не бойцеся. Начальства, калі і даведаецца, стружку з вас добрую здыме, і на гэтым усё закончыцца. Мужчынам гэта заўсёды неяк лёгка сыходзіць з рук. Самае горшае — часовае паніжэнне па службе. *(Уздыхае.)* Павінен жа нехта і ўдоў прылашчыць? Як вы лічыце, Ісус Хрыстос?.. *(Збірае паперы ў папку.)* Думаеце, Якаў Фаміч, для мяне гэтая размова прыемная?.. Я веру вам... Кожнаму вашаму слову... Сёння я шмат што зразумела. Ведаеце, што я зраблю? Пайду я ў самыя высокія інстанцыі і скажу там... *(З трывогай глядзіць на Якава Фаміча.)* Якаў Фаміч, што з вамі?

Якаў Фаміч сядзіць у крэсле. На твары яго ўсмешка. Нічога страшнага — ён проста памёр. Ягадка з жудасцю ўскаквае і крычыць:

Якаў Фаміч! Якаў Фаміч! Гэй! Ёсць тут хто-небудзь? Людзі!..

Убягаюць  І з а б е л а  і  Б о ж а ш у т к а в а.

Б о ж а ш у т к а в а. Што такое? Што здарылася?
Я г а д к а. Доктар! Хутчэй доктара!

Божашуткава кідаецца да тэлефона, набірае нумар.

Ізабела *(якая ўжо паслухала пульс у Якава Фаміча і ўсё зразумела)*. Позна... Позна ўжо...

Ягадка. Што ж гэта такое? Ён жа смяяўся. Ён жа смяяўся... Толькі што...

*Заслона*

## КАРЦІНА ВОСЬМАЯ

Той жа кабінет дырэктара. Толькі за сталом ужо Ізабела Сямёнаўна Дрозд. Гаворыць па тэлефоне.

Ізабела. Мікалай Аляксандравіч, я ўсё добра ўзважыла... Як член партыйнага бюро я гатова панесці любое спагнанне... Правільна, мне трэба было ўмяшацца, а я... Ну, лічыце, што я збаялася... Так, мы ўжо папрасілі вярнуць нам і характарыстыку, і пратакол сходу, і рашэнне таварыскага суда... Як фальсіфікаваныя. На цэхавым сходзе, дзе Салавейчыка бралі на парукі, яго прыяцелі нікому не далі рот раскрыць. На таварыскім судзе, апрача іх, таксама нікога не было. Суд зрабілі ў рабочы час... Прысутнічалі толькі клакеры, падрыхтаваныя Божашуткавай... Не, я аказалася там зусім выпадкова... Дзякую! Я вельмі рада, што вы мяне падтрымліваеце. А калі вы яшчэ і на сход прыедзеце, увогуле будзе здорава... Рагнеда Іванаўна? *(Уздыхае.)* Не ведаю, Мікалай Аляксандравіч, не ведаю... Відаць, згоды між намі не будзе. Напэўна, ёй лепш пайсці ад нас... У першую чаргу лепш для яе... Паглядзім. Дык вы прыедзеце? Да сустрэчы! *(Паклала трубку і адразу зняла другую.)* Іван Пятровіч, зайдзіце, калі ласка, да мяне.

Разглядае і падпісвае паперы. Уваходзіць Кічкайла.

Іван Пятровіч, аб'явіце зараз у цэхах, што сёння пасля работы агульны сход.

Кічкайла. А там... згадзіліся?

Ізабела. Згадзіліся.

Кічкайла. Ізабела Сямёнаўна!.. Можна вас пацалаваць?

Ізабела. Толькі пры народзе, Іван Пятровіч. А то зойдзе хто-небудзь у кабінет і падумае...

Кічкайла. Будзе зроблена, Ізабела Сямёнаўна!

Ізабела. І вось яшчэ што... Папрасіце, вельмі папрасіце прыйсці на наш сход Іпаліта Іпалітавіча Секержыцкага, міліцыянера Лапатку і Тамару Мажэйку. Пашліце па іх машыну.

К і ч к а й л а. А іх навошта?

І з а б е л а. Мы павінны папрасіць у іх прабачэння. Публічна. І вось яшчэ што, Іван Пятровіч... У зале, дзе будзе сход, павесьце партрэт Якава Фаміча. Той, што мы зрабілі для яго жонкі.

К і ч к а й л а. Ізабела Сямёнаўна! *(Не змог нічога сказаць, толькі махнуў рукой і выйшаў.)*

Ізабела падышла да акна, моўчкі стаіць там. Уваходзіць С а л а в е й ч ы к.

С а л а в е й ч ы к. Прывітанне начальству!

Падыходзіць да стала, садзіцца, закурвае. Вяртаецца да стала Ізабела.

І з а б е л а. Між іншым, першай павінна сесці дама, а потым ужо мужчына. Пасля запрашэння...

С а л а в е й ч ы к. Пардон! Дрэнна выхаваны. Не я — настаўнікі вінаваты. Разумееце, кепска дбалі аб маіх манерах.

І з а б е л а. У гэтым кабінеце не кураць.

С а л а в е й ч ы к. Ды ну? Не памраце. Гы-гы-гы! Можа, звольніць хочаце? Гы-гы-гы! Нічога ў вас не выйдзе, мілы дырэктар. Я ж усё працоўнае заканадаўства назубок вывучыў. А заадно і нашу родную Савецкую Канстытуцыю. І зноў жа там... *(паказвае пальцам уверх)* не дазволяць вам самаўпраўнічаць. Ведаеце, што бывае, калі заціскаюць крытыку знізу? *(Цісне пазногцем на стол.)* Раз — і партбілета няма! Так што працаваць нам з вамі і працаваць, дырэктар, да магільнай дошкі. Таму давайце не будзем псаваць нашых адносін, так сказаць, у эмбрыянальным стане!

І з а б е л а. Не, звальняць мы вас не будзем. Гэта было б узнагародай для вас.

С а л а в е й ч ы к. Не будзеце? Ну вось і цудоўненька... Разумнічка! А той стары хацеў...

І з а б е л а. Мы проста адправім вас туды, дзе вы даўно ўжо павінны былі быць.

С а л а в е й ч ы к. Магу пацікавіцца — куды ж іменна?

І з а б е л а. Можаце. У турму. У калонію асабліва строгага рэжыму.

С а л а в е й ч ы к. Пхі-хі-хі! *(І раптам змоўк, зразумеўшы, што Ізабела не жартуе.)* Гэта за што ж? Можа, за тое, што вашы прыгожыя каленкі памацаў? Дык гэта ж было без сведкаў. Адзін на адзін!

І з а б е л а *(устаючы з-за стала)*. А вы сапраўды ня-

здольны вучань. Не засвойваеце матэрыял з першага ўрока.

Салавейчык спалохана ўскочыў.

Салавейчык. Ну-ну! Лягчэй!

Ізабела *(зноў садзіцца)*. Вы пойдзеце ў турму за тое, што з тапаром уварваліся ў чужую кватэру, абразілі старога чалавека, напалохалі дзяцей. За тое, што ўдарылі жанчыну на пляжы... За тое, што загубілі чалавека...

Салавейчык. Каго? Каго я загубіў?

Ізабела. Якава Фаміча...

Салавейчык. Вы гэта кіньце! Яго загубіў інфаркт, а не Салавейчык!

Ізабела. Сёння будзе агульны сход, які адменіць усе ранейшыя рашэнні і прызнае выдадзеную вам раней характарыстыку несапраўднай. З міліцыяй і пракуратурай я ўжо дамовілася. Вас забяруць адразу ж пасля сходу.

Салавейчык патушыў папяроску, пашукаў вачамі, куды пакласці, і паклаў у кішэню.

Салавейчык. Што ж гэта выходзіць? Навошта ж мы рэвалюцыю Кастрычніцкую рабілі? Кроў сваю пралівалі? Каб такія, як вы, здзекаваліся цяпер з рабочага класа? Не выйдзе, таварыш дырэктар, не атрымаецца! Рабочыя вам забастоўку аб'явяць, на дэманстрацыю выйдуць і скажуць — рукі прэч ад Салавейчыка! За мяне гарой прафсаюз стане!

Ізабела. Паслухайце, Салавейчык... Ніякіх адносін ні да рэвалюцыі, ні да рабочага класа вы не маеце. Вы проста... падонак. Вы зразумееце гэта сёння на сходзе.

Салавейчык. А вы ўпэўнены, што сход падтрымае вас, а не мяне?

Ізабела. Упэўнена.

Салавейчык. Ха-ха! Не пужайце! А то яшчэ памру ад страху! Усё гэта пустыя словы. А ў мяне дакуменцікі!

Ізабела. Трыццаць мінут назад у мяне была дэлегацыя рабочых з вашага цэха...

Салавейчык. Я ж казаў, што будзе дэманстрацыя!

Ізабела. Яны прасілі мяне вытурыць вас не толькі з цэха, але і з фабрыкі ўвогуле.

Салавейчык. Словы! Адны толькі словы! А ў наш век паперка — гэта граната, бомба!

Ізабела. Не толькі... *(Паказвае ліст паперы.)* Вось калектыўная заява рабочых. Падпісаўся ўвесь цэх. Усе да

аднаго. Нават вашы прыяцелі... Вось іх подпісы... Гэта дакумент?

Паўза.

Салавейчык. Добра. Дапусцім, што мяне пасадзяць. Дапусцім. Ну, дадуць ад сілы тры гады. А праз год мяне выпусцяць. Па амністыі. І вас жа абавяжуць даць мне лепшую работу. Як пацярпеўшаму... Так што, таварыш... Ізабела Сямёнаўна, давайце па-добраму, сумленна. Я падам заяву па ўласнаму жаданню. Вось зараз тут магу і напісаць. Вы мяне не бачылі, і я вас не ведаю. Мы ж з вамі ў нейкім сэнсе родзічы, сваякі! Вы Дрозд, а я — Салавейчык. Ахвота вам з алкаголікам валэндацца!

Ізабела. Не можа ў нас з вамі быць міру, Салавейчык. Розныя мы з вамі птушкі...

Салавейчык. Чаму? Я ж савецкі чалавек!.. Вы ведаеце, якія ў мяне правы?

Ізабела. Не, гэта вам толькі так здаецца... *(Паказвае папку.)* Вось тут уся ваша біяграфія, усё жыццё.

Салавейчык. А вы на жывога чалавека глядзіце, а не на паперкі!

Ізабела. Дзякую, нагледзеліся. Я пацікавілася, чаму вы так часта мянялі работу...

Салавейчык. Па ўласнаму жаданню!

Ізабела *(праглядвае паперы ў папцы)*. Так, сапраўды, па ўласнаму. Навучыліся вы спекуляваць на чалавечай дабраце! Нават вялікім майстрам сталі. Раўні вам няма. Вось... У адным месцы вы ўзялі чужы матацыкл. Пакатацца хацелі! І разбілі...

Салавейчык. Заплаціў!

Ізабела. Так, заплацілі. І давялося пайсці па ўласнаму жаданню. Брыдка лаяліся на вуліцы... Даравалі вам... Бегалі з нажом за жонкай...

Салавейчык. Дык жа за сваёй, а не за чужой! Папужаць хацеў! *(Выцірае ўзмакрэлы лоб.)*

Ізабела. Вынеслі вядро фарбы з фабрыкі.

Салавейчык. Вярнуў!

Ізабела. Зноў вам даравалі і нават дазволілі пайсці па ўласнаму жаданню. Не хацелі людзі сябе ганьбіць. І гэтак далей, і гэтак далей. Усё, больш амністыі не будзе, Рыгор Рыгоравіч!

Салавейчык. Не звальняеце, дык хоць скараціце! Есць жа такі артыкул — скарачэнне штатаў!

Ізабела. Не, для вас няма.

С а л а в е й ч ы к. Улічыце, я бацька-адзіночка. У мяне ж дзіцё ёсць!

І з а б е л а. Не, Салавейчык. На гэты раз вам нішто і ніхто не паможа.

С а л а в е й ч ы к. Ну, мы яшчэ паглядзім, чый верх будзе!

С а л а в е й ч ы к выходзіць, сутыкнуўшыся ў дзвярах з Б о ж а ш у т к а в а й. Яна выглядае так, нібыта пастарэла гадоў на дзесяць.

Б о ж а ш у т к а в а. Добры дзень.

І з а б е л а. Добры дзень, Рагнеда Іванаўна. Сядайце... Добра, што вы прыйшлі. Мне трэба з вамі пагаварыць.

Б о ж а ш у т к а в а. Не трэба... Нічога не трэба гаварыць... Я вам скажу... *(Паўза.)* Не атрымалася... Жыццё маё не атрымалася... Мужа няма... Пакінуў мяне... Відаць, са мной яму было дрэнна... Напэўна... Дзяцей таксама няма... Адна. Кар'еры не атрымалася... Я шчыра хацела памагчы Салавейчыку. Не толькі яму... Спадзявалася, пашанцуе з Салавейчыкам, заўважаць мяне... Зробяць дырэктарам фабрыкі пасля таго, як Якаў Фаміч пойдзе на пенсію... Усё не атрымалася... Абсалютна ўсё... Божашуткава! Злосна пажартаваў з мяне гасподзь бог! Вельмі злосна. А за што? Не ведаю... *(Паўза.)* А вас я ненавідзела... Зайздросціла і ненавідзела... За тое, што вы разумная. За тое, што можаце, не баючыся, сказаць праўду ў вочы. Любую і кожнаму. Нават нагрубіяніць... За тое, што можаце надзець вось такую спадніцу. А я ўжо не магу... Прайшло маё жыццё. А я нібыта і не жыла зусім... Нібыта ў сне ўсё ўбачыла. Я разумею: тое, што я кажу,— глупства. Пра зайздрасць, пра спадніцу... Але ж баба застаецца бабай — галоўны канструктар яна або міністр... Чаму я ўсё гэта вам гавару?.. Не ведаю... Напэўна, таму, што вы разумны чалавек. Я зразумела гэта даўно. *(Выцягвае з сумачкі ліст паперы.)* Вось, вазьміце.

І з а б е л а. Што гэта?

Б о ж а ш у т к а в а. Заява. Па ўласнаму жаданню...

Ізабела прачытала заяву. Паўза. Ізабела моўчкі парвала заяву на дробныя кавалачкі і выкінула яе ў кошык.

І з а б е л а *(ціха)*. Ідзіце, Рагнеда Іванаўна, і працуйце...

Паўза.

Б о ж а ш у т к а в а. Вы нават лепш, чым я пра вас ду-

мала. Значна лепш... Дзякую... Вы ўгадалі... Фабрыка — гэта ўсё, што ў мяне засталося. Мне няма куды пайсці.

Божашуткава ідзе да дзвярэй, спыняецца.

Паслухайце... Калі пойдзеце ў гарком ці ў міністэрства... надзеньце другую спадніцу. Я не адна такая...

Выходзіць. Праз секунду ў дзвярах паказваецца Андрэй.

Андрэй. Ці можна да вас, таварыш дырэктар? Ужо цэлую гадзіну марнею ў прыёмнай. Гэта ўжо падобна на бюракратызм!

Ізабела *(строга, афіцыйна)*. Якая ў вас да мяне справа, таварыш Таратута?

Андрэй. Рацпрапанова. Вельмі важная... Нават самая важная ў маім жыцці.

Ізабела. Тады вам патрэбна не да мяне, а ў БРЫЗ.

Андрэй. Не, з гэтай прапановай трэба іменна да вас, таварыш дырэктар.

Ізабела, усміхаючыся, выходзіць яму насустрач.

Ізабела. Ну, выкладвай сваю рацпрапанову!

Андрэй. Ведаеш што, Іза? Сёння мы з табой ідзём да маёй маці. Адгаворак не прымаю. Ведаю — сход. Пойдзем адразу пасля сходу. Маці ўжо ведае і будзе чакаць.

Ізабела. Хм... У амёбы з'явіўся характар. Але як жа я пайду? У гэтым?.. А нічога іншага ў мяне няма.

Андрэй. Нічога. Абыдзецца. Няхай маці паглядзіць, якія ногі былі ў Венеры Мілоскай! Няхай усе глядзяць і зайздросцяць!

Ізабела. Няўжо?

Андрэй. Ну, калі ўжо дырэктар фабрыкі носіць такую спадніцу, значыць, у гэтым сапраўды нешта ёсць!..

Ізабела нечакана абняла Андрэя і пацалавала. І ў той жа момант вярнулася Божашуткава з вялікай лялькай у руках. Яна ўжо хацела нешта сказаць, але, убачыўшы Ізабелу і Андрэя, ціхенька зачыніла дзверы, прыхілілася да сцяны. І раптам заплакала так, што стала страшна. Як ёй хацелася б быць на месцы Ізабелы! Але гэта немагчыма.

Па адзін бок дзвярэй смяюцца, шэпчуцца і цалуюцца два шчаслівыя чалавекі. Па другі бок — горка, несуцешна плача трэці чалавек, прыціскаючы да сэрца вялікую прыгожую ляльку. Нічога дзіўнага, такое жыццё...

*Канец*

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Матусевіч Максім Максімавіч — сакратар райкома.
Галавач Сямён Андрэевіч — старшыня калгаса.
Ефрасіння Савельеўна — яго жонка.
Сяргей — яго сын.
Жэнька — яго дачка.
Вера — нявеста Сяргея.
Ірына.
Казёл.
Казліха.
Іван — іх сын.
Жывіца.
Журбіла.
Пецька-матрос.
Васіль.
Алік.
Грышка.
Маці Ірыны.
Міліцыянер.
Калгаснікі, студэнты.

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

Кабінет першага сакратара райкома партыі Максіма Максімавіча Матусевіча. Уваходзяць Матусевіч і Сямён Галавач. На лбе і шчацэ Галавача два вялікія крыжы з медыцынскага пластыру, левая рука вісіць на перавязцы.

Матусевіч *(памагаючы Галавачу зняць паліто)*. Як цябе лекары расфарбавалі!

Галавач. Нічога, перажыву. Мне другі раз замуж не выходзіць.

Матусевіч. Сёння я цябе дамоў не адпушчу. Пазвонім зараз Галіне, няхай вячэру рыхтуе. Садзіся і... усё, як на споведзі?

Галавач. Што як на споведзі?

Матусевіч. Ну... Як гэта адбылося?

Галавач. Табе ж, пэўна, ужо дакладвалі? Кажуць, інспектар прыехаў раней, чым «хуткая дапамога».

Матусевіч. Дакладвалі. Але я хачу з першакрыніцы.

Галавач. Задрамаў я за рулём.

Матусевіч. Вось што, Сямён... Ты гэтыя казачкі дома расказвай. А што на самой справе было?

Галавач *(пасля паўзы)*. Сэрца, Максім... Сціснула, і адразу цемра. Ачуняў крыху, калі на насілкі клалі...

Матусевіч. Я так і падумаў. Сямён, давай усё шчыра, па-мужчынску... Гэта не таму здарылася, што мы з табою пагаварылі тады?..

Галавач *(не адразу)*. Ведаеш, Максім... Калі чалавеку кажуць: ці пакладзеш партбілет, ці будзеш рабіць тое, з чым у прынцыпе не згодзен,— прыемнага тут, сам разумееш, мала.

Матусевіч. Ясна... Ну, а калі той чалавек — дуб?

Галавач. А вось гэта яшчэ пытанне — хто дуб? Дубы не толькі ў лесе, але і ў кабінетах растуць.

Матусевіч. Не яршыся, не яршыся! Табе гэта

пасля бальніцы шкодна. Не хачу я сёння з табой спрачацца.

Галавач. Я таксама. Сёння я да цябе з іншым прыйшоў.

Матусевіч. З чым?

Галавач. Іду я, Максім...

Матусевіч. Куды ідзеш?

Галавач. Зусім... І хачу, каб ты мяне падтрымаў... Як старога сябра прашу, а не як сакратара райкома.

Вялікая паўза. Матусевіч падышоў да стала, асцярожна строс попел з цыгарэты ў попельніцу і, узяўшы яе з сабой, зноў сеў на канапу.

Матусевіч. Так... Першы выпадак у маёй практыцы. Чалавек просіцца ў адстаўку... Па ўласнаму жаданню — у адстаўку!

Галавач. Новы пачын. Пачыны цяпер модныя... Пакідаць, Максім, сцэну трэба своечасова. Пакуль свістаць не пачалі.

Матусевіч. Артыстам, Сямён, артыстам, і то не ўсім.

Галавач. Хіба ў старшыні менш шкодная прафесія?

Матусевіч. Вядома, не мёд. Але чаму так раптам?

Галавач. А ты, Максім, ніколькі не змяніўся за трыццаць гадоў! Заўсёды ты хочаш усё па палічках раскласці. І этыкетачкі павесіць: хрэн, рэдзька, гарчыца, перац...

Матусевіч. Пасада ў мяне, Сямён, такая. Абавязан разбірацца.

Галавач. А калі не атрымліваецца па палічках? Хачу, ды вось, разумееш, не атрымліваецца. Усё перамяшалася — і хрэн, і рэдзька, і гарчыца!

Матусевіч *(пасля паўзы)*. Кінь, Сямён. Мы вельмі доўга ведаем адзін аднаго, каб у хованкі гуляць. Пакрыўдзіўся, што з комплексам цябе прыціснулі?.. Не хочаш, не будуй. Другому калгасу аддадзім, сам жа потым і пашкадуеш.

Паўза.

Галавач. Хочаш, каб я, як стары конь, у баразне зваліўся? Матор жалезны і той зношваецца. А сэрца...

Матусевіч. З Крамлёўкай звяжамся. Думаеш, у

нас сваіх Барнардаў няма? Ёсць! Толькі працуюць ціха, без рэкламы.

Г а л а в а ч. Не, Максім, для эксперыментаў я ўжо не падыходжу, стараваты. Я яшчэ крыху пажыць хачу, збоку паглядзець на тое, што зрабіў за трыццаць гадоў. Колькі ж можна? З сорак пятага як запрогся...

М а т у с е в і ч. Спакойнага жыцця захацелася? Не вытрымаеш!

Г а л а в а ч. Не, Максім... Час ужо саступаць дарогу тым, хто едзе шпарчэй. А то што ж атрымліваецца? Тэарэтычна мы за маладых, а практычна? Да сарака гадоў хлапчукамі лічым, а ў пяцьдзесят ужо вылучаць баімся: стары, інфаркт у кішэні носіць.

М а т у с е в і ч. Як гэта разумець? Як крытыку?

Г а л а в а ч. Не, думкі ўголас.

М а т у с е в і ч *(пасля паўзы)*. Ну, што ж... Па вопыту ведаю, угаворваць цябе дарма. Можа, ты і маеш рацыю. Хто замест цябе будзе? Думаў?

Г а л а в а ч. Думаў... Сяргей.

М а т у с е в і ч. Які Сяргей?

Г а л а в а ч. Мой сын Сяргей...

М а т у с е в і ч. Ты што, сур'ёзна?

Г а л а в а ч. Зноў першы выпадак у тваёй практыцы? Перадавалі ж даўней царскі трон у спадчыну?

М а т у с е в і ч. Наследным прынцам, а не студэнтам. І цары, а не старшыні калгасаў.

Г а л а в а ч. Устарэлыя ў цябе звесткі, Максім. Сяргей ужо аспірант. Дысертацыю піша. Новая вёска, або вёска ў будучым... Нешта накшталт гэтага. Эканаміст. А характар у яго мой.

М а т у с е в і ч. Сяргея я ведаю, Сямён... А як людзі? Думаеш, прымуць?

Г а л а в а ч. Ты за людзей не бойся. Мая рэкамендацыя што-небудзь яшчэ важыць.

М а т у с е в і ч. Але рашаць будуць яны, а не мы з табой...

Дом Галавачоў. У прыхожай распранаецца С я р г е й. Побач з ім б а ц ь к а. Сёння Галавач у новым касцюме з Зоркай Героя Працы.

С я р г е й. Мама дома?

Г а л а в а ч. Толькі што званіла са школы. Хутка будзе.

С я р г е й. Ну, як ты?

Г а л а в а ч. Як бачыш...
С я р г е й. Навошта выклікаў?
Г а л а в а ч. Не спяшайся, паспееш. Праходзь сюды...

Галавач адчыніў дзверы ў гасцінную, дзе накрыты стол чалавек на дзесяць — дванаццаць. На стале ўжо стаяць бутэлькі і талеркі з закускамі.

С я р г е й. Урачыстасць? З якой нагоды?
Г а л а в а ч. Ага, урачыстасць. Памінкі...
С я р г е й. Па кім жа гэта?
Г а л а в а ч. Па старшыні калгаса «Рэвалюцыя» грамадзяніну Галавачу.
С я р г е й. Ужо было. У кінакамедыі «Не бядуй!».
Г а л а в а ч. Каму камедыя, а каму...
С я р г е й. Знімаюць цябе?
Г а л а в а ч. Дзякуй. Малайчына! Добра пра бацьку думаеш.
С я р г е й. Сам жа гаворыш — памінкі!
Г а л а в а ч. Ведаеш што? Давай, пакуль маці няма, прапусцім па кілішку. Яна ж мне цяпер і панюхаць не дазваляе. Пэўна, зранку нічога не еў?
С я р г е й. Адгадаў...

Галавач узяў бутэльку каньяку, наліў у кілішкі, падсунуў сыну талеркі з закускамі. Моўчкі чокнуліся і выпілі.

Г а л а в а ч. Чуў, як я кульнуўся?
С я р г е й. Кажуць, заснуў за рулём?
Г а л а в а ч. Давай яшчэ... Чуе маё сэрца, вось-вось Савельеўна прыйдзе.
С я р г е й. А табе хіба можна?
Г а л а в а ч. Два-тры кілішкі. Для расшырэння сасудаў... Закусвай. Яшчэ не ажаніўся?
С я р г е й. Пакуль што не... Як гэта ў цябе атрымалася? Днём і раптам заснуў...
Г а л а в а ч. Ды не заснуў я, а прытомнасць страціў!.. Але іншым гэтага ведаць не трэба. Вось я і схлусіў, што задрамаў.
С я р г е й. Не разумею, навошта ўтойваць?
Г а л а в а ч. Навошта? Хто ж паўнябожчыка паважаць будзе? Чаму камандзір да самай смерці ўтойвае, што ранены? Каб паніку не разводзіць.
С я р г е й. Урачы што гавораць?
Г а л а в а ч. А-а, урачы! Ніякіх нагрузак, ні фізічных, ні псіхічных. Пад шкло мяне, як экспанат! Вось так. Райком ужо і пенсію афармляе. Персанальную...

Сяргей. Хто замест цябе будзе?

Галавач. Ты і будзеш.

Сяргей. Я сур'ёзна...

Галавач. А ты думаў, што я цябе тэлеграмай выклікаў, каб пажартаваць?

Сяргей. Ды ты што, бацяʔ!

Галавач. Сядай! Сядай, кажу!.. Не магу я нікому калгаса аддаць! Не магу. Мой ён! Разумееш? Мой! За трыццаць гадоў я так прыкіпеў да яго, што ўжо лепш памерці, чым...

Сяргей. Дык жа ўсё роўна аддаеш!

Галавач. Табе аддаю! А ты — гэта я... Калі хочаш ведаць, я толькі таму і адважыўся на пенсію, што на цябе калгас пакідаю. Вось так!

Сяргей. Але я не згодзен, баця.

Галавач. Баішся?

Сяргей. Не, баця, не баюся. Проста я яшчэ не гатовы да гэтага.

Галавач. Дык я ж буду побач з табой!

Сяргей. Тады навошта я тут наогул?

Уваходзіць Ефрасіння Савельеўна. Яна абняла сына, пацалавала, а потым ужо крытычна агледзела яго з ног да галавы.

Ефрасіння Савельеўна. Божухна! Адны косці ды скура! Што гэта з табой?

Галавач. Нічога, маці! Ты яго сырадойчыкам хутка на ногі паставіш!

Ефрасіння Савельеўна. Ты згодзен, Сярожа?

Галавач. Не такі ён дурань, каб адмаўляцца. Зараз старшыня калгаса — фігура! Не ніжэй міністра.

Ефрасіння Савельеўна. Што ж ён сам маўчыць?

Галавач. Гэта ён ад радасці язык праглынуў.

Сяргей. Нічога я не згодзен!

Галавач. Не слухай, маці, ён жартуе!

Сяргей. Нельга ж, баця, такія пытанні з ходу...

Галавач. А я што кажу? Вось ты і падумай, пакуль людзі не прыйшлі. А падумаеш добра — згодзішся. Таму што ў нашай радні дурняў не было.

У пакой урываецца Жэнька.

Жэнька. Мама, госці ідуць! Ой, Сярожка? Ужо прыехаў?! *(Жэнька кінулася на шыю брату, цмокнула яго ў шчаку, а потым схілілася ў цырымонным паклоне.)* Глухая правінцыя ў маёй асобе вітае сталіцу Беларусі!

Галавач. Пойдзем, старая, гасцей сустракаць. А то мы яму думаць перашкаджаем!

Галавач і Ефрасіння Савельеўна выходзяць.

Сяргей. Што за госці?

Жэнька. Сватаць цябе будуць! У старшыні! Згодзішся?

Сяргей. Не.

Жэнька. Дзівак валасаты! Кандыдатаў навук цяпер, ведаеш, колькі? Хоць гаць гаці! А тут ты праз некалькі гадоў Залатую Зорку атрымаеш. Уяўляеш, як гэта здорава — бацька і сын Героі Працы! Ну, а потым, можа, і я... Можа, нават двойчы!

Сяргей. Слухай ты, маляўка!..

Жэнька пакрыўдзілася і ўжо з парога паказала брату язык.

Жэнька. Бе-бе-бе! Сам дурань! *(Выскачыла і тут жа зноў вярнулася.)* Навіну чуў? У Ірыны муж утапіўся. Яна ў вёску вярнулася. У сваіх жыве...

Уражаны навіной, Сяргей хацеў нешта спытаць, але Жэнькі ўжо няма.

У доме Галавачоў застолле. Але застолле не простае, а неафіцыйнае пасяджэнне калгаснага актыву. Сабраліся ў асноўным старэйшыны калгаса, людзі пажылыя, шаноўныя. Ёсць тры-чатыры чалавекі ва ўзросце Сяргея. Сярод іх — Андрэй Жывіца, сакратар парткома. Усе ў меру выпілі, але ніхто не п'яны, усе трымаюцца з усведамленнем важнасці моманту. Выступае з тостам чарговы прамоўца — Павел Журбіла, таварыш Сямёна Андрэевіча па партызаншчыне.

Журбіла. За Сярогу, Сямён, нас агітаваць не трэба. Мы яго як аблупленага ведаем. На нашых вачах вырас. Я яго яшчэ вось такім запомніў, калі з рэчкі выцягнуў... Ты чаму не крычаў тады?

Сяргей *(сарамліва)*. Сам хацеў...

Журбіла. Ты ж ужо пузыры са дна пускаў! Калі б не я... *(Жонцы, якая сядзіць побач.)* Ды перастань ты мяне тузаць! Мы ж кандыдатуру абмяркоўваем, а не проста языкамі мянташым... Значыць, трэба ўсебакова... Ведаеш, за што я цябе, Серога, паважаю? За тое, што ты кожнае лета дамоў прыязджаў і разам з намі ад цямна да цямна...

Ефрасіння Савельеўна. А куды ж ён паехаў бы? Вядома, дамоў!

Ж у р б і л а. На цаліну або ў Сібір за доўгім рублём! Як некаторыя. За цябе, Сярога!

Журбіла выпіў кілішак і пачаў закусваць. Выпілі і іншыя, хто поўнасцю, а хто толькі прыгубіў.

К а з ё л. Пытанне ў мяне ёсць да Сяргея Сямёнавіча. Можна?

Ж э н ь к а *(на вуха Сяргею)*. Ну, трымайся! Зараз Казёл табе ўрэжа!

Г а л а в а ч. Вядома, можна, Платон Раманавіч. Для таго і сабраліся.

К а з ё л. Дысертацыі, рэкамендацыі — усё гэта ерунда на посным масле! А вось ты адкажы мне, Сярожка, колькі разоў ты ў маім садзе яблыкі краў?

За сталом абурана загулі:

— Ну вось яшчэ што?
— Знайшоў, аб чым пытацца!
— Хто з нас у чужы сад не лазіў?
— Адно слова — Казёл! Чаго вы ад яго хочаце?

К а з ё л *(упарта)*. Не, няхай адкажа! Я патрабую!

С я р г е й. Не памятаю, Платон Раманавіч. Можа, разоў з дваццаць або трыццаць...

К а з ё л *(жахнуўся і пляснуў у далоні)*. Трыццаць разоў? А-я-я-яй! А колькі разоў я цябе лавіў? Памятаеш?

С я р г е й. Гэта я добра памятаю. Тры разы.

К а з ё л. І што было?

С я р г е й. Адзін раз, Платон Раманавіч, вы мне ледзь вуха не адкруцілі. А два разы крапівай...

К а з ё л *(урачыста)*. Во! Чулі, які гросмайстар? Трыццаць разоў краў і толькі тры разы папаўся! Ну, а калі б ты ведаў тады, што мне за цябе галасаваць прыйдзецца, устрымаўся б?

Ж э н ь к а *(шэпча брату на вуха)*. Скажы — за вярсту абышоў бы!

С я р г е й *(пасля паўзы)*. Не, бадай, усё роўна палез бы. Грушы ў вас надта смачныя былі. Ні ў кога такіх не было.

К а з ё л *(з радасным хваляваннем)*. Няўжо палез бы?!

За сталом абурэнне:

— Дзед! Не псуй абедню!
— Знайшоў што ўспамінаць!
— Гэта ж калі было?
— Пусці Казла ў агарод...

Казёл *(нечакана гучна і патрабавальна)*. Цыц, малакасосы! Старэйшых паважаць развучыліся! Нас Сямён навошта сюды паклікаў? Гарэлку піць або справу рабіць? Я так разумею... Мы сёння павінны вырашыць, быць у нас Сярожку старшынёй ці не быць...

Пецька-матрос. Гэта сход будзе рашаць, а не ты!

Казёл. А мы што, не сход? Мы і ёсць сход!

Пецька-матрос. Сход, а ты, дзед, пра смярдзючыя яблыкі ўспомніў! Хочаш, я табе за іх у дзесяць разоў больш заплачу? Толькі зачыні паддувала!

Казёл *(спакойна)*. Дурнем ты, Пецька, нарадзіўся, дурнем цябе і на могілкі адвязуць. Я ж у яго не пра яблыкі, я ў яго пра аўтабіяграфію пытаюся! Вось ты, Пецька, нізавошта б не прызнаўся, колькі разоў я цябе ў сваім садзе крапівай сумленню вучыў...

Пецька-матрос *(ускочыўшы з-за стала і дэманстратыўна паказваючы цяльняшку)*. Дзед! Калі ты зараз жа не сціхнеш, я за сябе не ручаюся!

Суседзі пачалі супакойваць Пецьку.

Казёл. А-я-я-яй! Тыгрынай майкай захацеў мяне напужаць! Курыныя ў цябе мазгі, Пецька... Ён жа мог сказаць, што тры разы забіраўся ў мой сад! Столькі, колькі я лавіў яго... А ён сказаў — трыццаць! Значыць, хлусіць не ўмее. Значыць, верыць яму можна. Вось пра што я ў яго пытаўся!.. А потым... гэта ж трэба! За трыццаць разоў толькі тры разы промах даў! Малайчына Сярожка. Хадзіць табе ў старшынях доўга-доўга!

За сталом ажыўленне, смех.

Ну, чаго рагочаце, як жарабцы тыя? Ніхто з вас не разумее. Хіба толькі Сямён адзін... Ці ведаеце вы, як старшыні хітрыць прыходзіцца? Холадна, снег у полі, а з раёна каманду падаюць — сей! Паведамляе — сею, а сам чакае. Таму што з хлебам жарты дрэнныя. А восенню? Крычаць — чаму не ўбіраеш, распрасукін ты сын? Ты нам усю карціну псуеш, працэнт у зводцы запіжаеш! Зноў хітрыць трэба, таму што хлеб яшчэ зялёны стаіць. А пападзешся — такой крапівы ў штаны накладуць, тры гады не сядзеш! Праўду я кажу, Сямён?

Галавач. Праўду, Платон Раманавіч. Крапівы нашаму брату заўсёды хапае!

Пецька-матрос. Так бы адразу і казаў, дзед, а то — яблыкі! Ды ў труне я бачыў твае яблыкі!

К а з ё л. Цыц, Пецька! Мне ў яго яшчэ пра тое-сёе запытацца трэба... Усе гэтыя дысертацыі, рэкамендацыі, камбінацыі — цьфу! Самая галоўная твая рэкамендацыя — гэта тое, што ты Сямёна Галавача сын, што карэнні твае на гэтым самым месцы знаходзяцца. Пуп твой тут закапаны. Гэта самае галоўнае, Сярожка... Гарэлку п'еш?

С я р г е й. П'ю, Платон Раманавіч, але мала.

К а з ё л. Дрэнь справа, Сяргей! Таму як старшыня павінен і ў раёне з патрэбнымі людзьмі выпіць, і ў вобласці. І нават у рэспубліцы! Але каб у галаве ні-ні і ногі каб трымалі моцна. Зваліўся, і адразу ўвесь твой аўтарытэт свінні пад хвост. Нічога, навучышся. Настаўнікаў у нас па гэтай частцы, дзякуй богу, хапае. А жонка ў цябе ёсць?

С я р г е й. Няма, Платон Раманавіч.

К а з ё л. Э-э, браце, не быць табе ў нас старшынёй!..

За сталом абурэнне:

— Што ты вярзеш, дзед?!
— Чаму гэта не быць?
— Гэта яго асабістая справа!
— Захоча, дык мы яму тры жонкі знойдзем!

К а з ё л. Вось-вось-вось! Пра што ж я і кажу? Не асабістая гэта справа, а грамадская! Нельга старшыні халастым быць, таму што баб у нас прыгожых шмат. Куды ні ступі, усюды грэх побач. А на старшыню і ўдзень і ўначы сто, а можа, і тысяча вачэй глядзіць... Не, не буду я за цябе галасаваць, Сяргей, пакуль ты не ажэнішся. І іншыя таксама не будуць, хто сур'ёзны і жыццё разумее...

За сталом вясёлая розшагалосіца. Сяргей непрыкметна выцер пот з ілба. Нялёгка яму даўся гэты быццам бы жартоўны экзамен.

Кабінет старшыні калгаса «Рэвалюцыя». На сценах шмат грамат, дыпломаў, у кутку пераходны Чырвоны сцяг. У кабінеце С я м ё н А н д р э е в і ч Г а л а в а ч, ужо былы старшыня, і С я р г е й. Нядаўна закончыўся выбарны сход. Абодва яшчэ не астылі ад гэтай падзеі, кожны ўсхваляваны ёю па-свойму.

Г а л а в а ч *(з ганарлівым смуткам паглядзеўшы на граматы і дыпломы)*. Бачыш, якую спадчыну табе пакідаю? Не сорамна ні мне аддаваць, ні табе прымаць. А вось і карона...

**Галавач працягвае сыну пячатку.**

Сяргей. Баця... Гэта можна было б зрабіць і заўтра. Неабавязкова ж адразу пасля сходу...

Галавач. Абавязкова! Пячатка заўсёды павінна знаходзіцца ў гаспадара. Можаш тут трымаць, можаш з сабой браць.

Сяргей. Няхай тут ляжыць.

Галавач. Ну, няхай будзе тут...

Сяргей паклаў пячатку ў сейф і закрыў яго на ключ. Галавач машынальна, па прывычцы, патузаў ручку сейфа, каб пераканацца, ці замкнуты.

Сяргей. Ну, што, пойдзем, баця?

Галавач. Зараз... Што няясна — пытайся. Не саромся і не ганарыся. На гонары далёка можна заехаць, ды вось толькі назад паварочваць цяжка.

Сяргей. Ну што ты, баця?!

Галавач. Не што ты, а слухай. І не такія разумнікі ад празмернага гонару галовы гублялі. Не нам раўня... Вось так вось! *(Надзеўшы паліто, але без шапкі, Галавач спыніўся і яшчэ раз развітальным позіркам акінуў свой былы кабінет. Каб схаваць хваляванне, пажартаваў.)* Як гэта там французы гавораць? Кароль памёр, няхай жыве кароль? Так, ці што?

Сяргей. Баця... А можа, ты крыху паспяшаўся? І табе рана, і мне.

Галавач. Памаўчы... *(Пасля паўзы.)* Чым з раніцы зоймемся, старшыня? Можа, гаспадарку паглядзім?

Сяргей *(няўпэўнена)*. Я хацеў бы з людзьмі пагаварыць. Заўтра нядзеля, усе дома. Прайдуся па хатах, пагляджу...

Галавач. Быццам раней не бачыў?

Сяргей. Бачыў...

Галавач. Ну што ж... Прайдзіся, калі ёсць ахвота. Адзін пойдзеш?

Сяргей. Адзін...

Галавач. Добра.

Заходзіць Жэнька.

Жэнька. Злыдзеі бессардэчныя! Доўга вы яшчэ тут апірацца будзеце? Думала, зусім адубею. Знайшлі б на снезе малады сімпатычны труп! Градусаў трыццаць, не менш!..

Галавач. А чаму ты не дома?

Ж э н ь к а. Няўжо незразумела? Хацела першая павіншаваць наследнага прынца з каралеўскім званнем.

С я р г е й. Сюды б зайшла.

Ж э н ь к а. А вы б сказалі — падслухоўваю! Малайчына, Сярожка! Няхай у цябе ўсё жыццё будзе ўсё і заўсёды аднагалосна!

С я р г е й. Не атрымаецца так. Нехта разумны сказаў: поўная аднадушнасць бывае толькі на могілках.

Ж э н ь к а. Ведаеш, як я за цябе перажывала? Жах!

Г а л а в а ч. Пайшлі дамоў. Там жа маці чакае...

Новы дом Казлоў. Выдатная сучасная мэбля. Амаль на ўсіх сценах дываны, у кутку гадзіннік з музычным боем, піяніна, швейная і пральная машына, халадзільнік, тэлевізар, матацыкл. На ўсіх сценах партрэты самых прыгожых актрыс з «Экрана», «Огонька» і зарубежных часопісаў. Некаторыя з іх у даволі пікантных позах.
І в а н і м а ц і снедаюць. На стале пачатая бутэлька гарэлкі.

К а з л і х а *(глянуўшы ў акно, спалохана войкнула)*. Старшыня!

Яна схапіла са стала бутэльку гарэлкі і хацела схаваць.

І в а н. Куды? Я што, краў яе? Ану, пастаў, мамуля, на месца!

К а з л і х а. А што старшыня падумае?

І в а н. А мне напляваць, што ён падумае! Я на свае п'ю і дома!

К а з л і х а. Скажа, п'яніцы...

І в а н. Ну, і няхай сабе. Мне ад гэтага ні горача ні холадна.

У дзверы стукаюць.

К а з л і х а. Заходзь, заходзь, не зачынена.

Уваходзіць С я р г е й.

С я р г е й. Дзень добры! Хлеб ды соль вам!

К а з л і х а. Калі ласка, да стала. Паснедайце разам з намі. Ёсць і чарка, і шкварка.

С я р г е й. Дзякую. Я з раніцы не прывык да чаркі. Дзень наперадзе.

К а з л і х а. Дзень жа выхадны, можна і прапусціць па кілішку.

І в а н. Не ўгаворвайце яго, мамуля. Яны — кіраўнікі. А нам, трудзягам, можна. Вып'ем, калі ёсць на што!

С я р г е й. Добра жывяце...

І в а н. Ды ўжо не скардзімся. Сваім, так сказаць, рабоча-сялянскім мазалём усё здабыта.

К а з л і х а. Механізатары мы...

На парозе з'яўляецца с т а р ы К а з ё л. Глядзіць, слухае.

С я р г е й *(паказваючы на піяніна)*. Хто іграе?

І в а н *(з выклікам)*. Дзеці мае будуць іграць! Калі народзяцца...

С я р г е й. Вось тады б і купілі. Новую мадэль...

І в а н. Ха! *(Паказаў рукой вакол.)* Вось гэта заўсёды мае цану. А грошы... Раптам заўтра рэформа, адзін да дзесяці, і цю-цю! Накрыліся грошыкі!

С я р г е й *(з усмешкай)*. Далёка гледзіцё!

І в а н. А як жа інакш? Толькі так, з перспектывай.

С я р г е й. Гэта добра, што з перспектывай. Толькі якая яна?

І в а н. Што значыць — якая?

С я р г е й. Перспектыва ў вас якая? Вось я бачу, усё вы маеце. Нават піяніна. Ну, а што далей? Для чаго жыць будзеце?

І в а н *(нават крыху разгубіўся)*. Як гэта для чаго?

С я р г е й. Вось іменна, для чаго?

І в а н. А для чаго ўсе людзі жывуць? Каб, так сказаць, атрымліваць асалоду ад жыцця. Жыццё ж даецца чалавеку толькі адзін раз, і пражыць яго трэба...

С я р г е й. А як жа вы будзеце атрымліваць ад яго асалоду?

Паўза. Казліха і Іван разгубленыя. Казёл з хітрай усмешкай глядзіць на жонку і сына.

К а з л і х а. Машыну мы хочам купіць. «Жыгулі».

С я р г е й. Ну, а потым што, пасля машыны?

І в а н *(канчаткова ўскіпае)*. А потым капіць буду! Мільянерам стану! Эксплуатататарам! Завод свой адкрыю! «Казёл і К°»! Цябе гэта задавальняе, старшыня? Ты чаго прыйшоў? Ты чаго ў душу да мяне лезеш? Па якому праву!

К а з ё л *(адышоўшы ад парога)*. Цыц, фабрыкант! Эксплуататар! *(Падыходзіць да Івана і падносіць да самага яго носа дулю.)* Бачыў? Вось твая перспектыва! *(Паварочваецца да жонкі.)* Твая таксама! «Жыгулі» ім патрэбны! А куды вы будзеце ездзіць на тых «Жыгулях»? У туалет?! Дырыжабль купіце!.. Не размаўляй з імі, Сярожка. Яны ж не людзі, яны ж нябожчыкі! *(Прынюхваец-*

*ца.)* Ад іх ужо смярдзіць! Са мной лепш пагавары. Я табе ўсё, як ёсць, раскажу...

Дом Ірыны. Ірына разгублена мітусіцца па пакоі. Яна на хаду скінула з сябе фартух, зняла кофту, надзела белую блузку, змахнула пешта са шчакі, завязала хусцінку і глянула ў люстэрка. У дзверы стукаюць.

Ірына. Заходзьце...

Уваходзіць Сяргей.

Сяргей. Дзень добры, Ірына.

Ірына. Дзень добры... Праходзьце туды, тут у нас не прыбрана.

Ірына і Сяргей уваходзяць у другі пакой, крыху большы і святлейшы. Сяргей уважліва глядзіць на вялікую фатаграфію, дзе Ірына знята з вясёлым чубатым хлопцам.

Сяргей *(ціха)*. Як гэта здарылася, Ірына?

Ірына. Ніхто ж не бачыў... Паехалі з сябрам на возера рыбачыць. Ноччу... Вецер узняўся, хваля вялікая пайшла... Лодку раніцой убачылі. Перакуленую. А іх некалькі дзён сеткамі шукалі...

Сяргей. Я гэта ведаю... Я не пра тое спытаў...

Ірына хавае вочы і маўчыць.

Што ж ты паспяшалася так, Ірыніца?.. Прабач. Я не хацеў цябе пакрыўдзіць. Можаш не адказваць, калі не хочаш...

Ірына *(праглынуўшы камяк у горле)*. Не, нічога... Проста ніхто, апрача цябе, мяне так не называў... Я ж, Сярожа, кожны дзень табе пісала... Кожны дзень на пошту бегала. А ад цябе ні слоўца...

Сяргей. Дык мы ж пад Паўночны Полюс на сваёй лодцы хадзілі! І нават яшчэ далей! Толькі праз адзінаццаць месяцаў на базу вярнуліся!

Ірына. Але сваім жа ты пісаў. Я пыталася...

Сяргей. Ды не! Загадзя былі напісаны тыя пісьмы! Усяго па некалькі слоў, каб не трывожыліся: жывы-здаровы, служба ў флоце ідзе нармальна. А пісьмы гэтыя з базы раз у месяц родным насылалі. Табе я вялікае пісьмо напісаў, ды адправіць не паспеў. Так і пайшло са мной пад Полюс!

Ірына. Адкуль жа я ведала пра гэта, Сярожа?

Сяргей. Але я ж слова даў! Чаму ты мне не паверыла?

Ірына. Ах, Сярожа, Сярожа!.. Цяпер усе хлопцы

пасля арміі ў горадзе застаюцца. Я і падумала... Значыць, праўду кажуць: з вачэй далоў і з сэрца вон... Напісала я табе, што ходзіць ён да мяне, прапануе выйсці замуж... Думала, хоць на гэты раз адкажаш... Значыць, не доля наша, Сярожа.

Сяргей. Лёс самі людзі робяць!

Ірына. Я таксама гэтак думала... Напэўна, не ўсе ўмеюць. Ты ажаніўся?

Сяргей. Не яшчэ...

Ірына. А ўжо ёсць хто-небудзь?

Сяргей. Ёсць...

Ірына. Што ж... Хоць ты шчаслівы будзеш. Рада, што ў цябе ўсё так добра атрымліваецца. Людзі цябе добра прынялі...

Недзе за шырмай заплакала дзіця.

Паўлік прачнуўся. Прабач, Сярожа, я зараз...

Ірына зайшла за шырму. Сяргей уважліва разглядае сціплую абстаноўку, доўга глядзіць на фатаграфію Ірыны з вясёлым чубатым хлопцам. З-за шырмы выйшла Ірына.

Сяргей. Як ты спраўляешся з ім?

Ірына. Прывыкла. Маці памагае.

Сяргей *(паказваючы на фатаграфію)*. Гэта ён захацеў у горадзе жыць?

Ірына. Не, я... Баялася цябе сустрэць. Таму і настаяла, каб паехаць з вёскі. А ў Наваполацку цётка мая жыве. Адзінокая... І кватэра ў яе вялікая. Вось мы і паехалі туды. А цяпер... Цяпер мне ў горадзе адной цяжка.

Сяргей прайшоўся па пакоі, спыніўся ля тэлевізара, экран якога занавешаны невялікім вышытым пакрывалам.

Сяргей. Працуе?

Ірына. Працуе. Ды толькі не гляджу я. Днём і ноччу на ферме.

Сяргей. Чаму ў даяркі пайшла? Можна было б знайсці што-небудзь лягчэйшае.

Ірына. На ферме плоцяць добра...

Сяргей. Хапае на жыццё?

Ірына. Хапае. Толькі нецікава жыць неяк, Сярожа. Ніякага прасвету наперадзе. Вось хіба толькі Паўлік. Яго трэба на ногі паставіць.

Сяргей. Замуж выйдзеш...

Ірына. Каму я патрэбна, Сярожа, з дзіцем? Ведаеш, колькі дзяўчат у вёсцы незамужніх?.. Казёл узяў бы, некалькі разоў сватаўся. Але ўжо лепей у магілу, чым за яго.

Паўза.

Сяргей. Ну, я пайду...

Ірына. Дзякуй, Сярожа, што ўспомніў.

Сяргей. Да пабачэння, Ірыніца...

Ірына *(шэптам)*. Да пабачэння, Сярожа...

Сяргей выходзіць. Ірына з акна глядзіць яму ўслед. Доўга глядзіць.

Дом Галавачоў. У гасцінай сядзяць Сямён Андрэевіч і Павел Журбіла. Паміж імі амаль да канца выпітая бутэлька гарэлкі. Яны сядзяць абняўшыся за сталом і не голасам, а душой ціха спяваюць «Лясную песню». Закончылі, моўчкі адпілі са шклянак, моўчкі закусілі.

Галавач. Разумееш, чаго я чакаў? Да самага канца чакаў. Устане хто-небудзь і скажа: што ты робіш, Сямён Андрэевіч?! Нельга! Рана табе ісці на спакой! Як жа мы без цябе будзем?! Усе прамаўчалі. Усе! Усе прагаласавалі супраць. Аднагалосна.

Журбіла *(здзіўлена)*. Як гэта супраць?.. «За»! «За»!

Галавач. За Сяргея «за»! Супраць мяне...

Журбіла *(здзіўляючыся яшчэ больш)*. Пачакай... Пачакай... Дык ты што? Не хацеў, каб яго выбралі?

Галавач *(з абурэннем)*. Як гэта не хацеў? Я ж сам яго рэкамендаваў.

Журбіла. Не разумею я цябе, Сямён. Хоць забі, не разумею.

Галавач. І не зразумееш. Таму што не быў трыццаць гадоў старшынёй!

Журбіла. Не быў...

Галавач. Тут жа ўсё маё — кожны дом пабудаваны, кожны кол, у зямлю загнаны, кожны камень, у падмурак закладзены... Усё крывёю і потам!

Журбіла. Правільна. Таму і Героя табе далі.

Галавач. «Правільна! Правільна!» А хто я без гэтага? Пустое месца! Разумееш? Быў усім і адразу стаў нічым! Пустое месца, вось хто я цяпер. Вось так вось, Паўлюк! *(Крычыць.)* Пустое месца!

Журбіла *(зноў здзіўляецца)*. Навошта ж ты прасіў адстаўку тады?

Галавач. Ну вось зноў — «навошта, навошта»? Не, нічога ты не разумееш, Паўлюк. Нічога! Не дадзена табе.

Журбіла *(згаджаецца).* Правільна, не дадзена...

Уваходзіць Сяргей.

Галавач. Ну, чаго спыніўся ля парога, старшыня? Далучайся да нашай кампаніі. Гэта мы пасаду новую замочваем.

Сяргей *(прысаджваючыся да стала).* Чаму ж без мяне?

Галавач. А мы не тваю пасаду, а маю. Перпенс называецца. Не чуў? Персанальны пенсіянер! Разумееш? Персанальны! Персонай стаў. Вось так! А да гэтага быў усяго толькі старшынёй калгаса... *(Убачыўшы, што Журбіла збіраецца выходзіць.)* Ты куды?

Журбіла. Пайду я, Андрэевіч. Дома мяне чакаюць.

Галавач. Ну, давай ідзі, ідзі, калі чакаюць...

Журбіла выходзіць.

Выпіць хочаш?

Сяргей. Не. І табе, баця, хопіць.

Галавач. А я і не буду больш. Завязаў... Ну як? Добра жыве наш народ? Сам пераканаўся?

Сяргей. Багата жыве...

Галавач. Хм... Ты як быццам не задаволены, што багата?

Сяргей. Рознае бывае багацце...

Галавач. Ты гэта кінь! Мы, Сяргей, вельмі доўга кармілі калгасніка абяцанкамі. Усё «заўтра! заўтра!». А яму ўжо сёння пажыць хочацца. Не толькі дзеля ўнукаў і праўнукаў... А самому пажыць хочацца!

Сяргей. П'юць шмат. Амаль у кожным доме сёння гулянка.

Галавач. Гэта праўда. З дастатку п'юць. І таму што здаровыя, як быкі.

Сяргей. Але сёння ж нядзеля...

Галавач. А ты хацеў, каб у будзённыя дні пілі? Здараецца і такое.

Сяргей. Лепей ужо ў будзённыя...

Галавач. Гэта ўжо нешта новае. З тваёй дысертацыі?

Сяргей. Нядзеля, баця, адна на тыдзень. Няхай адпачываюць, на рыбалку ездзяць, кніжкі чытаюць, тэле-

візар глядзяць, дзецьмі займаюцца! Усё, што хочаш, толькі не гарэлка! За нядзельныя выпіўкі я б удвая караў!

Паўза.

Г а л а в а ч *(змрочна)*. Пуцёўку мне прапанавалі. У Кіславодск... Ехаць?

С я р г е й. Едзь, баця. Табе трэба падрамантавацца. Я нават не памятаю, калі ты водпуск браў.

Г а л а в а ч. А я і не браў яго апошнія дзесяць гадоў.

С я р г е й. Знайшоў, чым хваліцца! Здароўе — гэта дзяржаўны здабытак. Не мае словы — Леніна...

Рэстаран. Іграе музыка. У кутку за столікам сядзяць С я р г е й і В е р а. Яна не спускае закаханых вачэй з Сяргея, і той не ўтойвае, што яму гэта прыемна.

В е р а. Вось здам экзамены і адразу да цябе.

С я р г е й. Гэта ж немаведама калі будзе!

В е р а. Сам вінаваты. Не трэба было станавіцца старшынёй.

С я р г е й. А ты хочаш стаць старшынёвай жонкай?

Замест адказу Вера прытулілася галавой да ягонага пляча і моўчкі шчасліва ўсміхаецца.

Не чую адказу!

В е р а. Няпраўда, чуеш.

Да століка падыходзіць і садзіцца Г а л а в а ч.

Г а л а в а ч. Усё, заказ зроблены... Рэстаран у Мінводах быў зачынены, а ў буфеце есці не захацелася.

С я р г е й. Як ты адпачыў, баця?

Г а л а в а ч. Табе калі-небудзь клізму ставілі? Сіфонную?

С я р г е й. Не, яшчэ не даводзілася.

Г а л а в а ч. І што такое субаквальная ванна, не ведаеш?

С я р г е й. Не...

Г а л а в а ч. І добра, што не ведаеш. Гэта ад цябе нікуды не дзенецца...

С я р г е й. Вось чаму ты ўцёк на тыдзень раней тэрміну! Калі мы тэлеграму атрымалі, мама спалохалася. Кажа, нешта здарылася.

Галавач. З пенсіянерамі нічога не здараецца аж да самай смерці.

Зайграў аркестр. Да століка падышоў малады чалавек і, папрасіўшы дазволу, запрасіў Веру на танец.

Не баішся, што ўкрадуць?

Сяргей. Не такая, каб укралі.

Галавач. Доўга выбіраў, але выбраў, я табе скажу... У вёску паедзе?

Сяргей. Ужо вырашана. Яна вясной інстытут заканчвае.

Галавач. Не пакрыўдзіўся, што я на курорт паехаў?

Сяргей. Не, ацаніў.

Галавач. Сам не люблю, калі над душой вісяць. Асабліва ў пачатку... Дык аб чым будзе заўтра партком?

Сяргей. Адкуль табе гэта вядома?

Галавач. Здаецца, я першы спытаў?

Сяргей. Пяцігадовы план будзем разглядаць.

Галавач. Ён даўно разгледжаны і зацверджаны. І ў раёне, і ў вобласці.

Сяргей. Давядзецца яшчэ раз разглядаць.

Галавач. Чым ён цябе не задавальняе?

Сяргей. На збожжа сарыентаваны.

Галавач. А ты хацеў, каб на вінаград?

Сяргей. Не. На жывёлагадоўлю і на травы.

Галавач. Не будзе хлеба, не будзе і мяса!

Сяргей. Хлеб няхай іншыя сеюць...

Галавач. Хто? У нас самыя высокія ўраджаі ў раёне!

Сяргей. Дзе? На тарфяніках? А праз дваццаць гадоў нас будуць судзіць за гэтыя ўраджаі! За тарфянікі! За поўнае і бяссэнсавае іх знішчэнне!

Сямён Андрэевіч хацеў адказаць нешта рэзкае, але ў гэты момант да стала падышоў афіцыянт з падносам, і Галавач стрымаўся. Пачакаў, калі афіцыянт адыйшоўся.

Галавач. Ну, дагаворвай, дагаворвай! Чаго ж ты замаўчаў? Тарфянікі я губіў, каб Залатую Зорку атрымаць! Праславіцца за кошт зямліцы! Так думаеш?

Сяргей. Няважна, бацька, што я думаю. Важна, што мы маем.

Галавач. Ты яшчэ нічога не маеш!

Сяргей. Я маю на ўвазе калгас...

Галавач. Дык што мае калгас?

Сяргей. А вось што ён мае... Дзе раней паўтара метра торфу было, там зараз метр! Дзе быў метр, там ужо трыццаць — сорак сантыметраў засталося! З вашых жа дакументаў відаць. І гэта ўсё за трыццаць гадоў! Вось што стаіць за вашымі высокімі ўраджаямі!

Галавач. І за маёй Зоркай?!

Сяргей. Аб'ектыўна атрымліваецца так. Ты ж сам сказаў, што табе яе далі за высокія ўраджаі. Я разумею, калі хлеб патрэбен быў пазарэз...

Галавач. А то цяпер не патрэбен?

Сяргей. Будзем купляць хлеб і прадаваць мяса. Яно даражэй.

Галавач. Без штаноў застанешся, камерсант!

Сяргей. Хлеб дадуць Кубань, Казахстан, Украіна. Не за кошт жа нашых зямель рашаць збожжавую праблему!

Галавач. Паслухай, старшыня. А ці не рана ты стаў Ісусам Хрыстом? Прыйшоў, убачыў, навучыў, выправіў! А мы — дзікуны!

Сяргей. Я не Хрыстос, бацька. Я — эканаміст.

Галавач. Недавучка ты, а не эканаміст!

Сяргей. Калі недавучка, дык па тваёй віне. Я не прасіўся, ты мяне ўгаварыў.

Паўза.

Галавач. Ты ведаеш, што я член парткома?

Сяргей. Ведаю...

Галавач. Таму і хацеў без мяне партком правесці?

Сяргей. Не, не таму. Часу траціць нельга. Вясна хутка...

Галавач падняўся, дастаў з партманета грошы і кінуў на стол.

Галавач. Расплаціся за мяне.

Сяргей. Ты куды, бацька? Зараз жа едзем!

Галавач. Чым з дурнем ехаць, лепш пешшу ісці!

Галавач пайшоў. Праз некаторы час малады чалавек падвёў да стала Веру.

Вера. Сярожа, а дзе Сямён Андрэевіч?

Сяргей. Пешшу вырашыў ісці.

Вера. Пасварыліся?

Сяргей. Адгадала. Не чакаў я, што гэта адбудзецца так хутка.

В е р а. З-за дробязі або...

С я р г е й. «Або»... Ведаеш што? Прыязджай ты хутчэй да мяне. Не магу я без цябе больш. Не магу!

В е р а. Раней, чым вясной, Сярожа, не атрымаецца.

Аркестр зайграў вальс.

С я р г е й. Пойдзем, патанцуем. Я ўжо забыўся, як гэта робіцца!

У кабінеце старшыні ідзе пасяджэнне парткома. Яго вядзе А н д р э й Ж ы в і ц а. За сталом — С я р г е й, П а в е л Ж у р б і л а, І в а н К а з ё л, П е ц ь к а - м а т р о с і Л і д з і я Б а р ы с ё н а к. Выступае С я м ё н А н д р э е в і ч. На ім, як і ў дзень прыезду сына, новы касцюм з Залатой Зоркай.

Г а л а в а ч. ...Тое, што гаварыў зараз Сяргей, прыгожа і можа зрабіць уражанне... На таго, хто вёскі не ведае, для каго калгаснае жыццё ў навінку. Клопаты аб прыродзе, аб будучых пакаленнях! Усё гэта прыгожая тэорыя. Што ж датычыць практыкі, гэта, прабач, Сяргей, несур'ёзна. Для тваёй дысертацыі гэта, можа, і згадзіцца, а для жыцця — не...

С я р г е й. Пры чым тут дысертацыя?

Г а л а в а ч. А пры тым!.. Скажы, хто для каго? Прырода для чалавека або чалавек для прыроды? Абсурдна нават так ставіць пытанне. Чалавек не можа існаваць, не выкарыстоўваючы прыроду. Вядома, выкарыстоўваць мы яе павінны разумна. Хто ж супраць? Але не маліцца ж на яе!

С я р г е й *(зноў не вытрымлівае)*. Хіба я прапаную маліцца?

Г а л а в а ч. Людзям ужо сёння трэба есці, а не толькі ў будучым. Добра, давайце скароцім плошчы пад збожжавымі, пасеем травы, як прапануе Сяргей. І зямлю захаваем, і кармы мець будзем. Быў ужо аднойчы такі крэн, калі нехта на кукурузу маліўся! А што атрымалася? Валюнтарызм!.. Што значыць недадаць дзяржаве некалькі тысяч пудоў збожжа? Гэта значыць, пакінуць на тыдзень без хлеба такі горад... Ну, напрыклад, як Мінск...

С я р г е й. Няўжо табе, бацька, невядома, што ў пшаніцы нашай бялку, амінакіслот мала!

Ж ы в і ц а *(пастукаўшы алоўкам па стале)*. Спакойна, спакойна, Сяргей Сямёнавіч!

Г а л а в а ч. Не, таварышы, з хлебам на сучасным эта-

не жартаваць нельга. Хлеб — галоўнае багацце дзяржавы. Так заўсёды было і так заўжды будзе. Гэтыя некалькі тысяч пудоў, якія мы недададзім, ужо ўлічаны ў дзяржплане. Нездарма ж мы з механізатараў за кожны каласок стружку здымаем. Таму я і прапаную пытанне аб змяненні пяцігадовага плана не выносіць ні на сход, ні на праўленне. Людзі нас не зразумеюць. Вы, безумоўна, можаце напляваць на думку пенсіянера... Я не хацеў гаварыць усё гэта тут. Але мне не ўдалося пераканаць старшыню раней.

Галавач сеў і выпіў вады з графіна.

Жывіца. Хто наступны? Пытанне такое, што адмоўчвацца ніяк нельга.

Сяргей. Можна мне яшчэ дадаць?

Жывіца. Пачакай, Сяргей Сямёнавіч. Твой пункт гледжання мы ўжо ведаем. Няхай і іншыя гавораць.

Сяргей. Мой пункт гледжання перакулілі з ног на галаву!

Пецька-матрос. Дай яму слова! Сам жа гаворыш, што пытанне сур'ёзнае.

Журбіла. Не такая справа, каб спяшацца. Часу ўсім хопіць.

Жывіца. Давай, Сяргей Сямёнавіч! Толькі не паўтарайся.

Сяргей. Бацька выступіў так, нібыта я і сапраўды супраць хлеба, не разумею, што хлеб — аснова ўсяго!.. Але, таварышы, каапераванне і спецыялізацыя даўно сталі нормай у прамысловасці. Чаму ж у сельскай гаспадарцы мы толькі гаворым аб спецыялізацыі і канцэнтрацыі? Паглядзіце на наш пяцігадовы план... Гэта ж дапатопная натуральная гаспадарка! Усё ў ёй ёсць — і збожжа, і бульба, і лён, і мяса, і малако! Да якіх жа часоў мы на дзядоў ківаць будзем? Самі, самі сабе плануем, а калі зусім не цягнем, крычым: зверху, маўляў, навязваюць! Хто навязаў нам гэты план?

Галавач. Народ! Інтарэсы дзяржавы!

Сяргей. Няпраўда! Гэта ты яго навязаў народу і дзяржаве!

Жывіца. Паўтараешся, Сяргей Сямёнавіч!

Сяргей. Добра... Я не буду гаварыць пра эканамічны бок праблемы. Давайце пагаворым пра сацыяльны... Ты ж сам увесь час скардзіўся: старэе вёска! Праз дваццаць пяць гадоў на месцы вёскі толькі магілкі будуць!

Моладзь уцякае з вёскі, як чорт ад ладана! Гэта ж твае словы. А што ёй рабіць у вёсцы? Які-небудзь Мішка або Пецька сядзіць і некалькі гадоў зубрыць біном Ньютана або тэарэму Піфагора. А навошта ім у вёсцы Ньютан або Піфагор? Вось яны і не хочуць вучыцца! А вывучацца — уцякаюць з вёскі, як з турмы!..

Г а л а в а ч. Адразу ў акадэмікі! Як Ламаносаў!

С я р г е й. Не, бацька, не ў акадэмікі, а туды, дзе машыны, дзе тэхніка і высокая арганізацыя працы! Дзе ім, сапраўды, патрэбны і Ньютан і Піфагор!

Г а л а в а ч. Ну, вось ты ім і пабудуй тут акадэмію!

С я р г е й. Не акадэмію, а буйны жывёлагадоўчы комплекс! А гэта — аўтаматыка і тэлемеханіка! Гэта індустрыялізацыя сялянскай працы! Гэта прынцыпова новая вёска, новы быт, новы лад усяго сялянскага быцця! Гэта новая псіхалогія!

І в а н. Спытаць можна?

Ж ы в і ц а. Пытанні пасля. У цябе ўсё, Сяргей Сямёнавіч?

С я р г е й. Так, усё.

Ж ы в і ц а *(Івану)*. Што ты хацеў спытаць?

І в а н. Колькі каштуе гэты комплекс?

С я р г е й. Тры мільёны...

І в а н. Гэта значыць, тры мільёны за новую псіхалогію? А дзе іх узяць?

С я р г е й. Дзяржава дае нам крэдыты на льготных умовах.

І в а н. Крэдыт — гэта пазыка. Яго аддаваць трэба. Пакуль аддадзім, зубы на паліцу пакладзём!

Ж ы в і ц а. У цябе пытанне або выступленне?

І в а н. Запытальнае выступленне! Не згодзен я выкладаць тры мільёны за новую псіхалогію! Лепш ужо якнебудзь я са старой пераб'юся, ды толькі з сытым бруxам. А калі ў жываце бурчыць — не да псіхалогіі. Таварыш Маркс сказаў: быццё *(робіць пальцамі рух, нібыта лічыць грошы)* вызначае свядомасць...

Ж ы в і ц а. Карацей. Ты супраць?

І в а н. Безумоўна! Толькі і жыць пачалі па-людску, а вы зноў рэарганізацыі пачынаеце! Ведаеце, дзе гэтыя рэарганізацыі сядзяць? Вось дзе! *(Праводзіць рабром далоні па горле.)* Хопіць над вёскай эксперыментаваць! Дайце ёй спакойна пажыць!

Ж ы в і ц а. Ясна. Ты, Пётр, не будзеш больш гаварыць?

Пецька-матрос. Я ж сказаў...

Жывіца. Вы, Лідзія Іванаўна?

Барысёнак. Я падтрымліваю Сямёна Андрэевіча. Навошта нам у даўгі лезці?

Журбіла. Не толькі даўгі, а будаваць хто будзе? Ведаеш, Сяргей Сямёнавіч, як у нас на сяле будуюць? Пакуль да даху дойдуць, падмурак развальваецца. Вунь у «Промні» пяты год клуб будуюць і яшчэ пяць будуць будаваць...

Жывіца. Я так і не зразумеў, Павел Дзям'янавіч, вы «за» ці «супраць»?

Журбіла. Я супраць таго, каб планы ламаць. Мы ж іх таксама не з пальца высмакталі.

Жывіца. Будзем галасаваць! Ёсць дзве прапановы: першая — змяніць пяцігадовы план калгаса з ухілам на жывёлагадоўлю. Унесці гэтае пытанне на разгляд праўлення і агульнага сходу. І другая прапанова. Пакінуць план без змянення. Хто за першую прапанову?

Руку ўзнімае толькі сам Жывіца.

Так... Аднагалосна, значыць. А ты што ж, Сяргей Сямёнавіч? Таксама супраць?

Сяргей. Я не член парткома. Не маю права галасаваць.

Жывіца. Лічы, што мы цябе ўжо каапціравалі. Хто за другую прапанову?

Узнімаюць рукі ўсе, апрача Сяргея, Жывіцы і Пецькі-матроса.

А ты што? І не «за» і не «супраць»?

Пецька-матрос. Я ўстрымліваюся.

Жывіца. Ну што ж... Усё, таварышы. Пасяджэнне парткома аб'яўляю закрытым.

Усе ўстаюць і выходзяць. Жывіца хацеў нешта сказаць Сяргею, але, заўважыўшы, што стары Галавач не збіраецца разам з усімі, таксама выйшаў. Сямён Андрэевіч падышоў да сына, паклаў яму руку на плячо.

Галавач. Пакрыўдзіўся?

Сяргей. За цябе крыўдна, бацька!

Галавач. У ножкі нам павінен пакланіцца, што не дазволілі табе, дурню, шыю зламаць! Я што, зла табе жадаю? З горада цябе выцягнуў і старшынёй для гэтага зрабіў? Так, ці што? Мяне за гэты комплекс Матусевіч, ведаеш, колькі агітаваў? Выстаяў. Яму мода, пацёмкінская вёска патрэбна, каб дэлегацыі вазіць. А мужыку жыццё

патрэбна. Іван Казёл мае рацыю... Усе гэтыя рэформы, перабудовы, рэарганізацыі абрыдлі. Не, Сяргей, ад дабра дабра не шукаюць. А калі шукаюць, такое знаходзяць... Так што ты не крыўдуй.

Сяргей. А ці не ты, бацька, пакрыўдзіўся?

Галавач. З чаго б гэта?

Сяргей. Што не па-твойму жыць пачаў?

Галавач *(пасля паўзы)*. Ведаеш, колькі тут майго поту, маёй крыві, бяссонных начэй? Усё тут маё, куды ні кінь. Няўжо ты думаеш, што я дазволю каму-небудзь усё гэта паламаць, так, за здорава жывеш? Табе таксама не дазволю! Ты гэта запомні!.. *(Хутка выходзіць.)*

Вясковая вуліца. Яркае сонца. Зіхаціць снег на дрэвах. Сяргей стаіць ля калгаснай канторы, чакае машыну, курыць.

Сяргей *(крычыць)*. Ірына!

Падыходзіць Ірына.

Добры дзень...

Ірына. Дзень добры, Сярожа.

Сяргей. Праходзіш і прывітацца не хочаш?

Ірына. Прабач, не заўважыла. Дамоў спяшаюся. Кароў накарміла, цяпер Паўліка трэба...

Сяргей. Ты на якім курсе інстытут кінула?

Ірына. На трэцім. Цяжка, Сярожа, вучыцца завочна і працаваць. Можа, і дацягнула б, калі б ён не загінуў.

Сяргей. Ты калі ўстаеш?

Ірына. У пяць раніцы. Трэба ж паспець і накарміць, і падаіць, і гной убраць.

Сяргей. А ўвечары калі дамоў прыходзіш?

Ірына. Як калі. А восьмай, бывае, а дзевятай. Але ўдзень у нас перапынак.

Сяргей. Што ў цябе дома ёсць?

Ірына. Гаспадарку маеш на ўвазе? Як ва ўсіх — карова, парася, куры.

Сяргей. Спраўляешся?

Ірына. А куды падзенешся?.. Усё нічога, Сярожа, вось толькі з каровай цяжка. Сена накасіць трэба, улетку ў поле ганяць трэба, па чарзе... Зімой таксама — пакармі, надаі. А без каровы ніяк нельга. Дзіцё...

Сяргей. Чаму не захацелі на дзве змены пераходзіць? Клопатаў жа ўдвая менш!

Ірына. І заработак таксама... Кажуць, што ты нібыта з бацькам пасварыўся?

Сяргей. Сваркі не было, а чорная кошка між намі прабегла.

Ірына. З-за чаго?

Сяргей *(доўга глядзіць на яе)*. З-за цябе.

Ірына. З-за мяне?! Ты што, Сярожа?!

Сяргей. Ён, напрыклад, перакананы, што ты жывеш вельмі добра! Лепей няма куды!

Ірына. Я і сапраўды жыву добра.

Сяргей *(злосна крычыць)*. Добра?! Паглядзі, на каго ты стала падобна? На вярблюда двухгорбага! А ты ж спявала! Танцавала! У школе! Памятаеш?! Хіба ты падобна на тую Ірыну?! Што ад цябе засталося? Цень! Прывід!

Ірына *(ціха)*. Дык я ж удава, Сярожа... У мяне ж на руках дзіцё... Старыя не падмога, абое слабыя, часта хварэюць. А ў каго ёсць мужчына ў хаце, там добра.

Сяргей. Усім! Усім дрэнна!

Ірына. Ты, Сярожа, проста адвык ад вясковага жыцця. Успомні, як раней людзі жылі і як цяпер жывуць...

Сяргей. Ты для параўнання трынаццаты год успомні! Гэта больш пераканаўча!

Чуваць, як пад'ехала машына, стукнулі дзверцы.

Ірына. Што ж ты хочаш, Сярожа?

Сяргей *(крычыць)*. Хачу, каб вы як людзі жылі!

Уваходзіць Жывіца.

Жывіца. Добры дзень, Ірына. Паехалі, Сяргей, а то спознімся!

Кабінет першага сакратара райкома партыі Матусевіча. На канапе сядзяць Сяргей і Жывіца. Максім Максімавіч усхвалявана ходзіць па кабінеце.

Матусевіч *(горача)*. Стратэгі вы вялікія, а тактыкі... Галоўны сэнс у чым? У тым, што загіне вёска, калі яе не перабудаваць сёння. На корані загіне. Не могуць у ёй больш людзі жыць! Дажываць могуць, паміраць, а не жыць! Ну, тут я, можа, крыху падзагнуў. І калі мы сёння або заўтра не зменім усяго... Вось што галоўнае — людзі! Людзі!

Сяргей. Максім Максімавіч... Дык увесь сэнс нашай прапановы ў тым і заключаецца, што нельга так больш жыць!

Матусевіч. «Сэнс! Сэнс!» А на парткоме пра што гаварылі?

Сяргей. Пра тое ж...

Матусевіч. Аб скаціне гаварылі, а не аб людзях! Аб тым, што галоўнае — збожжа ці мяса! Людзі ў вас так, накшталт давеска, накшталт дробязных дэталей ішлі. Вось дзе ваш тактычны промах! Трэба сказаць, што стары Галавач мае рацыю. Сапраўды, план аднаго калгаса змяніць нельга. Усё вельмі шчыльна падагнана і прыцёрта. Падлічана да гектара, да цэнтнера нават... Здымі з вас збожжа, значыць, яго трэба перадаць некаму другому. З яго таксама трэба нешта здымаць і перадаваць трэцяму. Ляціць план усяго раёна.

Жывіца. А калі памяняць план усяго раёна?

Матусевіч. Пачнецца такая ж пятрушка ў абласным маштабе. Ланцуговая рэакцыя!

Сяргей. Выходзіць, няма выйсця?

Матусевіч падышоў да акна, адчыніў фортку. Чуваць рознагалосы крык гракоў.

Матусевіч. Бач, як раскрычаліся! Вясна ранняя будзе... Чаму няма? Ёсць, дакладней — павінна быць. Давайце будзем думаць. І вы, і я... А ў прынцыпе я з вамі згодзен, як кажуць, цалкам і поўнасцю. Бацька твой хітры мужык. А ты хітрэйшым будзь...

Сяргей. Не было такой дысцыпліны ў інстытуце.

Матусевіч. Гэтаму само жыццё навучыць. І вось што, Сярожа... Ты наконт высокіх ураджаяў на тарфяніках не вельмі націскай на бацьку.

Сяргей. Не разумею...

Матусевіч. Не, не таму, што менавіта я падпісваў паперу на Героя... Думаецца мне, ён і сам ужо разумее, што дроў мы тут наламалі. І мучыцца таму. Але нават самому сабе баіцца ў гэтым прызнацца.

Сяргей. Прызнацца мала! Палітыку мяняць трэба!

Матусевіч. А мы і мяняем. Толькі ж адразу ўсяго не зробіш. Я яго некалькі разоў выклікаў да сябе і прасіў, патрабаваў, каб ён пачаў комплекс будаваць. А апошні раз я яму рашуча сказаў: ці будаваць пачнеш, ці з партыйным білетам развітаешся. Вось пасля гэтай размовы ён і апынуўся ў яры. Мяне да гэтага часу сумленне грызе. Ці не перабаршчыў я?

Сяргей. Выходзіць, мне ўсё па-ранейшаму пакідаць? Як было?

Матусевіч. Я да таго, што бацька твой — таксама жывы чалавек. І яго разумець трэба. Не апраўдваць, а разумець...

У доме Галавачоў. Ефрасіння Савельеўна накрывае стол на вячэру. Тут жа ля стала Вера.

Вера. Ефрасіння Савельеўна, дайце ж і мне якую-небудзь работу.

Ефрасіння Савельеўна. Што вы, галубка, што вы! Адагравайцеся з дарогі. Можа, кажушок на плечы даць?

Вера. Не, дзякую. Я ўжо крыху адышла.

Ефрасіння Савельеўна. Гэта ж трэба! Калі б Сярожа ведаў, ён бы да поезда пад'ехаў!

Вера. Я хацела сюрпрыз яму зрабіць. Здала сесію і, замест таго каб дамоў, сюды паехала.

Уваходзіць Жэнька.

Жэнька. Мам, а можа, мне схадзіць за імі ў лазню?

Ефрасіння Савельеўна. Не церпіцца навіну паведаміць?

Жэнька. Не... А што, калі яны адзін аднаго варам ашпараць? Увесь калгас абадраць прыйдзецца. Для перасадкі скуры.

Ефрасіння Савельеўна. Яшчэ што выдумала?

Жэнька. А што? Усё можа здарыцца.

Вера. Сварацца?

Жэнька. Не... Нармальны канфлікт паміж старэйшым і малодшым пакаленнямі. Адно ўсё ведае, ды нічога не можа. Другое ўсё можа, ды нічога не ведае.

Ефрасіння Савельеўна. Ідзі ты на кухню, балаболка! Паглядзі, каб бульба не перасмажылася.

Вера. Можна, я пагляджу? *(Выходзіць.)*

Жэнька *(у захапленні)*. Ну і прыгажуня! Вось пашчасціла нашаму Сярожку!

Ефрасіння Савельеўна. Ты б балбатала пры ёй менш!

Жэнька. А што я такое сказала? Думаеш, Сяргей сам ёй не раскажа? Што гэта за муж, калі ў яго ад жонкі сакрэты будуць? Жонка, ведаеш, хто? Самы блізкі сябар чалавека!

Ефрасіння Савельеўна. А ты адкуль гэта ведаеш?

Ж э н ь к а *(разглядаючы сябе ў люстэрка)*. Я ўсё ведаю... У-у, якая абразіна! *(Яна зрабіла грымасу.)* Як у Іванавай хрушкі! Вочы, як гузікі, а нос, як кукіш! Цьфу, аж глядзець брыдка!

Е ф р а с і н н я  С а в е л ь е ў н а *(ласкава)*. Не грашы. Каб усе такія, як ты, былі...

Ж э н ь к а. А-а! Не суцяшай!

У прадбанніку апранаюцца Г а л а в а ч і С я р г е й. Але «тэмпература» тут, бадай, вышэй, чым у парылцы.

С я р г е й. ...Ты гаварыў, што хопіць ужо калгаснікаў абяцанкамі карміць! Гаварыў? Твае словы?

Г а л а в а ч. Гаварыў. Правільна гаварыў.

С я р г е й. Што людзі ўжо сёння пажыць хочуць... Гаварыў?

Г а л а в а ч. У мяне яшчэ памяць не адбіла!

С я р г е й. Дык хіба гэта жыццё? Хіба гэта людзі?! Гэта ж... трактары! Асабліва жанчыны... У тры змены цягнуць. На знос! Цябе ж судзіць трэба!

Г а л а в а ч. Пракурор знайшоўся, ядрыт тваю за нагу! На мяне яны хіба працуюць? На сябе працуюць! Хіба твае дохлыя гараджане маюць тое, што маюць мае калгаснікі!

С я р г е й. Што маюць? Ты ж мяшчан напладзіў, як клапоў! Тэлевізары ёсць — не глядзяць! А калі ім глядзець? Піяніна ёсць — не іграюць. Няма калі! Шафы ад адзення ломяцца — не носяць! Няма куды насіць! Няма куды і няма калі! А купляюць. Грошы ж ёсць! Ты ж людзей хціўцамі зрабіў! Яны ўжо і кроку зрабіць не могуць без рубля!

Г а л а в а ч. Ты Маркса вучыў? Казёл і той лепш за цябе ў палітэканоміі разбіраецца! Чалавеку перш за ўсё патрэбны ежа, адзенне і дах над галавой! А потым ужо розныя фіглі-міглі! Зразумеў? Потым! Спачатку абуй і накармі! Во так!

С я р г е й. Маркс, баця, і другое сказаў... Багацце бяскласавага грамадства вымяраецца не золатам, а свабодным часам яго грамадзян. Свабодным часам! Зразумеў? Дык вось гэтага багацця ў тваіх калгаснікаў пуль! І п'юць яны таму... Скажы, чаму з твайго нябеснага раю людзі ў горад уцякаюць?

Г а л а в а ч. Гультаі ўцякаюць! Дармаеды!

Сяргей. Ці не замнагавата тых дармаедаў у цябе, бацяʔ

Галавач. Не больш, чым у іншых!

Сяргей. Залатыя словы! Тым больш трэба спяшацца.

Галавач. Спяшацца? Былі ўжо такія разумнікі, якія спяшаліся! Як вы з Матусевічам... Замест вёскі хацелі аграгарады пабудаваць! Пад шкляным калпаком! Хацелі, каб калгаснікі ад кароў, ад агародаў адмовіліся! Адным словам — няхай жыве камуна! Дзе яны цяпер?.. Вышэй пупа не скочыш! Грыжу нажывеш. Вось так вось!

Сяргей. А вы ўжо даўно ўсе з грыжамі!

Дом Галавачоў. Сяргей прыводзіць у гасціную Матусевіча.

Матусевіч. Прабач, браток, што ў нядзелю. А ў цябе яшчэ і нявеста.

Сяргей. Ну што вы, Максім Максімавіч! Вы ж ведаеце, што я заўсёды рады вам.

Матусевіч. Ужо навучыўся хітрыць. Здольны! Па вачах бачу, у лыжцы вады гатовы мяне ўтапіць, што адарваў ад яе. А ты не саромся. Так і павінна быць. Маладым — маладое, старым — старыкоўскае. Вяселле хутка?

Сяргей. Летам, калі інстытут закончыць.

Матусевіч. Мяне паклічаш?

Сяргей. Самага першага.

Матусевіч. Добра. Запомнім. А зараз вось што... Справа, разумееш, неадкладная, таму я і прыкаціў да цябе ў выхадны. Заўтра выклікаюць на бюро абкома.

Сяргей. Мяне?

Матусевіч. Не, мяне. Заварылі вы кашу, а расхлёбваць мне даводзіцца. Я ж пасля вашага візіту вазьмі ды здуру і напішы пісьмо на імя першага сакратара. Наконт пяцігадовых планаў...

Сяргей. Ну і што?

Матусевіч. Па шапцы дадуць, вось што. Можа, і не ўтрымаецца.

Сяргей. За што? Усё ж правільна!

Матусевіч. Таму і дадуць, што правільна!

Сяргей. Зусім нічога не разумею. Дзе ж логіка?

Матусевіч. Дзе логіка? Скажуць, з Месяца зваліўся? А дзе раней быў? Ім жа не дакажаш, што і сам увесь час пра гэта думаў. Не хапала апошняй кроплі. А вось ты ўзяў і капнуў... Давай сюды свае разлікі.

Сяргей. Якія? Вы што маеце на ўвазе?

Матусевіч. Бацька твой у мяне ўчора быў. Усё пераказаў...

Сяргей. Скардзіўся?

Матусевіч. Не. Абвінавачваў нас з табой у валюнтарызме і авантурызме. Вось як! Гаварыў, што мы з табой паспяшаліся парадзіцца гадоў на пяцьдзесят. Ты як лічыш, паспяшаліся?

Сяргей. Не, спазніліся гадоў на дваццаць.

Матусевіч. Я тое ж самае сказаў. Давай свае паперы...

Жэньчын пакой. Вера і Жэнька сядзяць на канапе і разглядаюць альбом з сямейнымі фатаграфіямі.

Вера. А вось гэта дзяўчына... Хто яна?

Жэнька. Гэта? Ірына...

Вера. Усюды яны разам... Сярожа і яна... Яны сябравалі?

Жэнька *(неахвотна)*. Не ведаю... Здаецца, сябравалі.

Вера глянула на Жэньку і зразумела, што тая гаворыць няпраўду.

Вера. А што потым?

Жэнька. Нічога. Ён у армію пайшоў. Яна замуж выйшла і паехала ў Наваполацк.

Вера. Яна і цяпер там жыве?

Жэнька. Не... Нядаўна ў яе муж утапіўся, яна ў вёску да сваіх старых вярнулася. З дзіцем.

Вера *(задумліва)*. Які ў яе прыгожы твар!

Жэнька. Нічога асаблівага. Твар як твар.

Вера. Тут яны абое з акардэонамі... Яна таксама іграла?

Жэнька. Іграла... І спявала. Вось голас у яе, сапраўды, быў добры. Бывала, як заспявае, усё сяло слухае!

Вера. А цяпер яна спявае?

Жэнька. Не... Адспявала сваё!

Вера. Ён ніколі мне аб ёй не расказваў...

Жэнька. А што тут расказваць?

Пад дзвярыма на пальчыках у споднім бялізне стаіць Сямён Андрэевіч, прыслухоўваючыся да размовы Максіма Максімавіча і Сяргея.

Сяргей *(з хваляваннем і захапленнем)*. ...Бачыце, што атрымліваецца, Максім Максімавіч? Калгасу ўтры-

манне каровы абыходзіцца зімой у адзінаццаць і два дзесятых чалавека-дні, а калгасніку — у восемдзесят тры і два дзесятых! Нічога дзіўнага — ручная праца. А двароў у нас пяцьсот! Калі мы возьмем на ўтрыманне ўсіх асабістых кароў, то сэканомім трыццаць шэсць тысяч чалавека-дзён! А на кожны чалавека-дзень мы даём прадукцыі на 15 рублёў. Усё, Максім Максімавіч! Заканчваем новы кароўнік і збіраем туды ўсіх асабістых кароў, спачатку з цэнтральнага пасёлка, а потым і па іншых брыгадах. Свіннямі пазней зоймемся...

Матусевіч. У што гэта абыдзецца калгасніку, калі калгас возьме на поўнае ўтрыманне яго карову? Падлічыў?

Сяргей. Калі ласка... Вось... Летам ён будзе плаціць тры рублі пятнаццаць капеек у месяц, зімой шэсць рублёў. Капейкі! Выгадна гэта яму? Выгадна! Калгасу таксама. Але галоўнае, Максім Максімавіч, не гэта. Не гэта! Галоўнае, што мы людзей вызваляем ад гэтай праклятай другой змены, ад асабістага хамута, ад якога ў людзей гарбы растуць! І грыжы... Вы думаеце, чаму моладзь з вёскі ўцякае? Адробяць восем-дзевяць гадзін у калгасе, а потым яшчэ пяць-шэсць гадзін дома ўкалваюць. Старым няма куды падзецца, а маладыя бягуць...

Матусевіч. Ну, дапусцім, не толькі таму...

Сяргей. Вядома, не толькі таму.

Матусевіч. Ты глядзі, Сяргей, як у нас з табой выходзіць? Гаворым мы з табой быццам пра скаціну, а атрымліваецца — пра чалавека! Га? Ведаеш што, Сярожа? Па-мойму, у цябе не галава, а дом урада! *(Кліча.)* Сямён! Сямён! Хадзі паглядзі, што Сяргей прапануе! Гэта ж эканамічная і псіхалагічная рэвалюцыя разам узятыя!

Галавач ціхенька, на пальчыках, адыходзіць ад дзвярэй і хаваецца.

М-да... Цяжкі выпадак... Не судзі яго строга, Сярожа. Вось што... Паедзеш заўтра разам са мной на бюро абкома.

Сяргей. Мяне ж не запрашаюць.

Матусевіч. Нічога. Будзеш у мяне ў якасці доказу.

Сяргей. Каб, значыць, і мне па шапцы за кампанію? Так?

Матусевіч *(засмяяўся)*. А ты хацеў, каб мне аднаму? Прывыкай...

Куток сельскіх могілак. Пад высокімі соснамі і бярозамі застылі крыжы, зоркі, помнікі. На самым краі могілак асобна стаіць абеліск з доўгім спісам прозвішчаў. У гэтым спісу і...

*Галавач Пётр Андрэевіч — загінуў на фронце*
*Галавач Павел Андрэевіч — загінуў у партызанах*
*Галавач Аляксандр Андрэевіч — закатаваны ў СД*

На самым краі гранітнага пастамента ля абеліска сядзіць без шапкі Сямён Андрэевіч Галавач. Падыходзіць Сяргей, моўчкі здымае шапку.

Галавач. Сядай...

Сяргей садзіцца.
Паўза.

Сяргей. Ты што?

Галавач. Вось пагаварыць з імі прыйшоў... *(Паўза.)* Мяне побач пакладзеш.

Сяргей. Ну, што ты гаворыш, баця? Як у цябе язык павярнуўся сказаць такое?

Галавач. А што? Магілу ты мне ўжо пачаў капаць... Запомні, Сяргей, Галавачы на табе канчаюцца...

Сяргей. Ты гэта пра што?

Галавач. Так. Між іншым... Ну, што ў абкоме?

Сяргей. Зацвердзілі. Вырашылі перагледзець планы па ўсёй вобласці, у разрэзе кожнага раёна...

Галавач. Сяргей... Што ты пра мяне думаеш?

Сяргей. Як гэта, што думаю?

Галавач. Не хітруй. На гэтым месцы трэба або праўду гаварыць, або маўчаць... Ну, хто я, па-твойму? Кансерватар, адстаў ад жыцця, перашкаджаю прагрэсу?

Сяргей. Бацька...

Галавач. Маўчы! Я ж сказаў табе, што тут не хлусяць... Я ніколі пра сябе не думаў, толькі пра людзей. Аб іх клапаціўся. Каб вось перад імі не сорамна было *(паказвае на абеліск)*. Таму што яны мне дзяцей, жонак і матак сваіх пакінулі... Я ад прэмій адмаўляўся. Сорамна мне было прэміі і надбаўкі атрымліваць, калі яны вось тут зямлю касцямі сваімі грэюць... Я ж аб іх дзецях і ўнуках клапаціўся!..

Сяргей. А я пра каго клапачуся? Пра сябе?

Галавач. Не так клапоцішся. Не з таго канца... Я ж чаму цябе на сваё месца прапанаваў? Таму што верыў... Ты маладзейшы, дужэйшы, разумнейшы... Ёсць, Сяргей, законы, цераз якія не пераскочыш. Ты ж з гісторыі і палітэканоміі павінен ведаць. Спрабавалі ўжо нешта падобнае зрабіць...

**Сяргей.** Тады, бацька, базы не было. І псіхалагічна людзі яшчэ не былі гатовыя.

**Галавач.** А зараз што?.. Тое, што вы з Матусевічам хочаце, магчыма праз пяцьдзесят гадоў, не раней.

**Сяргей.** Але ж ты сам, бацька, гаварыў, што людзям не толькі праз пяцьдзесят гадоў жыць трэба, але і сёння.

**Галавач.** Яны і жывуць. І нядрэнна жывуць. А вы з Матусевічам хочаце паламаць ім гэта жыццё!

**Сяргей.** Не мы, бацька. Само жыццё гэтага патрабуе.

**Галавач.** Тэорыя ваша патрабуе, а не жыццё! Ты ведаеш, якія электрасеткі ў вёсцы? На смаркачах усё трымаецца! Пасля кожнай навальніцы па два-тры дні без току сядзім. Што ты будзеш рабіць са сваім комплексам, калі такое здарыцца? Не тое што падаіць тысячу кароў не зможаш... Увесь калгас у дзярме захлынецца! Ты ж уручную яго не адужаеш! Вось табе рэальнае жыццё, а не тэорыя! Я ўжо бачыў гэта сваімі вачыма — і не адзін раз. У суседніх гаспадарках. А ты — не! Навошта ж ваду каламуціш?

**Сяргей.** У карэце было больш спакойна ездзіць. Перакулілася, нічога страшнага, усе цэлыя. Паставілі на колы і далей паехалі. А калі ТУ грабанецца? Адразу вунь колькі!.. І тым не менш нават звышгукавыя будуюць. Не толькі ваенныя, але і пасажырскія. Значыць, чалавеку гэта трэба?

**Галавач.** Аб людзях, значыць, клапоцішся?.. Сёння ў нас даярка зарабляе больш за дзвесце. А на комплексе тваім яна атрымае максімум сто пяцьдзесят. Ёсць розніца?

**Сяргей.** Ёсць. Але гэтыя сто пяцьдзесят ёй будуць зарабляць машыны, а не яна сама.

**Галавач.** Але ў хаце ў яе не машыны сядзяць, а пяць або шэсць ратоў, і ўсе есці хочуць. І пасмачней!

**Сяргей** *(горача)*. А сама яна есці хоча, калі з фермы прыйдзе? Хоча яна, каб дзеці яе пайшлі туды працаваць?!

Паўза.

**Галавач.** Ты наогул маеш уяўленне, што такое будаўніцтва ў нашых умовах і пры нашых магчымасцях? І хто табе будаваць усё гэта будзе?

**Сяргей.** Студэнцкі атрад. Я ўжо дамовіўся. Прыедуць на ўсё лета... Бацька, няўжо ты лічыш, што і абком памыляецца?

**Галавач.** Бязгрэшных не бывае.

Сяргей. Чаму ж ты сябе лічыш бязгрэшным?

Галавач *(ледзь стрымаўся)*. Ведаеш што... Ідзі-тка ты адсюль... Мацюгацца тут непрыстойна...

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

Студэнцкі інтэрнат. У пакоі юнакі і дзяўчаты. Побач з Верай сядзіць Сяргей. Абое шчаслівыя. Гучыць гарэзлівая студэнцкая песня:

Они горькую пьют,
Они песни поют
И еще кое-чем занимаются!
Через тумбу-тумбу — раз!
Через тумбу-тумбу — два!
И еще кое-чем занимаются!
А Харлампий святой
Лишь трясет бородой —
На студентов глядит, улыбается!
Через тумбу-тумбу — раз!
Через тумбу-тумбу — два!
И еще кое-чем занимаются!
Он и сам бы не прочь
Провести с ними ночь,
Да на старости лет не решается!
Через тумбу-тумбу — раз!
Через тумбу-тумбу — два!
И еще кое-чем занимаются!

Васіль *(ускочыў і крычыць)*. Браткі! Ды што ж гэта мы? Няўжо не горка ў нас сёння? Горка!

Галасы. Горка! Горка!

Сяргей. Хлопцы! Ды вы што? Ашалелі? Пачакайце да вяселля!

Васіль. Браточкі! Даеш вяселле! Зараз жа! У гэты ж момант! А то ж ён яго зажыліць!

Усе ў захапленні адабраюць. І вось ужо ляжаць на стале батоны, хлеб, каўбаса, банкі кансерваў, стаяць тры бутэлькі таннага віна.

Алік. А з чаго піць будзем? Шклянак няма...

Васіль *(абурана)*. Не, вы толькі паглядзіце на гэтага антылігента! З гарла́! Як дзеды нашы пілі! Бабы! Вэлюм і шлюбныя пярсцёнкі!.. Так, адзін ёсць. Знайсці другі! Хто не дае? Ты, Жора? Аддай пярсцёнак, піжон, а то зараз жа выйдзеш адсюль праз акно. Без штаноў і без пярсцёнка! Я сур'ёзна!

Дзяўчаты завязваюць Веры вялікую белую шаль замест вэлюма.

Дзеці мае! Падыдзіце да мяне!

Сяргей і Вера падыходзяць да Васіля.

Уступаеце вы ў шлюб па каханню, па разліку ці па прымусу?

С я р г е й. Па каханню...

В е р а. Па каханню.

В а с і л ь. Раба божая Вера! Ці моцна ты кахаеш свайго нарачонага?

Г а л а с ы. Не! Не! Так нельга! Няхай ён спачатку скажа!

В а с і л ь. Добра. Папраўка прымаецца... Раб божы Сергій, ці моцна ты кахаеш гэтую атракавіцу?

С я р г е й. Яна зачаравала мяне безнадзейна і назаўсёды.

В а с і л ь. А ты, Вера?

В е р а *(закахана гледзячы на Сяргея, адказвае сур'ёзна)*. Я вельмі яго кахаю.

В а с і л ь. І даўно гэта на вас найшло?

Г а л а с ы. Гэта ўжо інтым, Васіль. Навошта такія падрабязнасці?

В а с і л ь. Цішэй! Не перашкаджайце шлюбаскасавальнаму... Цьфу! Што я гавару? Шлюбапалучальнаму працэсу! Прашу адказваць на пастаўленае пытанне!

С я р г е й. Два гады...

В е р а. Два гады, тры месяцы і два тыдні...

В а с і л ь. Гэта пастаянства пахвальнае. Раб божы Сергій, ці будзеш ты здраджваць сваёй жонцы?

Г а л а с ы. Ды ты што, Васіль, здурнеў?

В а с і л ь. А што? Лепш пра гэта ведаць загадзя. Клянісь!

С я р г е й. Не буду...

В а с і л ь. А ты, раба божая Вера?

В е р а. Здраджваюць, калі знойдуць лепшага. А лепш за яго няма.

В а с і л ь. Не, вы чулі, як яна зараз усіх нас збэсціла? Мы, значыць, усе Квазімоды, адзін ён Нарцыс! Даруем ёй гэта?

Г а л а с ы. Даруем! Даруем!

В а с і л ь. Ці будзеце вы шанаваць сяброў, прымаць іх у сябе, карміць і паіць? Бясплатна, вядома. І не пляваццa потым, калі яны пойдуць? Пакляніцеся!

В е р а. Клянёмся!

Сяргей. Клянёмся!

Васіль *(зрабіўшы вельмі ўрачысты выраз твару)*. Такім чынам, усе кропкі над «і» пастаўлены, усе дарогі назад адрэзаны, сцежкі таксама. Усе масты спалены. Станьце бліжэй адзін да аднаго! Яшчэ бліжэй! Абдыміцеся... Вучыць вас, ці што? Ага, умеюць! Навучыліся за два гады і тры месяцы!.. Вянчаюцца перад тварам усея групы раба божая Вера і раб божы Сергій. Вянчаюцца на жыццё сумеснае, доўгае і шчаслівае! На каханне вечнае і неразлучнае! Амэн! Абмяняйцеся пярсцёнкамі, дзеці мае! *(Перахрышчвае Веру і Сяргея.)* Падаць сюды шампанскага!

Яму перадаюць бутэльку партвейна.

Першая чара гэтага боскага напітка — маладой!

Вера робіць глыток.

Другая чара — жаніху! Пардон! Пардон! Законнаму мужу!

Робіць глыток Сяргей.

А трэцяя чарка мне, прэпадобнаму! *(Глядзіць бутэльку на святло.)* Для такога выпадку маглі б што-небудзь і даражэй узяць!

Галасы. А хто ж ведаў? Ты ж не папярэдзіў!

Васіль. Трэба было прадбачыць! Самім думаць трэба! *(Робіць глыток і здзіўлена глядзіць на этыкетку.)* Глядзі-тка! Каштуе руп чатыры, а п'ецца, як за руп сем! Горка, браткі! Горка!

Усе пачынаюць скандзіраваць: «Гор-ка! Гор-ка-а!»

Салаўіны бераг — так празвалі гэты высокі абрыў над ракой. Унізе недзе ціха і сонна плешчацца вада ў чароце. Толькі што зайшло сонца. Крычаць, надрываюцца драчы, заліваюцца салаўі. І здаецца, не існуе на свеце нічога, апрача іх песні.
На беразе пад бярозай адзінока сядзіць Ірына. Слухае. Успамінае. І прыплылі да яе з далёкага мінулага ўспаміны...
...Ірына і Сяргей стаяць на беразе побач, зусім яшчэ маладыя і надзвычай шчаслівыя. Яны прыйшлі сюды адразу пасля выпускнога вечара.

Сяргей. Ты чакаць мяне будзеш, Ірыніца?

Ірына. Навошта ты пытаешся?

Сяргей. А калі вельмі доўга? Гэта ж армія...

Ірына. Хоць усё жыццё! Я кахаю цябе, Сярожка! *(Цалуюцца.)*

С я р г е й. Пакляніся!

І р ы н а *(крычыць)*. Неба! Ты чуеш мяне? Я кахаю яго! Зоркі! Я бяру вас у сведкі! Вы чуеце? Я кахаю яго, як ніхто нікога ніколі не кахаў! Я ўвесь свет аддам за яго! Вы чуеце, зоркі?!

Сяргей абдымае і цалуе Ірыну.

С я р г е й *(здзіўлена)*. Ой, Ірыніца!..

І р ы н а. Што?

С я р г е й. У тваіх вачах зоркі свецяцца!

І р ы н а. У тваіх таксама.

С я р г е й. Гэта добра, калі зоркі ў вачах. Гэта да шчасця...

І р ы н а. Ты верыш у прыкметы?

С я р г е й. У добрыя — веру.

І р ы н а. Глядзі, Сярожка. І ў рацэ зоркі! Варушацца, як жывыя!

С я р г е й. Хочаш, я зорку для цябе дастану?

І р ы н а *(смяецца)*. Хачу!

Сяргей скідае пінжак і ляціць некуды ўніз.

Ты што, звар'яцеў! Што ты робіш? Там жа вір! Сярожка! Ты чуеш? Там жа вір! Плыві зараз жа назад! Чуеш? Ой, які ж ты дурненькі!

На бераг падымаецца Сяргей і працягвае Ірыне вялікую белую лілею.

С я р г е й. Пакуль нёс, яна ператварылася ў кветку...

І р ы н а. Там жа вір!

С я р г е й. Ну дык што? За цябе я не толькі ў вір — у агонь скокну!

І р ы н а. Ой, які ты ўсё ж дурненькі, Сярожка!..

А сама бясконца шчаслівая, што ён іменна такі, што можа з-за яе скокнуць і ў агонь і ў ваду.

Успаміны зніклі гэтак жа раптоўна, як і з'явіліся. Пад бярозай адзінока сядзіць Ірына. І раптам яна, як падкошаная, упала тварам у траву і ляжыць нерухома. А вакол цішыня і салаўі.

Кабінет старшыні калгаса. У кабінеце С я р г е й, А н д р э й Ж ы в і ц а, В а с і л ь і А л і к, якога за празмерна сур'ёзны выгляд і вялікія акуляры студэнты празвалі філосафам. Праз адчыненыя насцеж вокны чуваць драчы, салаўі, жабы. Васіль сядзіць на падаконніку і зачаравана слухае.

В а с і л ь. Хлопцы, а вы салаўёў сваіх сырымі яйкамі

не корміце? Што творац, мярзотнікі, га? Усё. Няма больш сіл маіх. Іду заляцацца!

С я р г е й *(заняты сваімі думкамі, змрочна)*. Чорт ведае што! Пра іх жа клапоцімся! Жыццё ім хочам чалавечае зрабіць! А яны ўпёрліся як валы... Трэці дзень кароўнік пустуе! Ніхто не прывёў... Нават тыя, з кім я размаўляў асабіста, хто згаджаўся.

Ж ы в і ц а. Я ж табе гаварыў: вясковы кансерватызм горш за атамную бомбу. Яго нічым не пераб'еш.

С я р г е й. Але ж прабіць неяк трэба! Не адступаць жа цяпер? Ужо абком ведае. Калі ў нас не атрымаецца...

Ж ы в і ц а. Трэба да гэтага быць гатовым...

В а с і л ь *(здзекліва)*. Ці не скапцы вы, хлопцы? Такі вечар, а вы пра нейкіх кароў, пра нейкае, прашу прабачэння, дзярмо! Выгляд у вас зараз такі, нібыта настае новы сусветны патоп, а каўчэга вы пабудаваць не паспелі!

С я р г е й. Я і забіць магу.

В а с і л ь. Ну-ну! Разам з гумарам канчаецца і чалавек. Ну, хопіць вам! Раскіслі, насы павесілі! Калгас — гэта каралеўства, а вы хоць яшчэ не каралі, то прынцы!..

С я р г е й. Спыні! Надакучыла!

В а с і л ь. Даслухай да канца... Справу вы задумалі важную? Важную. Райком і абком вас падтрымліваюць? Падтрымліваюць! Студэнцкі атрад у сто галоў вас падтрымлівае?

С я р г е й. Не магу ж я вас, замест асабістых кароў, у кароўнік паставіць!

В а с і л ь. Нас не трэба, а кароў можна.

С я р г е й *(узрываючыся)*. «Можна! Можна!» Я ж табе пра тое і тлумачу, што ніхто не захацеў! Усе адмовіліся! Усе!

В а с і л ь. Ну і што? Панікёры вы! Ёсць у мяне адна ідэя. Толькі дайце мне свабоду дзеянняў на дваццаць чатыры гадзіны.

Ж ы в і ц а. Што ты зробіш за дваццаць чатыры гадзіны?

В а с і л ь. Іменна тое, чаго вам зараз не хапае. Мінірэвалюцыю. Не бойцеся — бяскроўную...

С я р г е й. Здзіўляюся, як такога балбатуна маглі назначыць камандзірам будаўнічага атрада!

Дом Казлоў. С т а р ы К а з ё л, надзеўшы акуляры, чытае газету. І в а н прышпільвае кнопкамі да сценкі вялікі партрэт паўаголенай зарубежнай кіназоркі. Убягае К а з л і х а.

К а з л і х а. Чулі, што робіцца?! Старшыня каровак нашых арыштаваў!

І в а н. Мамуля, як гэта можна арыштаваць кароў?

К а з л і х а. Калі з поля ішлі, студэнты іх завярнулі і ў калгасны кароўнік загналі! І замок павесілі! Што ж гэта такое робіцца?

І в а н. Нічога асаблівага, мамуля. Гэта пачынаецца камунізм. Спачатку кароў, свіней, курэй, качак у адзін статак. Потым усіх нас пад адну коўдру. Цудоўна!

К а з л і х а. Не дуры! Скажы лепей, што рабіць?

І в а н. Да пракурора трэба. Зазнаўся малады старшыня. Ну, цяпер яму ўсё, кранты! Спёкся, галубок!

К а з л і х а. Ды я з ім сама, без пракурора, спраўлюся! Дайце мне тапор. Дайце тапор!

К а з ё л *(адрываючыся ад газеты)*. Во, у Партугаліі рэакцыя зноў галаву ўздымае, а вы толькі пра кароў думаеце!

К а з л і х а. Чаго-чаго?

К а з ё л. А таго! Увесь свет як свет! А ў вас толькі каровы ў галаве! Цьфу!

К а з л і х а. Зусім звар'яцеў стары лапаць!

К а з ё л. Гэта не я звар'яцеў! Гэта вы на лахманах сваіх вар'ятамі сталі! Ну, куды вам столькі? Навошта? У магілу вы гэта ўсё з сабой забераце? У вас жа амаль дваццаць тысяч на кніжцы! Навошта вам больш? Ну, скажыце, навошта?

К а з л і х а. На чорны дзень.

К а з ё л. Ды вось ён, з'явіўся ваш чорны дзень! Чарней ужо быць не можа! Чалавека з-за каровы забіць хочаш! Вы ж у д'яблаў ператварыліся! У вас жа рогі і капыты выраслі! Во! Азірніся! У цябе ж хвост вырас! Ты ж са сваім дабром зноў малпай стала! *(Падбягае да шафы, потым да куфраў і выкідае адтуль рэчы.)* Гэта ўсё на чорны дзень?! Падавіцеся вы сваім барахлом! Не хачу больш! Не трэба! Замучылі! Заездзілі! Усё жыццё паклаў на ваша дабро! Усё! Хопіць! *(Выскоквае.)*

К а з л і х а. Свят-свят-свят! Што гэта з ім такое?

І в а н. Гэта, мамуля, называецца інфармацыйным выбухам. Радыё, тэлевізар, газеты... Не паспявае галава пераварваць. Вось у яго і заскочылі шарыкі за ролікі...

Стары Казёл вяртаецца, штурхаючы перад сабой прыгожа аформленую труну на калёсіках. На труне напісана залатымі літарамі: «Платон Раманавіч Казёл. Нарадзіўся ў 1905 годзе. Памёр у ... годзе». Казёл ставіць труну ў кут, кладзецца ў яе і складвае рукі.

К а з л і х а. Платон... Ты што? Здурэў?..

К а з ё л *(прыўзняўшы галаву з труны)*. Прашу пахаваць па-чалавечы. І каб аркестр быў. І памінкі. Я на іх зарабіў! А то ведаю я вас, скнар! Усё! Бывайце! *(Зноў кладзецца ў труну і ўладкоўваецца ў ёй зручней.)*

К а з л і х а. Платон, апамятайся! Такога яшчэ не бывала, каб жывы чалавек сам у труну клаўся!

К а з ё л *(зноў прыўзняўшы галаву)*. Хіба ж я сам? Гэта ж вы мяне сюды паклалі! Ідзіце! Не далі спакойна пажыць, дайце хоць памерці спакойна.

І в а н. Пойдзем, мамуля. Гэта ён для нас спецыяльна цырк арганізаваў. Выхоўвае. Пайшлі. *(Выходзяць.)*

К а з ё л *(крычыць)*. Хунта праклятая! Фашысты! Рэвалюцыі на вас няма!

Новы кароўнік. Відаць толькі невялікая частка яго фасаднага боку. На другім плане, недалёка, бачна панарама будаўніцтва вялікага жывёлагадоўчага комплексу. Ужо стаяць бліскучыя, як ракеты, чатыры сянажныя вежы.

У кароўніку мычаць каровы. Набліжаюцца ўсхваляваныя галасы. Да кароўніка падбягаюць н е к а л ь к і вельмі ўзбуджаных ж а н ч ы н пад старшынствам К а з л і х і.

К а з л і х а. Няма яго, бабы, тут!

І Ж а н ч ы н а. Зачыніў жывёлу, гад, а сам схаваўся!

ІІ Ж а н ч ы н а. Нічога! Мы яго пад зямлёй знойдзем!

ІІІ Ж а н ч ы н а. Ну, бабы, мы яму такую камуну наладзім, на ўсё жыццё запомніць! Штаны здымем і па ўсёй вёсцы правядзём без штаноў!

IV Ж а н ч ы н а. Ламіце замок! Чаго вы чакаеце?

V Ж а н ч ы н а. Чым ты яго зломіш! Языком?

К а з л і х а. Пусціце, у мяне тапор!

З гарышча кароўніка, у адтуліне франтона, паказваецца А л і к.

А л і к *(спакойна)*. Толькі паспрабуйце...

К а з л і х а. А ты, змяя падкалодная, чаго тут тырчыш?

А л і к. Значыць, так трэба, калі тырчу.

К а з л і х а. Старшыня загадаў?

А л і к. Не старшыня, а мой грамадзянскі абавязак.

І Ж а н ч ы н а. Чаго ён нам тут зубы загаворвае?

IV Ж а н ч ы н а. Ламі, Ульяна, або аддай тапор мне!

А л і к *(усё так жа спакойна)*. Страляць буду!

Для пераканаўчасці Алік паказаў стрэльбу.

І Ж а н ч ы н а. Ах ты, гад паўзучы! Ён яшчэ пагра-

жаць будзе! Як вазьму зараз камень ды як трэсну па тваіх акулярах!

V Жанчына. Ды ты што, хлапец, з глузду з'ехаў? Ты чаго стрэльбай палохаеш? Мы не чужое прыйшлі браць.

III Жанчына. Бабы! Здымай з яго штаны!

IV Жанчына. Схавай пукалку, дурань! Мы кароў сваіх узяць прыйшлі!

Алік. Мне, ці што, патрэбны вашы каровы?

III Жанчына. А навошта ж вы, паразіты, іх зачынілі? Навошта замок павесілі?

Алік. Таму што дабра вам хочам, а вы гэтага не разумееце. Цёмныя вы людзі. Дапатопныя...

Казліха. Бач ты, хрыстосікі якія знайшліся! Дабра яны хочуць! Ведаем мы ваша дабро!

II Жанчына. Ды што ты з ім, Ульяна, размаўляеш? Не будзе ён у людзей страляць! Яна ў яго незараджаная...

Алік. Праўда, незараджаная... *(Закладвае патроны ў абодва ствалы.)*

Другая жанчына выхапіла з рук Казліхі тапор і абухом пачала збіваць замок. Адзін за адным грымяць два аглушальныя стрэлы. Жанчыны кінуліся ўрассыпную. Толькі Казліха паваліласся і засталася ляжаць, прыкрыўшы галаву рукамі. Алік зняў акуляры, працёр іх, зноў надзеў і здзіўлена глядзіць на распасцёртую на зямлі Казліху.

Алік. Дзіўна... Вельмі дзіўна... Я ж халастымі страляў...

Казліха *(раптам ускочыўшы)*. Ратуйце, людцы! Забіваюць! *(Уцякае.)*

Алік. Цьфу, чорт, як напалохала...

Некаторы час ціха і пуста. Потым зноў набліжаюцца ўзбуджаныя галасы. Уваходзяць, апасліва паглядаючы на гарышча, тыя ж жанчыны і Галавач.

I Жанчына. Вунь адтуль паліў, гад паўзучы!

Казліха. У мяне куля каля самага вуха так ж-ж-ж-ж! На валасок ад смерці была!

II Жанчына. Усякае ў нас бывала, Андрэевіч, але такога, каб у людзей стралялі, такога з часоў вайны не было!..

III Жанчына. Зняць з іх штаны і цэлы дзень па вёсцы вадзіць!

II Жанчына. Міліцыю трэба выклікаць! І пратакол скласці!

К а з л і х а. Іван паехаў ужо за ўчастковым.

IV Ж а н ч ы н а. Андрэевіч, за што ж яны нас? За нашых кароў?

V Ж а н ч ы н а. Мы за табой, Андрэевіч, жылі як за каменнай гарой. Станавіся ў нас зноў старшынёй!

Г а л а в а ч. Студэнт! Ты тут? *(Паўза.)* Я пытаюся — ты тут?

А л і к *(не паказваючыся з глыбіні гарышча)*. Тут...

Г а л а в а ч. Пакажыся!

А л і к. Навошта?

Г а л а в а ч. Ты страляў?

А л і к. Я... Але я халастымі, як «Аўрора». Ніякай кулі не было?

К а з л і х а. Як гэта не было?! Як гэта не было?! Я ж сама чула, як яна ў мяне каля самага вуха ж-ж-ж-ж! Што ж гэта было!

А л і к. Напэўна, жук-гнаявік!

К а з л і х а. Бабы! Знайдзіце мне камень! Хутчэй знайдзіце мне камень!

Г а л а в а ч. Ціха! Хто загадаў страляць? Сяргей?

А л і к. Не...

Г а л а в а ч. А хто?

А л і к. Мой грамадзянскі абавязак.

II Ж а н ч ы н а. Не, вы чулі, бабы! Абавязак яму загадаў!

Г а л а в а ч. Ціха, не шуміце. Студэнт, кідай ключ.

А л і к. Як я вам скіну тое, чаго ў мяне няма?

Г а л а в а ч. А дзе ён?

А л і к. Не ведаю.

II Ж а н ч ы н а. Хлусіць, пракляты!

III Ж а н ч ы н а. Зняць з яго штаны, адразу скажа!

Г а л а в а ч. Пайшлі. Я ведаю, як адкрыць запасны выхад.

Жанчыны і Галавач ідуць за кароўнік. Чуваць, як адчыняецца запасны выхад, як, мыкаючы, выходзяць каровы. Алік асцярожна высоўвае галаву з дзіркі, аглядаецца.

А л і к. Цікава, што б на нашым месцы зрабіў Каракозаў? *(Заўважыўшы Галавача, зноў схаваўся.)*

Г а л а в а ч. Студэнт! Ты яшчэ тут?

А л і к. Не. Я ўжо пайшоў.

Г а л а в а ч. Прызнайся шчыра, Сяргей загадаў табе страляць?

А л і к. Я ж вам сказаў... Мой грамадзянскі абавязак.

Хутка ўваходзіць устрывожаны Сяргей.

Галавач *(са злавесным спакоем)*. Пячатка пры сабе?

Сяргей. Пры мне...

Галавач. Дай сюды.

Сяргей, нічога не разумеючы, працягвае бацьку пячатку.

Ключы ад сейфа таксама!

Сяргей *(зразумеўшы)*. Не рабі глупства, бацька!

Галавач. Скончыўся старшыня! Калгас не яслі, каб у цацкі гуляць! Ты хоць разумееш, што ты нарабіў?!

Сяргей. Я хацеў, каб бабы ўсе тут сабраліся! Пераканаць іх хацеў.

Галавач. Чым пераканаць?

Сяргей. Я б павёў іх туды *(паказвае на комплекс)* і паказаў бы, як яны павінны жыць і як жывуць!..

Галавач. Таму і страляць загадаў?! Ты ж усё сяло супраць сябе настроіў! Табе ж век гэтага не даруюць! За пракурорам і міліцыяй паехалі ўжо! Гэта ж крымінальшчынай пахне!..

Алік *(высунуўшы галаву з дзіркі)*. Гэта не ён загадаў страляць, а мой грамадзянскі абавязак. Я ж вам гэта растлумачваў...

Галавач *(злосна крычыць)*. Заткніся ты! Пудзіла агароднае!

Сяргей. Бацька! Аддай пячатку! Не ты мяне выбіраў старшынёй!

Галавач *(хапае Сяргея загрудкі)*. Я! Я цябе зрабіў старшынёй! Я цябе і здымаю! Два дні на зборы, і каб духу твайго тут не было! Тэарэтык, ядрыт тваю за нагу!

З гарышча грымяць два аглушальныя стрэлы. Галавач ад нечаканасці выпусціў Сяргея.

Ты што ж гэта, паразіт, робіш?!

Алік. Наношу прэвентыўны ўдар, каб не дапусціць вялікай вайны.

Галавач. Ану, злазь адтуль! Не чакай, пакуль я сам да цябе ўзлезу!

Чуваць трэск матацыкла. Убягаюць міліцыянер і Іван Казёл.

Міліцыянер. Хто страляў? *(Паўза.)* Я пытаюся: у каго агнястрэльная зброя!

І раптам з процілеглага боку ўбягае стары Казёл са стрэльбай.

К а з ё л. Я страляў! У мяне агнястрэльная зброя!

М і л і ц ы я н е р. Вы?

І в а н. Не верце яму! Хлусіць ён! Яго і не было тут!

К а з ё л. Як гэта не было, калі быў!

І в а н. Не страляў ён!

К а з ё л. Як гэта не страляў, калі страляў! А што гэта? *(Узнімае стрэльбу ўверх і страляе два разы.)* Можа, і зараз, скажаце, не страляў?

М і л і ц ы я н е р *(крычыць).* Спыніць агонь! Аддайце агнястрэльную зброю!

К а з ё л. А ты мне яе даваў?

М і л і ц ы я н е р. Дазвол на агнястрэльную зброю ў вас ёсць?

К а з ё л. Ёсць!

М і л і ц ы я н е р. Пакажыце!

К а з ё л. Вось ён! *(Паказвае міліцыянеру кукіш.)*

М і л і ц ы я н е р. Грамадзяне! Будзьце сведкамі! Вы бачылі, як зняважылі савецкую ўладу пры выкананні ёю службовых абавязкаў. Чаму вы стралялі?

К а з ё л. Контру трэба біць, пакуль яна нас не задавіла! Пакуль яшчэ не позна!

М і л і ц ы я н е р. Як... Як-кую контру?

К а з ё л *(паказваючы на Івана).* Вось гэту!

М і л і ц ы я н е р *(канчаткова збіты з панталыку).* Так... Зразумела... Забярыце ў яго зброю!

Ніхто не кратаецца з месца. Але не з-за боязі. Усе ашаломлены паводзінамі старога Казла.

Я каму сказаў — забраць зброю?!

К а з ё л. Чаго ж ты сам яе не забярэш?

М і л і ц ы я н е р. Так... Непавінавенне ўладзе... Ну што ж, пайшлі складаць пратакол!

Кабінет старшыні калгаса. С я р г е й, стоячы ля адчыненага акна, размаўляе з В а с і л ё м, які, мабыць, не адважваецца зайсці ў кантору.

С я р г е й. Ну? Ты задаволены, штукар?

В а с і л ь. Чэснае слова, Сярога, стрэльба — гэта яго ініцыятыва.

С я р г е й. Ну, а мне, мне што цяпер сказаць?

В а с і л ь. Валі ўсё на нас! Скажы, вінаваты, маўляў, гэтыя паўдуркі-студэнты. А што яны нам зробяць? Солі на хвост насыплюць?

Сяргей. Солі мне насыплюць, а не вам! Я старшыня калгаса!

Васіль. Не драматызуй, Сярога! Падумаеш, некалькі бабуль расшумелася! Дык яны ж — анахранізм! Рудыменты! Уся калгасная моладзь за цябе сцяной!

Сяргей. І ты гэтую сцяну ў міліцыю, у пракуратуру, у райком пашлеш. Ідзі ты ведаеш куды!..

Васіль. Каб ведаў, пайшоў...

За спіной Сяргея адчыняюцца дзверы, і ў кабінет імкліва ўбягае Ірына.

Ірына. Ты тут?

Сяргей. А дзе я павінен быць?

Васіль, зазірнуўшы ў акно, знікае.

Ірына. Я думала, сэрца разарвецца... Так бегла.

Сяргей. А што здарылася, Ірына? Што-небудзь з Паўлікам?

Ірына. Мне сказалі, што прыехаў пракурор і цябе арыштавалі.

Сяргей. Праўда, пракурор быў... *(Усміхнуўшыся.)* А што б ты зрабіла, калі б мяне і сапраўды арыштавалі? Магло і такое быць.

Ірына маўчыць, потым узнімаецца і падыходзіць да Сяргея.

Ірына *(ціха)*. Легла б пад колы...

Яны стаяць і глядзяць адзін на аднаго. І раптам зусім нечакана, нечакана, мабыць, нават для самой сябе, Ірына абняла Сяргея і без памяці пачала цалаваць яго ў губы, у шчокі, у вочы.

Ірына. Любы мой!.. Родны!.. Адзіны!.. Я ж нікога не кахала ніколі... Нікога... Толькі цябе аднаго! Божа, што я нарабіла!

Хто ведае, можа, і Сяргей ужо даўно чакаў гэтага моманту. Чакаў і баяўся, разумеючы, што рана ці позна, але гэта абавязкова адбудзецца.

Сяргей *(цалуючы яе)*. Ірыніца... Ірыніца... Чаго ты плачаш? Не трэба... Усё добра. Мы зноў разам...

Ірына. Не, Сярожа. Не... Лепш бы мне і не нарадзіцца зусім. Я ж месца сабе не знаходжу... Я ж удзень і ўначы, кожную хвілінку пра цябе думаю...

Заходзіць Жывіца. Ён так і застыў на парозе, убачыўшы Сяргея і Ірыну. Сарамліва кашлянуў, каб звярнуць на сябе ўвагу. Ірына адхіснулася ад Сяргея.

Ж ы в і ц а. Сярожа... Максім Максімавіч прыехаў.

Ірына пайшла да дзвярэй, але спынілася перад Андрэем.

І р ы н а. Андрэй... Ён тут ні пры чым... Гэта я сама. Сама галаву страціла... *(Выходзіць.)*

Ж ы в і ц а. Ну, што маўчыш, герой?.. Выходзіць, не ржавее і не старыцца, так?

С я р г е й. Разумееш, Андрэй... Думаў, усё ўжо даўным-даўно забыта. Ты ж ведаеш... Яна першая... Не дачакалася, не паверыла... А вось як прыехаў сюды, як убачыў яе... і быццам толькі ўчора з ёю на беразе развітваўся! Быццам і не было гэтых гадоў!

Ж ы в і ц а. Пачакай, пачакай... А як жа Вера! Ужо ўсе ведаюць, што хутка вяселле. Дый жыве яна ў вас як законная жонка... Як жа з ёй?

С я р г е й *(не адразу)*. Не ведаю, Андрэй, чэснае слова, не ведаю...

Ж ы в і ц а. Як гэта? Ну, ведаеш, браце, ты ўжо выбірай! Ты не султан і не набоб, каб дзве жонкі мець! Калі справа дойдзе да парткома, я цябе па галоўцы гладзіць не стану!

С я р г е й. Ну вось... Ты мяне ўжо парткомам палохаеш.

Ж ы в і ц а. Не палохаю, а папярэджваю. У тваіх жа, між іншым, інтарэсах. Прышыюць табе амаралку і...

Хутка ўваходзіць М а т у с е в і ч.

М а т у с е в і ч. Абодва тут? Добра! А я лічыў вас разумнымі людзьмі! Няўжо памыліўся?

Ж ы в і ц а. Максім Максімавіч... Нічога страшнага не адбылося.

М а т у с е в і ч *(Сяргею)*. І ты лічыш, што нічога страшнага не адбылося? Пракурор вамі цікавіцца! Ды бог з ім, з пракурорам. Можа, тут і няма саставу злачынства. Але эксперымент, які вы пачалі першымі ў вобласці, сарваны! Падмочаны! Хто ж цяпер возьмецца, калі ў вас сарвалася?.. Вось што... Заўтра партком, паслязаўтра сход! Агульны! Умелі нашкодзіць, умейце і адказ трымаць!..

Салаўіны бераг. Зорная ноч. Павольна ўваходзяць С я р г е й і В е р а.

В е р а *(у захапленні)*. Прыгажосць якая! Нічога падобнага не бачыла! Давай пасядзім тут, пачакаем сонейка...

С я р г е й *(паспешліва)*. Не-не, не тут... У іншым месцы.

В е р а. А мне здаецца, прыгажэй гэтага і быць не можа.

Сяргей адводзіць Веру з таго месца, дзе яны калісьці цалаваліся з Ірынай. Адышліся на некалькі крокаў і прыселі.

Дзівачок мой міленькі! Ну, чаму ты так хвалюешся? Усё будзе добра, вось убачыш! Я чамусьці адразу паверыла Матусевічу. У яго вельмі разумныя і добрыя вочы... Глядзіць на цябе і, здаецца, усё наскрозь бачыць і разумее. Ён цябе пакрыўдзіць не дазволіць. Ну, усміхніся!.. Ну?!

С я р г е й. Мне за сябе сорамна...

В е р а. Ты ж нічога дрэннага не зрабіў...

Вера даверліва паклала яму галаву на плячо і, заплюшчыўшы вочы, слухае, як спяваюць салаўі, як цурчыць вада ў рацэ. А Сяргей чуе галасы з далёкага мінулага...

С я р г е й. ...Ты чакаць мяне будзеш, Ірыніца?

І р ы н а. Навошта ты пытаешся?

С я р г е й. А калі вельмі доўга? Гэта ж армія...

І р ы н а. Хоць усё жыццё! Я кахаю цябе, Сярожка!

С я р г е й. Пакляніся!

І р ы н а. Неба! Ты чуеш мяне? Я кахаю яго! Зоркі! Я бяру вас у сведкі! Вы чуеце? Я кахаю яго, як ніхто нікога ніколі не кахаў! Я ўвесь свет аддам за яго!

В е р а. Пра што ты думаеш зараз?

С я р г е й *(здрыгануўшыся)*. Так... Ні пра што... Вера... Ты лічыш мяне добрым чалавекам?

В е р а *(усміхаючыся, не адкрываючы вачэй)*. За іншага б я не пайшла...

С я р г е й. А што, калі ты мяне прыдумала? Калі я зусім не такі?

В е р а *(шчасліва ўсміхаючыся)*. Не... Ты нават сам не ведаеш, які ты... Ты самы-самы!.. Вось за гэта я і кахаю цябе.

Другі бераг ракі. Лес. Гарыць касцёр. Ля кастра М а т у с е в і ч і Г а л а в а ч. Сямён Андрэевіч паклаў у касцёр некалькі тоўстых сасновых галінак і павярнуўся да Матусевіча.

Г а л а в а ч. Ну? Ракі з'едзены, піва выпіта... Доўга будзем у хованкі гуляць?

М а т у с е в і ч. Ты пра што, Сямён?

Г а л а в а ч. Ды ўжо вельмі нечакана табе захацелася ракаў! І абавязкова з начлегам!

М а т у с е в і ч. Здагадлівы... Тады, можа, і пачнеш сам?

Г а л а в а ч. Табе ракаў захацелася, а не мне!

М а т у с е в і ч. Добра... На сход заўтра пойдзеш?

Г а л а в а ч. А ты думаў — не?

М а т у с е в і ч. Навошта? Дакладней — з чым пойдзеш?

Г а л а в а ч. Павініцца перад людзьмі хачу. Няхай караюць за памылку.

М а т у с е в і ч. Ты ўпэўнены, што памыліўся?

Паўза.

Г а л а в а ч. Думаеш, мне лёгка сказаць, што так? Расчаравацца ў чалавеку — нож у сэрца. А тут сын... Адзіны... Не можа ён, Максім, быць старшынёй... Лірык! Рамантык! А тут гной, і чым больш яго, тым лепш. І потым гэты дзікі выпадак са стралянінай. Я ж таксама не хачу, каб ён пад суд трапіў... Пячатку я ў яго ўжо адабраў.

М а т у с е в і ч. Ты што? Назад, у старшыні, хочаш вярнуцца?

Г а л а в а ч. Хачу...

М а т у с е в і ч *(пасля паўзы)*. Та-ак... Як сапсавала цябе ўлада, Сямён! Прывык за трыццаць гадоў думаць, што толькі верна і правільна тое, што ты гаворыш! Што ты думаеш! Думкі нават не дапускаеш, што нехта можа быць разумнейшы за цябе...

Г а л а в а ч. Хто? Смаркачы гэтыя разумнейшыя?

М а т у с е в і ч. Бачыш, як непрыемна слухаць, што ёсць людзі разумнейшыя за цябе? Гэта ўсё ад улады... Мне таксама... Сакратар райкома, дэпутат Вярхоўнага Савета, вопыт, веды, мудрасць... А якая тут, да д'ябла, мудрасць?! Прыходзіць хлопчык і, як паршывага ката, тыцкае цябе носам у лужыну! У лужыну, якую ты напусціў!.. Вось я не баюся гэта прызнаць, а ты баішся.

Г а л а в а ч. Давай, давай, кайся! Бі сябе кулаком у грудзі! Прыгожа!

М а т у с е в і ч *(не адразу)*. Бачыш, Сямён... Мяне менш за ўсё турбуе, прыгожа гэта ці непрыгожа... І што пра мяне скажуць абывацелі.

Г а л а в а ч. Накшталт мяне?

М а т у с е в і ч. Накшталт цябе... Для мяне куды важ-

ней, што я сам пра сябе думаю. Сам. Разумееш? А падумаць мне зараз ёсць над чым.

Г а л а в а ч. Вось і скажы пра гэта на партыйнай канферэнцыі!

М а т у с е в і ч. Магчыма... А ты? Няўжо ты да гэтага часу нічога не зразумеў?

Г а л а в а ч. Чаго я не зразумеў?

М а т у с е в і ч. Што перарос цябе твой Сяргей, на дзве галавы перарос... Вось ты Палац культуры адгрукаў. І я не пярэчыў, падтрымаў цябе, лічыў, верную справу робім. Вядома, клуб патрэбен. Без яго нельга. А хто туды ходзіць? А ён, смаркач твой, прыйшоў да мяне і сказаў: людзям патрэбна агульнасць думак і інтарэсаў. Павінен быць вялікі калектыў аднадумцаў з аднолькава высокім інтэлектам! Каб ім цікава было адзін з адным! Разумееш? Цікава! Каб яны ўзбагачаліся духоўна ад гэтых сустрэч! Вось і задумаў ён стварыць гэтую агульнасць думак і інтарэсаў. Геніяльна задумаў! Праз вытворчасць! Праз вялікую тэхніку! Праз аўтаматыку! Гэты твой смаркач прымусіў нас усе пяцігадовыя планы перакрэсліць і новыя рабіць. Па ўсёй вобласці...

Г а л а в а ч. Але комплекс вы будуеце адзін на ўвесь раён! А колькі калгасаў элементарнай механізацыі не маюць?..

Паўза.

М а т у с е в і ч. А ты ведаеш, Сямён... Знаходзяцца людзі, якія ўсур'ёз даказваюць, што мы паспяшаліся з Кастрычніцкай рэвалюцыяй. Кажуць, што трэба было пачакаць гадоў пяцьдзесят, каб Расія стала такой жа эканамічна развітай, як Амерыка або Англія. А потым ужо...

Г а л а в а ч. Дэмагогія! Рэвалюцыянеры знайшліся!..

М а т у с е в і ч. Дарма іранізуеш, Сямён... Тое, што мы робім зараз у вёсцы, гэта і ёсць рэвалюцыя. Самая сапраўдная, упоравень з калектывізацыяй. Своечасова ты ўступіў месца... Памятаеш, якія прыгожыя словы гаварыў у маім кабінеце? «Трэба ўступаць дарогу тым, хто хутчэй едзе». Але ўступаць, аказалася, вунь як не проста. Нават роднаму сыну! Прывык ты да ўлады. Думаў, што яна табе пасмяротна дадзена? Што сын будзе старшынёй так, для выгляду, а камандаваць яго мазгамі будзеш ты? Хітра задумаў, нават я паверыў, што добраахвотна адмаўляешся ад улады. А ты вунь які дальнабачны. З прыцэлам!.. Вось што, Сямён... Пячатку ты яму раніцай аддай. Горш будзе,

калі я цябе на сходзе падыму і пры ўсіх прымушу пячатку вярнуць. А ты ведаеш, я гэта зраблю. Нягледзячы на тое, што было і ёсць паміж намі!

Зала калгаснага Палаца культуры. На сцэне, дзе сядзіць прэзідыум сходу, развешаны вялікія фатаграфіі, малюнкі, чарцяжы, схемы буйнога жывёлагадоўчага комплексу. Тут здымкі і вытворчых будынкаў, і высокіх сянажных вежаў, і інтэр'ера Дома жывёлаводаў з прыгожай, утульнай мэбляй.

У прэзідыуме сядзяць Матусевіч, Галавач, Жывіца, Сяргей, Пецька-матрос і Павел Журбіла. Выступае Іван Казёл, выступае злосна і заўзята.

Іван. Зарваўся наш старшыня, далей няма куды! З думкай людзей не лічыцца! На калгасную дэмакратыю яму начхаць! Што хачу, тое і варачу! Хіба мы не разумеем, чаму ён гэта зрабіў? Фактык яму для дысертацыі спатрэбіўся, вось ён і вырашыў скаціну адабраць! Забыўся, што не ён тут гаспадар, а народ! Ты яшчэ госцем у нас! Што ж далей будзе, калі ён ужо сёння зброю ў ход пускае!

Галасы:

— Правільна гаворыш!

— Дзе гэта відаць, каб у людзей страляць?

— За сваіх жа кароў!

— Глупства гаворыш, Іван! З мухі слана робіш! Ніхто ў людзей не страляў! Ён жа не ў калгас забраў кароў, а памагчы хацеў! Нам памагчы хацеў!

— Не ён страляў, дык ён загадаў!

— Нічога ён не загадваў!

— Што ж ты прапануеш, Іван? У турму яго? На катаргу?

Іван. А вось што... Трэба клікаць назад Сямёна Андрэевіча. Быў ён у нас старшынёй, старшынёй няхай і застаецца...

Голас з залы. Верна! Правільна! А з маладога штаны зняць!

Іван. А сынок яго, Сяргей Сямёнавіч, няхай сабе дысертацыю піша, навуку ўзбагачае. У нас з ім розныя дарогі.

Іван спусціўся са сцэны ў залу. Жывіца стукае алоўкам па графіне, стараючыся супяць страсці.

Жывіца. Таварышы! Таварышы! Не ператварайце сход у базар! Калі хто хоча гаварыць, давайце сюды!

Да Жывіцы нахіліўся і нешта спытаў у яго Павел Журбіла. Андрэй моўчкі кіўнуў, згаджаючыся.

Слова мае Павел Трафімавіч Журбіла! Таварышы! Я папрашу цішэй! Нельга ж так!..

Журбіла *(выйшаўшы да трыбуны)*. Ты, Іван, дармо на старшыню бочку коціш, словамі такімі раскідваешся: «дэмакратыя», «начхаў», «у людзей страляў». Мы яго нядаўна старшынёй выбралі, а ты яго ўжо дзёгцем мажаш!

Іван *(з залы)*. А ён нас — мёдам?

Журбіла. Вядома, партызанскія метады кіраўніцтва зараз непрыгодныя. Народам не камандаваць трэба, а раіцца з ім. Разумней народу нікога няма. Але ты, Іван, у корань глядзі. Ён што — выгады сабе шукаў? Славы? Грошай?

Іван *(з залы)*. Дысертацыю сваю ён хоча абараніць! Абароніць, і будзь здароў!

Журбіла. І не сорамна табе, Іван, такое глупства несці? Куды ён пойдзе, калі ўсе яго карэнні тут, у гэтай зямлі? Сяргей... Старшыня ўсім нам дабра хацеў. Ну, падумайце вы добра, паварушыце мазгамі — лёгка нам жывецца з асабістай гаспадаркай, з каровамі гэтымі?

Голас з залы. Чаму ж ты за яе так трымаешся? Аддай яе ў калгас, калі ты такі свядомы!

Журбіла. А таму і трымаюся, што без яе ніяк нельга. І з ёю ўжо далей няма куды! Мы ж з-за гэтай скаціны самі ледзь у скаціну не ператварыліся! З-за кароў і свіней дзяцей сваіх трацім! Да якога ж часу так будзе? Правільна тут гаварылі, жратвы ў нас шмат. Але ці многа радасці ад яе? Гэта ж не жратва, а закуска!

Галасы:

— А ты што, без закускі п'еш?

— Глядзі, які цвярэзнік знайшоўся!

— Не хочаш, не пі, хто цябе прымушае?

— Зняць з яго штаны!

Журбіла. Я не цвярэзнік, хоць з табой, Іван, вядома, не параўнаюся. Але скажыце мне, хіба ж гэта дабро, калі ад дабра піць хочацца?

Адчуваецца, што Журбіла закрануў самае балючае, таму што шум у зале ўзняўся неверагодны. Жывіца стукае ўжо шклянкай па графіне, але яго ніхто не чуе.

І раптам з-за стала прэзідыума падняўся і ступіў да трыбуны Матусевіч. Стаіць, чакае, і зала паціху супакойваецца.

Матусевіч *(ціха)*. Таварышы жанчыны... Я ўсіх вас прашу — устаньце.

У зале напоўз шэпт здзіўлення, пачуліся смяшкі.

Я вас вельмі прашу... Устаньце, калі ласка!

У ягоным голасе пачулася нешта такое, што жанчыны пачалі, азіраючыся адна на адну, уставаць.

А цяпер, паважаныя таварышы мужчыны, я папрашу вас... Не-не, не ўставайце!.. Паглядзіце на рукі вашых маці, жонак, нявест... Глядзіце ж, глядзіце! Яны цяпер якраз у вас перад вачыма... Я прашу таго мужчыну, які хоць адзін раз пацалаваў рукі жонкі або маці... Я прашу яго ўстаць. Няўжо няма такіх?

У зале цішыня. Моўчкі стаяць крыху засаромленыя жанчыны, моўчкі сядзяць, апусціўшы вочы долу, мужчыны.

Дзякую, жанчыны! Садзіцеся... Прабачце, што падняў вас. Ніколі не саромцеся мазалёў сваіх. Яны даражэй за любы ордэн. Чаго хацеў старшыня, якога тут некаторыя так строга судзілі? Хацеў, каб у вас было новае, прыгожае жыццё. Каб вы, прыйшоўшы дамоў з гэтых харомаў *(паказвае рукой на праект комплексу)*, прыняўшы там душ або ванну, не траплялі адразу ж у другі свет. Ён хацеў, каб вы заставаліся жанчынамі! Сяброўкамі, нявестамі, жонкамі... Каб час у вас заставаўся на пяшчоту. Не саромцеся. Вось бачыце, толькі я сказаў пра пяшчоту, а вы ўжо засаромеліся. Не трэба... Увесь свет на жаночай пяшчоце трымаецца! А вы саромеецеся яе!.. Учора адбылося пасяджэнне парткома. Ён вынес такое рашэнне... За недаацэнку грамадскай думкі і растлумачальнай работы, за непавагу калгаснікаў старшыні калгаса Сяргею Галавачу і сакратару парткома Андрэю Жывіцу вынесці строгую вымову. З занясеннем у асабістую справу...

К а з ё л *(крычыць з залы)*. Ты гэта што?! Думаеш, калі ты сакратар партыі, дык на цябе ўправы няма? Гэта цябе так партыя вучыць?!

Казёл прабіраецца да трыбуны, абураючыся на хаду.

За што ж ім вымова? За каго вымова? Сярожку вымову? Андрэю вымову? Дык гэта ж я страляў! Я! Ды прамахнуўся, спяшаючыся! Але наступны раз не прамахнуся! Чуеце, чэрві глуханямыя? Другі раз я не прамахнуся. Я ў Вялікую Айчынную лепшым кулямётчыкам у атрадзе быў! Усе фашысты мяне баяліся! Праўду я гавару, Сямён Андрэевіч, ці не?..

Салаўіны бераг. На сваім запаветным месцы абняўшыся стаяць С я р г е й і І р ы н а.

І р ы н а. Усё, Сярожа, ідзі, нельга больш, людзі ўбачаць.

С я р г е й. Ну і няхай убачаць! Мне ўсё роўна.

І р ы н а. Нельга, Сярожа. У цябе жонка.

С я р г е й. Яшчэ не жонка.

Непрыкметна падыходзіць Ж э н ь к а, спыняецца.

І р ы н а. Нявеста... А гэта тое ж самае. Ты ж любіш яе?

С я р г е й. Думаў, што люблю... Пакуль зноў цябе не ўбачыў.

І р ы н а. Значыць, я перашкодзіла вашаму шчасцю?

С я р г е й. Як жа перашкодзіла, калі я цяпер самы шчаслівы чалавек! Як тады...

І р ы н а. Пусці мяне, Сярожа. Цяпер я ведаю, што мне рабіць. Ідзі.

С я р г е й. А ты?

І р ы н а. Я тут пабуду.

С я р г е й. Я правяду цябе.

І р ы н а. Не трэба, Сярожа. Я хачу пабыць адна...

Цалуюцца. Азірнуўшыся некалькі разоў, Сяргей адыходзіць. Зрабіўшы некалькі крокаў, сустракае Жэньку.

С я р г е й. Ты?

Ж э н ь к а. А то хто ж? *(Паўза.)* Ты хоць бы параіў мне?

С я р г е й. Што?

Ж э н ь к а. Ну... Дзе я цябе знайшла? Мяне ж паслалі цябе шукаць. А хлусіць я не ўмею.

С я р г е й. Ведаю. Сам скажу.

Ж э н ь к а. Яшчэ чаго! *(Паўза.)* Паслухай, Сярожа... Хіба можна кахаць двух чалавек адразу?

С я р г е й *(паклаўшы руку на плячо Жэнькі)*. Не, нельга...

Ж э н ь к а. Тады як жа... Чаму ж ты?..

С я р г е й *(уздыхнуўшы)*. Эх, Жэнька, Жэнька! Але ты не хвалюйся. Веру я ашукваць не буду. Вось толькі як сказаць?.. Не ведаю...

Ірына пачакала, пакуль Сяргей адыдзе, і павярнулася, каб ісці ў другі бок. Павярнулася і... тварам у твар сустрэлася са сваёй м а ц і. Тая, ні слова не кажучы, б'е яе па адной шчацэ, потым па другой.

І р ы н а. Мама, што ты?! Мама!

М а ц і. Што ж ты сям'ю чужую разбіваеш?

І р ы н а. Мама!.. Я кахаю яго!

М а ц і. Раней, раней трэба было думаць пра гэта! Хочаш, каб усе ў вёсцы на нас пальцамі паказвалі? Ды калі ты... Я цябе сваімі рукамі задушу!

І р ы н а. Не бойся, мама. Табе не прыйдзецца гэта рабіць. Я выходжу замуж...

М а ц і. Ды хто ж цябе возьме такую?

І р ы н а. Іван Казёл, мама, возьме. Ён некалькі разоў сватаўся, я адмаўляла яму. А цяпер...

Дом Галавачоў. У пакой Жэнькі заходзіць В е р а.

В е р а. Жэня... Ты сумленны чалавек?

Ж э н ь к а. Не! Які ж я сумленны чалавек, калі думаю адно, а гавару зусім іншае? У дзіцячым садзіку, куды мяне брат уладкаваў да верасня, мне іншы раз гэту шпану пазабіваць хочацца! Думаю, застраліцеся вы ўсе, а ім гавару: ах вы, мае мілыя, ах вы, мае харошыя! Як вы мне ўсе падабаецеся! Праваліся я на гэтым месцы, калі ў мяне калі-небудзь будуць свае дзеці!

В е р а. Значыць, сумленная, калі можаш у такім прызнацца.

Ж э н ь к а. А чаму ты раптам спытала, сумленная — несумленная?

Замест адказу Вера падала ёй складзены ліст паперы. Жэнька чытае і адразу мяняецца ў твары, потым шукае подпіс.

В е р а. Ну?

Ж э н ь к а. На такую подласць толькі Казёл здольны! Больш няма каму! Дзе ты ўзяла?

В е р а. Знайшла раніцой на падаконніку...

Ж э н ь к а. Ён падонак, ён!.. Ён тры разы да яе сватаўся, і тры разы яна яму адмаўляла. Вось ён і вырашыў адпомсціць такім чынам! Усім адразу!

В е р а. Жэня... Ты можаш расказаць мне, што паміж імі раней было?

Ж э н ь к а. Навошта табе гэта? Што было, тое было, ужо прайшло...

В е р а. Жэня... Мне зараз праўда патрэбна... Якая ні ёсць, але праўда. Яны доўга сябравалі?

Ж э н ь к а *(не адразу і неахвотна)*. З чацвёртага кла-

са і па дзесяты... На адной парце сядзелі... У школу і са школы разам... Спачатку іх дражнілі за гэта — «жаніх і нявеста». А потым... Потым я ўжо расказвала. Ён у армію, яна замуж выйшла. Але не атрымалася ў яе шчасця... Муж утапіўся, дзіця засталося... Вось і ўсё. Больш я нічога не ведаю.

Вялікая паўза.

Вера. Жэня... Што я скажу табе зараз, ніхто не павінен ведаць... Я паеду ад вас...

Жэнька *(крычыць)*. Не! Не! Ён кахае цябе!

Вера. Але яе ён кахае больш... Я ж бачу, як ён мучыцца, як не спіць начамі... Колькі ж можна прыкідвацца?

Жэнька. Але ж ты яго кахаеш?

Вера. Кахаю...

Жэнька. Ну, вось бачыш? А каханне — гэта самае святое! За яго змагацца трэба!

Вера. Правільна, Жэня... Самае святое. Мацней за каханне можа быць толькі каханне. Сама спазнаеш, як падрасцеш...

Жэнька *(заплакала)*. Чаму вы ўсе лічыце мяне дурніцай, дзіцем? Думаеце, я не чалавек? Думаеце, у мяне сэрца няма?

Вера. Супакойся, Жэня, не трэба. Я ж таму і гавару з табою, што вельмі люблю і паважаю цябе. Як і яго... Табе было б лягчэй, калі б я сказала — разлюбіла, у мяне ёсць другі. Але я не магу цябе ашукваць. Я вось пра што цябе папрашу... Я пакіну яму пісьмо. Ты яго аддасі... Толькі абяцай мне, што зробіш гэта не адразу. Калі? Ты сама зразумееш — калі...

Жэнька. Не! Не! Не! Нікуды я цябе не адпушчу! Я тату і маме раскажу!

Вера. Жэня!.. У мяне няма больш такіх людзей, як ён і ты... Я цябе вельмі прашу. Разумееш? Вельмі!..

Жэнька. Я думала, што каханне — гэта шчасце!

Вера. А яно і ёсць шчасце, Жэня. Нават калі яно горкае, усё роўна шчасце... Але калі яно за кошт другога, гэта ўжо не шчасце.

Невялікая пешаходная дарожка, побач з якой праходзіць нябачная нам транспартная дарога. На ёй у абодва бакі грукочуць самазвалы і панелевозы. З-за маладога ляска відаць панарама будаўніцтва буйнога жывёлагадоўчага комплексу. Адтуль далятаюць

шум механізмаў, галасы і студэнцкая песня «Через тумбу-тумбу — раз!».
Схаваўшыся за дрэвам ля сцежкі, назірае за будаўніцтвам Галавач. З'яўляецца Косця Зубрыч з чамаданам.

Косця. Добры дзень, Сямён Андрэевіч!

Галавач *(здрыгануўшыся ад нечаканасці)*. Цьфу, чорт, як напалохаў! Ты, Косця?

Косця. Уласнай персонай!

Галавач. У водпуск?

Косця. Не, Сямён Андрэевіч, назусім!

Галавач. Няўжо? А навошта ж ты тады ў нагах у мяне валяўся — даведку выклянчваў, каб я цябе ў горад адпусціў?

Косця. Дык гэта калі было!

Галавач. Так і будзеш, як блыха, скакаць?

Косця. Цяпер не буду. Цяпер у вас жыццё іншае пайшло.

Галавач. Гэта ж якое-такое іншае? Тое ж самае.

Косця. Э-э, не! Вунь вы на якую справу замахнуліся! Гэткая гмахіна!

Галавач. І ты туды, вядома, галоўным інжынерам?

Косця. Навошта ж галоўным? У мяне дзве спецыяльнасці — слесар і зваршчык. Я ўсё магу! Я такі! А вы малайчына, Сямён Андрэевіч!

Галавач. Чаму я малайчына?

Косця. Такую справу раскруцілі! Размах! Маштаб! Гэта ж перспектыва якая!.. А вы самі што цяпер робіце?

Галавач *(разгублена)*. Я?.. Я... тут, на будоўлі.

Косця. Значыць, убачымся. Не, я ўсё ж забягу, гляну спачатку сюды, а потым ужо дамоў. Не церпіцца! *(Падхапіўшы чамадан, выходзіць.)*

Заўважыўшы некага, паспешліва ідзе ў другі бок Галавач. Уваходзіць Вера з чамаданам і Жэня.

Вера. Жэня... Мілая! Родная! Трымай сябе ў руках. Думаеш, мне лёгка зараз? Але жыць жа трэба, Жэня! Ну, я прашу цябе, трымайся!

Жэня. Добра...

Вера. Пакліч яго развітацца... Толькі каб ён не здагадаўся.

Жэня. Добра... *(Выходзіць.)*

Праз некалькі секунд убягае Сяргей.

С я р г е й. Вера! Чаму цяпер? Мы ж дамовіліся на вечар!

В е р а. Я вырашыла дзённым поездам. Так будзе лепш.

С я р г е й. Я б цябе падвёз. А зараз не магу!

В е р а. Не трэба. Я са спадарожнай. Ужо стаіць на дарозе, чакае мяне.

С я р г е й. Калі з маці ўсё ў парадку, не затрымлівайся.

В е р а. Добра. Я табе напішу.

С я р г е й. Лепш тэлеграмай або па тэлефоне.

В е р а. Добра...

С я р г е й. Ну, бывай, Вера. Мне яшчэ з мастакамі дасварыцца трэба па інтэр'еры. Не мастакі, а мазідлы нейкія!

В е р а. Сярожа... Можна цябе пацалаваць?

С я р г е й. Я сам хацеў гэта зрабіць!

Вера апярэдзіла яго і прытулілася да яго ўсім целам, некалькі разоў хуценька і горача пацалавала.

В е р а. Ну, бывай здароў, Сяргей-Сярожка! Не сумуй тут без мяне!

С я р г е й. Вера... Мне трэба сказаць табе нешта... Вельмі важнае для нас абоіх...

В е р а. Добра. Скажаш, калі я вярнуся.

С я р г е й. Так, цяпер не час.

В е р а. Ідзі, вунь цябе ўжо клічуць.

С я р г е й. Бывай! *(Бяжыць у бок будоўлі.)*

Уваходзіць Ж э н ь к а.

Ж э н ь к а. Ненавіджу! Ненавіджу!

В е р а. Каго?!

Ж э н ь к а. Усіх! Усіх ненавіджу!

В е р а. Жэня! Ты што гэта?!

Ж э н ь к а *(крычыць)*. А вы што? Як вы можаце хлусіць адзін аднаму?! Як могуць жыць людзі, ашукваючы адзін аднаго?! Я пытаюся — як можна жыць і ашукваць?! Каму ж мне верыць, калі вам не верыць?! Каму?!

В е р а. Жэнечка... Супакойся... Іншы раз гэта проста неабходна.

Ж э н ь к а *(крычыць)*. Ашукваць неабходна?! Неабходна ашукваць? Тады я не хачу жыць! Чуеце вы?! Я не хачу жыць!.. *(Уцякае.)*

Вера паспешліва ідзе за Жэнькай.
Гучна гучыць гарэзлівая студэнцкая песня:

Они горькую пьют,
Они песни поют
И еще кое-чем занимаются!
Через тумбу-тумбу — раз!
Через тумбу-тумбу — два!
И еще кое-чем занимаются!

Дом Галавачоў. На канапе тварам уніз ляжыць Сяргей. Нячутна ўваходзіць Жэнька з партфелем. Падыходзіць да канапы, садзіцца, доўга глядзіць на брата.

Жэнька. Выпіць хочаш?

Сяргей. Што?

Жэнька. Кажуць, калі ў чалавека гора, яму выпіць трэба. Адразу лягчэй робіцца. Я табе паўлітра прынесла і закуску. *(Дастае з партфеля бутэльку гарэлкі, шклянку, хлеб, каўбасу, некалькі агуркоў.)* Вып'еш?

Сяргей. Давай...

Жэнька няўмела адкаркоўвае бутэльку, налівае ў шклянку грамаў сто гарэлкі. Сяргей нахіляе бутэльку, наліваючы амаль поўную шклянку. Выпівае. Жэнька налівае яшчэ паўшклянкі.

Пачакай... Я не магу так адразу...

Жэнька. Гэта я сабе...

Сяргей. А ў цябе якое гора?

Жэнька. Маё гора, Сярожа, можа, большае за тваё...

Сяргей. Дай шклянку... *(Узяў з рук Жэнькі шклянку, выліў гарэлку на падлогу, пакінуўшы толькі на дне.)* Трымай...

Жэнька. Думаеш, маё гора такое маленькае?

Сяргей. Не думаю... Але хопіць.

Жэнька залпам выпіла і ледзь не задыхнулася.

Закусі, а то захмялееш адразу.

Жэнька хапае агурок і глытае яго, амаль не жуючы.

Жэнька. Ведаеш што? А сумаваць, напэўна, іншы раз карысна.

Сяргей. Няўжо?

Жэнька. Вядома! Памятаеш, як у Маякоўскага? «Кто постоянно ясен, тот, по-моему, просто глуп!»

Сяргей з павагай і са здзіўленнем глядзіць на сястру.
У пакой заходзіць стары Казёл.



Адзняць! Адзняць усю Індыю —
краіну легенд і казак!
Індыя. Дэлі.



Невядома, хто каго больш баіцца...



Сустрэча з амерыканскім пісьменнікам Білам Карэлам
у самым цэнтры Усходняй Афрыкі — Танзаніі



Такая рэдкая хвілінка адпачынку!
Яна выдалася на востраве Маўрыкій



У гасцях у Рамона Кастра Рус —
роднага брата Фідэля



Можна знайсці агульную мову,
нават... не ведаючы мовы. Занзібар

Казёл. Якое свята спраўляеш, старшыня? Жэнька, выйдзі адсюль! Мне са старшынёй пагаварыць трэба! Выйдзі адсюль!

Жэнька выскачыла з пакоя.

Знайшліся, значыць, настаўнікі? Хутка, хутка... Значыцца, гора ў віне топіш? Адно топіш, другое ўсплывае... Ну, што ляжыш? Што ляжыш? Ты бегчы павінен! На крылах ляцець!

Сяргей. Куды, Платон Раманавіч?

Казёл. Ірына твая замуж выходзіць!

Сяргей. Што?

Казёл. Ах, Сярожка, Сярожка, курыная твая галава!.. Гаварыў жа я табе, што на старшыню ўдзень і ўначы тысяча вачэй глядзіць! Усё бачаць, усё чуюць, усё ведаюць. А як жа? Галава! Не асуджаю... Таму як ведаю, што такое ёсць сапраўднае каханне. Сам быў такім калісьці...

Сяргей. За каго выходзіць?

Казёл. За Івана майго... То на парог не пускала, а то раптам сама вестку прыслала. Няхай, маўляў, сватоў прысылае, згодная. Іван, вядома, пабег. Як жа так, Сярожка? Каханне ж у вас сапраўднае, калі ты з-за яе ад такой прыгажуні адмовіўся і на людскія размовы рукой махнуў... І сын ён мне, і шкада мне яго. А кахання вашага больш шкада. Такое бог толькі адзін раз пасылае. Не збярог — на сябе наракай...

Сяргей кінуўся з пакоя.

Салаўіны бераг. Сядзіць на ім Сяргей, глядзіць на ваду. Падыходзіць Жэнька, садзіцца побач.

Жэнька. Прабач, Сярожа... Я ўчора тваю размову на тэлефоне чула.

Сяргей. Якую? Пра што?

Жэнька. Як ты Максіма Максімавіча на вяселле запрашаў... Гэта ўжо вырашана? Канчаткова?

Сяргей. Любы ты мой чалавечак... Я яе вельмі кахаю. І даўно. Шмат гадоў... Думаў, што забыў. Аказваецца... Яна мяне таксама кахае.

Жэнька. А як жа Вера? Ты яе зусім не кахаў?

Сяргей. Кахаў. Але, пэўна, менш, чым Ірыну... А потым... Ты ж бачыш... Не спадабалася ёй вёска. Не

вытрымала яна... Ты ж сама яе запіску чытала. Значыць, і яна мяне не вельмі кахала.

Паўза.

Жэнька. Не перадумаеш яшчэ раз?

Сяргей. Не. А чаму ты пытаешся? Не верыш мне?

Жэнька. Проста так. Цікаўна. Дзеці, яны заўсёды цікаўныя, заўсёды хочуць усё ведаць... Вазьмі. Гэта табе. *(Падае брату канверт.)*

Сяргей. Што гэта?

Жэнька. Не ведаю...

Сяргей *(ускрыўшы канверт)*. Ад Веры?

Але Жэнькі ўжо няма побач. Яна знікла. Сяргей пачынае чытаць пісьмо. Гучыць голас Веры.

Вера. Любы Сярожа! Прабач мне за хлусню, якую я напісала табе ў той запісцы. Я паехала таму, што вельмі кахаю цябе і хачу табе шчасця. Але ты яе кахаеш мацней, чым мяне, таму што паміж вамі ваша дзяцінства і ваша юнацтва. Усё гэта куды мацней, чым проста каханне, маё каханне. І наўрад ці зможа яна быць шчаслівай з кім-небудзь, апрача цябе. Бачыш, Сярожа, простая арыфметыка. Няхай лепш будзе нешчаслівы адзін чалавек, чым трое. Не магу я і не хачу прыкідвацца: не ўяўляю пакуль, як я буду жыць без цябе. Але стаяць паміж вамі доўгія гады — гэта вышэй маіх сіл. Я ведаю, ты, можа, і не адважыўся б на такі крок, таму адважваюся я. Бывай, любы! Веру Жэньцы, гэтаму слаўнаму, міламу чалавечку, што яна аддасць табе пісьмо не раней, чым трэба. Мне вельмі цяжка зараз, але ніякай крыўды на цябе ў мяне няма. Я ўсё жыццё буду шчаслівa тым, што сустрэла цябе. Ты мне падарыў цэлы свет. Дзякуй табе, родны. Твая Вера...

Прачытаўшы пісьмо, доўга моўчкі сядзіць Сяргей на беразе. Ен нават не заўважыў, як падышоў бацька і доўга стаяў, баючыся парушыць маўчанне. Потым усё ж не вытрымаў.

**Галавач.** Прастудзішся... На вось, вазьмі... *(Зняў з сябе і накінуў на плечы Сяргея куртку.)*

Галавач пайшоў. А Сяргей так і застаўся сядзець на беразе.

Гучыць песня:

Ох, и сладкая ж ты, будто мед золотой,
Ох, и горькая ж ты, как полынь-трава,
Моя первая, моя первая,
Моя первая и последняя,
И последняя любовь...



# АПОШНЯЯ ІНСТАНЦЫЯ

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

**Ягор Максімавіч Малахаў** — галоўны канструктар электроннай апаратуры.
**Жанчына ў белым** — **Апошняя Інстанцыя Ягора Максімавіча** — яго сумленне.
**Вера Іванаўна Малахава** — яго жонка, нейрахірург.
**Дзімка** — іх сын, студэнт юрыдычнага факультэта.
**Зіна** — аднакурсніца Дзімкі, яго нявеста.
**Аркадзь Міхайлавіч Акуліч** — пракурор горада.
**Паліна Карпаўна Цвяткова.**

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Дэкарацыя спектакля ўяўляе сабой нібы два плоскасныя папяровыя разрэзы. На другім плане — некалькі паверхаў лесвічных клетак вельмі добрага, нестандартнага дома. Па цэнтры знізу даверху паласа шырокіх акон, якія то свецяцца, то гаснуць, у залежнасці ад часу сутак. Гэтыя ж вокны адначасова служаць своеасаблівым экранам у сцэнах успамінаў — па іх паўзуць ружова-блакітныя, «перэальныя», воблакі. На лесвічных пляцоўках дзверы, якія вядуць у нечыя кватэры. Каля адных дзвярэй — дзіцячая каляска, каля другіх — веласіпед.

На першым плане «разрэз» кватэры Малахавых. І хоць дзеянне ўвесь час адбываецца ў гасцінай, па абодва бакі яе калі не відаць, то ўгадваюцца іншыя пакоі.

Прасторная гасцінная нейкі час пустуе. Потым уваходзіць Вера Іванаўна ў святочнай вячэрняй сукенцы. Ідзе да акна, доўга глядзіць на вуліцу, дзе ў блакітнаватым святле ліхтароў падае густы, буйны снег.

На лесвічнай пляцоўцы перад дзвярыма спыніўся Ягор Максімавіч. Хацеў адчыніць дзверы і... не змог. Нервова ламаючы запалкі, закурыў, зрабіў некалькі глыбокіх зацяжак. Кінуў цыгарэту і стаіць перад дзвярыма, баючыся адчыніць іх. Нарэшце адважыўся...

І вось ён ужо без паліто і шапкі ўваходзіць у гасцінную. Уваходзіць павольна, нерашуча, нібыта ў чужую кватэру.

Вера Іванаўна. Паслухайце, грамадзянін Малахаў... Калі вы яшчэ раз возьмеце білет у тэатр і назначыце некаму на гэты ж вечар дзелавое спатканне... Вы заўважылі? Я гавару — дзелавое спатканне... Што-небудзь здарылася?

Ягор Максімавіч. Не, нічога не здарылася.

Вера Іванаўна. А ўсё ж такі?

Ягор Максімавіч *(сядаючы на канапу)*. Нарада ў дырэктара зацягнулася...

Вера Іванаўна падышла і села побач з мужам.

Вера Іванаўна. А ты ведаеш... Я б параіла табе насіць цёмныя акуляры.

Ягор Максімавіч. Навошта?

Вера Іванаўна. Язык у цябе гаворыць адно, а вочы — другое. *(Устрывожана.)* Ягор! Ад цябе ж цыгарэтамі пахне! Ты што, зноў пачаў курыць?

Паўза.

Ягор Максімавіч. Разумееш, Вера... Наш Дзімка... ударыў чалавека.

Вера Іванаўна. Дзімка?! На яго што, напалі? Ён абараняўся?

Ягор Максімавіч. Абараняўся...

Вера Іванаўна. А дзе ён зараз?

Ягор Максімавіч. У следчага... Яго арыштавалі.

Вера Іванаўна. Арыштавалі? За што?! Ты ж кажаш— ён жа абараняўся!

Ягор Максімавіч. Разумееш, Вера... Справа ў тым, што ён раніў таго чалавека...

Вера Іванаўна. Раніў?

Ягор Максімавіч. Так... У галаву... У скроню...

Вера Іванаўна. Божа мой! А хто ён, той чалавек?

Ягор Максімавіч. Таксама студэнт...

Вера Іванаўна. Куды яго павезлі? Я зараз жа паеду туды!

Ягор Максімавіч. Вера... Не трэба ехаць... Позна ўжо.

Вера Іванаўна. Як позна?

Паўза.

Ягор Максімавіч. Ён памёр...

Вера Іванаўна. Памёр?! Калі?

Ягор Максімавіч. Адразу ж...

Паўза.

Вера Іванаўна *(ціха)*. Значыць... Значыць, ён забіў яго?

Ягор Максімавіч. Так...

Вялікая паўза. Вера Іванаўна маўчыць. І гэтае яе маўчанне страшней за ўсякі крык.

Вера Іванаўна. Ягор... Як гэта здарылася? Дзе?

Ягор Максімавіч. У кабінеце спецпадрыхтоўкі... Іх там было некалькі чалавек... Дзімка і ён... той хлопец... пасварыліся. Дзімка трымаў у руках нейкі жалезны кранштэйн... Ніхто не паспеў яго спыніць. Ніхто не думаў...

I зноў журдаспая цішыня. Звоніць тэлефон. Але Вера Іванаўна і Ягор Максімавіч настолькі ўзрушаны, што не чуюць званкоў. Нарэшце Вера Іванаўна пачула іх.

Вера Іванаўна *(ціха)*. Тэлефон...

Ягор Максімавіч *(падышоўшы да століка, здымае трубку)*. Малахаў... Дома... А вы не маглі б пазваніць ёй заўтра раніцай? *(Слухае.)* Вера, гэта з клінікі... У іх там нешта здарылася.

Вера Іванаўна. Слухаю... *(Доўга моўчкі слухае.)* Пачакайце... *(Апускае трубку, моўчкі сядзіць, глядзіць прама перад сабой, пераводзіць позірк на трубку, стараючыся сабрацца з думкамі.)* Усё спачатку... Так, паўтарыце ўсё спачатку... *(Слухае.)* Колькі гадоў? Ён у прытомнасці? Хто сёння дзяжурыць?.. Зрабіце рэнтгенаскапію і хутчэй пазваніце Крыўчэню. Дзе ён?.. А Лукашэвіч?..

Ягор Максімавіч. Што там у іх?

Вера Іванаўна аддала трубку мужу і зноў доўга глядзіць перад сабой, нічога не бачачы.

Вера Іванаўна. Хлопчыка прывезлі з катка. Патрэбна тэрміновая дапамога. Крыўчэня ў Маскву паехаў, а Лукашэвіча нідзе не могуць знайсці. *(Паўза.)* Ягор... Я не веру, што Дзімка зрабіў гэта свядома...

Ягор Максімавіч. Я таксама не веру...

Вера Іванаўна. Хто табе сказаў?

Ягор Максімавіч. Спачатку рэктар пазваніў, а потым з пракуратуры.

Вера Іванаўна. Хто ён... той хлопец?

Ягор Максімавіч. Студэнт апошняга курса... З іх жа факультэта. Цвяткоў. Павел Цвяткоў...

Паўза.

Вера Іванаўна. Я паеду да следчага. Я павінна ведаць, як гэта здарылася... Як ён мог гэта зрабіць?

Ягор Максімавіч. Не трэба, Вера. Я ўжо быў там. Мне не дазволілі ўбачыцца з ім.

Вера Іванаўна. Чаму?

Ягор Максімавіч. Не ведаю. Такі парадак.

Вера Іванаўна. Як гэта здарылася? Ты што-небудзь ведаеш?

Ягор Максімавіч. Не...

Зноў звоніць тэлефон. Ягор Максімавіч падыходзіць да століка, здымае трубку.

Малахаў... Не, яна падысці не можа. Што ёй перадаць? *(Слухае.)* Пачакайце... Вера, хлопчык памірае...

Вера Іванаўна. Які хлопчык?

Ягор Максімавіч. Той, у бальніцы. Нідзе не могуць знайсці Лукашэвіча... Па цябе паслалі машыну.

Вера Іванаўна *(з цяжкасцю ўстае з канапы і падыходзіць да тэлефона)*. Рыхтуйце хлопчыка да аперацыі. Будзем аперыраваць на шостым паверсе...

Працяглы званок у пярэдняй.

Ягор Максімавіч. Гэта шафёр. Пойдзем, я памагу табе апрануцца.

Вера Іванаўна спынілася перад мужам, доўга глядзіць яму ў вочы.

Вера Іванаўна. Ягор... Трэба перажыць гэту ноч. Я цябе прашу — не куры. Ты ж ведаеш, якое ў цябе сэрца... Я цябе вельмі прашу!

Ягор Максімавіч. Добра...

Выходзяць.

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

У гасціную вяртаецца Ягор Максімавіч. Падышоў да крэсла, на якім вісіць яго пінжак, дастаў з кішэні пачак цыгарэт, хацеў закурыць, але ці то ўспомніў, аб чым прасіла жонка, ці то наогул забыўся пра цыгарэту. Сеў у крэсла і задумаўся.

Паступова гасціную запаўняе густая цемната. У ёй патанаюць усе навакольныя прадметы. Застаецца асветленым толькі змярцвела бледны твар Ягора Максімавіча. Ён сядзіць нерухома, быццам удаўлены ў крэсла горам, што так нечакана абрушылася на яго. А мы чуем... рэзкі і моцны тэлефонны званок.

— Малахаў слухае...

— Гэта рэктар універсітэта Сцяпанаў... Ягор Максімавіч... Я прашу вас тэрмінова прыехаць да мяне!

— У чым справа? Чаму такая спешка? (Паўза.) Ну? Што ж вы маўчыце?

— Ягор Максімавіч... Ваш сын толькі што забіў чалавека...

І зноў цемната і цішыня.

У процілеглым баку гасцінай успыхвае яркі круг святла. У ім Жанчына ў белым. Яна доўга моўчкі глядзіць на Ягора Максімавіча.

Ягор Максімавіч *(разважаючы сам з сабой)*. Нічога не разумею... Мой сын забіў чалавека. Не на вайне, не ў бойцы... Проста так... Увесь свет узарваўся і паляцеў у бездань... Але чаму? Чаму?!

Жанчына ў белым. Гэта павінна было здарыцца... Калі не гэтая катастрофа, то другая... Чалавек доўга жыве ў крэдыт... Адзін больш, другі менш... А потым аднойчы прыходзіць дзень, калі за ўсё трэба плаціць. І вельмі дорага... Ты, Ягор, доўга жыў у крэдыт.

Ягор Максімавіч. Я нікому нічога не вінен! Усё маё жыццё на вачах.

Жанчына ў белым. Усё? Не... Вось скажы мне, чаму ты сказаў няпраўду жонцы?

Ягор Максімавіч. Калі?

Жанчына ў белым. Зараз...

Ягор Максімавіч. Я сказаў ёй праўду!

Жанчына ў белым. Але не ўсю! Калі гавораць не ўсю праўду — хлусяць! Чаму ты не сказаў ёй пра сустрэчу з Зінай? Пра тое, што пачуў ад яе? Зразумеў, што настаў дзень, калі трэба плаціць? Бачыш, нават мне баішся прызнацца?

Ягор Максімавіч *(ціха)*. Я ўжо нічога не баюся... Самае страшнае, што магло здарыцца, ужо здарылася...

Жанчына ў белым. Не, Ягор... Гэта яшчэ не самае страшнае.

Ягор Максімавіч. Што ж ужо можа быць горш?

Жанчына ў белым. Праўда... Праўда аб тваім жыцці... Аб той яго частцы, якой ніхто не ведае... Толькі я... *(Паўза.)* Я памагу яшчэ раз пражыць тваё жыццё... Не, не ўсё, толькі некалькі дзён. Калі ты зможаш... *(Паўза.)* Не кожны вытрымлівае вяртанне ў сваё мінулае, калі вяртаецца туды разам са сваім Сумленнем... Ці хопіць у цябе сіл, Ягор?

Вялікая паўза.

Ягор Максімавіч *(ціха)*. Нічога іншага мне не застаецца... Або гэта, або канец...

Жанчына ў белым. Ніхто не ведае, дзе і што ён знойдзе. Чалавек шукае пачатак, а знаходзіць канец. Іншы раз — наадварот... Ніхто не развесіў ліхтароў уздоўж дарогі, па якой ідзе чалавек. А існі ж усё роўна трэба...

Цемната.

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

З цемнаты гучыць знаёмая, крыху сумная мелодыя «Зямлянкі», якая пераносіць нас у далёкія ваенныя гады. У Малахавых сёння вечар успамінаў. Калі сцэна зноў асвятляецца, гасцінная выглядае светла і святочна. Гараць свяцільнікі, сабраныя з усіх пакояў — таршэры, настольныя лямпы, бра і люстра. На піяніна гараць тры самаробныя лямпы са снарадных гільзаў. Вера Іванаўна і Ягор Максімавіч сядзяць на канапе і разглядаюць альбом з франтавымі фатаграфіямі.

У гасцінную асцярожна ўваходзіць Дзімка.

Дзімка. Не перашкодзіў?..

Ягор Максімавіч. Дзеці заўсёды перашкаджаюць бацькам. Старая ісціна. Але што зробіш?

Дзімка. Вось іменна! Се ля ві! Каб род чалавечы не скончыўся нулём, людзі проста вымушаны заводзіць дзяцей... *(Азірае гасцінную.)* Фенаменальна! Але сядзець дома нават пры такой ілюмінацыі!..

Ягор Максімавіч. А дзе ж мы, па-твойму, павінны сядзець?

Дзімка. Як гэта дзе? У самым лепшым рэстаране! Піць добрае віно, заядаць яго выдатным шашлыком і слухаць музыку. Можна нават патанцаваць. Між іншым, танцы — лепшы сродак ад радыкуліту.

Ягор Максімавіч. Дзімка, ты сама недасканаласць. Дастаць столік у рэстаране ў нядзелю!.. Лягчэй на Месяц злятаць і назад вярнуцца.

Дзімка. Ха! Трэба было загадзя падумаць!

Ягор Максімавіч. Дзям'ян! Не падлівай масла ў вулкан. Ну, закруціўся. Выскачыла з галавы! Наконт гэтага мне ўжо зроблена адпаведнае дыпламатычнае прадстаўленне...

Вера Іванаўна. Забыць пра такі дзень! І потым яшчэ нехта кажа пра нас — дзявочая памяць!

Ягор Максімавіч. Вось бачыш? З'явіўся наследнік, і адразу ж узнік канфлікт.

Дзімка. Грамадзяне бацькі! Я вас пасварыў, я вас і пасвару. Толькі спачатку скажыце мне, як на споведзі: што вы думаеце пра свайго адзінага нашчадка?

Ягор Максімавіч. Звычайная, пасрэдная асоба.

Дзімка. Усё ж такі асоба?

Ягор Максімавіч. Але пасрэдная!

Дзімка. Разумею: педагогіка. Лепш недахваліць, чым перахваліць. Між іншым, вы мяне ўсё жыццё неда-

ацэньваеце. Добра, так і быць, дарую. Грамадзяне бацькі, папрашу на секунду заплюшчыць вочы!

Вера Іванаўна. Навошта?

Ягор Максімавіч. Каб мы не бачылі, як ён зараз падкладзе нам нейкую свінню.

Дзімка. Яшчэ адзін такі выпад, я пакрыўджуся і пайду. А вы горка пашкадуеце. Усё жыццё будзеце шкадаваць!

Вера Іванаўна. Заплюшчым?

Ягор Максімавіч. Ультыматум...

Дзімка кладзе ў руку маці адкрыты канверт.

Вера Іванаўна. Што гэта?

Дзімка. Няўжо па паху не чуваць? Тлумачу. Асобны кабінет у рэстаране «Сталічны», бутэлька каньяку ерэванскага разліву, дзве бутэлькі «Хванчкары», бутэлька шампанскага і тры бутэлькі баржомі. Ну, і адпаведная закусь.

Ягор Максімавіч. Дзімка, калі гэта розыгрыш...

Дзімка. Ха! Вы ж трымаеце ў руках рэчавы доказ!

Ягор Максімавіч. Дай глянуць... *(Бярэ ў Веры Іванаўны канверт, разглядае ўкладзены ў яго ліст паперы.)* Рахунак... І нават аплочаны.

Вера Іванаўна. Дзіма... Я... Ну, наогул, ты мяне разумееш.

Дзімка. Усё зразумеў. Варушыцеся хутчэй!

Ягор Максімавіч. Дзям'ян... Мне здаецца, што ты мой сын.

Дзімка. Мама, чаму ты не пакрыўдзілася. Па сённяшні дзень ён сумняваўся, чый я сын!

Ягор Максімавіч. Не лаві на слове. Добра. Ты ніядрэнны хлопец.

Дзімка. О, божа! Зноў гэта бацькоўская педагогіка! Ну, чаму не сказаць — міравы хлопец! Хутчэй, хутчэй!

Ягор Максімавіч. Ты нас у рэстаран запрасіў?

Дзімка. Ну, вядома!

Ягор Максімавіч. А я думаў — на пажар.

Дзімка. Баюся, які-небудзь паразіт ружы сцягне са стала.

Вера Іванаўна. Якія ружы?

Дзімка. Самыя лепшыя ў свеце. «Інтэр флора» называюцца.

Вера Іванаўна. Адкуль?

Дзімка. Ой, мама, доўга расказваць! Самае цяжкае ў гэтай аперацыі было давезці ружы ад аэрапорта да рэстарана. Усе міліцыянеры касавурыліся. Сто чалавек спынялі і пыталіся — адкуль? Сто чалавек думалі пра мяне сёння, што я спекулянт! Адзін дзівак прычапіўся, кажа: дзень нараджэння ў нявесты. Кажу — пабажыся! Пабажыўся. Я даў яму тры кветачкі. Дык ён са мной некалькі прыпынкаў ехаў, хацеў чырвонец усунуць. Ледзьве адкараскаўся... Вы гатовы?

Ягор Максімавіч *(заканчваючы завязваць гальштук)*. Амаль.

Вера Іванаўна. Дзіма, дай я цябе пацалую!

Дзімка. Пакуль ты будзеш цалавацца, там унізе, між іншым, сёе-тое цікае.

Ягор Максімавіч. Міна?

Дзімка. Якія вы ўсё ж тугадумы — старэйшае пакаленне! Вядома, фаэтон! Тупайце, тупайце хутчэй! Баюся за ружы. Ага, вось яшчэ што... На стале чатыры прыборы. Няхай гэта вас не бянтэжыць.

Вера Іванаўна. Мы будзем не адны?

Дзімка. Вам дзвюх гадзін на суперінтымныя размовы хопіць?

Ягор Максімавіч. Вядома.

Дзімка. Ну вось... Роўна ў дваццаць дзве мы прыедзем з Зінай. Калі вы, безумоўна, не супраць.

Вера Іванаўна. Ну што ты! Мы будзем вельмі рады!

Дзімка. Гаварыце-гаварыце, а ўнізе круціць!

Ягор Максімавіч. Не сын, а кат нейкі. Усё. Пайшлі. *(Вярнуўся, з парога.)* Наконт «Хванчкары» ты гэта сур'ёзна?

Дзімка. Аж дзве бутэлькі! Адтуль, разам з ружамі. Між іншым, яе цяпер і ў Грузіі не так проста дастаць.

Ягор Максімавіч. Таму і пытаюся! Маёй зарплаты хопіць, каб расплаціцца за ўсё гэта?

Дзімка. За ўсё заплочана. Не бойся, не крадзенымі. Стыпендыяй. Але калі ты захочаш вярнуць мае страты, я пярэчыць не буду.

Ягор Максімавіч. Лічы, што гэта ўжо зроблена. Ну, будзь здароў, Дзям'ян!

Малахаў і Вера Іванаўна выходзяць.
У канцы сцэны радасна гучыць песня:

А без меня, а без меня
И солнце утром не вставало б,
И солнце утром не вставало б,
Когда бы не было меня!

Цемната.

## КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

Калі сцэна зноў асвятляецца, мы бачым Жанчыну ў белым і Ягора Максімавіча ў тых жа позах, у якіх іх застаў фінал другой карціны.

Жанчына ў белым. Баішся праўды, Ягор?.. *(Паўза.)* Я ж зусім не гэта прасіла ўспомніць! Што табе расказала сёння Зіна? Чаму ты гэтага не хочаш успамінаць? Мяне баішся? А можа, іншых? Дык жа сведкаў у нас з табой няма!.. *(Паўза.)* Ты сам здагадаўся знайсці Зіну і распытаць у яе пра ўсё?

Паўза.

Ягор Максімавіч. Яна чакала мяне ў вестыбюлі універсітэта, калі я ішоў ад рэктара.

Жанчына ў белым. Вось як... У дзяўчыны больш мужнасці, чым у цябе. Тады, можа, прапусцім гэту старонку ў тваім жыцці? Зробім выгляд, што яе ніколі не было... Прасцей, спакайней...

Паўза.

Ягор Максімавіч. Не...

Цемната, а потым адразу ўспыхваюць усе свяцільнікі, сабраныя ў гасцінай, як было ў папярэдняй карціне.

Ягор Максімавіч *(выходзячы)*. Лічы, што гэта ўжо зроблена. Ну, будзь здароў, Дзям'ян!..

Выправіўшы бацьку, Дзімка ідзе да другіх дзвярэй і адчыняе іх.

Дзімка. Давай заходзь, не бойся.

Нясмела заходзіць Зіна.

Ведаеш, я страшэнна рады, што ты нарэшце прыйшла. Паслухай. Давай не будзем больш сварыцца? Няўтульна неяк адразу робіцца на планеце, калі пасварышся з добрым чалавекам. Велізарная зямля ператвараецца адразу ў малюпасенькую пясчынку, якая кудысьці ляціць... А куды? Навошта? І ты на ёй адзін. А вакол нікога... Колькі мінула, як мы з табой пасварыліся?

З і н а. Амаль два месяцы.

Д з і м к а. А мне здалося — цэлая вечнасць! Не, я, вядома, круглы ідыёт, апошняя скаціна! Прыраўнаваць цябе да гэтага жарабца Пашкі, у якога, апрача піжонскіх вусікаў і адной маленькай звіліны ў чарапку, нічога няма!.. Вось яна, рэўнасць — праклятае перажытак мінулага! Радзімая пляма капіталізму! Хочаш, стану зараз перад табой на калені і выпалю яе калёным жалезам? Дальбог, зраблю!

З і н а. Не трэба, Дзіма... Мы больш не будзем сварыцца.

Д з і м к а. Вось гэта мне толькі і трэба было пачуць! А калі я яшчэ калі-небудзь... Бі адразу па мордзе! Так, каб з катушак далоў! Добра? Ну, што ты маўчыш?

З і н а *(паказваючы на свяцільнікі)*. У вас свята? З якой нагоды?

Д з і м к а. Дваццаць пятага лістапада яны ўпершыню ўбачылі адзін аднаго. Пад Сталінградам. І вось з таго часу заўсёды адзначаюць гэты дзень. Але бацька толькі ўчора прыляцеў з камандзіроўкі і зусім забыўся. Ну, а я спецыяльна не напамінаў, каб паднесці ім сюрпрыз у канверце. Я правільна зрабіў?

З і н а. Правільна...

Д з і м к а. Я таксама думаю. *(Сур'ёзна і ціха.)* Яны ж у мяне залатыя людзі. Асабліва мама... Аперацыі ў бальніцы... І якія? У мазгах калупаецца. Хірургічным аддзяленнем кіруе... Лекцыі на кафедры. Кандыдацкую абараніла... І ўся хата на ёй трымаецца. Як паспявае, не ведаю... А ў бацькі ўсё па мінутах распісана. На нас з мамай тры мінуты ў суткі, не больш. Па-мойму, зараз ён робіць нешта для космасу.

З і н а. Яны вельмі кахаюць адзін аднаго?

Д з і м к а. І не кажы! Як маленькія! Толькі вось мяне саромеюцца. Спачатку саромеліся, што малы і дурны быў. Цяпер — што вялікі і гм-гм... Плёнку прынесла? У нас з табой яшчэ дзве гадзіны ў запасе...

З і н а. Чаму дзве?

Д з і м к а. Давай плёнку... Зараз скажу. *(Ставіць касету з плёнкай на магнітафон.)* Таму, што я ім яшчэ адзін сюрпрыз падрыхтаваў на сёння шні вечар.

З і н а. Які?

Д з і м к а *(папраўляючы гальштук)*. Не, ты спачатку скажы: я выглядаю дастаткова элегантна?

З і н а. Ты харошы.

Дзімка. Ну, ты ўжо крыху таго... А бацькі гавораць — звычайная, пасрэдная асоба. Дык вось... Праз дзве гадзіны мы заявімся да іх у рэстаран, вып'ем за іх здароўе... *(Уздыхнуў.)* Таму што за іх здароўе ўжо трэба ніць... Потым я ўстану, адкашляюся... *(кашляе)* і скажу: «Грамадзяне бацькі!..» Не... Я проста скажу: «Дарагія мама і тата! Перад вамі жаніх і нявеста. Вяселле ў будучым годзе, адразу пасля трэцяга курса...»

Зіна. Не, Дзіма...

Дзімка. Што — не?

Зіна. Ты гэтага не скажаш...

Дзімка. Чаму? Мы ж даўно вырашылі: пажэнімся адразу пасля трэцяга курса.

Зіна. Не, Дзіма... Нічога гэтага ўжо не будзе.

Дзімка. Чаму?! Хіба за гэтыя два месяцы што-небудзь змянілася?

Зіна. Змянілася...

Дзімка. Што іменна?

Зіна. Усё...

Дзімка. Растлумач. Калі ты хочаш ведаць, за гэтыя два месяцы я пакахаў цябе яшчэ больш. Я зразумеў, хто ты ёсць. Для мяне і наогул...

Зіна. Я таксама, Дзіма...

Дзімка. Тады ў чым жа справа?

Зіна *(ціха, пасля паўзы)*. Я развітацца з табой прыйшла...

Дзімка *(збянтэжана)*. Ты што, едзеш куды-небудзь? Куды? Навошта?

Зіна. Не...

Дзімка. Нічога не разумею!

Зіна. Успомні той дзень, калі мы пасварыліся...

Дзімка. А навошта мне ўспамінаць?.. Ну, я ж табе сказаў — перажытак мінулага! Радзімая пляма!

Зіна. Пачакай... Ты сказаў, што не хочаш ісці на дзень нараджэння да Віцькі Трацяка, таму што там будзе Пашка Цвяткоў... А я, маўляў, іду іменна таму, што ён там будзе... Ты яшчэ сказаў, што я самая апошняя дурніца і што ты наогул шкадуеш...

Дзімка *(перабіваючы)*. «Сказаў! Сказаў!» Ідыёт, дурань, скаціна, таму і сказаў! Язык мне цяпер адрэзаць, ці што?

Зіна. Ён да мяне заўсёды чапляўся, але ніколі не падабаўся мне.

Дзімка. Ведаю!

Зіна. І я пайшла да Трацяка. На злосць табе...

Дзімка. І гэта ведаю!

Зіна. Не ўсё ведаеш, Дзіма... *(Паўза.)* Ведаеш, як гэта балюча, калі табе не верыць чалавек, якога ты кахаеш? Які для цябе — усё! Напэўна, горш за гэта нічога не бывае.

Дзімка. Ну я ж слова даў: не будзе больш гэтага!

Зіна. Пачакай, Дзіма... Мне трэба ўсё сказаць. Таму я і прыйшла. *(Паўза.)* Дамоў мяне праводзіў Пашка Цвяткоў... Па дарозе запрасіў да сябе... І я пайшла. На злосць табе. І сабе таксама...

Вялікая паўза.

Мне без цябе тады... На ўсё напляваць... Разумееш, сонца патухла...

Паўза.

Дзімка. Навошта ты мне гэта расказваеш?

Зіна. Я заставалася ў яго да раніцы. І нікога, апрача нас, у кватэры не было... Толькі раніцай я зразумела, што адбылося...

Вялікая паўза.

Дзімка. Навошта ты ўсё гэта мне расказваеш?

Зіна *(раптам крычыць)*. Таму што мы былі адны! Разумееш ты ці не? Таму што я не магу цябе ашукваць! У вочы табе глянуць не магу! Не магу!

Зіна закрыла твар рукамі. Дзімка падышоў да яе і адняў яе рукі ад твару, трымае іх у сваіх руках.

Дзімка *(ціха)*. Зіна... Гэта я вінаваты, а не ты... Я цябе штурхнуў на гэта...

Зіна *(вырваўшы ў яго рукі)*. Замаўчы! Замаўчы!.. Няўжо ты не разумееш, што я цяпер ніколі не змагу быць з табой? Я ніколі не дарую сабе! Я ніколі не змагу пераступіць цераз гэта! Ніколі!

Паўза.

Дзімка. Зіна... Будзем лічыць, што нічога гэтага не было... Ты мне нічога не расказвала...

Зіна. Ты! Падонак! Такі ж падонак, як і ён! *(Выбягае.)*

Дзімка стаіць пасярод пакоя, прыціснуўшы кулакі да твару.

Дзімка *(крычыць)*. Будзь ты праклята, чортава пясчынка! Навошта ж ты, калі няма на табе міру нават паміж самымі блізкімі!

Цемната.

## КАРЦІНА ПЯТАЯ

Зноў Ягор Максімавіч застаецца сам-насам са сваёй Апошняй Інстанцыяй. Сядзяць і маўчаць. І ў гэтай жудаснай цішыні Ягор Максімавіч ужо каторы раз чуе сваю кароткую размову з рэктарам універсітэта, размову, якая так крута змяніла яго жыццё.

Цішыню ўзрывае ненатуральна моцны і рэзкі тэлефонны званок.

— Малахаў слухае.

— Гэта рэктар універсітэта Сцяпанаў... Ягор Максімавіч... я прашу вас тэрмінова прыехаць да мяне!

— У чым справа? Чаму такая спешка? Ну? Што ж вы маўчыце?

— Ягор Максімавіч... Ваш сын толькі што забіў чалавека...

Вялікая паўза.

Ягор Максімавіч. Калі б я ведаў...

Жанчына ў белым. Калі б ты хацеў ведаць!

Ягор Максімавіч. Хлусня! Я не мог гэтага ведаць раней!

Жанчына ў белым. Эгаісты, Ягор, заўсёды ведаюць больш пра сябе, чым пра іншых... Ён хацеў прыйсці тады ў рэстаран і не прыйшоў...

Ягор Максімавіч. Яны хацелі прыйсці разам з Зінай, але ў Зіны разбалелася галава. Так ён сказаў...

Жанчына ў белым. І ты паверыў!.. А ты ў вочы яму зазірнуў? Тады, калі ён табе гэта гаварыў, і потым? Пазней?!.

Цемната.

## КАРЦІНА ШОСТАЯ

Гасцінная Малахавых асвятляецца мяккім зялёным святлом настольнай лямпы. За акном глыбокая ноч і зоркі. У крэсле ля тэлефоннага століка сядзіць і чытае часопіс Ягор Максімавіч. Але адчуваецца, што думкі яго зараз далёка.

Ягор Максімавіч пазірае на гадзіннік, падняўся, прайшоўся па пакоі, прыкрыў шчыльней дзверы, уключыў прыёмнік, слухае ціхую музыку. Нячутна ўваходзіць Дзімка.

Дзімка. Можна да цябе?

Ягор Максімавіч. Ты хіба не спіш?

Дзімка. Ты ж таксама...

Ягор Максімавіч. Ну, мой мілы! Бяссонніца — прывілея майго ўзросту. У цябе гэта яшчэ наперадзе.

Дзімка. Ты вельмі заняты?

Ягор Максімавіч. Не... Проста чакаю аднаго званка.

Дзімка. Адтуль?

Ягор Максімавіч. Адкуль — «адтуль»?

Дзімка. Дзе заўсёды што-небудзь запускаюць...

Ягор Максімавіч. Дарагі таварыш Шэрлак Холмс! З вашай незвычайнай здагадлівасцю вы даўно ўжо маглі б ведаць, што сістэмы, якія я канструірую, зараз выкарыстоўваюцца ўсюды. Нават на вялікіх жывёлагадоўчых комплексах.

Дзімка. Стаў бы ты так хвалявацца з-за нейкіх жывёлагадоўчых комплексаў!

Ягор Максімавіч. Няўжо відаць?

Дзімка. А ты як думаў?

Ягор Максімавіч. Значыць, узрост. Вось і бяссонніца ад яго.

Дзімка. Ты мог бы знайсці для мяне мінут пятнаццаць?

Ягор Максімавіч. Што-небудзь вельмі тэрміновае?

Дзімка. Ды як табе сказаць... Хачу, каб ты памог мне рашыць адну задачу.

Ягор Максімавіч. Матэматычную?

Дзімка. Не, псіхалагічную... Але, можа, я перашкодзіў?

Ягор Максімавіч. А ты што, сам ужо не цяміш? Можа, адкладзём да раніцы, на свежую галаву?

Дзімка. Раніцай у цябе не будзе часу.

Ягор Максімавіч. Бадай, ты праўду кажаш... Заўтра... *(Глядзіць на гадзіннік.)* Не, ужо сёння мне ў восем трэба быць на заводзе. Ну, добра, так і быць, давай сваю задачку. Толькі ўлічы, што вось гэта машынка *(стукае сябе пальцам па лбе)* здорава перагрэлася за дзень ад лішку інфармацыі. У яе ж таксама свая мяжа ёсць. А аўтаматычнага засцерагальніка ёй яшчэ не прыдумалі, не паспелі. Калі ўжо згарае, дык адразу ўсё. Давай...

Дзімка *(не адразу)*. Разумееш, тата... Ёсць у мяне сябра. Ён даўно кахае адну дзяўчыну...

Ягор Максімавіч. Узаемна?

Дзімка. Узаемна. Яны ўжо і пажаніцца дамовіліся.

Ягор Максімавіч *(з лёгкай іроніяй)*. Рамэо і Джульета!

Дзімка *(сур'ёзна)*. Уяві сабе — так... І вось аднойчы ён яе прыраўнаваў... Яна вельмі прыгожая, разумная. Многія хлопцы ад яе ў захапленні. А ён па-хамску яе зняважыў. Яна пакрыўдзілася...

Ягор Максімавіч. Правільна зрабіла.

Дзімка. Але потым... Потым яна пайшла да таго, да каго ён яе прыраўнаваў, і... заставалася ў яго да раніцы.

Паўза.

Ягор Максімавіч. Пачакай, я нешта ніяк не зразумею... Што значыць — заставалася ў яго да раніцы? У іх там што-небудзь адбылося?

Дзімка *(пасля паўзы)*. Адбылося...

Ягор Максімавіч *(заклапочана)*. М-да... Сапраўды... А звесткі дакладныя?

Дзімка. Яна сама прызналася.

Ягор Максімавіч. Каму прызналася?

Дзімка. Ну... Майму сябру...

Ягор Максімавіч. Можа, саманагавор? Каб выклікаць рэўнасць?

Дзімка. Не, гэта праўда.

Ягор Максімавіч. Яна што, апошняя ідыётка? Мала таго што пайшла, яшчэ і пахваліцца надумала?

Дзімка. Не... Яна сумленны чалавек і не захацела яго ашукваць.

Ягор Максімавіч. Арыгінальнае ўяўленне ў вас аб сумленнасці! А што ж ён, твой Рамэо?

Дзімка. Ён дараваў...

Ягор Максімавіч. Дараваў?!

Дзімка. Вядома... Ён жа сам вінаваты. Не прыраўнуй ён тады...

Ягор Максімавіч. Прабач, а ён крыху не таго? *(Круціць пальцам ля скроні.)*

Дзімка. А што?

Ягор Максімавіч. Як гэта што? Ды распрасукіны вы дзеці, калі можаце так запраста кідацца гонарам! Сёння — гонар! Заўтра — сумленне! Паслязаўтра — здрадніцтва! А што-небудзь святое ў вас ёсць? Ці гэтае паняцце для вас нішто, пустое месца? Як жа вы можаце так жыць?

Паўза.

Дзімка. Тата... Але яна і зараз яго кахае.

Ягор Максімавіч. Гэтага твайго Рамэо? Ха! Кахае аднаго, а ноч праводзіць з другім! Цікава, як яна тлумачыць гэты свой звышсучасны ўчынак? Якімі матывамі?

Дзімка. Не думала, што так далёка зойдзе. Недарэчны выпадак.

Ягор Максімавіч. Вельмі лагічна і пераканаўча. Вельмі! А ў твайго сябра гордасць, самалюбства ёсць? Пачуццё ўласнай годнасці?

Дзімка. Ёсць...

Ягор Максімавіч. Не думаю. Слізняк, амёба ён, а не чалавек! Вось ты можаш уявіць, што Джульета здрадзіла Рамэо! Не, не гэта ваша сучасная, а тая — старамодная! Шэкспіраўская!

Паўза.

Дзімка. Не ведаю... Напэўна, не.

Ягор Максімавіч. Ну вось табе і рашэнне тваёй задачы. Калі моцна кахаюць адзін аднаго — не здраджваюць. А потым, Дзям'ян, давер'е, як і жыццё, губляюць толькі адзін раз. Ты сказаў, яны пажаніцца хацелі?

Дзімка. Ага...

Ягор Максімавіч. Хіба зможа ён верыць ёй пасля такога выпадку? І верыць не год, не два, не пяць, а ўсё жыццё?.. А звязваць свой лёс з чалавекам, якому не давяраеш... Гэта проста, я лічу, амаральна...

Доўгія тэлефонныя гудкі з міжгароднай станцыі. Ягор Максімавіч паспешліва хапае трубку.

Малахаў слухае... Добры вечар, Барыс Сяргеевіч... Не, я чакаў твайго званка. Давай хутчэй, што ў вас? *(Доўга слухае, паступова мяняючыся з твару.)* Ахвяры ёсць? *(Слухае.)* Не-не, без мяне нічога не чапайце. Я вылечу першым рэйсам... Так... Разам праверым. Так, да раніцы...

Паклаў трубку і доўга глядзіць на тэлефон.

Дзімка. Дрэнна?

Ягор Максімавіч *(не адразу)*. Ды ўжо горш няма куды.

Дзімка. Праз вашу апаратуру?

Ягор Максімавіч. Магчыма.

Дзімка. А больш дакладна нельга?

Ягор Максімавіч. Ёсць рэчы, пра якія не пытаюцца. Зразумеў? Ідзі спаць!

Дзімка. Зараз пайду... Што яму ўсё ж такі сказаць?

Ягор Максімавіч *(глядзіць на Дзімку не разумеючы)*. Ты пра што гэта?

Дзімка. Пра свайго сябра...

Ягор Максімавіч. Мне б зараз твае клопаты!

Дзімка. Прабач, тата. Я, як заўсёды, не ў час! *(Выходзіць.)*

Ягор Максімавіч адкрыў ключом стэлаж, дастаў папку, расклаў паперы на стале, узяў у рукі лагарыфмічную лінейку і паглыбіўся ў разлікі. Ціха ўвайшла Вера Іванаўна. Падышла да стала і села. Маўкліва і трывожна назірае за мужам. Ягор Максімавіч заўважыў яе не адразу.

Ягор Максімавіч. Во, яшчэ адна здань!..

Вера Іванаўна. Дрэнна, Ягор?

Ягор Максімавіч. Чаму ты так думаеш?

Вера Іванаўна. Ты хоць бы хлусіць жонцы навучыўся за трыццаць з лішнім гадоў.

Ягор Максімавіч. Ну, гэта ніколі не позна зрабіць. Не дом, а сапраўдная контрразведка!.. *(Не вытрымаўшы да канца жартаўлівага тону, прызнаўся.)* Дрэнна, Вера. І нават вельмі... Гэта сістэма — вяршыня ўсяго майго жыцця... За мяжой яшчэ нічога падобнага няма. І, наколькі нам вядома, у бліжэйшыя гады не прадбачыцца. Хоць і ў Амерыцы, і ў Англіі, і ў ФРГ вучоныя і канструктары працуюць у гэтым напрамку. Калі я памыліўся...

Вера Іванаўна. То што?

Ягор Максімавіч. Мне позна ўжо пачынаць усё спачатку. Не паспею...

Вера Іванаўна. Ты сумняваешся?

Ягор Максімавіч. Толькі дурні ніколі ні ў чым не сумняваюцца. Яны заўсёды ўсё і лепш за ўсіх ведаюць... Зрабі, калі ласка, каву. Толькі мацнейшую.

Вера Іванаўна. Ты ж не заснеш.

Ягор Максімавіч *(глядзіць на гадзіннік)*. А ўжо і няма калі. У сем я вылятаю.

Вера Іванаўна. Надоўга?

Ягор Максімавіч. Не ведаю. Там відаць будзе.

Вера Іванаўна. Ты Дзімку бачыў?

Ягор Максімавіч *(заняты сваімі разлікамі)*. Ён быў тут нядаўна.

Вера Іванаўна. Ты нічога не заўважыў?

Ягор Максімавіч. А што іменна?

Вера Іванаўна. Ён вельмі змяніўся ў апошні

час. Проста не пазнаць. Сядзіць увесь час у сваім пакоі.

Ягор Максімавіч. Нічога страшнага. Проста яны разышліся з Зінай.

Вера Іванаўна. Ён сам табе пра гэта сказаў?

Ягор Максімавіч. Не сказаў, а прыдумаў сапраўдны дэтэктыў пра нейкага свайго сябра, якому здрадзіла каханая...

Вера Іванаўна. На Зіну гэта не падобна.

Ягор Максімавіч. Не падобна!.. Правяла ноч з нейкім кавалерам, а потым узяла яшчэ і Дзімку пахвалілася! Вось, маўляў, якая я сучасная і незалежная! Добра яшчэ, што гэта здарылася зараз, а не пазней!

Вера Іванаўна. Ягор... Гэта ж вельмі сур'ёзна. Яны столькі гадоў сябравалі і раптам... У іх узросце такія гісторыі ўспрымаюцца драматычна...

Ягор Максімавіч. Гэта з іх адносінамі да жыцця? Кінь! Яшчэ не адзін раз закахаецца і не адзін раз расчаруецца!

Вера Іванаўна. Як ты можаш так, Ягор?

Ягор Максімавіч. Гэта не я! Гэта яны могуць! Гэта ў нас з табой старамодныя паняцці аб гонары, аб прыстойнасці! А ў іх няма! У іх свабода пачуццяў!

Паўза.

Вера Іванаўна. Ты хоць бы пагаварыў з ім па-мужчынску. Ты ж бацька...

Ягор Максімавіч *(кідаючы на стол лінейку)*. Так, я бацька! І галоўны канструктар па сумяшчальніцтву! І зарплату я атрымліваю як галоўны канструктар! Не хапае мяне на ўсё! Не хапае!

Паўза.

Вера Іванаўна *(ціха)*. Можа, мне што-небудзь пакінуць — клініку або кафедру?

Ягор Максімавіч. Я не цябе маю на ўвазе. А тых, каму дзяржава плаціць мільёны за выхаванне душ! І калі яны выхоўваюць іх так, што сёння яна можа правесці вечар з адным, а заўтра з другім і ўсё гэта лічыцца натуральным, нормай паводзін, то мільёны гэтыя ляцяць у трубу! На вецер!

Вера Іванаўна. Што ж у такім выпадку застаецца табе?

Ягор Максімавіч *(паказваючы на стол з паперамі)*. Вось гэта! Гэтага за мяне ніхто не зробіць!

Вера Іванаўна. Не разумею, хто каго канструіруе: ты машыны ці машыны цябе?

Цемната.

## КАРЦІНА СЁМАЯ

Гасціная Малахавых асвятляецца промнямі двух пражэктараў. У адным Ягор Максімавіч, у другім Жанчына ў белым.

Жанчына ў белым. Выходзіць, ты ведаў, што ён гаварыў не пра сябра, а пра сябе?

Ягор Максімавіч. А што я мог сказаць яму? Апраўдаць амаральны ўчынак? Няхай, маўляў, грашыць. бога ўсё роўна няма! Баяцца няма каго!

Жанчына ў белым. Ну, навошта ты так, Ягор? Яна зрабіла памылку, за якую будзе плаціць усё жыццё.

Ягор Максімавіч *(не адразу)*. Я не ведаў, што гэта ў яго настолькі сур'ёзна...

Жанчына ў белым. Не ведаў, што разам з каханнем паміраё жыццё?

Ягор Максімавіч. Так было калісьці...

Жанчына ў белым. І так будзе заўсёды.

Ягор Максімавіч. Усё для іх стала вельмі проста — каханне, дружба, вернасць, здрада...

Жанчына ў белым. Няпраўда, Ягор! Няпраўда... Час нацягнуў у іх такія струны... Закрані неасцярожна і... усё! Яны ў тысячу разоў вастрэй адчуваюць крыўду, знявагу, хлусню, ханжаства, крывадушнасць. Яны больш ранімыя, чым ты быў калісьці... А ранімасці сваёй саромеюцца, думаючы, што гэта слабасць, і хаваюць яе пад браваду. Сябра мярзотнікам аказаўся? Глупства! Перажывём! Што гэта ў параўнанні з вечнасцю? Каханая здрадзіла? Пляваць! Заўтра другая будзе!.. А ты гэтую гульню за сутнасць прыняў. Не хочаш убачыць, што яны ўвесь свет гатовы ўзарваць за адну маленькую несправядлівасць, якую ты, можа, нават і не заўважыў.

Паўза.

Ягор Максімавіч. Я ўжо нічога не мог паправіць. Нічога!

Жанчына ў белым. Ты хочаш сказаць — лёс?.. Не, Ягор, чалавек сам робіць свой лёс. Свой і сваіх бліз-

кіх... Вось давай паглядзім, як гэта магло быць... Магло быць, але не было!

Цемната.

## КАРЦІНА ВОСЬМАЯ

І адбыўся цуд, які, на жаль, можа адбыцца толькі ў тэатры: да чалавека вярнулася яго мінулае! Вярнуўся той самы вечар, калі Дзімка прыходзіў да бацькі за парадай. Ягор Максімавіч атрымаў магчымасць двойчы пражыць адзін і той жа час. Калі б такое было магчыма ў рэальным жыцці, наколькі шчаслівейшыя былі б людзі... Толькі што адбылася тэлефонная размова. Ягор Максімавіч паклаў трубку і доўга глядзіць на тэлефон.

Дзімка. Дрэнна?

Ягор Максімавіч *(не адразу)*. Ды ўжо горш няма куды.

Дзімка. Праз вашу апаратуру?

Ягор Максімавіч. Магчыма...

Дзімка. А больш даклацна нельга?

Ягор Максімавіч. Ёсць рэчы, аб якіх не пытаюць. Зразумеў? Ідзі спаць!

Дзімка. Зараз пайду... Што яму ўсё ж такі сказаць?

Ягор Максімавіч. Ты пра што гэта?

Дзімка. Пра свайго сябра...

Ягор Максімавіч. Мне б твае клопаты!

Дзімка. Прабач, тата. Я, як заўсёды, не ў час!.. *(Хутка ідзе да дзвярэй.)*

Ягор Максімавіч. Дзімка!

Дзімка *(спыніўся на парозе)*. Што?

Ягор Максімавіч. Пачакай. Вярніся...

Дзімка вяртаецца.

У цябе ёсць закурыць? Ну, чаго так глядзіш? Я ж ведаю, што ты даўно курыш!

Дзімка. А я ведаю, што ты кінуў даўно...

Ягор Максімавіч. Давай... *(Закурвае цыгарэту, садзіцца на канапу.)* Сядай... *(Зрабіў моўчкі некалькі зацяжак.)* Прабач... Толькі давай без гэтых самых псеўдонімаў... *(Памаўчаў, а потым ціха спытаў.)* Як гэта магло здарыцца, Дзіма? Яна заўсёды здавалася мне сур'ёзнай... Яна кахае цябе?

Дзімка. Кахае...

Ягор Максімавіч. Ты ўпэўнены ў гэтым?

Вялікая паўза.

Дзімка. Калі я... Калі яна мне ўсё расказала... Я сказаў ёй: нічога не было. Ты нічога мне не гаварыла... Не думай, што мне гэта было лёгка.

Ягор Максімавіч. А я і не думаю.

Дзімка. І яна сказала: ты такі ж падонак, як і ён! Калі можаш такое забыць і дараваць...

Паўза.

Ягор Максімавіч. Сапраўды... А можа, у іх з тым... што-небудзь сур'ёзнае?

Дзімка. Не.

Ягор Максімавіч. Чаму ты так думаеш? Бывае ж і так: кахала-кахала, а потым узяла і пакахала другога. Можа, ён той, другі, і ёсць...

Дзімка. Не... Ён хутка пахваліўся... Аказваецца, ён на тым вечары біўся ў заклад...

Ягор Максімавіч. Што гэта значыць?

Дзімка. Сказаў, што завядзе Зіну да сябе. І выйграў...

Ягор Максімавіч. Якія ж мярзотнікі ішлі з ім у гэты заклад?

Дзімка. Не мярзотнікі, тата... Проста ўсе добра ведалі, што Зіна і я... Ну, наогул, якія ў нас адносіны. Таму ніхто і не сумняваўся. Хацелі правучыць яго.

Паўза.

Ягор Максімавіч. Ты кахаеш яе?

Дзімка *(не адразу)*. Калі б не кахаў, лягчэй было б.

Ягор Максімавіч. Я пытаюся — ты зараз кахаеш яе?

Дзімка. Я табе ўжо адказаў.

Ягор Максімавіч. Я вельмі рады за цябе, Дзям'ян.

Дзімка. Рады?

Ягор Максімавіч. Самая галоўная ў жыцці перамога — над самім сабой. І ты яе атрымаў. Ты ў мяне проста малайчына... Гэта зусім розныя істоты — мужчына і чалавек. Проста мужчына — гэта малпа, павіян.

Дзімка *(сумна)*. Павіяну прасцей жыць.

Ягор Максімавіч. Магчыма... Але затое ён — павіян! І ўсё чалавечае яму недаступна — думкі, пачуцці... Не, Дзімка, атамны век не абясцэніў чалавечыя пачуцці і якасці. Зусім наадварот... Сёння жыццё чалавеку ў шмат разоў даражэй, чым сто або дзвесце гадоў

назад. І жыццё, і ўсё тое, за што мы яго любім... Павіян не разумее, а чалавек добра разумее, што ўсё гэта можа знікнуць у адно імгненне... Яркая ўспышка, чорны грыб на ўсё неба, а затым — нішто, пустата... Не, Дзімка, я ў гібель усяго чалавецтва не веру... Мне хочацца верыць, што розум усё ж такі возьме верх. Але ты сам разумееш, не маленькі... Калі вадародныя бомбы робяць, то ніякіх гарантый...

Дзімка *(горача)*. Тады чаму?.. Чаму ён, гэты твой чалавек, так лёгка, так проста топча ў гразь усё святое?! І нісколькі не шкадуе! Нават ганарыцца!

Ягор Максімавіч. Не чалавек, Дзіма, павіян. Свіння таксама ганарыцца, калі ў добрую лужыну ўляжацца.

Дзімка. Гэта не адказ!.. Гэты павіян носіць такія ж касцюмы, як і мы з табой. Нават лепшыя! Слухае тыя ж лекцыі, што і я слухаю! Дыхае тым жа паветрам, якім я дыхаю! І б'ецца аб заклад на гонар! Чаму такое магчыма? Чаму?!

Ягор Максімавіч. Дарагі ты мой Дзям'ян... З усіх пытанняў, якія чалавек задае самому сабе, гэта самае цяжкае пытанне — чаму? Ты калі размаўляў з ёю апошні раз?

Дзімка. У той вечар, калі вы былі ў рэстаране.

Ягор Максімавіч. А пазней?

Дзімка. Яна не хоча мяне бачыць, не хоча са мной гаварыць. Яна ненавідзіць мяне!

Ягор Максімавіч. Ну, ты гэта кінь. Не можа яна цябе ненавідзець.

Дзімка. Можа! Яна ўсіх цяпер ненавідзіць!

Ягор Максімавіч. Прывядзі яе да нас.

Дзімка. Я ж кажу табе — яна ні бачыць, ні чуць мяне не хоча!

Ягор Максімавіч. Добра... Калі вярнуся, я сам з ёю пагавару. Ты хочаш гэтага?

Дзімка. І ты яшчэ пытаеш?

Цемната.

## КАРЦІНА ДЗЕВЯТАЯ

Панікпуў у крэсле *Ягор Максімавіч*, прыгнечаны сваім мінулым. І, можа, не столькі тым, што было на самай справе, колькі тым, што магло б быць.

Жанчына ў белым. Вось адсюль у Дзімкі, ва ўсіх вас магло б пачацца другое жыццё. Але гэтай размовы не было...

Ягор Максімавіч. Я ніколі не шкадаваў сябе. Ні на вайне, ні пасля... Я тры разы паміраў на аперацыйным стале. Да гэтага часу я нашу над сэрцам маленькі кавалачак металу. Калі ён калі-небудзь варухнецца... Для сябе ў мяне застаецца шэсць-сем гадзін у суткі. Усё астатняе я аддаю...

Жанчына ў белым. Каму?

Ягор Максімавіч. Хіба мая справа не варта жыцця?

Жанчына ў белым. Ты ўсё жыццё паўтараў: чалавек даражэй, чалавек вышэй за ўсё! А клапаціўся толькі аб машынах!

Ягор Максімавіч. А яны для каго? Для каго яны?!

Жанчына ў белым *(з горыччу, пасля паўзы)*. Для людзей, вядома. Але ты забыўся, што ёсць на свеце твой Дзімка, на якога ў цябе заўсёды не хапала часу... І ведаеш чаму? З машынамі прасцей. Там усё зразумела: начарціў, разлічыў, сто разоў праверыў... Думаеш, праз дваццаць — трыццаць гадоў людзі будуць судзіць аб табе па тваіх машынах?

Ягор Максімавіч. Праз трыццаць гадоў мяне ўжо не будуць судзіць...

Жанчына ў белым *(горача і гнеўна)*. Будуць, Ягор! Яшчэ як будуць! Толькі не па машынах, а па тваім сыне. Што б ён ні рабіў, дабро ці зло,— гэта ты будзеш рабіць! Ён будзе змагацца за праўду і справядлівасць — гэта ты будзеш змагацца! Калі яго будуць паважаць за мужнасць і сумленнасць — гэта цябе будуць паважаць! А калі яго будуць праклінаць за подласць або здраду — гэта ж цябе будуць праклінаць. Будуць прыходзіць на Зямлю і пакідаць яе людзі... Добрыя, разумныя, таленавітыя. Геніі! Яны створаць машыны ў тысячу разоў лепшыя за тваю... Але ніхто і ніколі з іх не стане Дзімкам. Ты разумееш? Ніхто і ніколі! Усе машыны свету можна пала-

мацъ... Усе! І потым зноў пабудаваць. А вось вярнуць Дзімку...

Ягор Максімавіч. Чаму ты гаворыш аб ім, як аб мёртвым?

Жанчына ў белым. Ён жывы... Але я не ведаю, ці хопіць у яго сіл пасля ўсяго, што здарылася, стаць ля тваіх машын і кіраваць імі... Машыны нічога, яны нежывыя... А калі яму прыйдзецца кіраваць людзьмі?.. *(Паўза.)* Якому быць жыццю на Зямлі — гэта ўсё ад яго, ад Дзімкі, будзе залежаць... А ты... Ты хацеў, каб ён вырас абывацелем...

Ягор Максімавіч. Хлусня! Подлая хлусня! Я не хачу цябе больш слухаць! Не хачу! Не хачу! Знікні!

Жанчына ў белым. Але ж ты сам захацеў, каб я прыйшла...

Ягор Максімавіч. Навошта? Навошта ты прыйшла? Каб забіць мяне?

Жанчына ў белым. Не... Каб абвінавачваць.

Ягор Максімавіч. У чым ты можаш мяне абвінавачваць?

Жанчына ў белым. Ты гаварыў адно, а рабіў другое...

Цемната.

## КАРЦІНА ДЗЕСЯТАЯ

У гасцінай Малахавых працягваецца размова паміж бацькам і сынам, размова вельмі рэзкая і непрыемная для абодвух. Мы ўпершыню бачым такімі і Ягора Максімавіча і Дзімку.

Ягор Максімавіч. ...Не, Дзімка, ты мяне здзіўляеш! Чэсцае слова! Робіш выгляд, нібыта нічога асаблівага не адбылося! Калі б не я, цябе выгналі б з універсітэта! З камсамола таксама!

Дзімка. Але я, здаецца, не прасіў цябе быць маім хадайнікам. На завод мяне ўзялі б і без вышэйшай адукацыі. Не турбуйся, на твой завод я б не пайшоў!

Ягор Максімавіч. А што ты можаш на заводзе?

Дзімка. Ну ўжо як-небудзь... Не святыя гаршкі лепяць.

Ягор Максімавіч узбуджана прайшоўся некалькі разоў па пакоі і спыніўся перад Дзімкам.

Ягор Максімавіч. Я не хачу цябе дапытваць. Але ты мне ўсё ж такі адкажы: навошта ты гэта зрабіў?

Дзімка. А што я зрабіў? Я толькі сказаў, што Пашку Цвяткова нельга выбіраць суддзёй. І не таму, што яму яшчэ тры месяцы да дыплома. Да выбараў ён бы яго паспеў атрымаць. А таму, што ён мярзотнік. А мярзотнік не мае ні маральнага, ні юрыдычнага права судзіць іншых! Суддзя павінен кіравацца законам і ўласным сумленнем. А ў яго няма сумлення! Вось і ўсё, што я сказаў.

Ягор Максімавіч. Але дзе? На сходзе выбаршчыкаў!

Дзімка. Між іншым, гэтыя выбаршчыкі — нашы студэнты і выкладчыкі. Няўжо я перад імі не магу выказаць усё, што я думаю аб ім?

Ягор Максімавіч. Можаш! Але дзе-небудзь у іншым месцы! І ў больш карэктнай форме! Каб твае паводзіны не былі падобны на хуліганства!

Дзімка. Пляваць я хацеў на карэктныя формы! Чаму я павінен гаварыць праўду толькі шэптам?! Толькі з вока на вока? Чаму я не магу дурня назваць дурнем, а падлюгу — падлюгам?! Не шэптам, а моцна, каб усе чулі?!

Ягор Максімавіч. Каб такое гаварыць публічна, трэба мець важкія доказы!

Дзімка. Заручыцца дакументам на кожнае слова! За подпісам і пячаткай!

Ягор Максімавіч. Не ўтрыруй! Ва ўсякім выпадку, прад'яўляючы такія абвінавачванні, трэба мець у кішэні доказы. А калі іх няма...

Дзімка. Яны ў мяне былі! Інакш я не стаў бы гаварыць!

Ягор Максімавіч. Але калі ў цябе запатрабавалі канкрэтных фактаў, ты прамаўчаў.

Дзімка. Былі на тое прычыны...

Ягор Максімавіч. Глупства! Асабістая антыпатыя да чалавека яшчэ ніколі не была аргументам. Студэнту юрыдычнага факультэта належала б гэта ведаць!..

Дзімка. Я гэта ведаю.

Ягор Максімавіч. Тады чаму без фактаў лез на трыбуну?

Дзімка. Я не хацеў выступаць... Перад сходам я падышоў да яго і сказаў: наколькі ты падлюга і добра ведаеш гэта, дай адвод сваёй кандыдатуры. Сам дай, не чакаючы скандалу!.. Я спадзяваўся, што ў яго ёсць хоць кропля сумлення... Памыліўся.

Ягор Максімавіч. А чаму гэта гаварыў іменна ты, а не хто-небудзь іншы? І чаму цябе ніхто не падтрымаў. Чаму ўсе маўчалі?

Дзімка. Відаць, збаяліся...

Ягор Максімавіч. Усе да аднаго? Толькі адзін прынцыповы смяльчак знайшоўся?

Дзімка. Я не разумею, а чаго ты, уласна, хвалюешся? Ад строгай вымовы яшчэ ніхто не паміраў.

Ягор Максімавіч. Ведаеш што... Нават такое пакаранне, як ты лічыш — дробязнае,— біяграфію не ўпрыгожвае!

Дзімка. А мне пра біяграфію яшчэ думаць рана. Няхай Пашка Цвяткоў аб сваёй біяграфіі клапоціцца!

Ягор Максімавіч. Пра біяграфію ніколі не рана думаць. Гонар замалада берагуць!..

Дзімка. Хопіць, тата! Я не маленькі, каб тлумачыць мне такія ісціны. Ты мне лепш вось што скажы... Чаму Пашку Цвяткову, мярзотніку і кар'ерысту, больш верацъ, чым каму-небудзь іншаму? Спачатку старшынёй праўбюро факультэта выбралі... Усё яму даверылі! Стыпендыі размяркоўваць, інтэрнат, матэрыяльную дапамогу! А цяпер вось яшчэ універсітэта не скончыў, а яго кандыдатуру ўжо ў суддзі вылучаюць. І могуць жа выбраць! Па ўзросту ён падыходзіць, армію адслужыў да універсітэта...

Ягор Максімавіч. Колькі чалавек на вашым факультэце?

Дзімка. Амаль пяцьсот.

Ягор Максімавіч. Што ж выходзіць? Пяцьсот чалавек у адным нягодніку не разабраліся? Памыліліся ўсе пяцьсот? Толькі адзін разумнік, прарок знайшоўся! Ён ва ўсім разабраўся, усё лепш за ўсіх зразумеў!.. Калі нягоднік — разбяруцца. І без цябе разбяруцца! Там, дзе гэта трэба, і тыя, каму належыць! Не трэба лічыць сябе самым разумным сярод пяцісот! Не вельмі гэта сціпла атрымліваецца!..

Цемната.

## КАРЦІНА АДЗІНАЦЦАТАЯ

І зноў Ягор Максімавіч застаецца сам-насам з Апошняй Інстанцыяй.

Ягор Максімавіч *(крычыць)*. Ну, адкуль, адкуль я мог ведаць, што паміж імі адбылося?! І хто такі

Цвяткоў? Я яго ў вочы ніколі не бачыў! Я толькі сёння даведаўся пра ўсё! Ад Зіны... У чым жа мая віна?

Жанчына ў белым *(падкрэслена спакойна)*. Ты нават не спытаўся, якія аргументы ў яго былі супраць Цвяткова.

Ягор Максімавіч. Ён бы мне ўсё роўна не сказаў!

Жанчына ў белым. Сказаў бы... А ведаеш, чаму ты ў яго не спытаўся? Таму што ў той момант думаў больш пра сябе, чым пра яго.

Ягор Максімавіч. Хлусня! Зноў хлусня!

Жанчына ў белым. Чаму ты так нервуешся? Чаму ты хаваеш ад мяне вочы? Нас жа ніхто не чуе! І ніхто ніколі не даведаецца пра нашу размову... Напомніць табе, аб чым ты думаў, размаўляючы ў той вечар з Дзімкам? *(Паўза. Ягор Максімавіч маўчыць.)* Ты ўжо ведаў, што цябе вылучылі на Героя... І ты баяўся: а ці не пашкодзіць табе гэта гісторыя з Дзімкам... Залатую Зорку даюць жа не толькі за машыны... Не толькі канструктару, але і чалавеку.

Ягор Максімавіч *(задыхнуўшыся ад гневу)*. Ты! Агідная пачвара! І ты яшчэ смееш называцца Сумленнем?! Апошняй Інстанцыяй?! Я не хачу цябе больш слухаць!

Жанчына ў белым. Ты выклікаў мяне, і я цяпер не магу пайсці.

Ягор Максімавіч. Як мне пазбавіцца ад цябе?

Жанчына ў белым. Вельмі проста: ты можаш забіць мяне. І табе адразу стане лёгка жыць. Зусім лёгка, як павіяну ў джунглях! Ну, што ж ты марудзіш? Забівай! Не бойся, гэта забойства не караецца законам. За забойства сумлення яшчэ няма артыкула ў крымінальным кодэксе. На жаль...

Вялікая паўза.

Ягор Максімавіч *(зусім знясілена)*. Я ніколі не вучыў яго быць абывацелем. Ніколі...

Жанчына ў белым *(нечакана гнеўна і горача)*. Але ты гаварыў яму: жыццё цудоўнае і гарманічнае. Чалавек — гэта бог, вянец прыроды!

Ягор Максімавіч. Хіба гэта няпраўда?

Жанчына ў белым. А ён убачыў, што гэты самы бог можа быць ніягоднікам, кар'ерыстам-двурушнікам, нікчэмным прыстасаванцам! Што побач з вялікай Праўдай

баязліва і хітра хавае галаву агідная Хлусня! І што гармонія, аб якой ты яму пастаянна гаварыў, у жыцці вельмі адносная! Вось гэта яго і загубіла!..

Ягор Максімавіч. Няўжо... Няўжо я павінен быў гаварыць яму, што ў жыцці ёсць хлусня, подласць, крывадушнасць?

Жанчына ў белым. Праўдзівага чалавека, Ягор, можна выхаваць толькі праўдай. Не хлуснёй, не паўпраўдай, а праўдай, якой бы горкай і жудаснай яна ні была! Чаму ты не заўсёды гаварыў яму ўсю праўду?

Цемната.

Ягор Максімавіч. Яму яшчэ толькі дзевятнаццаць...

Жанчына ў белым. Думаеш, да дзевятнаццаці чалавеку трэба гаварыць паўпраўду? А з дваццаці — поўную праўду?.. *(Паўза.)* Праўду ніколі не рана гаварыць. А вось позна — бывае...

Ягор Максімавіч *(ціха)*. Але я ніколі не вучыў яго быць абывацелем...

Жанчына ў белым *(гнеўна)*. Ніколі? А вось гэта што? «Калі нягоднік — без цябе разбяруцца. Там, дзе гэта трэба, і тыя, каму належыць... Не трэба лічыць сябе самым разумным сярод пяцісот...» Што гэта? Твае прынцыпы, тваё крэда?

На працягу ўсёй гэтай карціны ўверсе, на лесвічнай пляцоўцы, стаіць Дзімка. Але спачатку яго не відаць. Толькі цяпер, калі на сцэне сцямнее і асвеціцца разрэз лесвічных клетак, мы ўбачым, у якім адчаі ён прытуліўся да акна. Ён нібы павіснуў у вышыні, адзінокі і бездапаможны.

Страсна і патрабавальна гучыць песня:
Спрашивайте, мальчики, спрашивайте!
Спрашивайте, мальчики, спрашивайте!
Спрашивайте, мальчики, спрашивайте!
Спрашивайте обо всем!

А вы, люди, ничего не приукрашивайте!
А вы, люди, ничего не приукрашивайте!
А вы, люди, ничего не приукрашивайте!
А вы, люди, отвечайте им — почему?!

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## КАРЦІНА ДВАНАЦЦАТАЯ

Пачаткам другой часткі з'яўляецца фінал першай. Уверсе ў адчаі прытуліўся да акна Дзімка. Страсна гучыць тая ж песня «Спрашивайте, мальчики, спрашивайте...». Калі асвятляецца сцэна, мы бачым Ягора Максімавіча і Жанчыну ў белым у тых жа позах, у якіх застаў іх фінал першай часткі.

Ягор Максімавіч. ...Але я ніколі не вучыў яго быць абываталем...

Жанчына ў белым. А вось гэта што?! «Калі нягоднік — без цябе разбяруцца. Там, дзе гэта трэба, і тыя, каму належыць! Не трэба лічыць сябе самым разумным сярод пяцісот!..» Што гэта? Твае прынцыпы?! Тваё крэда? Давай паглядзім, як гэта магло быць. Магло быць, але не было...

І зноў вяртаецца мінулае.

Дзімка. ...Добра, тата! Я не маленькі, каб тлумачыць мне такія элементарныя ісціны. Ты мне лепш вось што скажы... Чаму Пашку Цвяткову, мярзотніку і кар'ерысту, больш верацъ, чым каму-небудзь другому? Спачатку старшынёй прафбюро факультэта выбралі... Усё яму даверылі! Стыпендыі размяркоўваць, інтэрнат, матэрыяльную дапамогу. А цяпер вось яшчэ універсітэта не скончыў, а яго кандыдатуру ўжо ў суддзі вылучаюць. І могуць жа выбраць!

Ягор Максімавіч. Колькі чалавек на вашым факультэце?

Дзімка. Амаль пяцьсот...

Ягор Максімавіч. І ўсе крэтыны?

Дзімка. Не, чаму ж... Ёсць выдатныя, разумныя хлопцы. Такіх большасць.

Ягор Максімавіч. Сумняваюся!

Дзімка. У чым сумняваешся?

Ягор Максімавіч. Што большасць разумных!

Дзімка. Ну, ведаеш!.. У нас на факультэце ёсць нават два члены Саюза пісьменнікаў. Добрыя вершы і апавяданні пішуць. Іх нават у маскоўскіх часопісах друкуюць.

Ягор Максімавіч *(раптам крычыць)*. Дык чаму ж вы дазваляеце нягодніку і кар'ерысту тупаць па вашых галовах?! Вы — пяцьсот разумнікаў і два члены Саюза пісьменнікаў?!

Д з і м к а *(збянтэжана)*. Так прагаласавалі.

Я г о р М а к с і м а в і ч. Хто?! Хто прагаласаваў?!

Д з і м к а. Усе...

Я г о р М а к с і м а в і ч. І ты?! Ты таксама галасаваў?

Д з і м к а. Галасаваў...

Я г о р М а к с і м а в і ч. «За» або «супраць»?

Д з і м к а. Вядома, «за»...

Я г о р М а к с і м а в і ч. А чаму «вядома»? Ты што, быў упэўнены, што Цвяткоў іменна той чалавек, які вам патрэбен? Які павінен кіраваць?

Д з і м к а. Не, наадварот...

Я г о р М а к с і м а в і ч. Наадварот? І галасаваў «за»?!

Д з і м к а. Усе галасавалі «за», ну і я...

Я г о р М а к с і м а в і ч. Глядзіце, які кампанейскі хлопец! Але іншыя маглі не ведаць, што Цвяткоў — нягоднік! А ты сцвярджаеш, што ведаў! Ведаў і галасаваў «за»?

Д з і м к а. А што я мог зрабіць?

Я г о р М а к с і м а в і ч. Як гэта што? Пайшоў бы ў камітэт камсамола і расказаў бы там, хто такі Цвяткоў! На сходзе ўстаў бы і заявіў!

Д з і м к а. Заявіў! А што атрымалася? Персанальная справа Дзмітрыя Малахава!

Я г о р М а к с і м а в і ч. Калі ты гэта зрабіў? Пасля таго як сам жа пяць або дзесяць разоў галасаваў за Цвяткова? Пасля таго як пяцьсот разумнікаў прызналі яго самым-самым? Цяпер ведаеш, якая сіла, якія аргументы патрэбны, каб яго скінуць? Аргументы, а не кукіш у кішэні! Раней, раней трэба было думаць!

Д з і м к а. Ну, ты скажаш, баця... Камітэт камсамола рэкамендуе, а я павінен...

Я г о р М а к с і м а в і ч. Павінен! Павінен! А ты як думаў? Людзі, калі трэба было, у поўны рост уставалі і на кулямёт ішлі! І не разважалі: павінен — не павінен!

Д з і м к а. Параўнаў! Гэта ж на фронце...

Я г о р М а к с і м а в і ч. А жыццё — гэта і ёсць фронт. Няспынны і бясконцы. Па адзін бок Дабро, па другі — Зло. І таксама іншы раз трэба падняцца ў поўны рост і ісці... Як на кулямёт! А ты сядзеў на сходзе і чакаў: можа, хто-небудзь іншы ўстане і рубане праўду-матку! Хто-небудзь, а не ты! Добрая пазіцыя, зручная! Беспройгрышная! Чаму ты лічыш, што супраць нягоднікаў, супраць кар'ерыстаў павінны ваяваць райком, абком, ЦК, а не ты? Не твае пяцьсот разумнікаў?! Ды вас жа судзіць трэба за саў-

дзельніцтва з подласцю! Прыцягваць да крымінальнай адказнасці!

Дзімка. Я паспрабаваў, і бачыш, што атрымалася?

Ягор Максімавіч. Калі? Калі паспрабаваў?! Калі сам жа ў дот яго пасадзіў і кулямёт у рукі даў?.. Грош цана вашай сумленнасці, калі яна несумленнасць церпіць! Зло таму і жыве на зямлі, што Дабро занадта высакароднае, занадта ўступчывае, занадта інтэлігентнае! А Зло ва ўсе шчыліны лезе! З адной выштурхнуць, яно ў другую... Нягодніку намнога прасцей у гару караскацца, калі яго разумнікі ззаду падпіхаюць. Давай, маўляў, дарагі, паўзі, дзейнічай! А мы табе дапаможам! Нам, разумнікам, туды, у гару, быццам і няма патрэбы. А потым шэпчацеся па кутках: далёка пайшоў, нягоднік! А хто памог? Вы ж і памаглі!.. Уяўляеш, колькі дроў можа наламаць твой Цвяткоў, пакуль яго не раскусяць... Што раскусяць — не сумняваюся. Народ цяпер разумны пайшоў. Вось толькі пытанне — калі? *(Паўза.)* Ведаеш, аб чым я шкадую? Што ўрэшце будзе пакараны адзін Цвяткоў. Дадуць яму каленкам пад адно месца, на гэтым усё і скончыцца. А пяцьсот разумнікаў, якія спінамі сваімі масцілі дарогу Цвяткову, у баку застануцца! А гэта ж не яго, гэта ж іх трэба ў першую чаргу караць! Хоць, як сказаць... Можа, яны ўжо тым і пакараныя, што Цвяткоў хадзіў па іх галовах і спінах! Не хадзіў! Барыню вытанцоўваў! А яны радаваліся: давай, мілы, давай! Прытупвай! Мы пацерпім, мы прывычныя!.. Прывычныя...

Паўза.

Дзімка *(з павагай гледзячы на бацьку)*. Баця... А ты ў мяне, аказваецца, малаток!

У суседнім пакоі заскрыпелі дзверы, успыхнула святло, пачуліся ціхія галасы. Імгненна знік Дзімка. Толькі сядзіць, скурчыўшыся ў крэсле, Ягор Максімавіч.

## КАРЦІНА ТРЫНАЦЦАТАЯ

Уваходзяць Вера Іванаўна і Зіна. Зіна нерашуча спыняецца ля парога, і Ягор Максімавіч не адразу заўважае яе. Вера Іванаўна з трывогай углядаецца ў твар мужа.

Вера Іванаўна. Ты не клаўся, Ягор?

Ягор Максімавіч. Не... Як хлопчык?

В е р а  І в а н а ў н а. Будзе жыць... Ты не бачыш, каго я прывяла?

З і н а *(ціха, нерашуча)*. Добрай раніцы, Ягор Максімавіч...

Я г о р  М а к с і м а в і ч. Добрай раніцы, Зіна.

В е р а  І в а н а ў н а. Усю ноч прастаяла ў нашым пад'ездзе над лесвіцай.

Я г о р  М а к с і м а в і ч. Чаму ж ты не зайшла?

Зіна маўчыць.

В е р а  І в а н а ў н а. Вы тут пагаварыце, а я пайду чай пастаўлю. Яна ж ледзь жывая, трэба адагрэць. *(Зіне.)* Можа, лепш кавы?

З і н а. Мне ўсё роўна.

В е р а  І в а н а ў н а выходзіць. Паўза.

Я г о р  М а к с і м а в і ч. Ну, што ж ты стаіш? Сядай... *(Падыходзіць да яе, працягвае плед.)* На вось, вазьмі, сагрэйся...

Паўза.

З і н а. Ягор Максімавіч... Я магу што-небудзь зрабіць для Дзімы?

Я г о р  М а к с і м а в і ч. Не, Зіна, зараз ужо нічога нельга зрабіць. Можа, потым... Навошта ты яму сказала пра гэта?

З і н а. Пра што?

Я г о р  М а к с і м а в і ч. Ну, пра тое, што ў вас было... з Цвятковым.

З і н а. Я не магу ашукваць яго, Ягор Максімавіч... *(Паўза.)* Вы лічыце, што я не павінна была гаварыць?

Я г о р  М а к с і м а в і ч. Не, Зіна... Ты зрабіла ўсё правільна. Сказаць трэба было... Ты не ведаеш, што ў іх адбылося ў той дзень?

З і н а. Дзіма нешта сказаў яму... Цвяткоў засмяяўся. Яна, кажа, можа, з усім курсам жыла... У тым ліку і з табой... А цяпер ты па зайздрасці хочаш усё на мяне аднаго зваліць... Дзіма яго адразу ўдарыў...

Я г о р  М а к с і м а в і ч. Адкуль ты гэта ведаеш?

З і н а. Віцька Трацяк мне ўсё расказаў... Ён сядзеў ззаду за імі і ўсё чуў.

Я г о р  М а к с і м а в і ч. Чаму ён следчаму нічога не сказаў? Пыталіся ж ва ўсіх, хто быў у пакоі ў той момант...

З і н а. Дзіма загадаў яму маўчаць...

Ягор Максімавіч. Чаму?

Зіна. Дзеля мяне... *(Паўза.)* Ягор Максімавіч... Вы ненавідзіце мяне?

Ягор Максімавіч *(пасля паўзы)*. У жыцці, Зіна, так бывае, што сумленны чалавек іншы раз аказваецца бездапаможным і безабаронным супраць нягодніка... Мы пішам розныя таблічкі: «Асцярожна — слізка», «Асцярожна — пафарбавана»... А вось пісаць: «Асцярожна — падласць» не навучыліся. Саромеемся...

Заходзіць Вера Іванаўна.

Вера Іванаўна. Пайшлі каву піць. Развіднела ўжо.

Цемната.

## КАРЦІНА ЧАТЫРНАЦЦАТАЯ

Гасцінная Малахавых. Моўчкі сядзіць на канапе Ягор Максімавіч. Моўчкі стаіць ля акна, накінуўшы на плечы цёплую хустку, Вера Іванаўна. Відаць, што яны нечага чакаюць.

Вера Іванаўна. Ён сам табе пазваніў?

Ягор Максімавіч. Сам...

Вера Іванаўна. Што ён сказаў?

Ягор Максімавіч. Спытаў толькі, ці будзем мы дома. Сказаў, хачу да вас прыехаць.

Вера Іванаўна. Ён сам вядзе следства?

Ягор Максімавіч. Не... У іх гэта называецца — курыруе.

Паўза.

Вера Іванаўна. Ты раней быў з ім знаёмы?

Ягор Максімавіч. Не... Сустракаліся ў гаркоме, на нарадах актыву. Раскланьваліся... Толькі цяпер і назнаёміліся. Дзе Зіна?

Вера Іванаўна. Я прымусіла яе паесці.

Ягор Максімавіч. Няхай яна гэты час пажыве ў нас.

Вера Іванаўна. Я прапанавала ёй. Не хоча...

Ягор Максімавіч. Нельга яе зараз адпускаць...

Недзе ў пярэдняй чуецца званок.

Вера Іванаўна. Гэта, напэўна, ён. Я адчыню... *(Выходзіць.)*

Праз нейкі час Вера Іванаўна вяртаецца, прапускаючы наперад невысокага росту жанчыну ў чорнай сукенцы. У яе глыбока запалыя вочы. Уражаная Вера Іванаўна хоча аб нечым папярэдзіць мужа, знакамі паказваючы на жанчыну, але Ягор Максімавіч нічога не разумее.

Цвяткова. Добры дзень...

Ягор Максімавіч. Дзень добры... *(Не разумеючы нічога, глядзіць на жонку.)*

Паўза.

Цвяткова. Я Цвяткова... Маці Пашы...

Знясілена апусцілася на канапу Вера Іванаўна. Устаў у разгубленасці Ягор Максімавіч.

Ягор Максімавіч. Калі ласка... Сядайце. *(Падсоўвае ёй крэсла.)*

Цвяткова. Дзякую...

Доўга маўчыць. Маўчаць Вера Іванаўна і Ягор Максімавіч, не ведаючы, аб чым і як можна размаўляць з гэтай жанчынай. Нарэшце Цвяткова падняла галаву, паглядзела на Веру Іванаўну, на Ягора Максімавіча.

Ён адзін у нас быў... Усё жыццё для яго. Усё, што маглі... Я чарцёжніца, а муж палярнік... Ён рэдка бывае дома. Раз у два гады... Пісьмы часта піша. І ў кожным прасіў: ні ў чым не адмаўляй Пашу, мы з табою жывём для яго... Усё ў яго было. Матацыкл, залаты гадзіннік... Магнітафон нейкі заграпічны... Вельмі дарагі... Прыёмнік... Цяпер усё гэта засталося... І грошай мы яму ніколі не шкадавалі... Усё для яго... Ён часта гаварыў мне: мама, я буду вялікім чалавекам... *(Паўза.)* Муж нічога не ведае. Няма сувязі з вострававам, на якім ён зімуе... Што я яму скажу? Ніхто не прыйшоў на пахаванне... Рэктар пазваніў, сказаў, што будуць студэнты... Прыйшла толькі камісія, пяць чалавек... Вянок прыслалі і аркестр... *(Паўза.)* Прабачце, я пайду...

Прабачце... Забылася, навошта прыходзіла. *(Адчыняе сумачку, дастае адтуль складзены ліст паперы і працягвае яго Ягору Максімавічу.)* Я не ведаю, каму гэта трэба аддаць... Вазьміце вы... Тут я прашу, каб вашага сына не судзілі.

Ягор Максімавіч. Як... вас завуць?

Цвяткова. Цвяткова... Паліна Карпаўна.

Ягор Максімавіч. Дзякуй, Паліна Карпаўна... Гэтага не трэба.

Цвяткова. Аднаго ўжо няма... Не трэба губіць другога.

Ягор Максімавіч. Паліна Карпаўна... Дзякуй... Але гэтай паперы я ў вас не вазьму.

Цвяткова. Чаму?

Ягор Максімавіч. Гэта было б... Не трэба.

Цвяткова. Ніхто не прыйшоў на пахаванне... І я падумала... Напэўна, вашага любілі больш...

Ягор Максімавіч. Паліна Карпаўна... Я не ведаю, што можна сказаць у маім становішчы... Суцяшаць вас...

Цвяткова. А вы нічога не гаварыце. Я прынесла вам вось гэта.

Ягор Максімавіч. Можа... я магу што-небудзь зрабіць для вас? Дапамагчы?

Цвяткова. Мне нічога не трэба. Тое, што я страціла, вы мне не вернеце... Ён у вас таксама адзін быў?

Ягор Максімавіч. Адзін...

Цвяткова. Як жа вы свайго не ўберaглі? Вас двое... Вы заўсёды былі з ім... Прабачце... Усяго добрага.

Ягор Максімавіч. Усяго добрага...

Цвяткова пайшла, але не да ўваходных дзвярэй, а да тых, што вядуць у пакой Дзімкі. Вера Іванаўна знайшла ў сабе сілы ўстаць.

Вера Іванаўна. Паліна Карпаўна... Не сюды. Я правяду вас...

Цвяткова і Вера Іванаўна выходзяць. Ягор Максімавіч апускаецца на канапу.

## КАРЦІНА ПЯТНАЦЦАТАЯ

Гасцінную запаўняе густая цемната. Застаецца асветленым толькі твар Малахава. У процілеглым кутку з'яўляецца Жанчына ў белым.

Жанчына ў белым. «...Між тым, запэўніваю вас, што вы зрабілі толькі найменшае з таго, што маглі б зрабіць для іх. Вы толькі адкупіліся ад бацькоўскага абавязку грашыма, а думалі, што ўжо ўсё зрабілі. Вы забыліся, што іх маленькія душы патрабуюць няспыннага, нястомнага сутыкнення з вашымі бацькоўскімі душамі, патрабуюць, каб вы былі для іх, так сказаць, духоўна на гары, як прадмет любві, вялікай некрывадушнай павагі і цудоўнага пераймання...» «Як прадмет любві, вялікай некрывадушнай павагі і цудоўнага пераймання...» Дастаеўскі...

Ягор Максімавіч. Чаго ты зноў тут?

Жанчына ў белым. Я яшчэ не сказала галоўнага... Чалавек нараджаецца двойчы. Адзін раз у радзільным доме і другі раз, калі ён становіцца Чалавекам. Ты не даў Дзімку нарадзіцца другі раз!

Ягор Максімавіч. Ты... Ты можаш гэта даказаць?

Жанчына ў белым. Магу...

Цемната.

## КАРЦІНА ШАСНАЦЦАТАЯ

І зноў вярнулася шчаслівае мінулае сям'і Малахавых. У гасцінай Ягор Максімавіч і Дзімка.

Дзімка. ...Не, я не хачу цябе судзіць! Я проста хачу ведаць праўду. Або, можа, у мяне няма такога права — ведаць праўду? Як ты сабе гэта тлумачыш?

Ягор Максімавіч. Хочам быць шчырымі і сумленнымі.

Дзімка. Перад кім?

Ягор Максімавіч. Перад усімі. А перш за ўсё — перад сваім сумленнем. Вось таму і судзім сябе, не шкадуючы. Самым жорсткім судом. Таму і прыгаворваем сябе кожны раз да вышэйшай меры пакарання. Жорстка судзім, нягледзячы ні на чыны, ні на заслугі, ні на ўзрост. А ведаеш, Дзімка, як цяжка сумяшчаць у адной асобе і пракурора, і суддзю, і абвінавачанага! Але ў тым вось і сіла наша, што праўды не баімся.

Паўза.

Дзімка. Няўжо нельга было ўсё гэта прадбачыць, неяк прадказаць? Ёсць жа ў нас разумныя людзі!

Ягор Максімавіч. Эх, Дзімка! Дзімка! Нават самыя разумныя — усяго толькі людзі, а не богі. Прадбачыць усё, прадказаць, як яно там павернецца... Многага мы яшчэ не ведаем, на хаду пазнаваць прыходзіцца. А скорасць у нас вунь якая! І знізіць яе нельга. Не толькі перагоняць, але і раздушаць, сатруць! А ідзём мы самыя першыя, па цаліне ідзём. Вось часам і памыляемся, і дровы ламаем...

Дзімка. І якія дровы!

Ягор Максімавіч. Але ты адно зразумей... Гэта ж самае галоўнае, што ёсць у нас,— строгасць да сябе,

жорсткая суровасць. Няўжо ты хацеў бы, каб было наадварот? Не, Дзімка, усё ідзе нармальна. Дыялектыка, барацьба процілегласцей... Магчыма, мы яшчэ не раз будзем падаць. І насы будзем сабе разбіваць. І зноў уставаць будзем... Таму што — першыя.

Паўза.

Дзімка. Як ты думаеш, што б сказаў Ленін, калі б ён раптам прыйшоў сёння? Зараз?

Ягор Максімавіч. А ён сказаў, Дзімка, у свой час... Ён сказаў: таму, што адбылася рэвалюцыя, людзі святымі не сталі. І яшчэ ён сказаў — не трэба баяцца памылак, таму што на кожную нашу памылку прыходзіцца дзесяць тысяч вялікіх спраў...

І раптам нечакана з цемнаты чуецца абураны голас Жанчыны ў белым: «Ты баязлівец, Ягор! Нікчэмны баязлівец!»
Імгненна знікае ў цемнаце Дзімка, а на яго месцы ў кругу святла з'яўляецца Жанчына ў белым.

Жанчына ў белым. Не было ў вас такой размовы! Была зусім, зусім іншая размова!

Цемната.

## КАРЦІНА СЕМНАЦЦАТАЯ

Калі Сумленне вярнула мінулае, але ўжо такім, якім яно было на самай справе, мы пачынаем разумець, чаму Малахаў так баяўся ўспамінаць гэта. Моўчкі, уважліва прыслухоўваецца да размовы бацькі з сынам Жанчына ў белым. І, можа, мы толькі цяпер вось ясна ўсведамляем, што такое для чалавека Апошняя Інстанцыя, якая ўсё памятае, усё ведае, ад якой нічога не ўтоіш.

Дзімка. А вось ты мне і адкажы! Я не разумею. І хлопцы нашы таксама не разумеюць. Ну, крэтыны мы, ідыёты! Што з намі зробіш? Вось ты мне і растлумач!

Ягор Максімавіч. Што табе незразумела? Што?

Дзімка. Чаму так атрымліваецца? Сёння бог, а заўтра ледзь не д'ябал! А мне трэба жыць і верыць! Жыць, а не памыляцца!

Ягор Максімавіч. Не бярыцеся меркаваць пра тое, чаго не разумееце! Пажывіце! Павваюйце! Папакутуйце, колькі мы пакутавалі! Зрабіце, колькі мы зрабілі! І ў такіх умовах! А не на ўсім гатовенькім! Вось тады будзеце ўсіх судзіць.

Дзімка. Ды не хачу я нікога судзіць. Я проста хачу ведаць праўду! Усю!

Ягор Максімавіч. Ведаеш, як гэта называецца? Цікаўнасць праз замочную шчыліну! Хочаш стаць абывацелем і капацца ў бруднай бялізне. Абывацель гэта любіць!

Паўза.

Дзімка. Добра, згодзен. Я — мешчанін, абывацель. Махровы. Няхай будзе так. Вось ты мне і растлумач што да чаго. Можа, і я тады стану нармальным чалавекам, а не абывацелем!..

Ягор Максімавіч. Трэба ўважліва чытаць газеты.

Дзімка. Чытаў. Не зразумеў.

Ягор Максімавіч. Чаго ты не зразумеў?

Дзімка. Не зразумеў — чаму? Як гэта магло здарыцца? У нас жа дэмакратыя, партыя, у нас ЦК!

Ягор Максімавіч *(крычыць)*. Перастань, Дзімка! Замаўчы! Не смееш так лёгка, па-піжонску, кідацца святымі словамі. Усяму ёсць мяжа!

Дзімка. На ўсіх будзеш крычаць? Ці толькі на мяне аднаго?

Дзімка не дагаварыў, Ягор Максімавіч даў яму аплявуху.

Ягор Максімавіч. Замаўчы!

Паўза.

Загучаў вакаліз песні «Спрашивайте, мальчики, спрашивайте...».

Дзімка *(ціха)*. Дзякуй, тата... Гэта вельмі моцны аргумент...

Цемната.

## КАРЦІНА ВАСЕМНАЦЦАТАЯ

Яны засталіся сам-насам апошні раз — Ягор Максімавіч і яго Апошняя Інстанцыя. Яна — каб вынесці канчатковы бязлітасны прысуд. Ён — каб выслухаць яго і пасля гэтага жыць або... памерці. Доўга сядзяць моўчкі.

Жанчына ў белым. Бязбацькаўшчына пры жывым бацьку... Страшэнна, Ягор!

Паўза.

Ягор Максімавіч. Няўжо я нічога не даў яму? За ўсё жыццё?

Жанчына ў белым. Не, чаму ж... Ён добры і сумленны... Толькі дабрата яго бездапаможная. Ты яго зрабіў такім.

Я г о р  М а к с і м а в і ч. Кожны з майго пакалення нацярпеўся не толькі за сябе... На ўсіх унукаў і праўнукаў хопіць тых пакут.

Ж а н ч ы н а  ў  б е л ы м. Ад жыцця хацеў уберагчы... Вось ён сустрэў на сваім шляху аднаго нягодніка, і гэта здалося яму катастрофай усяго — веры, ідэалаў, справядлівасці... Ён зрабіў жудаснае злачынства — забіў чалавека, думаючы, што робіць дабро. *(Паўза.)* Ці гатовы ты выслухаць мяне ў апошні раз?

Я г о р  М а к с і м а в і ч. Так...

Абое ўстаюць.

Ж а н ч ы н а  ў  б е л ы м. Ці прызнаеш ты сябе вінаватым у тым, што адзінага свайго сына выхаваў абывацелем?

Я г о р  М а к с і м а в і ч. Не! Не прызнаю! Абывацель — баязлівец! А Дзімка забіў нягодніка. Ён змагаўся супраць зла!

Ж а н ч ы н а  ў  б е л ы м. Твой сын узняўся супраць зла толькі тады, калі яно закранула яго самога. І не заўважаў зла, калі яно губіла іншых. Ты яго зрабіў такім!.. *(Паўза.)* Ці прызнаеш ты сябе вінаватым у баязлівасці і здрадніцтве?

Я г о р  М а к с і м а в і ч. Не! Я нікому і ніколі не здраджваў!

Ж а н ч ы н а  ў  б е л ы м. Праўдзе... А разам з ёй і сыну. Такое нікому не даруецца.

Я г о р  М а к с і м а в і ч. Не! Не!

Ж а н ч ы н а  ў  б е л ы м. Засталося апошняе... Ягор Малахаў, ці прызнаеш ты сябе вінаватым у тым, што забіў чалавека? *(Паўза.)* Яшчэ раз пытаюся: ці прызнаеш ты сябе вінаватым у забойстве Цвяткова?

Ягор Максімавіч маўчыць, потым доўга і ўважліва глядзіць на Жанчыну ў белым. Так і застае іх цемната — яны пільна глядзяць адзін аднаму ў вочы.

## КАРЦІНА ДЗЕВЯТНАЦЦАТАЯ

Уваходзяць В е р а  І в а н а ў н а  і  А к у л і ч.

А к у л і ч. Дзень добры, Ягор Максімавіч.

Я г о р  М а к с і м а в і ч. Добры дзень, Аркадзь Міхайлавіч. Сядайце.

В е р а  І в а н а ў н а *(працягваючы размову)*. А вы самі, Аркадзь Міхайлавіч, гаварылі з ім?

А к у л і ч. І не адзін раз.

В е р а  І в а н а ў н а. Што вы пра ўсё гэта думаеце?

А к у л і ч. Як вам сказаць, Вера Іванаўна... Калі сумленна... Мы яшчэ самі не разабраліся. Безумоўна, прасцей за ўсё ўбачыць у гэтым выпадку звычайнае забойства з-за рэўнасці... Каханне, помста за зняважанае пачуццё. Усім было б лягчэй. Але тут нешта іншае.

В е р а  І в а н а ў н а. А што?

А к у л і ч. Калі б я ведаў... Хачу ведаць. Як чалавек, я шкадую яго. Забойства — самае цяжкае злачынства. І судзім мы за яго заўсёды вельмі строга... А ён адмовіўся ад адваката.

В е р а  І в а н а ў н а. Чаму?

А к у л і ч. Кажа, будзе абараняць сябе сам.

В е р а  І в а н а ў н а. Ён жа зусім яшчэ дзіця!

А к у л і ч. Памыляецеся, Вера Іванаўна... Прабачце, у вас можна закурыць?

В е р а  І в а н а ў н а. Калі ласка.

А к у л і ч *(закурваючы)*. Хоць юнацкага максімалізму ў яго на трох... *(У хваляванні ходзіць па пакоі.)* Заўсёды мы ацэньваем гэты максімалізм чамусьці толькі крытычна. А чаму? Баімся мы яго, ці што? Так, напэўна, баімся. Падсвядома. Не вытрымлівае наш жыццёвы практыцызм канкурэнцыі з ім. А іх максімалізм — сама бескарыснасць!.. Вось павярнуць бы яго толькі ў патрэбным напрамку... З гэтых чалавечкаў такія чалавекі выйдуць! Яны іменна і будуць амбразуры закрываць... Калі спатрэбіцца... А мы? Здымаем стружку, прабіраем, ламаем іх максімалізм і так і гэтак! А за што? За тую сумленнасць, якой самі ж іх і навучылі! Разумееце... У іх няма, як у нас з вамі, учарашняга дня. Толькі сённяшні і заўтрашні. Яны вельмі спяшаюцца і ўвесь час забягаюць у заўтрашні. А мы з вамі яшчэ недзе ў сваім часе сядзім... І хочам іншы раз вымяраць іх меркай свайго часу, не заўважаючы, што сям-там гэты аршын ужо не падыходзіць. Малаваты!.. Мы ж самі былі калісьці такімі! Успомніце... Выключалі з камсамола за тое, што чалавек завязаў гальштук і пайшоў на танцы... Мы спрачаліся аб танцах і гальштуках, а яны аб іншым — час іншы... І потым, вочы ў нас розныя. Мы бачым адно, яны — другое.

Я г о р  М а к с і м а в і ч. Вы хочаце сказаць — праблема бацькоў і дзяцей?

А к у л і ч. Не. Праблема дрэнных бацькоў і дзяцей. Дзеці ж не могуць быць дрэннымі самі па сабе. Хто яны? Воск! А хто з іх лепіць фігуры? Мы, бацькі... Прабачце, я не пра вас асабіста. Я наогул. Хоць і пра вас таксама. Я пракурор і павінен абвінавачваць. Вось я і абвінавачваю... У мяне сваіх двое, такія ж, як ваш Дзімка... Іншы раз, каб адказаць на адно іх «чаму?», увесь марксізм успомніць прыходзіцца. Бывае, цярпення не хопіць, сарвешся, накрычыш, прагоніш, а супакоішся крыху і думаеш: на каго крычаў? На самога сябе крычаў... *(Спахапіўся.)* Прабачце, калі ласка. Я ж прыйшоў да вас... Я не веру, што Дзімка забіў гэтага хлопца наўмысна, свядома... Інтуіцыя плюс вопыт. Тыповы выпадак саманагавору. А даказаць... Дарэчы, Ягор Максімавіч, вы вельмі дапамаглі следству.

Я г о р М а к с і м а в і ч. Я? Якім чынам?

А к у л і ч. Калі расказалі аб тым, што адбылося паміж вашым сынам, Старавойтавай і Цвятковым. У кішэні ў Цвяткова мы знайшлі запісную кніжку. Звычайная. Нічога асаблівага... Але ёсць у ёй адна загадкавая старонка. Толькі літары і даты. Мы ніяк не маглі іх расшыфраваць, пакуль не спыталі ў Старавойтавай, калі быў той... дзень нараджэння. І аказалася, што кожныя тры літары — гэта прозвішча, імя і імя па бацьку. С. З. П. у гэтым спісе апошняя, дзевятая...

В е р а І в а н а ў н а. Прабачце, Аркадзь Міхайлавіч... Я нічога не разумею.

А к у л і ч. С. З. П.— Старавойтава Зінаіда Пятроўна. А дата... Той самы дзень нараджэння...

В е р а І в а н а ў н а. Божа мой! А Дзімка ведаў пра гэта?

А к у л і ч. Не думаю. Хоць і не выключаю. Цвяткоў добра маскіраваўся пад прыстойнага хлопца.

В е р а І в а н а ў н а. Аркадзь Міхайлавіч... Можна так зрабіць, каб гэтага спісу не было?

А к у л і ч. Не разумею... Ён можа сведчыць толькі ў карысць вашага сына. Ускосна, вядома...

Паўза.

В е р а І в а н а ў н а. У нас толькі што была маці Цвяткова... Яна прыносіла нам пісьмо...

А к у л і ч. Якое пісьмо?

В е р а І в а н а ў н а. Заява... Просіць не судзіць Дзімку... Няхай яна нічога не ведае пра гэты спіс.

А к у л і ч. Добра. Я падумаю. Ва ўсякім выпадку, можна будзе не чытаць яго ў адкрытым пасяджэнні... Дык вось, я не веру, што Дзімка забіў яго наўмысна. Ён проста баіцца: калі ён скажа цяпер, што не хацеў забіваць, усе падумаюць — збаяўся. Вось ён і вырашыў іграць у героя! Доказаў, што гэта так, у мяне ніякіх. А ён заладзіў адно і тое ж — хацеў знішчыць нягодніка. За што? Па ідэйных меркаваннях. Вось як!

В е р а І в а н а ў н а. Не мог ён забіць свядома! Не мог!

А к у л і ч. Я ўпэўнены ў гэтым. Таму і прыехаў да вас. Угаварыце яго сказаць нам праўду. Справа зусім не ў розных артыкулах крымінальнага кодэкса... У яго ўсё жыццё наперадзе.

В е р а І в а н а ў н а. Калі вы дазволіце нам спатканне з ім?

А к у л і ч. Я прывёз яго з сабой, хоць гэтым самым груба парушыў літару закона. Але ж пракурор таксама чалавек, як гэта ні дзіўна.

В е р а І в а н а ў н а. Дзе ён?

А к у л і ч. Унізе, у машыне. Я зараз спушчуся па яго. У часе я вас не абмяжоўваю. Я пачакаю... Пастарайцеся яго пераканаць. Толькі ў мяне да вас просьба... *(Збянтэжана.)* У вас ёсць кава?

В е р а І в а н а ў н а. Ёсць.

А к у л і ч. З вашага дазволу я звару сабе... Тры ночы ўжо не сплю. Задаў ён нам работку! Дзе ў вас кухня?

В е р а І в а н а ў н а. Я пакажу. Я скажу Зіне, яна вам зварыць.

А к у л і ч. Зіна? Старавойтава? Яна ў вас?

В е р а І в а н а ў н а. Так...

А к у л і ч. Ну што ж... Гэта нават лепш.

А к у л і ч і В е р а І в а н а ў н а выходзяць. Праз некаторы час В е р а І в а н а ў н а вяртаецца.

Ягор Максімавіч і Вера Іванаўна моўчкі глядзяць на дзверы. Чакаюць. Адчыніліся дзверы, і цераз парог пераступіў Д з і м к а. Ён разгублена спыніўся ля парога, не ведаючы, што яму рабіць — ці то кінуцца да маці, ці то чакаць, пакуль яна сама падыдзе да яго.

Д з і м к а. Добры дзень...

В е р а І в а н а ў н а *(амаль нячутна)*. Дзіма... Дзіма... *(Падзывае яго да сябе рукой.)*

Дзімка нерашуча падышоў да маці. Вера Іванаўна абняла яго, пацалавала, а потым, адхіліўшы яго ад сябе, доўга глядзіць яму ў вочы.

Дзіма... Як жа гэта ты?

Д з і м к а. Даруй мне, мама...

В е р а І в а н а ў н а. Ты ж не хацеў яго забіваць? Праўда?

Д з і м к а. Ён хацеў стаць суддзёй... Разумееце... Ён мог бы судзіць людзей!..

Я г о р М а к с і м а в і ч. Дзіма... Я ўпэўнены, што гэтага не здарылася б. Можна ашукаць пяць, дзесяць чалавек. Але нельга ашукаць усіх.

Д з і м к а. Гэты ашукаў бы ўсіх!

Паўза.

Я г о р М а к с і м а в і ч. Чаму ты адмовіўся ад абароны?

Д з і м к а. Ніякай абароны ад справядлівага суда мне не трэба. А я веру ў справядлівасць суда.

Я г о р М а к с і м а в і ч. Але такі парадак. Кожны абвінавачваемы павінен мець адваката...

Д з і м к а. ...і ў абавязковым парадку, калі справа звязана з забойствам. Я гэта ведаю. І ўсё роўна ніякай абароны мне не трэба. Што зарабіў, тое і атрымаю. Ні больш ні менш...

В е р а І в а н а ў н а. *(ціха)*. Ягор... Памажы...

Я г о р М а к с і м а в і ч. Што з табой, Вера?

В е р а І в а н а ў н а *(неяк дзіўна, вінавата ўсміхаючыся)*. З сэрцам нешта... Вы пакуль пагаварыце, а я крыху паляжу...

Д з і м к а. Што з табой, мама?

В е р а І в а н а ў н а. Нічога, сынок, нічога... Ты пагавары з бацькам, а я паляжу. Я зараз прыйду. Прабач...

Я г о р М а к с і м а в і ч, асцярожна падтрымліваючы, выводзіць В е р у І в а н а ў н у. Дзімка спыняецца сярод пакоя, не ведаючы, пайсці яму за імі або заставацца тут.

Уваходзіць З і н а.

З і н а. Добры дзень, Дзіма...

Д з і м к а. Зіна! Ты тут?

Ідуць адзін аднаму насустрач, доўга моўчкі глядзяць адзін на аднаго.

З і н а. Дзіма!.. А ты... Ты зусім дарослы стаў...

Д з і м к а. Акселерацыя... Ранняя ўзмужнеласць.

Паўза.
Дзімка ўсміхаецца, гледзячы на Зіну.

Зіна. Дзіма... Навошта ты гэта зрабіў? Не, мне не трэба яго... Але ты...

Дзімка. Зіна... Тое, што я скажу табе зараз, застанецца паміж намі. Слова?

Зіна моўчкі ківае.

Разумееш... Не хацеў я забіваць гэтага падонка... Але ён сказаў мне такое пра цябе!.. Я хацеў даць яму па мордзе. Так даць, каб ён усё жыццё гэты заклад памятаў!.. І зусім забыўся пра гэты кранштэйн у руцэ...

Зіна. Навошта ж ты тады...

Дзімка. Таму што рана ці позна... Усё роўна нашы дарожкі сышліся б... Не, не праз цябе... У нас з ім была псіхалагічная... Не, хутчэй ідэалагічная несумяшчальнасць...

Уваходзіць Акуліч, глядзіць на Дзімку, потым на Зіну.

Акуліч. Дзіма... Ідзі да мамы... Вы таксама ідзіце з ім.

Дзімка і Зіна выходзяць. Акуліч хутка ідзе да тэлефона і набірае нумар.

Фёдар Рыгоравіч? Гэта Акуліч. Вось што... Следства трэба на некалькі дзён спыніць. Малахава я пакідаю дома... Не, ніякай падпіскі не трэба. Адказнасць бяру на сябе... Не ўцячэ... Уцякаць яму няма куды. У яго толькі што памерла маці...

Акуліч цяжка апускаецца ў крэсла, забыўшыся пакласці трубку на апарат. Трывожныя гудкі тэлефона паступова пераходзяць у музыку.

*Канец*



# МУЖЧЫНА, БУДЗЬ МУЖЧЫНАМ, або Уваскрэсенне Дон Кіхота

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Дон Кіхот Ламанчскі.
Андрэй, Косця, Барыс — дзевяцікласнікі.
Юлька.
Мальвіна.
Арцём — сямікласнік.
Каваленак — старшыня калгаса.
Васілевіч — брыгадзір.
Першая маці.
Другая маці.
Трэцяя маці.
Першая дзяўчына.
Другая дзяўчына.
Трэцяя дзяўчына.

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Успыхвае прамень пражэктара і асвятляе ў глыбіні сцэны помнік Дон Кіхота Ламанчскага. Дон Кіхот стаіць на пастаменце ва ўсёй прыгажосці рыцарскіх даспехаў. Урачыстыя гукі фанфар прадвяшчаюць, што зараз мы станем сведкамі нечуванага цуда. І гэты цуд адбыўся: на нашых вачах уваскрэснуў Дон Кіхот.

Дон Кіхот *(саскокваючы з пастамента)*. Не!.. Я не магу, не маю права заставацца скамянелым помнікам! На маіх вачах коціцца ў бездань, гіне чалавецтва! Мужчыны забыліся, што яны народжаны для рыцарскіх подзвігаў і сталі бездапаможнымі, кволымі стварэннямі! Дульцынеі Табоскія, гэтыя зямныя багіні харства і прыгажосці, сталі паслухмянымі выканаўцамі мужчынскіх прыхамацей, ператварыліся ў звычайных жанчын. О, які сорам! Якая ганьба! Калі я не ўмяшаюся, чалавецтва загіне без рыцараў! Ганебныя страсці ахопяць зямлю, не пакінуўшы на ёй месца для высакародных пачуццяў. О, не! Уваскрэсшы сам, я павінен уваскрасіць і дух рыцарства! Я, Дон Кіхот Ламанчскі, Рыцар сумнага вобразу, устаўшы з цемры небыцця, клянуся здзейсніць гэты свой намер! *(Спявае.)*

Я прайшоў лясы і долы,
Пераплыў дзесяткі рэк —
Паглядзець на невядомы,
Малады дваццаты век.

Я трывожыўся нямала
І, здаецца, нездарма:
Кажуць, рыцараў не стала,
Кажуць, рыцараў няма!

Што ж вы, рыцары, замоўклі?
Ці ў душы агонь пагас?

Ці вятры дарог далёкіх
Прытупілі шпагі ў вас?

Жыць сумленна і прыгожа
Абавязан чалавек!
Быць без рыцараў не можа
Малады дваццаты век! *

Гасне пражэктар, і амаль адразу ж успыхвае некалькі пражэктараў, асвятляючы вуліцу сучаснай калгаснай вёскі. На ёй паказваецца група надзвычай узбуджаных жанчын. Гэта дэманстрацыя пратэсту. Тры маці нясуць плакаты і лозунгі: «Выратуем невінаватых!», «Жанчыны, не дадзім на згубу нашых птушанят!», «Рукі прэч ад нашых хлопчыкаў!», «Маці! Глядзіце, які лёс чакае нашых малалетак!». Пад апошнім плакатам намалявана галава лютай каровы з вялікімі рагамі, на кожным з якіх бездапаможна вісіць юнак. Адна з маці, што ідзе апошняй, дзелавіта і засяроджана раскідвае па вуліцы лістоўкі.

Тры дзяўчыны з гітарамі плакатаў не нясуць, але воклічамі падтрымліваюць дэманстрантаў. У гэтым натоўпе сноўдае Мальвіна. Яна штосьці шэпча на вуха то адной маці, то другой, то трэцяй, і пасля гэтага ваяўнічы настрой маці становіцца яшчэ больш агрэсіўным.

Першая маці. Не дапусцім!
Другая маці. Не дазволім!
Трэцяя маці. Рукі прэч ад нашых дзяцей!

Першая маці, заклаўшы пальцы ў рот, спрабуе свіснуць, але свісту ў яе не атрымліваецца. І тады пранізліва, па-хуліганску свішча Мальвіна.

Маці і дзяўчаты *(скандзіруюць)*. Стар-шы-ню! Стар-шы-ню!

Выходзяць устрывожаныя Кавалёнак і Васілевіч. Мальвіна, убачыўшы іх, хаваецца за спіны дзяўчат.

Кавалёнак. Што здарылася? Што гэта?
Першая маці. Дэманстрацыя пратэсту!
Другая маці. Бунт у абарону нашых хлопчыкаў!
Трэцяя маці. Мы не пацерпім такіх здзекаў!
Кавалёнак. Якіх здзекаў? З каго?
Першая маці. З нашых малалетак!
Другая маці. За што вы хочаце загубіць іх? За што?
Маці *(усе разам)*.

---

* У п'есе выкарыстаны вершы Г. Бураўкіна і Н. Гілевіча.

Нашым дзецям жыццё не абрыдла!
Не дадзім ім хадзіць каля быдла —
Ні на золку ўставаць,
Ні бітоны цягаць,
Без пары жываты надрываць!
Нашы дзеці не зломкі-калекі,
Не чыніце над хлопцамі здзекі!
Ім патрэбна расці,
У навуку ісці,
А не статак калгасны пасці!

Першая маці. За што мы кроў сваю пралівалі? За тое, каб яны мучыліся цяпер? Каб іх каровы на рогі?..

Другая маці. Мы ў свой час нагараваліся-набедаваліся. Няхай хоць яны пакрасуюцца!

Трэцяя маці. Мужчыны павінны быць мужчынамі, а жанчыны — жанчынамі! На гэтым уся зямля трымаецца! А вы хочаце, каб усё наадварот было!

Кавалёнак. Шаноўныя маці! Кабеткі мае дарагія! Я ж якраз і хачу, каб мужчыны былі мужчынамі, а жанчыны — жанчынамі. Да якога ж часу зямля на бабе трымацца мусіць? Трэба, каб і мужчыны сваё плячо падставілі...

Агульны лямант.

Пачакайце, пачакайце!.. Значыць, цяжка працаваць на ферме?

Першая маці. Ды ўжо цяжэй і быць не можа!

Другая маці. Гэта ж каровы, а не хто-небудзь!

Трэцяя маці. Каля іх жа не прысесці, не прылегчы!

Кавалёнак. І ўставаць трэба рана...

Другая маці. Ніхто ў вёсцы раней за даярку не ўстае.

Кавалёнак. І класціся трэба пазней за ўсіх. Ніколі як след не выспішся...

Трэцяя маці. Які там сон! Не паспееш вока звесці, як ужо ўставаць трэба!

Кавалёнак. І рукі знямеюць, пакуль кароў падоіш...

Першая маці *(са слязьмі)*. А мы што кажам? Гэта ж не работа, а катарга! Хіба з іх здароўем?..

Кавалёнак. Дык вы ж у ножкі павінны пакланіцца вашым сынам, што яны вызваляюць вас ад такіх тур-

бот! Залаты помнік ім трэба паставіць. Яны, можна сказаць, рэвалюцыю робяць, а вы!..

Першая маці. А мы хто, па-вашаму, контрыкі?

Агульны лямант.

Другая маці. Не дапусцім! Не дазволім!

Трэцяя маці. З агнём жартуеш, старшыня!

Першая маці. Да ЦК дойдзем, але свайго даб'ёмся!

Кавалёнак. Пачакайце, пачакайце... А што я магу зрабіць? Гэта ж іх уласная ініцыятыва!

Першая маці. Ведаем мы гэтую ініцыятыву! Падвучыў, падбухторыў, а цяпер — ініцыятыва!

Другая маці. Яны ж яшчэ маленькія, неразумныя. Іх куды піхнеш, туды яны і пойдуць!

Мальвіна падскочыла да дзяўчат і шэптам падала ім каманду. Дзяўчаты дружна, як «фізкульт-ура!», пракрычалі...

Дзяўчаты. Ганьба! Ганьба! Ганьба!

Кавалёнак. А вам што трэба?

Мальвіна. Мы ад імя ўсіх дзяўчат... Мы таксама пратэстуем!

Кавалёнак. Пачакайце... А якое вы маеце дачыненне? Яны — маці. А вы хто?

Мальвіна *(з выклікам)*. А мы... будучыя нявесты!

Мальвіна падала знак дзяўчатам. Тыя дружна ўдарылі па струнах і заспявалі.

Дзяўчаты.

Не дазволім без пары  
Хлопцаў гнаць у даяры!  
Не ганіце іх на пашу,  
Не губіце радасць нашу!  
Можна жыць без пастухоў —  
Як пражыць без жаніхоў?!

Першая маці *(са слязьмі)*. Во! Чулі?! Чулі?!

У гэты момант трывожна выбухнуў набатны звон. Нехта беспераÂпынна калоціць у рэйку.

Васілевіч. Пажар! Гарыць нешта!

Усе кідаюцца туды, дзе грыміць набат. Сцэна нейкі час пустуе. Набат змаўкае. З процілеглага боку чуецца песня:

Англичанин-мудрец, чтоб работе помочь,  
Изобрел за машиной машину,  
А наш русский мужик, коль работать невмочь,  
Так затянет родную «Дубину».

Пад прыпеў «Дубінушкі» на сцэну ўспаўзаюць калёсы, нагружаныя чамаданамі, хатулямі, рукзакамі, бітонамі для малака. У агłоблях замест каня Андрэй. Ззаду калёсы штурхаюць Косця, Барыс і Арцём.

Андрэй. Ціха! Ціха! Не піхайце так, чэрці!

Група спыняецца. Усе напружана глядзяць у той бок, дзе толькі што грымеў набатны звон. Барыс з жаласным стогнам валіцца на зямлю.

Барыс. Не магу больш! Ад такой работы коні дохнуць! Далібог, пупок трэсне...

Косця. А ты, Борка, паглядзі, можа, ён ужо трэснуў!.. І да бальніцы дабегчы не паспееш.

Барыс. Ах, ах, ах, якія мы разумнікі! Я нарадзіўся не канём, а...

Косця. Правільна! І-а, і-а! Ёсць яшчэ такое цягло...

Андрэй. Як маленькія, чэснае слова! Знайшлі час для сваркі.

Барыс. А чаго ён увесь час чэпіцца?

Косця. Таму, што ты вундэркінд. А я надта ж люблю вундэркіндаў!

Арцём *(збянтэжана)*. Хлопцы... Мне трэба сказаць... Я хачу папярэдзіць вас...

Андрэй. Аб чым папярэдзіць?

Арцём збянтэжана зняў і зноў надзеў акуляры.

Арцём. Я не падзяляю вашай ідэі... Але працаваць я буду. Мне патрэбны грошы.

Барыс *(падхапіўшыся з зямлі)*. Во! Во! Бачыце! Ён таксама не падзяляе! Арцём таксама лічыць вас ідыётамі!

Арцём. Я гэтага не сказаў.

Барыс. Не сказаў, дык падумаў! Якая розніца?!

Андрэй. Палундра! *(Хуценька падхапіў аглоблі.)* Канчай базар! Запявай!

Арцём і Косця зноў зацягнулі:
«Англичанин-мудрец, чтоб работе помочь...»

Зайшлі Кавалёнак — старшыня калгаса, і Васілевіч — бацька Андрэя. Абодва яны літаральна аслупянелі, убачыўшы перад сабой такое незвычайнае відовішча.

Першым апамятаўся Васілевіч. Ён схапіў Кавалёнка за рукаў і пацягнуў назад, намагаючыся спіной загарадзіць групу з калёсамі.

Васілевіч. Платон Іванавіч... Я зусім забыўся... Нам яшчэ трэба зазірнуць у адно месца...

Кавалёнак. Пачакай, пачакай... Што яны робяць?

Васілевіч *(збянтэжана)*. Хе-хе-хе! Відаць, п'есу нейкую развучваюць. Выдумкі ім не займаць. Пойдзем, Платон Іванавіч...

Каваленак. Не, не, пачакай... Гэй, бурлакі!

Хлопцы артыстычна зрабілі выгляд, што ўздрыгнулі ад нечаканасці, як па камандзе, разам павярнулі галовы да старшыні і прытворна збянтэжыліся.

Андрэй. А... Гэта вы, Платон Іванавіч! Добры дзень...

Косця. Добры дзень, таварыш старшыня калгаса!

Каваленак. У, якая афіцыйнасць! Дзень добры. Што тут у вас адбываецца?

Андрэй. Ну, вы ж ведаеце, Платон Іванавіч, што мы надумалі.

Каваленак. Ведаю. Толькі што з гэтай прычыны меў прыемную размову з вашымі маці. І калі б нечая добрая душа не ўзняла гэтую фальшывую трывогу...

Косця знакамі паказаў, што гэта ў яго добрая душа.

А чаму вы надумалі раптам запрэгчыся?

Косця *(паказвае на Андрэя)*. Яго татулька не дазволіў нам выкарыстаць іншы транспарт, каб адвезці рэчы ў лагер.

Каваленак. Гэта праўда, Васіль Пятровіч?

Васілевіч. Хе-хе-хе... Вы толькі слухайце іх!

Андрэй. А хіба няпраўда?

Косця. Мы ж прасілі ў вас каня, а вы сказалі, што хутчэй босымі нагамі на гарачую патэльню станеце...

Барыс. І яшчэ як сказалі!

Каваленак. Ціха, ціха. Хорам толькі спяваць добра. У чым справа, растлумач, Андрэй.

Андрэй. Ды вось... Некаторыя лічаць, што мы робім глупства.

Каваленак *(здзіўлена)*. Ты хіба супраць, Васіль Пятровіч?

Васілевіч. І не дам! Не дазволю! Як брыгадзір і член праўлення не дазволю! Канешне, глупства надумалі! Блазнюкі!

Каваленак. Спакойна, спакойна, Васіль Пятровіч.

Васілевіч. А ты на маім месцы быў бы спакойны? Адзіны сын у хаце і такое вытварае!.. У мяне валасы сівыя, два ордэны і тры медалі за вайну! А мой сын бабскі андарак надзявае! Хіба думаў я калі-небудзь, што дажыву да такой ганьбы?!

Кавалёнак. Не ганьба гэта, а гонар, Васіль Пятровіч!

Васілевіч. Лютаму ворагу свайму не пажадаю такога гонару!

Кавалёнак. Вось што... Давай зараз зойдзем да цябе ў кантору і спакойна пра ўсё пагаворым. Маці іх таксама трэба паклікаць. А вы, хлопцы, запражыце каня і адвязіце вашу маёмасць. Пайшлі, Васіль Пятровіч. *(Выходзіць.)*

Косця. Старик Державин нас заметил
И, в гроб сходя, благословил!

Барыс, Арцём і Косця выходзяць услед за старшынёй.

Васілевіч. Так, так, сынок... Бацьку абняславіць захацеў? Думаеш, я не здагадваюся, для чаго і для каго вы гэты спектакль з тарантасам наладзілі? Ну, смейся, смейся...

Андрэй. Паслухай, бацька...

Васілевіч. Чалавека з цябе хацеў зрабіць! Адзяваў, карміў, вучыў, а ты вунь як аддзячыў! Хоць на вочы людзям не паказвайся! У людзей сыны як сыны — трактарысты, шафёры, прафесары, нават пісьменнікі. А ў Васілевіча адзін сын і той — даярка! Цьфу!

Андрэй. Бацька!

Васілевіч. Які я табе бацька? Забудзь гэтае слова! Няма ў цябе больш бацькі! Няма ў мяне больш сына!

Васілевіч шпарка выходзіць.

Андрэй. А яшчэ кажуць, што няма канфліктаў паміж старэйшым і малодшым пакаленнямі...

З'яўляецца Юлька. Яна ціха крадзецца да Андрэя і закрывае яму вочы далонямі.

Юля, гэта ты?

Юлька. Ну, усё ў парадку, Андрэй Бацькавіч?

Андрэй. Ты трохі спазнілася: ужо — Бязбацькавіч.

Юлька. Чаму так?

Андрэй. Толькі што вось на гэтым месцы адбылася ўрачыстая цырымонія адрачэння бацькі ад роднага, але непаслухмянага сына.

Юлька. Ты ж радавацца павінен!

Андрэй. Радавацца? Родны бацька абвясціў анафему, а ты...

Юлька. Усім вялікім людзям абвяшчалі анафему! Успомні Льва Талстога...

Андрэй. Суцешыла!..

Юлька *(сур'ёзна)*. Усё яшчэ працівіцца?

Андрэй. Што ты! Кажа: у людзей сыны як сыны, а мой... Ну, ганьба і ўсё такое... Паслухай, Юля...

Юлька. Што?

Андрэй. Ты... мне друг?

Юлька *(з крыўдай)*. Ты мог бы ў мяне пра гэта і не пытаць.

Андрэй. Тады скажы мне... Толькі праўду... Я цябе вельмі прашу. Можа, мы і сапраўды дзівакі ненармальныя? Можа, не трэба было ўсё гэта?.. Няхай бы ішло ўсё так, як і да нас было.

Юлька. Ну што ты, Андруша! Рэвалюцыю заўсёды цяжка было рабіць!

Андрэй. Нават бацькі і маці супраць.

Юлька. Твая ж маці не супраць.

Андрэй. Мая не супраць, затое астатнія... Бачыла, якую дэманстрацыю наладзілі?

Юлька. Бачыла... Паслухай, Андруша... Хочаш, я пасялюся разам з вамі ў лагеры і буду памагаць?

Андрэй. Дзякую, Юля, не трэба.

Юлька. Чаму, Андруша?

Андрэй. Разумееш, Юля... Можа праваліцца ідэя. Скажуць, што мы ўсё ж не справіліся адны, што гэта — справа не мужчынская. А мы хочам даказаць...

Юлька з пяшчотай глядзіць на Андрэя.

Юлька. Ведаеш, які ты? Ты самы, самы...

Андрэй і Юлька выходзяць. З'яўляецца Дон Кіхот.

Дон Кіхот *(радасна пацціраючы рукі)*. Знайшоў! Знайшоў аднаго!

*Заслона*

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

На ўзлеску стаіць палатка. Каля палаткі курыцца касцёр. Над кастром вісіць чайнік. Непадалёку стаяць лёгкі раскладны стол і такія ж крэслы. Пад невялікай павеццю чыгуны, вёдры, бітоны. Ранішні туманны паўзмрок... Здалёку чуецца песня Дон Кіхота. Дон Кіхот з'яўляецца ў сваіх нязменных рыцарскіх даспехах. Ступіўшы на паляну, ён змаўкае і з напружанай увагай аглядае ўсё наўкола.

Дон Кіхот. Так... Півачны касцёр... Залататканы шацёр... Значыць, і рыцары павінны быць недзе паблізу. А ночы тут халодныя...

Дон Кіхот прысядае да кастра, грэе рукі і мармыча пад нос песню «Дзе ж вы, рыцары, падзеліся?». Раптам у глыбіні лесу бліскае полымя і чуецца выбух. Дон Кіхот імгненна ўскочыў на ногі і выхапіў меч.

А!.. Злыя чараўнікі хочуць напасці на лагер рыцараў! Не дазволю!

Дон Кіхот знікае ў цемры. Праз некалькі секунд з палаткі вылез Андрэй. Ён смачна пацягнуўся і зрабіў некалькі гімнастычных практыкаванняў.

Андрэй. Косця! Ты нічога не чуў?

Косця *(з палаткі)*. Не, а што?

Андрэй. Як быццам стрэліў хтосьці, а потым закрычалі...

Косця *(з палаткі)*. Табе здалося...

Андрэй *(азірнуўшыся)*. Цём-ка! Цём-ка! Ар-цём!..

З палаткі, на хаду апранаючыся, вылез Косця.

Косця. Зноў яго няма?

Андрэй. Як бачыш...

Косця. Андрэй, гэта можа дрэнна скончыцца. Кожную ноч ён некуды знікае, а ўдзень дзе стаіць, там і спіць. Дзе ён, што робіць?

Андрэй. Не прызнаецца...

Косця. «Не прызнаецца»! Ты ж брыгадзір! Патрабуй, каб прызнаўся. Хіба можна так? Жывём, працуем разам, а не ведаем, што з хлопцам робіцца! Паслухай... А можа, мне стаць на некаторы час Шэрлакам Холмсам і пасачыць за ім?

Андрэй. Ну што ты! Гэтага рабіць нельга.

Косця. Значыць, па-твойму, чакаць, калі за ім прыйдзе міліцыя?

Андрэй. Чаму іменна міліцыя?

Косця. Таму, што добрыя справы па начах не робяць! Я лічу, што яму трэба добра намяць холку!

Андрэй. Пачакаем яшчэ некалькі дзён... Барыс не прачнуўся?

Косця. Калі гэта ён рабіў па ўласнай ініцыятыве?

Андрэй і Косця знікаюць у палатцы. Адразу ж на паляне з'яўляецца Арцём. Убачыўшы, што нікога няма, ён з палёгкай уздыхнуў. У палатцы адбываецца нешта не зусім зразумелае: адтуль

даносяцца глухі шум барацьбы, няясныя воклічы. Нарэшце Андрэй і Косця выцягваюць з палаткі Барыса, які стараецца зрабіць выгляд, што ён яшчэ не прачнуўся. На ім толькі трусы, майка і тоўсты шалік вакол шыі.

Косця *(весела)*. Раз-два! Раз-два! Раз-два!

Пад гэту каманду ён разводзіць і зводзіць рукі Барыса, які не расплюшчвае вачэй.

Андрэй. Косця, вазьмі хлопчыка на ручкі.

Косця прыўзняў Барыса на руках. Андрэй у гэты момант хуценька надзеў яму штаны і так зацягнуў папругу, што Барыс аж перасмыкнуўся. Цяпер ён спіць, абапёршыся на плячо Косці. Той спрабуе адштурхнуць яго ад сябе, і Барыс валіцца на Андрэя.

Косця. Арцём, дай хутчэй вядро вады!

Барыс *(скалануўшыся і расплюшчыўшы вочы)*. Не трэба вады...

Косця. А, прачнуўся, вундэркінд!

Барыс. Варвары! Калуны!.. Я ж хворы чалавек! У мяне, напэўна, заварот кішок! Няўжо вам не сорамна? Дзе ваша сумленне?

Косця. Ты зблытаў, Борка. Учора ўвечары ў цябе быў апендыцыт.

Андрэй. А пазаўчора — менінгіт!

Косця. А яшчэ раней... Што ў яго было раней? Ты памятаеш, Андрэй?

Андрэй. Трапічная ліхаманка.

Косця. Во-во! Іменна трапічная.

Барыс. Якое вы маеце права? Хто вам дазволіў?

Андрэй. Што дазволіў?

Барыс *(завёўшыся)*. Гвалт і прымус! І гэта ў нашай свабоднай краіне! Уяўляю, што робіцца ў Афрыцы!.. «Глядзіце, якія мы свядомыя, якія мы перадавыя! Ламаем традыцыі, вызваляем жанчыну ад непасільнай працы!»... А хто вас прасіў вызваляць яе? Хто? Гэтыя самыя жанчыны, якіх вы надумаліся вызваляць, плююць на вас з высокага дрэва! Увесь раён з вас рагоча, каровіны дзеячы! Не, не раён — вобласць! Уся рэспубліка! Уся краіна!..

Андрэй і Косця моўчкі абуваюцца, не зважаючы на страсны маналог і жэстыкуляцыю Барыса. Адчуваецца, што яны ўжо прывыклі да яго дэмагагічных прамоў. Косця абуўся, зрабіў некалькі крокаў і спыніўся перад Барысам.

Косця. Борка! «Не искушай меня без нужды»!

Барыс. Самазванцы вы і дурні! Сорак кароў і чатыры дурні! Не, тры! Толькі тры! Я — ахвяра.

Косця памкнуўся быў да Барыса, але той паспешліва адскочыў.

Ну-ну! Рукам волі не даваць!

Андрэй. Ты на камсамольскім сходзе быў?

Барыс. Ну, быў!

Андрэй. Галасаваў за тое, каб на ферму пайшлі мы, а не дзяўчаты? Згаджаўся?

Барыс. Ну і што з таго? Я згаджаўся ўвогуле, у прынцыпе згаджаўся! Я падаваў масам прыклад. Хіба думаў я, што вы і мяне ўцягнеце ў гэтую авантуру!

Андрэй. Значыць, згаджаўся?

Барыс. Ну, здуру, здуру згаджаўся! Не падумаўшы! Дык што мне цяпер гніць на гэтай вашай катарзе?

Андрэй. Будзеш рабіць тое, за што прагаласаваў. Трэба быць гаспадаром свайго слова.

Барыс. Вось іменна — гаспадаром: хачу стрымаю, хачу — не!

Андрэй *(кідаючы яму боты)*. Абувайся!

Барыс. Чаму вы не хочаце выслухаць мяне? Баіцеся? Няма чым крыць?!

Андрэй. Ты ведаеш, што чалавека з малпы зрабіла праца?

Барыс. Ведаю, праходзілі...

Андрэй. А такі чалавек, як ты, можа зноў стаць малпай. Ступіць назад пяць крокаў і — малпа!

Косця зрабіў некалькі крокаў ад Андрэя да Барыса.

Косця. Ты памыліўся, Андрэй: да малпы тры крокі, а не пяць.

Барыс. Не! Вы сур'ёзна адкажыце, чаму вы сілком прымушаеце мяне займацца гэтым гноем, гэтымі каровамі? Чаму, я ў вас пытаюся? А можа, я нарадзіўся Ойстрахам ці гэтым самым... Як яго?.. *(Спявае: «Аве Марыя! Аве Марыя!»)* Во, Раберцінам Ларэці!

Андрэй і Косця засмяяліся.

З каго смеяцеся? З сябе! А я не хачу быць пасмешышчам. Не хачу!

Андрэй *(паказвае на плакат, што вісіць над лагерам. На плакаце заклік: «Мужчына! Будзь мужчынам!»)*. Ты павінен быць рыцарам, Борка.

Барыс. Пляваць я хацеў на вашых рыцараў! Я не хачу быць падобным на прыдуркаватага Дон Кіхота!..

Косця. Ты дрэнна ведаеш літаратуру, Борка. Дон Кіхот быў не прыдуркаватым, а высакародным!

Андрэй *(прыўзнімаючы Барыса за каршэнь)*. Хопіць дыскусій! Пайшлі кароў даіць, Аве Марыя!

Барыс. Ды зразумейце ж вы нарэшце! У мяне мужчынская кроў бунтуе!.. Усе мае дзяды і прадзеды былі мужчынамі! А я хто, па-вашаму?

Косця. Гэтае пытанне, Борка, яшчэ не высветлена.

Андрэй. А чаму на гэтай катарзе, як ты кажаш, павінна гібець твая сястра Юлька, а не ты?

Барыс. Ха-ха! Сказаў! Па-першае, Юлька здаровая, як звер! А па-другое, яна ж жанчына! Сваім лёсам ёй наканавана даіць кароў. Калі б я быў жанчынай...

Андрэй. Хопіць! Уставай! Здымі ты гэты хамут з шыі *(паказвае на шалік)*. Глядзець брыдка!

Барыс. Я не хачу, каб у мяне быў хранічны танзіліт!

Косця. Якая гэта трагедыя для чалавека, калі ў яго мама — доктар!

Андрэй. Хутчэй варушыцеся!

Хлопцы надзяваюць белыя халаты, бяруць даёнкі і выходзяць. Ідзе да выхаду і Барыс. Насустрач яму выязджае карова. Не, гэта не карова, гэта — тыгр з рогамі. Барыс, захоўваючы меры перасцярогі і гатовы кожную секунду задаць лататы, паступова набліжаецца да яе.

Барыс. Кось-кось-кось, міленькая, каб цябе ваўкі зарэзалі! Ну, не бойся, не бойся, кветачка! Прападзі ты пропадам, звяруга рагатая!

Як толькі Барыс дакранаецца да каровы, у яе чырвоным агнём загараюцца вочы і пачынае матляцца хвост. Барыс спалохана адскоквае назад. Вочы тухнуць, і хвост супакойваецца.

А каб ты сёння зайшла ў раку, у самае глыбокае месца, і не выйшла адтуль! А каб ты гарачай бульбінай падавілася!.. Ну, не крывіся, не крывіся, кветачка. Я ж не рэзаць цябе буду, а толькі даіць. На жаль!

Маленькімі крокамі Барыс зноў падступае да каровы.

Ну, не злуйся, не злуйся, кветачка! Я ж люблю і паважаю цябе, каб ты на лёдзе разадралася! Ты ж мая прыгожая, ты ж мая харошая, каб мае вочы век цябе не бачылі!

Барыс садзіцца каля каровы, прыладжвае даёнку і пачынае даіць. З кожным рухам яго рукі з вачэй каровы-тыгра пырскаюць іскры і ўсё шпарчэй круціцца хвост. Нарэшце, апісаўшы належную траекторыю, хвост сцёбнуў Барыса па спіне, і той кулём пакаціўся ад каровы.

Барыс. Згінь! Прападзі!.. Праваліся!.. Згары ясным

агнём! Заб'ю! Зарэжу! А-а-а! *(Бегае па сцэне, схапіўшыся за галаву.)*

Убягаюць Андрэй, Косця і Арцём.

Андрэй. Што з табой?

Барыс. Не магу! Не хачу! Лепш забіце мяне! Утапіце! Хіба гэта карова? Гэта ж тыгр, д'ябал! Ведзьма ў выглядзе каровы! Паглядзіце, яна ж здзекуецца з мяне!

Андрэй. Супакойся, не псіхуй!

Косця. Які ты стаў нервовы!

Барыс. Тут звар'яцець можна, не толькі...

Андрэй. Добра... Ідзі рабі загарадку для кароў, а мы самі падоім. Толькі ўлічы, гэта апошні раз...

Барыс. Хіба гэта карова? Гэта ж змяя грымучая! Кобра! Паглядзіце, яна ж смяецца! У-у-у, скаціна!

Праходзячы міма каровы, Барыс замахнуўся на яе тапаром. У каровы зноў успыхнулі вочы і заматляўся хвост. Барыс знік. Сцэна нейкі момант пустая. Чутно, як нехта працуе сякерай. Праз некалькі секунд адтуль далятае роспачны крык: «Ратуйце! Ратуйце!» У гэтым лямантце з цяжкасцю можна пазнаць голас Барыса. Уваходзяць Андрэй і Косця. Яны нясуць на руках Барыса. З другога боку да іх кідаецца Арцём.

Арцём. Што з ім такое?

Андрэй. Нагу пасек...

Барыса паклалі на зямлю.

Косця. «Какой светильник разума угас! Какое сердце биться перестало!»

Барыс *(ціхім, замагільным голасам)*. Хлопцы... Праганіце адсюль гэтага крэтына...

Арцём. Косця, гэта кашчунства — здзекавацца з параненага чалавека!

Андрэй. Арцём, прынясі бінты і ёд.

Арцём пабег у палатку. Андрэй прысеў каля Барыса і пачаў асцярожна сцягваць з яго нагі бот. Барыс застагнаў і, каб не бачыць крывавай раны, закрыў вочы далонямі.

І як жа гэта цябе так сабіла? Здаецца ж, не маленькі.

Барыс. Прамахнуўся...

Арцём прынёс бінты і ёд.

Андрэй *(разглядаючы босую нагу Барыса)*. Паслухай... А дзе ж рана? Ты што нам галовы дурыш?

Барыс *(здзіўлена, з-пад рукі зірнуў на сваю нагу)*.

Нічога не разумею... Сапраўды раны няма! Як жа так? А можа, я не гэтую, а тую нагу пасек?

А н д р э й. У цябе ж на той назе бот цэлы!

К о с ц я. Ха! Пасек нагу і не ведае — якую!

Б а р ы с *(шчыра недаўмяваючы)*. Чэснае слова, я нават чуў, як у мяне костка хруснула, так — «хруп». У мяне адразу ў вачах пацямнела, і я паваліўся...

К о с ц я *(стукнуўшы Барыса пальцам па галаве)*. У цябе вось дзе хруснула, сімулянт няшчасны!

Б а р ы с. Ну, мне здалося! Здалося! Бывае ж так!

А р ц ё м. Не трэба, Косця, крыўдзіць чалавека. Можа, яму і сапраўды здалося?

А н д р э й. Ха! Яму здалося! *(Ён выразна плюнуў у бок Барыса і панёс у палатку бінты і ёд.)*

К о с ц я. Ведаеш што, бледнаскуры брат мой?

Б а р ы с. Чаго табе?

К о с ц я. Я б на тваім месцы застрэліўся... з самага паганага ружжа. «Рожденный ползать — летать не может»!

Косця таксама выразна плюнуў у бок Барыса і адышоўся. Арцём доўга вагаўся, не ведаючы, што рабіць, затым пацісннуў плячыма з выглядам: «Маўляў, а што мне застаецца рабіць? Як усе, так і я». Ён плюнуў і адвярнуўся ад Барыса.

Хлопцы збіраюць на стол снеданне, ставяць шклянкі, тэрмас. Барыс ідзе ў палатку, трымаючы ў руцэ бот.

К о с ц я *(трывожна прыслухоўваючыся)*. Здаецца, Мальвіна прыехала. Мне трэба куды-небудзь знікнуць.

А н д р э й. Косця! Будзь ты хоць раз мужчынам!

К о с ц я. Табе лёгка гаварыць!

Чуваць голас Мальвіны: «Т-п-р-р-у!» Усе змоўклі і чакаюць. Падыходзіць М а л ь в і н а. Убачыўшы яе, Косця неяк адразу панікнуў.

М а л ь в і н а. Прывітанне, дзяўчаткі!

А н д р э й. Добры дзень...

А р ц ё м. Добры дзень...

А н д р э й. Чаму так позна? Малако магло скіснуць.

З палаткі высунуў галаву і прыслухоўваецца Барыс.

М а л ь в і н а. Калі яно ад адной вашай прысутнасці не скісла, то цяпер ужо не скісне. Апошнюю навіну чулі?

А н д р э й. Не, не чулі.

А р ц ё м. Можа, на Марс або Венеру каго-небудзь запусцілі?



Падзяка артыстам з Таліна.
На прэм'еры «Мудрамера»



Прэм'ера «Амністыі»
ў тэатры імя Янкі Купалы



Бацькі і дзеці — спрадвечная праблема.
«Апошняя інстанцыя» ў тэатры імя Максіма Горкага



Сцэна са спектакля «Наследны прынц»
у пастаноўцы Брэсцкага тэатра імя ЛКСМБ



Сцэна са спектакля «Паядынак»
у пастаноўцы тэатра імя Якуба Коласа



«Апошняя інстанцыя»
ў тэатры імя Максіма Горкага



Сцэна са спектакля «Мужчына, будзь мужчынам!»
у пастаноўцы школьнага тэатра
Гарадоцкай школы Віцебскай вобласці

Мальвіна. Вышэй бяры! У наш магазін казачны паркаль прывезлі. Вачэй не адарвеш! Белае-белае поле, а на ім буйны чырвоны гарох. Як жар гарыць! «Мара даяркі» называецца...

Андрэй. Нас гэтая праблема не хвалюе.

Мальвіна. Быць не можа! Хіба вы не будзеце шыць сабе новыя сукенкі? Пасля таго як адкрылася ваша тайна...

Андрэй. Якая тайна?

Мальвіна. Ну як жа! Столькі гадоў прыкідваліся хлопцамі, нават штаны насілі...

Косця *(не стрымаўшыся)*. Мальвіна!..

Мальвіна *(зрабіўшы выгляд, што толькі цяпер убачыла Косцю)*. А! І ты тут, Касцючок!.. Дзіўнае імя для дзяўчыны — Касцючок. Я лепш буду называць цябе Касцючка. Як, згода?

Косця. Мальвіна! Я прашу цябе!..

Мальвіна *(прымірэнча)*. Ну, не плач, не плач! Я ж вам цацку прывезла, наватары-ініцыятары! *(Падала Андрэю газету.)*

Андрэй *(разгарнуўшы газету)*. Хлопцы, гэта ж мы! Нашы партрэты ў газеце.

Косця *(зазіраючы цераз плячо Андрэя)*. А Барыс, Барыс які атрымаўся! Сапраўдны Пячорын!

Барыс, як гусак, выцягнуў шыю, намагаючыся ўбачыць у газеце свой партрэт, але з палаткі не выйшаў, не дазволіла самалюбства.

Мальвіна. Ну, можа, хопіць цешыцца? Хто бітоны з малаком грузіць будзе?

Андрэй. Пайшлі, хлопцы, потым прачытаем.

Андрэй і Арцём выйшлі, на хаду разглядаючы газету. Косця таксама хацеў пайсці за імі, але Мальвіна загарадзіла яму дарогу.

Мальвіна. А ты трохі пачакай...

Косця. Перад хлопцамі няёмка. Яны працуюць, а я...

Мальвіна. Нічога, не надарвуцца твае хлопцы!

Косця. Навошта я табе?

Мальвіна. Пагаварыць трэба...

Барыс хавае галаву ў палатку, але відаць, што ён сабраўся падслухоўваць.

Косця. Пра што гаварыць, калі ты сказала, што мы — ворагі?

Мальвіна. Сказала! Сказала! Ці мала што я магла сказаць! Дзевяць гадоў мы сядзелі з табой на адной пар-

це... І я думала... Я думала, што ў цябе ёсць характар, сіла волі...

Косця. У мяне ёсць характар і сіла волі.

Мальвіна. Ну, няхай Андрэй!.. Я разумею... Ён проста дурань. Што яму Юлька скажа, тое ён і робіць. Ён — марыянетка! А ты ж разумны, Косця!

Косця. Андрэй — мой лепшы друг, і я не дазволю!..

Мальвіна. Ды я не пра Андрэя! Што мне Андрэй... Я пра цябе. Ну, навошта гэта табе, Косця? Каб з цябе смяяліся? З мяне ўжо смяюцца...

Косця. А ты тут пры чым? Я не разумею...

Мальвіна. Дрэнна, калі не разумееш... Павінен быў бы разумець... *(Паўза.)* Косця... Хочаш... Хочаш, я цябе пацалую.

Косця Што?

Мальвіна. Хочаш, я цябе зараз пацалую?

Барыс не вытрымаў і высунуў галаву з палаткі, яму карціць пабачыць цікавае відовішча.

Ну?

Косця. Ты... гэта... сур'ёзна?

Мальвіна. Толькі дай мне слова, што зноў станеш нармальным чалавекам і адрачэшся ад кароў!

У душы Косці ідзе напружаная барацьба. За яго плячыма нячутна з'явіўся і пільна прыслухоўваецца Дон Кіхот.

Косця. Не, не магу...

Задаволены Дон Кіхот знікае. Барыс з жалем хавае галаву ў палатку.

Мальвіна. Эх, ты!.. Паслухай, Косця... Я ж ведаю, ты марыш аб літаратурным інстытуце, ты хочаш стаць паэтам. Літаратура для цябе — усё. Дык навошта ж ты губіш свой талент? *(Спявае.)*

Косця, Косця, любы мой,
Кінь хвасты кароўі,
Для прафесіі другоі
Беражы здароўе!

Косця.

Ну навошта ж гэткі здзек
Чыніш ты з каровы?
Ці ж даяр не чалавек...
Нават ганаровы!

Мальвіна.

Косця, мілы, ты ж паэт!
Не звані даёнкай.
Лепей ты на цэлы свет
Брызгай рыфмай звонкай!

Косця.

Ат, калі мне той Парнас
Стане родным домам!..
Лепш я стану тут, у нас,
Даяром вядомым.

Мальвіна.

Калі ты мне яшчэ друг —
Я кажу сур'ёзна —
Кінь цадзілку і хвартух,
А то будзе позна!

Добра... Ты мне ніхто, я табе ніхто, навошта ж сварыцца? Вазьмі ад мяне падарунак на памяць.

Мальвіна сунула ў рукі Косці невялікі пакунак і выбегла. Косця стаіць і моўчкі глядзіць ёй услед.

Косця *(сумна ўздыхнуўшы)*. «Все это было бы смешно, когда бы не было так грустно!»

Косця, заўважыўшы ў сваіх руках пакунак, пакінуты Мальвінай, пачаў яго разгортваць. З палаткі вылез Барыс. Косця разгарнуў пакунак і абамлеў. У яго руках прыгожы сарафанчык на вузенькіх лямках. Барыс паваліўся на зямлю ад рогату.

Барыс. Ой, ратуйце мяне! Ой, паміраю!.. Вось табе, рыцар, узнагарода за тваё донкіхоцтва!.. Ой, ратуйце мяне!.. *(Рагоча.)*

Ашаломлены Косця глядзіць то на Барыса, то на сарафан.

*Заслона*

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Позні летні вечар. Неба ўсыпана буйнымі зоркамі. Над лесам смяецца шчарбаты месяц. На паляне гарыць касцёр. Каля кастра сядзяць Андрэй, Арцём і Косця. Андрэй рамантуе транзістар, Косця чытае, Арцём робіць нейкія вылічэнні ў запісной кніжцы.

Арцём *(збянтэжана, нясмела)*. Хлопцы... Пазычце трохі...

Косця *(уражана)*. Што? Зноў?

Арцём. Мне трэба... рублёў дваццаць пяць...

Косця. Ты звар'яцеў? Адкуль у нас такія грошы? Гэта Барысу маці дае на кішэнныя расходы!

Арцём. Ну, колькі хто можа... Вельмі патрэбна!

Андрэй корпаецца ў кішэні.

Андрэй. Вось... Тры рублі і дробязь. У Барыса папрасі.

Арцём. У цябе, Косця, няма зусім?

Косця. Я ні капейкі не дам! Пакуль ты не скажаш, дзе грошы падзеліся!

Андрэй *(з папрокам)*. Косця!

Косця. Што — Косця? Што — Косця? Сказаў не дам і не дам. Я яму пазычаў ужо і тры рублі, і два, і дзесяць! І некалькі разоў па пяцьдзесят капеек! Навошта яму грошы? Няхай скажа, тады дам!

Арцём. Прабач, Косця... Я больш не буду ў цябе прасіць. *(Згорбіўшыся, ідзе ў палатку.)*

Андрэй. Ну навошта ты так з ім?

Косця. А ты не баішся, што ён на твае грошы алкаголікам зробіцца?

Андрэй *(засмяяўшыся)*. Што ты вярзеш? У такім узросце?

Косця. Памятаеш, у сераду ён скардзіўся на тое, што ў яго галава балела?

Андрэй. Ну і што з таго?

Косця. А тое, што ад яго ў той дзень спіртам пахла! Не сысці мне з гэтага месца, сваім носам чуў!

Андрэй. Не можа быць!

Косця. Вось табе і не можа быць! Падумай сам, калі б грошы былі патрэбны яму на добрую справу, то чаго таіцца?

Андрэй *(задумліва)*. Гэта праўда...

Косця. Што ён за хлопец, ніяк не зразумею. Яшчэ толькі сем класаў закончыў, а ўжо нейкія махінацыі з грашыма...

З палаткі выйшаў Арцём.

Арцём. Памагу Барысу кароў прыгнаць... *(Выходзіць.)*

Андрэй *(зірнуўшы на гадзіннік)*. Ты і пра Барыса дрэнна гаварыў, а ён пазней за ўсіх нас трымае статак на пашы.

Косця. Адзін раз памыліўся. *(Прыслухоўваецца.)* Зноў гэтыя ведзьмы з'явіліся!

Набліжаюцца дзявочыя галасы, смех, брынканне гітары. За сцэнай здзекліва пяюць:

Дзеў-кі, дзе вы?
Ту-та, ту-та!
А маёй Марфуты
Няма ту-та?

Змеі! Падкалодныя змеі!

Уваходзяць Мальвіна і тры дзяўчыны з гітарамі.

Мальвіна. Дзеўкі, вы ўжо спіцё?

Першая дзяўчына. Не, яны сырадой п'юць, каб шчокі ружовыя былі!

Другая дзяўчына. І каб голас званчэйшы быў! *(Смех.)*

Трэцяя дзяўчына. Дзеўкі, як ваш манастыр завецца? *(Смех.)*

Мальвіна. Ну што ж, дзяўчаткі, пачнём канцэрт для гераінь працы, праслаўленых даярак нашага калгаса?

Дзяўчаты *(разам)*. Пачнём!

Мальвіна запявае прыпеўку, астатнія падхопліваюць.

Дзяўчаты.

Сохнуць бедныя каровы —
Ой, што з імі стала?
Паглядзелі на даярак —
Малако прапала!

Андрэй і Косця.

Не хадзіце гэтак горда
З песенькаю таннаю.
Прамачыце лепей горла
Свежаю смятанаю!

Дзяўчаты.

Ой, дзяўчаткі мае, ой,
Што рабіць з маёй бядой?
Змізарнеў зусім Андруша,
Піць не хоча сырадой!

Андрэй і Косця.

Дзе тут вып'еш сырадою
Пад частушку вашую?
Дапялі яго нудою —
Стаў ён прастаквашаю!

Дзяўчаты.

Ха-ха-ха! Хі-хі-хі!
Носяць хлопцы хвартухі.

Скора будуць на спадніцы
Пераходзіць жаніхі!

Андрэй і Косця.

Наверх вы, товарищи, все по местам,
Последний парад наступает:
Врагу не сдается наш гордый «Варяг»,
Пощады никто не желает!

Дзяўчаты.

Па надоях нашы хлопцы
На рэкорды цэляцца.
А падыдуць да дзяўчат —
Ні мычаць ні целяцца!

Косця *(крычыць)*. Я не магу больш, Андрэй! Тут не песня, тут вадародная бомба патрэбна!

Косця хапае вялікую ламачыну і кідаецца да дзяўчат. Тыя з гоманам і піскам уцякаюць. Вяртаецца Косця з гітарай.

Андрэй. Што гэта?

Косця. Трафей!

Андрэй. Косця, трэба ж быць рыцарам!

Косця. Ат! Ведзьмаў у свой час спальвалі жыўцом на вогнішчы.

Андрэй. У той час, які ты маеш на ўвазе, першымі спалілі б нас як бунтаўшчыкоў супраць традыцый грамадства.

Косця. Ці іх, ці нас, але некага спаліць трэба абавязкова! Мірнае суіснаванне ў нас не атрымаецца!.. Для іх жа, дурніц, стараемся, і вось якая ўдзячнасць!

Андрэй. Нам яшчэ што! Вось Пятру Першаму сапраўды было цяжка.

Косця. А пры чым тут Пётр Першы?

Андрэй. Калі ён сілком прымушаў садзіць бульбу, былі цэлыя паўстанні. *(Смяецца.)*

Косця. А ідзі ты!..

За сцэнай рыкнулі каровы.

Андрэй. Нарэшце! Нешта забавіліся яны сёння. Можа, кароў паразгублялі?

Уваходзіць Арцём.

А Барыс дзе?

Арцём. Спіць.

Андрэй. Як спіць? Дзе?

Арцём. Звычайна. Каровам солі на траву насыпаў,

каб не разыходзіліся. Яны стаяць і ліжуць. А ён спіць. Я пашкадаваў яго і не стаў будзіць.

К о с ц я. Ну, чыя праўда, Андрэй? Гарбатага магіла выпрастае! Я не разумею, чаго мы цацкаемся з ім? Валаводзімся, угаворваем, выхоўваем, а навошта? Карысці з яго як з казла малака! Я прапаную выгнаць!

А н д р э й *(пасля паўзы)*. Мне таксама іншы раз хочацца яго турнуць, ды нельга...

К о с ц я. Чаму нельга? Давай я, калі ты баішся!

А н д р э й. Разумееш, калі б Барыс быў адзін... А то за ім уся вёска, мужчынская яе палавіна. А мы павінны ёй даказаць... *(Паказвае на плакат над лагерам.)*

Паўза.

К о с ц я. Мабыць, ты і маеш рацыю... Але ж сіл няма глядзець, як ён куражыцца!..

Убягае Б а р ы с. Ён замёрз і калоціцца як асінавы ліст. Расштурхаўшы хлопцаў, Барыс кінуўся да агню і падстаўляе цяплу то спіну, то жывот, то бок.

Ха! Мастак Іваноў — «З'яўленне Хрыста народу»!

Б а р ы с. Значыць, не даверае́це мне? Чаму самі кароў пагналі? Вы да глыбіні душы зняважылі мяне такім недавер'ем! Хаця вам — што! Вам пакрыўдзіць чалавека— раз плюнуць! А яшчэ сябры, аднакласнікі, называецца!

А н д р э й. Выспаўся?

Б а р ы с. Хто?! Я?!. Жуль Верны! Майн Рыды, Вальтар Скоты!.. Трэба ж прыдумаць такое! Проста я вельмі задумаўся і не пачуў, як вы ўкралі кароў! Я спаў! Як толькі ў цябе язык павярнуўся сказаць такое?

А н д р э й. Кінь крыўляцца! Арцём жа бачыў, што ты спаў!

Б а р ы с. Ах, Арцём... Дарэчы, Арцём, калі ты аддасі мне доўг? Дзесяць рублёў на зямлі не валяюцца... Ну, дапусцім, я спаў. Дапусцім... А вы?! Бачыце, што ваш таварыш спіць на сырой зямлі, і не можаце разбудзіць яго? Калі заўтра мяне зваліць з ног радыкуліт, майце на ўвазе — гэта будзе цалкам на вашым сумленні.

К о с ц я. Сціхні ты, гніда!..

А н д р э й. Спакойна, Косця, спакойна.

Б а р ы с. Вось іменна — спакойна. *(Імітуючы А. Райкіна.)* Асабісты спакой перш за ўсё.

К о с ц я. Гэты пітэкантрап выцягнуў з мяне ўсе жылы!

Барыс нахабна разваліўся каля вогнішча, адпіхнуўшы Косцю.

Андрэй. Устань, Барыс. Мы будзем цябе судзіць.

Барыс *(аж папярхнуўся ад смеху)*. Кхі-кхі-кхі! Не выйдзе! Самасуды ў нас забаронены. Гэта вам, паважаныя, не якая-небудзь Амерыка!..

Косця кінуўся да тонкай бярозкі і пачаў трэсці яе, наглядна дэманструючы свае пачуцці.

Барыс. Ах, ах, ах, які тэмперамент! Мексіка! Бразілія!

Андрэй. Уставай. Мы будзем судзіць цябе сваім судом, таварыскім.

Барыс. Лінчаваць будзеце, ці як?

Косця. Андрэй! Я не магу дыхаць адным паветрам з гэтай пачварай!

Барыс. Вольнаму — воля. Ідзі ў лес і дыхай там чыстым азонам.

Андрэй. Пойдзем у палатку, нам трэба параіцца.

Барыс. Мне, вядома, не ісці?.. Так, зразумела...

Андрэй, Косця і Арцём ідуць у палатку. Застаўшыся адзін, Барыс па чарзе падымае і грэе над кастром то адну, то другую нагу. Садзіцца і прыслухоўваецца да таго, што гавораць у палатцы.

Гэй, змоўшчыкі! Майце на ўвазе: я не Джардана Бруна! Засмажыць мяне на кастры вам не ўдасца! Не той час!.. *(Прыслухоўваецца.)* Езуіты! Інквізітары! Кампрычыкосы! Інвалідаў хочаце зрабіць з непаўналетніх.

З палаткі выйшлі Андрэй, Косця і Арцём. Па іх тварах можна здагадацца, што яны прыдумалі нешта вельмі арыгінальнае. Убачыўшы іх, Барыс паваліўся на калені і заенчыў.

Грамадзяне суддзі! Не судзіце мяне вельмі строга! Даруйце! Памілуйце! У мяне маленькія дзеткі! Я больш не буду-у-у! *(Зрабіў выгляд, што заплакаў, выцірае слёзы.)*

Андрэй. Барыс, мы не будзем цябе выганяць...

Барыс. Ну? А можа, усё ж выганіце?

Андрэй. Але ад работы мы цябе вызваляем...

Барыс *(падхапіўшыся з зямлі)*. Што?

Андрэй. Больш таго — мы катэгарычна забараняем табе што-небудзь рабіць у нас... Мы бяром цябе на поўнае ўтрыманне, як хворага чалавека, як інваліда...

Барыс. Браточкі суддзі! Даражэнькія!.. Век не забуду вашае ласкі!

Выконвае бурны танец удзячнасці суддзям.

*Заслона*

У лагеры ноч. Над лагерам вісіць устрывожаны месяц. У гамаку, звесіўшы босыя ногі, салодка спіць Барыс. З'яўляецца Дон Кіхот, заўважае ў гамаку Барыса.

Дон Кіхот. Т-с-с-с! Гэта ён! *(Падыходзіць да гамака.)* Так, гэта ён... Сеньёр Барыс, а сеньёр Барыс!

Барыс замармытаў, заварушыўся, але не прачнуўся. Дон Кіхот асцярожна паказытаў нагу Барыса кап'ём.

Барыс *(усхапіўшыся)*. А? Што? Хто тут?

Дон Кіхот. Т-с-с-с! Гэта я...

Барыс. Хто — ты?

Дон Кіхот. Дон Кіхот...

Барыс. Гы-гы-гы! Які Дон Кіхот?

Дон Кіхот. Ламанчскі...

Барыс. Той самы? З рамана?

Дон Кіхот. Той самы...

Барыс. Гы-гы-гы! Ну і сон! Раскажы каму — не паверыць! Ану, падыдзі бліжэй!

Дон Кіхот падышоў. Барыс нечакана тузануў яго за бараду. Дон Кіхот схапіўся за меч.

Дон Кіхот. Як загадаеце гэта разумець, сеньёр?

Барыс. Гы-гы-гы! Я думаў, яна адваліцца... Пачакай, пачакай! Ты ж памёр яшчэ ў шаснаццатым стагоддзі!

Дон Кіхот. Я ўваскрэснуў.

Барыс. Навошта?

Дон Кіхот. Каб абудзіць дух рыцара ў душы кожнага мужчыны.

Барыс. Гы-гы-гы! І з мяне ты хочаш зрабіць рыцара?

Дон Кіхот. І раней чым з каго-небудзь! А потым я адпомшчу за зняважу добрага імя Дон Кіхота!

Барыс. Мне? Калі ж я цябе зняважыў?

Дон Кіхот. Некалькі дзён назад вы мелі неасцярожнасць назваць мяне прыдуркаватым Дон Кіхотам.

Барыс. А хіба ты...

Дон Кіхот. Маю гонар паведаміць вам, сеньёр, што я ніколі не быў прыдуркаватым... Я быў чэсным і адданым, высакародным і верным, абараняў слабых, заступаўся за тых, каго крыўдзілі...

Барыс. Гы-гы-гы! Ну і сон! *(Паваліўся ў гамак і захроп.)*

Дон Кіхот. Сеньёр Барыс, а сеньёр Барыс!

Барыс. Адчапіся, я спаць хачу!

Дон Кіхот. Гэта не вельмі далікатна з вашага боку. Мы яшчэ не скончылі размову...

Барыс. Каму сказаў — адчапіся? А то зараз як дам! (*Брыкае нагой, адганяючы Дон Кіхота.*) Гы-гы-гы!

Дон Кіхот (*узняўшы рукі ўгору*). О, мудрае неба! Навучы мяне, што рабіць з гэтым... нечалавекам!.. (*Прыслухоўваецца і рыхтуе кап'ё.*)

Асцярожна крадзецца Васілевіч.

Стой, ні з месца!

Васілевіч. Стаю, стаю, навошта ж крычаць?

Дон Кіхот. Хто ты, начны прыхадзень?

Васілевіч. Я брыгадзір тутэйшага калгаса, Васілевіч маё прозвішча, мо чулі? А ты хто? (*Узнімае ліхтар і са здзіўленнем аглядае фігуру Дон Кіхота.*)

Дон Кіхот. Дон Кіхот Ламанчскі.

Васілевіч. Вы з раённай самадзейнасці?

Дон Кіхот. Не, я з рамана.

Васілевіч. З Раманаўкі, што пад Віцебскам?

Дон Кіхот. Я з рамана Мігеля дэ Сервантэса Саведры.

Васілевіч. А што вы тут робіце?

Дон Кіхот. Памагаю гэтым юнакам стаць рыцарамі.

Васілевіч. Гм... Скажыце, паважаны... а вам не здалося, што яны (*жэст у бок палаткі*) трошкі таго? (*Пакруціў пальцам каля скроні.*)

Дон Кіхот. Прашу прабачэння, сеньёр, я вас не зразумеў. Што значыць — «трохі таго»? (*Пакруціў пальцам каля скроні Васілевіча.*)

Васілевіч. Ну, што ў іх... Як вам сказаць?.. Што яны... Не зусім разумныя, трохі прыдуркаватыя... Самі пайшлі ў даяркі!

Дон Кіхот. Гэтыя рыцары самыя разумныя з усіх, каго я сустракаў у сваім жыцці! Яны хочуць, каб жанчына была ясным сонцам, прыгожай краскай, багіняй!

Васілевіч. Так... (*Падазрона аглядае фігуру Дон Кіхота.*) Ану, дыхні!

Дон Кіхот. Прабачце, сеньёр, я вас не разумею...

Васілевіч. Дыхні, дыхні! Вось так. (*Хукае.*)

Дон Кіхот хукае ў твар Васілевіча.

Хм... Дзіўна... Усё гэта, можа, і так... Але калі б іх нехта прымусіў, абавязаў, калі б ім патрэбны былі грошы, ска-

жам, ну, не ведаю на што — на самалёт, на ракету, на падводную лодку, тады я зразумеў бы. А то самі! Добраахвотна! Без прымусу! Не разумею!

Дон Кіхот. Вось у гэтым і заключаецца ўся іх высакароднасць, што яны самі, без прымусу, абралі такі шлях... Няўжо вы хочаце, каб Дульцынеі Табоскія сталі рабынямі? Каб сонечны бляск іх вачэй пагаснуў яшчэ ў маладосці? Каб пяшчотныя рукі іх сталі падобнымі на абрэзаныя крылы птушкі, пасаджанай у няволю? *(Хапаецца за меч.)* Вы дзеля чаго з'явіліся сюды, таямнічы начны прыхадзень? Адказвайце або не сысці вам з гэтага месца, клянуся гонарам Дон Кіхота!

Васілевіч. Я нічога... Я з самымі лепшымі намерамі... Паглядзець, як яны тут... Сын тут у мяне.

Дон Кіхот. Хто ваш сын?

Васілевіч. Андрэй...

Дон Кіхот *(падаючы перад Васілевічам на адно калена)*. О, прабачце, шаноўны сеньёр! Я схіляю сваю галаву перад вашай мудрасцю, перад вашым розумам. Даруйце, што я не магу ў гэты момант аказаць вам іншых знакаў глыбокай пашаны.

Васілевіч *(паспешліва ўзнімаючы Дон Кіхота з каленяў)*. Што вы?! Што вы?! Чаму? За што?!

Дон Кіхот. У такога рыцара не можа быць дрэнны бацька! Гэта вы зрабілі яго такім высакародным!.. О, калі б у кожнага бацькі быў такі сын і ў кожнага сына такі бацька!

Васілевіч *(сціпла)*. Вы, відаць, трохі перабольшваеце...

Дон Кіхот *(горача)*. О, не, сеньёр, не!

З'яўляецца Кавалёнак.

Кавалёнак *(здзіўлена)*. Васіль Пятровіч? І ты тут?

Васілевіч. Брыгадзіру трэба ўсё агледзець... За дзень ніяк не паспець, вось і прыходзіцца ўначы. А ты як сюды трапіў?

Кавалёнак. Прызнаюся чэсна: хвалююся за хлопцаў. Вялікую ж справу пачалі, на ўсю краіну... А гэта хто?

Дон Кіхот. Дон Кіхот Ламанчскі. З кім маю гонар?

Кавалёнак *(працягваючы руку)*. Старшыня калгаса Кавалёнак. Па якіх справах да нас, таварыш Дон Кіхот?

Дон Кіхот. Па справах рыцарскай доблесці і высакароднасці, сеньёр старшыня.

Кавалёнак. Запушчаны ў нас гэты ўчастак, таварыш Дон Кіхот, вельмі запушчаны. Усё рукі не даходзяць: то сяўба, то праполка, то ўборка. Ды і ў зводкі гэта не ўваходзіць. Вось пачалі цяпер, гадуем сваіх рыцараў. Як яны тут?

Дон Кіхот. Усё ў парадку, сеньёр старшыня!

Кавалёнак. Вы нам можаце паказаць іх гаспадарку?

Дон Кіхот. Дон Кіхот да вашых паслуг, сеньёры!

Васілевіч *(ужо выходзячы)*. Хто гэты дзівак?

Кавалёнак *(таксама шэптам)*. Рыцар!..

Васілевіч *(робячы выгляд, што зразумеў)*. А-а!..

Сцэна нейкі час пустая. Затым на яе з трох бакоў успаўзаюць загадкавыя істоты з невялікімі ліхтарыкамі ў руках.

Першая маці. Нікога...

Другая маці. Яны спяць...

Трэцяя маці. Т-с-с-с! Не разбудзіце іх!

Маці ўстаюць на ногі і аглядаюць лагер. Першая маці падыходзіць да гамака, дзе спіць Барыс, бярэ яго штаны і пяшчотна прыціскае да грудзей.

Першая маці. А сыночак мой маленькі, а што ж з табой зрабілі? І штонікі твае прахудзіліся...

Другая маці. Марына! Ты ж разбудзіш іх! Сціхні, тарабалка!

Трэцяя маці. Зараз світаць пачне. Хутчэй!..

Тры маці пачынаюць працаваць у ліхаманкавым тэмпе. Яны мыюць, шыюць, падмятаюць. Першая маці з вялізнага бутля апырсквае лагер адэкалонам. Працоўны рытм пераходзіць у бурны танец клапатлівых мам. Дзіка, скрозь сон зарагатаў Барыс. Маці заміраюць і асцярожна, на пальчыках, адыходзяць у цёмнае месца.

Першая маці. Беднае дзіцятка! Сэрцам пачула, што мама блізка, і ажно засмяялася. Можа, першы раз за ўсе гэтыя дні?..

Засмучоныя маці спяваюць калыханку:

Спіце, дзеткі-малалеткі,
Расцвілі вы, нібы кветкі,
Ой, лю-лі, ой, лю-лі,
Нібы кветкі, расцвілі.
Мы для вас не спалі ночкі,
Гадавалі вас, сыночкі.
Ой, лю-лі, ой, лю-лі!
Толькі ў шчасці б вы былі.

Дык за што вас злая доля
Прывяла на гэта поле?
Ой, лю-лі, ой, лю-лі.
Ой, нашто вам мазалі?
Хіба мы пры нашай сіле
На руках вас не насілі?
Ой, лю-лі, ой, лю-лі.
Вы б жылі, як каралі!

Другая маці. Т-с-с-с!

Маці прыслухоўваюцца.

Трэцяя маці. Сюды нехта ідзе!

Маці бяруць ліхтарыкі, кладуцца зноў на зямлю і нячутна, як здані, выпаўзаюць. З'яўляецца Дон Кіхот.

Дон Кіхот. Дон Кіхоту трэба быць больш рашучым! *(Ён падышоў да гамака і досыць бесцырымонна штурхнуў Барыса кап'ём.)* Уставай, сеньёр! Сёння я павінен вырашыць твой лёс.

Барыс *(прыўзняўшы галаву)*. Зноў ты, стары грыб, чэпішся да мяне? Згінь! Рассыпся! Цур! Цур!..

Дон Кіхот *(уладна)*. Устань, калі з табой размаўляе Дон Кіхот.

Барыс спалохана ўскочыў і падцягнуў трусы.

Барыс *(плаксіва)*. Што табе трэба? Чаго ты прыстаў да мяне?

Дон Кіхот. Вось табе мая рыцарская пальчатка! *(Кідае ў твар Барыса пальчатку.)*

Барыс. Навошта яна мне? Я пальчаткі не калекцыяніірую. *(Кідае пальчатку назад Дон Кіхоту.)*

Дон Кіхот. Я выклікаю цябе на паядынак, о, дармаед, не варты імя чалавека! *(Зноў кідае пальчатку Барысу.)*

Барыс. На дуэль? Гы-гы-гы! Ты ж не маеш права выклікаць мяне на дуэль!

Дон Кіхот. Гэта чаму ж?

Барыс *(зларадна)*. Таму, што я не рыцар! А ты маеш права біцца толькі з рыцарамі! *(Кладзецца ў гамак.)* Каціся адсюль, стары, і не перашкаджай мне спаць!

Дон Кіхот *(разважае)*. Раней я звычайна даручаў такія справы майму вернаму Санча Панса. Але бедны Санча Панса застаўся там. *(Паказвае на зямлю.)* Яго не пусцілі падземныя духі... Што ж рабіць? Няўжо адступіцца? *(Становіцца на калені і ўзнімае рукі ўгару.)* О, даруй мне, міласэрнае неба! Я адзіны раз наступлюся праві-

ламі рыцарскіх турніраў у імя святой мэты павелічэння рыцарскага воінства!.. Я ведаю, ты даруеш мне, неба...

Дон Кіхот узняўся з каленяў і з асалодай ударыў Барыса кап'ём. Той спалохана ўскінуўся.

Б а р ы с. Ты што, стары, з глузду з'ехаў? Мне ж балюча!

Д о н  К і х о т. Абараняйся, няшчаснае семя чартапалоху! Абараняйся, кажу табе!

Барыс забег за гамак і заспяваў малітву.

Б а р ы с. Аве Ма-рыя! Аве Ма-рыя!

Д о н  К і х о т. Табе не дапаможа малітва!

Дон Кіхот узняў меч і рынуўся на Барыса. Барыс некалькі разоў абабег гамак, спыніўся і ўшчыкнуў сябе за бок.

Б а р ы с. Ой, баліць!

Д о н  К і х о т. Зараз ты не тое адчуеш, сын шакала і лісіцы! *(Дон Кіхот неспадзявана скочыў і злавіў Барыса. Ён зашчаміў яго галаву паміж каленяў і ўзняў меч.)* Не! Я не буду паганіць аб цябе рыцарскую зброю! *(Адкінуў меч і зняў з сябе шырокі пояс.)* Прымі ж, няўдалае падабенства мужчыны, блаславенне Дон Кіхота!

Б а р ы с. Аве Ма-ры-я! Аве Марыя!.. Ой! Ой! За што? За што?

Д о н  К і х о т. За тое, што не хочаш быць сапраўдным мужчынам! За тое, што не падтрымліваеш сяброў! За тое, што здраджваеш ім!.. За тое, што не прызнаеш Дон Кіхота!.. За тое, што не хочаш стаць рыцарам!

Б а р ы с. Я ж не ведаю, як ім стаць! Мяне ж ніхто гэтаму не вучыў!

Д о н  К і х о т. Ага! Прарэзаўся голас мужчыны!.. Я дарую табе жыццё. Але зараз ты мусіш даць мне клятву... На калені! На калені, кажу! Адну руку да сэрца, а другую ўверх!.. Вось так. Цяпер паўтарай услед за мной... Клянуся...

Б а р ы с. Клянуся...

Д о н  К і х о т. ...быць сапраўдным мужчынам, мужчынам-рыцарам.

Б а р ы с. ...быць сапраўдным мужчынам, мужчынам-рыцарам.

Д о н  К і х о т. ...ніколі не здраджваць сябрам...

Б а р ы с. ...ніколі не здраджваць сябрам!

Д о н  К і х о т. Рабіць заўсёды тое, што табе не хочацца!

Б а р ы с. Рабіць заўсёды тое, што табе не хочацца...
Д о н К і х о т. Што табе! Табе не хочацца.
Б а р ы с *(пакорліва)*. Што мне не хочацца.

Д о н К і х о т на пальчыках адышоў назад і знік.

Што далей гаварыць? *(Не пачуўшы адказу, Барыс асцярожна павярнуў галаву спачатку ў адзін бок, потым у другі.)* Гэй... Гэ-эй! Што за д'ябальшчына?.. Быў ці не быў Дон Кіхот?.. Сплю я ці не сплю? Быў ці не быў? *(Гадае на пальцах. Пальцы паказваюць, што ніякага Дон Кіхота не было.)* Гы-гы-гы! Не было! Сплю! Сплю!..

*З а с л о н а*

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## КАРЦІНА ПЯТАЯ

У лагеры адбыліся істотныя змены. Каля палаткі стаіць слуп з электрычнай лямпачкай. Пад павеццю з'явіліся тэлевізар і газавая пліта з балонам.
Прыбавілася трафеяў і ў Косці. На дрэвах вісяць чатыры гітары, тры балалайкі, дзве мандаліны і нават невялікі бубен.
Уваходзіць Б а р ы с. На ім кароткія тэнісныя шорты, пляжная панама і цёмныя акуляры ад сонца.

Б а р ы с *(спявае)*.

Напінацца, жылы рваць —
Не ў маім характары.
Ці ж я дурань працаваць?
Хай працуюць трактары.
Ой-я-я, ой-я-я,
Пражыву без працы я.
Я сучасны чалавек,
Буду надрывацца я.
Ёсць ударнікі ў наш век
Плюс механізацыя,
Электрыфікацыя,
Спецыялізацыя,
Нават хімізацыя.
Ой-я-я, ой-я-я,
Дык нашто па працы я?
Хай камсорг мяне кляне,
Дармаедам клікае,

Толькі б далі лыжку мне
Самую вялікую.
Ой-я-я, ой-я-я,
Паказаў бы працу я!

*(Склаўшы рукі накшталт падзорнай трубы, глядзіць у лес.)* Косця! Хто ж так карову доіць? Ты не тузай! Не тузай! Адарвеш вымя — штаноў на штраф не хопіць... Арцём! А ты вымя ёй мыў? Каровы любяць мыла «Кармэн», ты гэта ўлічы!.. Ці доўга вы там будзеце валаводзіцца? Голадам замарыць мяне хочаце? *(Кладзецца ў гамак.)* Страшна есці хочацца! *(Падхапіўся, сеў і ўспамінае начныя прыгоды.)* Што? Не... Мне ж зусім не хочацца есці! *(Засмяяўся, што прыдумаў, як на ўсякі выпадак ашукаць Дон Кіхота.)* Ну, вядома! Вядома, я не хачу есці! Я страшна не хачу есці і таму павінен, абавязан есці! Клятва ёсць клятва. Гы-гы-гы! *(Задаволена пацірае рукі.)*

На паляну выходзяць Андрэй, Арцём і Косця. Яны здымаюць белыя халаты і садзяцца за стол. Барыс хуценька далучаецца да іх.

Арцём *(наліваючы талеркі)*. Сёння ў нас на першае боршч з мясам.

Барыс. Ці мылі вы рукі? А то ў мяне апетыт псуецца, калі побач каровай пахне!

Косця пагрозліва паднёс да яго носа кулак. Барыс абнюхаў яго і чмыхнуў.

Не, нічога, чыстыя... Чаму ў маёй талерцы так мала мяса? Хочаце, каб я на вашай дыеце дуба даў?

Косця. У цябе столькі ж, колькі ў кожнага з нас!

Барыс *(сварліва)*. А я кажу, што ў мяне менш!

Косця моўчкі выцягнуў са сваёй талеркі кавалак мяса і пераклаў яго ў талерку Барыса. Тое ж самае зрабілі Андрэй і Арцём.

Барыс. Вось цяпер у самы раз. Дзякую! *(Есць з вялікім апетытам.)*

Косця. Еш, еш, толькі не падавіся!

Барыс. Ну, навошта ж так? Спачатку аддаў, а цяпер папракаеш! Я магу і вярнуць, калі ты даў не ад чыстага сэрца...

Косця. Ад чыстага, еш...

Барыс *(стукнуўшы сябе па шчацэ)*. Праклятыя камары! Паесці спакойна не дадуць!

Андрэй. Арцём, адбарані!..

Арцём стаў за спіной Барыса і адганяе ад яго машкару галінкай.

Б а р ы с. Даўно б маглі здагадацца! А то ў вас заўсёды на першым плане скаціна, а потым ужо жывы чалавек.

Косця выскачыў з-за стала і, падбегшы да штаноў Барыса, развешаных на вяроўцы, некалькі разоў, як баксёр, ударыў іх кулаком. Зрабіўшы гэта, ён зноў сеў за стол і працягвае есці.

Б а р ы с. А вось у Італіі, кажуць, вакол футбольнага поля кладуць мяшкі з пяском і пішуць на іх — «арбітро», суддзя, значыць. Балельшчыкі, калі ім не падабаецца суддзя, падбягаюць і б'юць мяшкі нагамі. Усё ж нейкае маральнае задавальненне. Здорава прыдумана, праўда?

Убачыўшы, што хлопцы ўстаюць з-за стала, Барыс заспяшаўся, схапіў талерку і даядае на хаду, стоячы.

А н д р э й. Чыя чарга сёння малако адпраўляць?

К о с ц я. Мая...

А н д р э й. Знойдзеш нас каля Крутога віру. Пакупаемся трохі.

Б а р ы с. Ой! *(Абхапіўшы рукамі плечы, пачынае маўклівую пантаміму.)*

А н д р э й. Чаго ты корчышся?

К о с ц я. Вядома, чаго — аб'еўся!

Б а р ы с. Цынікі!.. «Аб'еўся»! Гэта ж я так сам з сабой змагаюся. Мне не хочацца ісці купацца, а я прымушаю сябе ісці.

А н д р э й. Якая толькі дурасць не лезе ў галаву ад гультайства!

Усе выходзяць. Застаўшыся адзін, Косця прыбірае са стала, мые посуд. Чуваць, як пад'язджае Мальвіна. Пачуўшы яе голас, Косця спалохана заміpae, а потым кумільгом ляціць у палатку... Праз хвіліну ён выходзіць адтуль у самым нечаканым убранні. На ім адзеты квяцісты сарафан — падарунак Мальвіны. Сарафан кароткі, вышэй каленяў... Косця мые посуд і спявае высокім жаночым голасам.

К о с ц я.

Ой, хороша я, хороша,
Да плохо одета!
Никто замуж не берет
Девушку за это!

Уваходзіць М а л ь в і н а. Убачыўшы Косцю, яна аслупянела. Косця ж робіць выгляд, што нічога не бачыць і не чуе.

Никто замуж не берет
Девушку за это!

Мальвіна абышла Косцю і спынілася перад ім.

Мальвіна. Гэта... ты?

Косця. А-а, Мальвіна! Прывітанне! Так, гэта я. А што, хіба не пазнаеш?

Мальвіна. Не так проста пазнаць... І часта ты яго надзяваеш?

Косця. Чаму — часта? Кожны дзень. Цудоўная рэч! Не горача, і ветрык вакол гуляе. Вентыляцыя!

Мальвіна *(просіць)*. Паслухай, Косця... Аддай мне яго... Я больш не буду.

Косця. Выхаваныя людзі ніколі не патрабуюць назад сваіх падарункаў. Гэта... не па-рыцарску!

Мальвіна. Косця, я пагарачылася... Аддай!

Косця. Нічога ты не пагарачылася. Я за ўсё сваё жыццё не атрымліваў больш практычнага падарунка. Я вельмі цаню твой густ.

Мальвіна. Няўжо ты такі дурны, што не разумееш?

Косця. Ага, дурны, не разумею... Чаго не разумею?

Мальвіна. Гэта ж непрыстойна! Тут хлопцы вакол. Уяўляю, як яны пацяшаюцца!

Косця. Якія хлопцы? Што ты выдумляеш? Тут жа адны дзяўчаты. Амазонкі! Ты ж сама казала...

Мальвіна. Косця... Я прашу цябе... Вельмі прашу...

Косця. І не прасі. Падарунак — ёсць падарунак.

Мальвіна. Ну, Косця, ты яшчэ пашкадуеш! *(Выбягае.)*

Косця.

Кричали женщины «ура!»
И в воздух чепчики бросали.

Уваходзіць Барыс.

Усё, спектакль закончыўся, акцёры могуць разгрымiравацца. *(Выходзіць, на хаду здымаючы сарафан.)*

Барыс *(напявае)*.

Напінацца, жылы рваць —
Не ў маім характары.
Ці ж я дурань працаваць?
Хай працуюць трактары.
Ой-я-я, ой-я-я,
Пражыву без працы я!

А ўсё ж быў ці не быў Дон Кіхот? А што, калі быў?.. Дык быў ці не быў? Звар'яцець можна!..

Набліжаецца гук матацыкла... Уваходзіць Юлька, здымаючы шафёрскія пальчаткі.

Юлька. Салют!
Барыс. Здароў...
Юлька. А дзе астатнія?
Барыс. Купаюцца. Чысціня — залог здароўя.
Юлька. А ты чаму не ў іх кампаніі?
Барыс. Я?.. Я... дзяжуру.

Юлька абыходзіць лагер.

Юлька (*паказваючы на інструменты*). Весела жывяце!
Барыс. Ага... Весела і багата. Што ні ноч, то трафей.
Юлька. Больш не прыбавіцца.
Барыс. Што, балалайкі скончыліся?
Юлька. Не, старшыня размову меў з дзяўчатамі... Якія абавязкі дзяжурнага?
Барыс. Якія абавязкі? Ах, абавязкі!.. Ну, гэта... як яго... Ну, абавязан рабіць усё, што трэба.
Юлька. А што трэба?
Барыс. Што ты да мяне прычапілася? Не ведаеш хіба, што павінен рабіць дзяжурны?
Юлька. І абед ты павінен гатаваць?
Барыс. Які абед? А!.. Ну, вядома! Вось як толькі ты паедзеш, я адразу ж закасаю рукавы...
Юлька. Глядзі ты! Так, чаго добрага, і чалавека з цябе зробяць!
Барыс. Здзекавацца з мяне прыехала?
Юлька. Давай я табе памагу.
Барыс. Што?.. Не, не трэба! Ведаю я цябе: раз паможаш, а два гады папракаць будзеш!
Юлька. Не буду.
Барыс. Кацiся адсюль! Не сунь носа, куды не просяць!
Юлька (*не зважаючы на яго, завіхаецца каля пліты*). Вы не мылі гэтыя каструлі цэлы год! Дзіўлюся, як вас не зваліў яшчэ брушны тыфус... Чаго ты стаіш як статуя?
Барыс. А што я павінен рабіць?
Юлька. Па ваду ідзі! Ды варушыся трохі жвавей!
Барыс. Нікуды я не пайду!
Юлька. Як гэта не пойдзеш?
Барыс. А вось так, прынцыпова не пайду.
Юлька. Ты ж дзяжурны!
Барыс. Ат! Яшчэ надзяжуруся за свой век. Усё жыццё наперадзе.

Юлька. Лайдак ты! Буржуй!.. *(Бярэ вёдры і выходзіць.)*

Барыс *(крычыць услед ёй).* Не ўсім жа быць рабацягамі! Каго б вы з Андрэем тады выхоўвалі! *(Кладзецца на сандапёку, загаляе жывот і падстаўляе яго сонцу.)*

Я — сучасны чалавек,
Буду надрывацца я!
Ёсць ударнікі ў наш век
Плюс механізацыя,
Электрыфікацыя,
Спецыялізацыя,
Нават хімізацыя!
Ой-я-я, ой-я-я,
Дык нашто ж на працы я?

І раптам апошнія словы заміраюць на яго вуснах. На твары Барыса непадробная жудасць. Ён страсянуў галавой, нібыта праганяючы ад сябе страшны сон, але сон не знік. Нібы якая спружына раптам распластала яго на зямлі. Барыс вужом папоўз у палатку.

Уваходзіць Дон Кіхот, набліжаецца да палаткі.

Дон Кіхот. Сеньёр Барыс, а сеньёр Барыс! *(Паўза. Ліхаманкава калоціцца палатка.)* Я ж ведаю, што ты тут. Выходзь, сеньёр Барыс, а то горш будзе.

Барыс *(з палаткі, тоненькім ад страху голасам).* Хто там?

Дон Кіхот. Цябе выклікае Дон Кіхот Ламанчскі.

Барыс выпаўзае з палаткі ні жывы ні мёртвы.

Ну, адказвай, сеньёр Барыс, як ты выконваеш клятву, дадзеную Дон Кіхоту?

Барыс. Я... я... Стараюся...

Дон Кіхот. Стараешся?

Барыс. Ага, стараюся... Толькі яны...

Дон Кіхот. Хто — яны?

Барыс. Хлопцы...

Дон Кіхот. Што — хлопцы?

Барыс. Перашкаджаюць...

Дон Кіхот. Перашкаджаюць выконваць клятву?

Барыс. Ага, перашкаджаюць...

Дон Кіхот. Каго ты хацеў ашукаць?

Барыс. Я? Калі?

Дон Кіхот. А вось тады! *(Абхапіўшы плечы рукамі, паказвае, як «змагаўся» Барыс сам з сабой перад тым, як ісці на рэчку.)* Мо скажаш, не было гэтага? Ты хацеў ашукаць Дон Кіхота?

Б а р ы с *(паваліўся ў ногі Дон Кіхоту)*. Даруйце, я больш не буду! Ніколі не буду! Праваліцца мне на гэтым месцы!

Д о н  К і х о т. Устань, няшчасны! Не словамі, а справамі даказвай сваю вернасць Дон Кіхоту!

Б а р ы с. А якой... справай?

Д о н  К і х о т *(азірнуўшыся)*. Парадак навядзі, якому належыць быць у лагеры рыцараў!

Барыс мітусіцца па лагеры, наводзячы парадак. Дон Кіхот садзіцца на крэсла, з задаволенай усмешкай назіраючы за Барысам. Барыс забег у палатку і выскачыў адтуль з будзільнікам у руках. Падставіўшы будзільнік ледзь не да самага вуха Дон Кіхота, пераганяе стрэлкі. Будзільнік грыміць, як буйнакаліберны кулямёт.

Д о н  К і х о т *(спалохана падхапіўшыся)*. Што такое?

Б а р ы с *(ачмурэла гледзячы то на будзільнік, то на Дон Кіхота)*. А? Што?

Д о н  К і х о т. Я пытаюся, у чым справа?

Б а р ы с. Гэта... Гэта я так гуляю...

Д о н  К і х о т. Гм... Дзіўныя гульні... Куды пайшла твая сястра?

Б а р ы с. Юлька? Па ваду пайшла.

Д о н  К і х о т. Па ваду! І ты мусіў адпусціць яе?! О, які сорам! Якая ганьба!

Б а р ы с. Я не мог даць рады. Я не пускаў, прасіў, маліў. А яна вырвалася ад мяне і пабегла. Вы яшчэ не ведаеце гэтай Юлькі! У яе такі характар: калі што ўдумае — абавязкова свайго даб'ецца.

Д о н  К і х о т. Бяжы хутчэй і вярні яе. На крылах ляці! Вады сам прынясеш...

Барыс стрымгалоў кінуўся выконваць загад.

О, вы, нікчэмныя стварэнні, што называеце сябе мужчынамі! Чаму не разарвецца ад сораму ваша чэрствае атлусцелае сэрца? Чаму вам не хочацца памерці ад такой ганьбы? О, людзі, людзі! Што сталася з вамі без Дон Кіхота!

Уваходзіць Ю л ь к а.

Ю л ь к а *(дзівячыся)*. Нічога не разумею. То не прагнаць было, а то выхапіў вёдры і наляцеў як вар'ят. Цуд. Сумленне ў ім загаварыла, ці што?

Д о н  К і х о т. На жаль, не, паважаная сеньёра. Не сумленне, а страх.

Ю л ь к а *(здзіўлена)*. Прабачце, хто вы? Як вы сюды трапілі?

Дон Кіхот. Дазвольце прадставіцца, шаноўная сеньёра. Вы бачыце перад сабой Дон Кіхота Ламанчскага. Загадвайце, о багіня, і я не пашкадую жыцця, каб задаволіць любое ваша заданне.

Юлька. Як? Вы сапраўдны Дон Кіхот?

Дон Кіхот. Так, сеньёра, сапраўдны, наколькі можа быць сапраўдным чалавек, які вярнуўся з таго свету.

Юлька. Значыць, вы ўваскрэслі?

Дон Кіхот. Хіба мог я заставацца на тым свеце, калі гэты свет коціцца ў бездань без рыцараў?.. Я ўваскрэснуў, каб абудзіць у людзях высакародны дух рыцарства! Я ўваскрэснуў, каб сабраць пад свае штандары аднадумцаў і аб'явіць бязлітасную вайну тым заганам, якія перашкаджаюць чалавеку быць чалавекам!

Юлька *(у захапленні)*. Гэта ж цудоўна, сеньёр Дон Кіхот, што вы ўваскрэслі! Гэта ж проста цудоўна! Вось вам мая рука!

Дон Кіхот. О, высакародная Дульцынея Табоская! *(Апускаецца перад Юлькай на адно калена і з найвялікшай пачцівасцю бярэ яе руку.)* Прыміце маю шчырую ўдзячнасць... *(Схіляецца і хоча пацалаваць ёй руку.)*

Уваходзіць Барыс. Ён ужо на грані вар'яцтва: Дон Кіхот не знік, ён размаўляе з Юлькай!

Дон Кіхот *(убачыўшы Барыса)*. І ты, касалапы мядзведзь, хацеў, каб гэтыя пяшчотныя пялёсткі ружы *(паказвае рукі Юлькі)* цягалі ваду, даілі кароў?.. Гэтымі рукамі трымаць сонца, упрыгожваць зямлю дзівоснымі фарбамі, дарыць людзям радасць!

Юлька *(зрабіўшы велічны жэст каралеўны, загадала)*. Прынясі яшчэ!

Дон Кіхот. Ты чуеш, неслух, што загадала Дульцынея Табоская? Прынясі яшчэ і наогул — рабі ўсё, што яна загадае.

Барыс паспешліва вылівае ваду з вёдраў у бітон і зноў бяжыць на рэчку, спатыкаючыся і ледзь не падаючы.

Юлька *(услед Барысу)*. Асцярожней, ёлупень!

Дон Кіхот. О, не, не кажыце такіх слоў, паважаная сеньёра! Вашы вусны створаны для таго, каб дзівіць людзей гукамі чароўных песень! Вашы вушы створаны для музыкі. Так, так, для музыкі! *(Выцягвае руку, і ў руцэ яго аказваецца электрычная гітара. Ён уключае яе ў разетку на слупе і пачынае спяваць.)*

Там, дзе сцяна крутая,
Там, дзе кіпіць работа,—
Кожны на свеце знае:
Нельга без Дон Кіхота!

Там, дзе глухмень лясная,
Там, дзе вятры і слота,—
Кожны на свеце знае:
Нельга без Дон Кіхота!

Там, дзе любоў кранае
Сэрца тваё пяшчотай,—
Кожны на свеце знае:
Нельга без Дон Кіхота!

Там, дзе сяброў яднае
Справа адна і турбота, —
Кожны на свеце знае:
Нельга без Дон Кіхота!

Прыкладна з другога куплета Юлька пачынае падпяваць Дон Кіхоту. Уваходзіць Барыс з вёдрамі. Юлька моўчкі, уладным жэстам пасылае яго па ваду ў трэці раз.

Дон Кіхот. Вы спяваеце лепш за ўсіх жанчын на свеце! Як бедны Дон Кіхот можа даказаць вам сваю адданасць? Што зрабіць для вас?

Юлька. Для мяне? Мне нічога не трэба. У мяне ўсё ёсць...

Дон Кіхот. Няўжо ў вас няма ніякага жадання?

Юлька. Пачакайце... Ёсць жаданне! Сеньёр Дон Кіхот, вы можаце памірыць двух чалавек?

Дон Кіхот. Хто гэтыя людзі, шаноўная сеньёра?

Юлька. Мае сябры. Іх завуць Косця і Мальвіна.

Дон Кіхот. Вашы сябры — мае сябры. Хто пасварыў іх?

Юлька. Ніхто... Мальвіна... Як вам лепш сказаць?.. Ну, Мальвіна не хоча, каб Косця быў тут. Яна лічыць, што каровы — гэта ніжэй мужчынскага гонару!

Дон Кіхот. О, святое неба! Дзе яна! Я зараз жа павінен сказаць ёй, што яна глыбока памыляецца!

Юлька. Яна недзе тут. Я зараз яе пашукаю.

Дон Кіхот. О не! Я сам! Я сам знайду яе!

Дон Кіхот знікае. Застаўшыся адна, Юлька зрабіла некалькі паважных поз, каралеўнай прайшлася па лагеры.

Ю л ь к а *(летуценна)*. Дульцынея Табоская!.. Ніхто мяне яшчэ так не называў... А што? А чаму і не? Юль-ка, Юль-ка... Дуль-цы-не-я Та-бос-кая! Як гучыць!

Уваходзіць М а л ь в і н а.

Ты?

М а л ь в і н а. А хто ж яшчэ?

Ю л ь к а. Ты нікога зараз не сустрэла?

М а л ь в і н а. А каго я павінна была сустрэць?

Ю л ь к а. Ты разумееш, Мальвіна, уваскрэснуў Дон Кіхот!

М а л ь в і н а. Ты што? Трызніш?

Ю л ь к а. Чэснае слова! Ён толькі што быў тут... Ён называў мяне Дульцынеяй Табоскай і стаяў перада мной на каленях!..

М а л ь в і н а. Стаяў на каленях?

Ю л ь к а. Больш таго! Ён спяваў для мяне песню і нават пацалаваў руку!.. Не, Мальвіна, усё-такі цікавей было жыць у час рыцараў.

М а л ь в і н а. Пачакай, пачакай... *(Паўза.)* Ты праўду кажаш, што ён стаяў перад табой на каленях?

Ю л ь к а. Няўжо ты думаеш, я буду маніць?

М а л ь в і н а. І... руку цалаваў?

Ю л ь к а. Ага, вось гэтую... Ён назваў мае рукі пялёсткамі ружы!

М а л ь в і н а. Цяпер мне ўсё ясна... А перада мной такім ідэйным прыкідваўся!

Ю л ь к а. Значыць, і ты яго бачыла?

М а л ь в і н а. Мела такое шчасце. Толькі не ў вобразе Дон Кіхота, а...

Ю л ь к а. Ён пайшоў цябе шукаць. Я даганю яго!.. *(Выбягае.)*

М а л ь в і н а. Пачакай, не трэба!.. *(Застаўшыся адна.)* Не, няхай прывядзе... Ну, Касцючок, зараз я табе выдам. Перада мной у спадніцы ходзіш, а перад Юлькай Дон Кіхотам!.. Аркадзь Райкін знайшоўся! Ну, нічога... Мы таксама не пампром! У нас таксама свой гонар ёсць!..

Уваходзіць К о с ц я.

К о с ц я. Ты яшчэ тут?

М а л ь в і н а. Не чакаў мяне ўбачыць? Думаў, што тут хто-небудзь іншы. Значыць, на калені перад ёй становішся, Дульцынеяй абзываеш?

К о с ц я. Ты пра што гэта?

Мальвіна. Артыст! Умееш пусціць туман у вочы! Хто б мог падумаць. Такой авечкай увесь час прыкідваўся!..

Косця. Што табе ад мяне трэба?

Мальвіна. Косця... Яна табе падабаецца? Толькі чэсна...

Косця. Хто падабаецца?

Мальвіна. Будзь ты хоць адзін раз чалавекам! Не прыкідвайся!

Косця. Ты ад гарачыні пачала загаворвацца ці проста так?

Мальвіна. Не крыўляйся, Дон Кіхот саламяны! Яна ж мне ўсё расказала!

Косця. Хто расказала? Што расказала?

Мальвіна. Юлька! Як ты перад ёй на каленях стаяў і ручкі ёй цалаваў! Знайшоў каму ручкі цалаваць!.. Ніколі б не падумала, што ты такі адважны!

Косця *(спалохаўшыся не на жарт)*. Што ты вярзеш? Што з табой? Мальвіна?

Мальвіна. Не бойся, я не буду пісаць пісьмо ў маладзёжную газету: «Чаму К. не кахае М.?»

Косця. Хто з нас вар'ят — ты або я?

Мальвіна. Відаць, я... Не разгледзела цябе своечасова.

Уваходзяць Юлька і Дон Кіхот. Убачыўшы Дон Кіхота, Мальвіна пачала паволі апускацца на зямлю.

Дон Кіхот. Гэта і ёсць тая Мальвіна?

Мальвіна *(ціха)*. Косця... Дай мне вады...

*Заслона*

## КАРЦІНА ШОСТАЯ

Тая ж самая дэкарацыя, што і ў папярэдняй карціне. Каля пліты гаспадарыць Арцём. На ім белыя кухарскія фартух і каўпак. Ён не ўпраўляецца і кідаецца то памешваць у каструлях, то мыць бітоны.

Уваходзіць Барыс з вялікім букетам кветак. На галаве ў яго, як у караля Ліра, маляўнічы вянок, другі, яшчэ большы, вянок вісіць на шыі.

Куплеты і танец гультая. Танец яўна нагадвае твіст. Выканаўшы танец, Барыс разлёгся ў гамаку і з іранічнай усмешкай пазірае за Арцёмам, які мітусіцца на лагеры.

Барыс. Дарма са скуры вылузваешся! Ад іх «дзякуй» не дачакаешся. Разарвешся на дзве палавіны, ска-

жуць — чаму не на чатыры? Ну, Андрэй, для мяне справа ясная... Ён створаны самім лёсам, каб быць старшынёй калгаса. У яго мёртвая хватка! А табе навошта?..

Барыс ледзь не падавіўся апошнім словам і падскочыў у гамаку... Непадалёку ад яго, склаўшы на грудзях рукі, стаіць Дон Кіхот. У яго поглядзе пагарда і пагроза аднначасова. Барыс закрыў вочы рукамі, затрос галавой... Калі ён адкрыў вочы, Дон Кіхот ужо знік. Барыс асцярожна агледзеўся...

Барыс. Паслухай, Арцём... Ты нікога зараз не бачыў?

Арцём зняў акуляры, працёр іх і зноў надзеў.

Арцём. Не, не бачыў. А што?

Барыс. Ды так, нічога... *(Устаў, старанна агледзеў, нават панюхаў тое месца, дзе толькі што стаяў Дон Кіхот.)* Цуд! Няўжо быў?.. Арцём, ты неяк казаў, што хочаш спаць на свежым паветры...

Арцём. У мяне гамака няма.

Барыс. Я ўступлю табе свой і перайду на тваё месца ў палатку. Разумееш, горла ў мяне... Танзіліт. *(Хрыпіць.)* Во, бачыў...

Арцём. Дзякуй, ты мяне вельмі выручыў!

Барыс. Няма за што!.. Ведаеш, як здорава спіцца на свежым паветры! А якія цудоўныя сны сняцца!

Арцём. Калі памяняемся?

Барыс. Ніколі не адкладвай на заўтра, што можна зрабіць сёння. Зараз я збяру свае манаткі...

Барыс пачынае збіраць сваю пасцель і раптам спыняецца ўражаны. На яго твары разгубленасць і жудасць: ён убачыў пальчатку Дон Кіхота.

Паслухай, Арцём... Увогуле, ты неблагі хлопец... Так і быць, гатуй абед, а бітоны я вазьму на сябе...

Арцём ужо хацеў згадзіцца, ужо ўдзячна ўсміхнуўся, а потым, успомніўшы прыгавор, вынесены Барысу, уздыхнуў.

Арцём. Табе нельга.

Барыс. Чаму?

Арцём. Ты ж ведаеш... Табе нельга працаваць... Ты лепш адпачывай.

Барыс. Гумарыст! Алег Папоў! Марсель Марсо!.. Ну, ладна, давай, а то і перадумаць магу! *(Ступіў у напрамку да бітонаў, але Арцём загарадзіў яму дарогу.)*

Арцём. Ты, калі ласка, прабач... Я не магу... Не маю права.

Б а р ы с. Дурань ты! Мне проста шкада цябе. Непрыемна глядзець, як ты тут рысаком гарцуеш. Давай!

А р ц ё м. Не маю права... Прыгавор.

Б а р ы с. Чудзік валасаты! Яны ж не дазнаюцца.

А р ц ё м. Не маю права...

Б а р ы с. Зарадзіў адно, як попка: «Не маю права! Не маю права!» Ну, як хочаш, алкаголік! Няхай мне горш будзе.

А р ц ё м *(разгублена, ледзь не плачучы)*. Я не алкаголік!

Б а р ы с. А чаму ад цябе так часта спіртам пахне? Думаеш, я не заўважыў?

А р ц ё м *(спалохана азірнуўшыся)*. Барыс... Не трэба! Я не п'ю спірт.

Б а р ы с. Толькі нюхаеш? Ха-ха! Так я табе і паверыў! Зрэшты, гэта твая асабістая справа. *(Зноў ступіў да бітонаў.)* Давай...

А р ц ё м *(загарадзіўшы бітоны)*. Не магу... Прыгавор... Нельга...

Б а р ы с. Ну, пачакай, алкаголік!

Ён зноў лёг у гамак, але ранейшага безмяцежнага спакою ў яго ўжо няма. Рука яго наткнулася на пальчатку Дон Кіхота. Барыс адразу ўскочыў і шукае вачыма: што б такое зрабіць? Позірк яго спыніўся на дзірцы ў палатцы.

Гаспадары, называецца! Пойдзе дождж, дык месца сухога не будзе!

Зняў вянкі, узяў у палатцы іголку з ніткай і старанна зашыў прарэху. Зноў палюбаваўся сваёй работай і вярнуўся ў гамак. Уваходзяць А н д р э й і К о с ц я. Яны здымаюць халаты і праходзяць да стала. Убачыўшы іх, Барыс хуценька надзеў вянкі і прыняў незалежны выгляд.

А р ц ё м *(вінавата)*. У мяне яшчэ не гатова.

А н д р э й. Пацерпім, не памром... *(Ідзе ў палатку і заўважае зашытую дзірку.)* Ты, Арцём, зашыў?

А р ц ё м. Не, не я...

А н д р э й. А хто?

Б а р ы с. Ну, я зашыў. Хіба не ўсё роўна — хто зашыў?

А н д р э й. Косця, дай ножык...

Косця моўчкі падаў ножык. Андрэй паласнуў ножыкам па шве і зрабіў яшчэ большую дзірку. Барыса гэта ўразіла настолькі, што ён нават не скеміў, што сказаць. Апамятаўшыся, зрабіў выгляд, што яму вельмі смешна.

Б а р ы с. Ха! Ха! Ха! Гумарысты! Сатырыкі! Хай мне будзе горш!

Зняў з дрэва гітару і заспяваў куплеты гультая. Андрэй знік у палатцы.

К о с ц я.

«Играй, играй, моя гармошка,
Катись, катись, моя слеза!»

Б а р ы с. Ідзі ты!.. *(Спахапіўся, што выдае свае сапраўдныя пачуцці, зноў зайграў і заспяваў.)*

З палаткі выходзіць Андрэй, трымаючы ў руцэ вялікі кошык з аптэчнымі бутэлечкамі.

А н д р э й. Чыё гэта зелле?

К о с ц я *(чытае этыкеткі)*. «Страўнікавы сок», «Саляная кіслата», «Серная кіслата»... Чаго ж тут пытацца! Ясна — чыё! *(Ківае ў бок Барыса.)* У яго ж язва страўніка і маці доктарка.

А н д р э й. Твае зёлкі?

Б а р ы с *(з цікавасцю разглядаючы кошык)*. Страўнік у мяне працуе — дай бог кожнаму так!

К о с ц я. Як саламарэзка!

А н д р э й. Не твае? Не маглі ж яны з неба зваліцца?

Б а р ы с. Можа, дыверсія якая? Усё ж як-ніяк — серная кіслата. Калі выліць яе ў страву...

К о с ц я. Не трэба столькі кніжак пра шпіёнаў чытаць!

А н д р э й. Значыць, зелле не тваё?

Б а р ы с. Ідзі ты!..

А н д р э й. У такім разе я выкіну гэтую дрэнь у раку. *(Узяў кошык і накіраваўся да ракі.)*

А р ц ё м. Андрэй!.. Пачакай... Гэта маё...

Усе ўражаны.

А н д р э й *(недаверліва)*. Тваё?

Арцём моўчкі кіўнуў.

Ты захварэў?

Б а р ы с. Ну, вядома, захварэў! Ад такой работы коні дохнуць!

К о с ц я. Памаўчы, інтэлігент!

А н д р э й. Сапраўды захварэў? Навошта ж таіць? Мы сёння адправім цябе да ўрача.

А р ц ё м. Не... Я здаровы... У асноўным...

А н д р э й. Тады навошта гэтае зелле? Каго ты збіраешся лячыць?

Арцём *(збянтэжана).* Так... На ўсякі выпадак... А раптам хто-небудзь з нас захварэе?

Андрэй *(страціўшы цярпенне).* Вось што, Арцём... Нам абрыдлі твае сакрэты! Калі ты не скажаш, што ўсё гэта значыць, дзе ты бадзяешся па начах,— заўтра пакідай наш лагер! Хопіць!

Косця. Мы не пацерпім у сваіх радах аферыстаў!

Арцём. Я не аферыст...

Косця. Ну, дык дробны жулік. А гэта яшчэ горш...

Андрэй. Ты добра зразумеў, што я сказаў? Даём табе дваццаць чатыры гадзіны на роздум. А потым — выбірайся!

Зацямненне.

Ноч. На неба ўзбіраецца месяц. Уваходзіць Дон Кіхот. Ён асцярожна падыходзіць да гамака.

Дон Кіхот *(ціха).* Сеньёр... Сеньёр Арцём... Наступіў наш час! Пара!

Арцём *(таксама ціха).* Я не сплю... Пачакайце хвілінку. *(Надзявае штаны, кашулю, забірае з-пад гамака кошык з лекамі.)*

Дон Кіхот і Арцём асцярожна, на пальчыках, крадуцца ў лес. Дон Кіхот закрануў нагой пусты бітон, і ён загрымеў. Абодва прыселі.

Дон Кіхот *(з палёгкай).* Не пачулі...

Дон Кіхот і Арцём знікаюць у цемры. Сцэна пустая. Музычны антракт. Світае. І раптам там, дзе зніклі Дон Кіхот і Арцём, бліскае полымя, чуюцца выбух, крыкі. З палаткі выскачылі спалоханыя Андрэй, Косця і Барыс у трусах і майках.

Андрэй. Што б гэта магло быць?

Косця. Гэта ж зусім недзе побач!

Барыс. Можа, вайна пачалася?

Косця. Ціпун табе па язык!

Андрэй. Ціха! Дайце паслухаць...

Хлопцы прыслухоўваюцца.

Барыс. Паглядзіце! Арцёма няма!

Косця. Казаў я табе, Андрэй, што дабром гэта не скончыцца.

Андрэй. Хутчэй апранайцеся! Трэба бегчы шукаць... Можа, міна якая пасля вайны засталася?

Хлопцы хуценька апранаюцца.

Косця. Ціха! Здаецца, сюды нехта ідзе. *(Усе слухаюць.)*

На паляну выходзяць, хістаючыся і падтрымліваючы адзін аднаго, Дон Кіхот і Арцём. Іх цяжка пазнаць. Твары ў сажы. Усё адзенне ператварылася ў лахманы. У Арцёма не хапае адной калашыны, а ў Дон Кіхота замест пітаноў засталося нешта крыху большае за фігавы лісток.

Андрэй. Хлопцы! Гэта ж Дон Кіхот! *(Кідаецца да Дон Кіхота і, асцярожна падтрымліваючы яго, вядзе да крэсла.)* Што з вамі, сеньёр Дон Кіхот?.. Косця, рыхтуй усё для перавязкі!

Косця прынёс вядро вады, ручнік і бінт.

Барыс! Дапамажы Арцёму! Не бачыш? Ён ледзь трымаецца на нагах.

Абыходзячы Дон Кіхота, Барыс набліжаецца да Арцёма. Ідзе перавязка.

Што з вамі здарылася, сеньёр Дон Кіхот? Дзе гэта вас так?

Дон Кіхот паглядзеў на Арцёма і моўчкі, аднымі вачыма спытаў: «Ім можна гаварыць?» Арцём адмоўна пакруціў галавой. Андрэй і Косця заўважылі гэта.

Косця. Ах, вось яно што! Тут замешан Арцём!
Андрэй. Што вы рабілі, Арцём?

Маўчанне.

Лепш прызнайся, дзе вы што рабілі?
Арцём. Нічога дрэннага мы не рабілі...
Андрэй. Ты разумееш, якога чалавека ледзь не ўгробіў? *(Паказвае на Дон Кіхота.)*
Барыс. Я здагадваюся... Яны, відаць, рыбу глушылі!
Косця. Браканьерствам, значыць, займаліся?
Андрэй. Што ж... Прыйдзецца выклікаць міліцыю. Няхай яна разбіраецца.
Косця *(паказваючы на Дон Кіхота)*. Тады і яго прыцягнуць...
Андрэй. Сеньёр Дон Кіхот, што вы рабілі ў лесе?
Дон Кіхот. Эксперыменты...
Андрэй. Якія эксперыменты?
Дон Кіхот. Сеньёр Арцём... Прашу прабачэння... Але я не бачу патрэбы трымаць у сакрэце нашу з вамі навуковую работу.
Арцём. Ды цяпер ужо як утрымаеш, калі вы...
Косця. Можна падумаць, што зараз нам адкрыюць сакрэт вадароднай бомбы!
Арцём *(устаючы)*. Хадземце...

**Дон Кіхот** *(збянтэжана)*. Але мы ў такім выглядзе...

**Андрэй.** Гэта бяда невялікая. Добра, што хоць жывыя засталіся. Косця, там у палатцы мая кашуля...

**Косця** *(адыходзячы ў палатку)*. А ў мяне штаны запасныя ёсць.

**Андрэй** *(Арцёму)*. І ты апраніся. Што ў вас здарылася?

**Арцём** *(неахвотна)*. Кіслата ўзарвалася...

Косця прынёс белую вышываную кашулю і штаны для Дон Кіхота.

**Косця.** Паглядзіце, ці падыдуць...

Дон Кіхот прымярае штаны і кашулю.

**Андрэй.** Цудоўна! Як быццам на вас пашыта! *(Убачыўшы, што Дон Кіхот надзявае паверх кашулі рыцарскія даспехі.)* А гэта навошта?

**Дон Кіхот.** Які ж рыцар без рыцарскіх даспехаў?

**Арцём.** Толькі я хачу папярэдзіць... Тое, што вы зараз убачыце і пачуеце, застанецца паміж намі.

**Косця.** Ну, само сабой!

**Арцём.** Тады пайшлі...

Арцём пайшоў за палатку ў лес. Хлопцы, не разумеючы, пераглянуліся, пайшлі за ім. Барыс стараецца трымацца падалей ад Дон Кіхота. Круг паварочваецца. Арцём падводзіць хлопцаў да невялікага ўзвышша, пакрытага паласатай коўдрай. Арцём скідае коўдру, і мы бачым нейкае казачна-фантастычнае стварэнне з дрэва, металу і пластмасы, аблытанае рознакаляровымі правадамі. Стаіць яно на высокіх драўляных ножках і нечым нагадвае вялікую казу.

**Андрэй** *(паглядзеўшы ўверх, адкуль цягнуцца правады)*. А ў цябе тут, аказваецца, поўная электрыфікацыя.

**Арцём.** Каб не адрывацца і не губляць часу, мне давялося даставіць яе з дому сюды... Мы вельмі баяліся, што вы яе знойдзеце.

**Андрэй.** А што гэта?

**Дон Кіхот** *(з гонарам)*. «ААБ-М-1», сеньёры!

**Косця.** ААБ... Што?

**Арцём.** «ААБ-М-1». Альфа-амега будучыні, мадэль першая.

**Косця.** Ты нам больш папулярна...

**Арцём.** Гэта механічная карова, карова-аўтамат.

Агульнае здзіўленне.

Косця. Карова... Што?

Дон Кіхот. Так, сеньёры, гэта карова-машына!

Андрэй. Няўжо гэта рэальна?

Арцём. Для навукі ў наш час не існуе немагчымага. А што тут незвычайнага, калі добра падумаць? Мы ведаем, што ёсць жывая, натуральная карова... Тэарэтычна мы дакладна ведаем, што адбываецца з ежай у каровіным жываце. Ну, а паколькі мы ўсё гэта ведаем, то чаму мы не можам гэты ж самы працэс паўтарыць у штучных умовах?

Косця. Гэта так проста?

Арцём. Вядома, не так проста. Трэба шмат чаго ўлічваць: тэмпературу страўніка, працягласць брадзільнага працэсу, канцэнтрацыю страўнікавага соку...

Барыс *(абыходзячы «альфа-амегу»)*. А дзе ў яе гэтае самае? *(Паказвае рукамі, як дояць карову.)*

Арцём. Вось яны... Гэты кранік для малака, той для вяршкоў, вунь той для смятаны. А гэты...

Дон Кіхот *(трохі збянтэжаны)*. А гэты... Разумееце, сеньёры, я вельмі люблю скалоцьвіны! Гэты будзе для скалоцьвін.

Андрэй. А масла будзе?

Арцём. Калі будуць скалоцьвіны, то павінна быць і масла... Для масла — вось, бачыце, гэтая адтуліна... Лыжачкай трэба будзе чэрпаць.

Дон Кіхот *(паказвае)*. Вось адсюль.

Андрэй. Не карова, а цэлы завод!

Косця. Гэта ж вельмі складана! Фантастычна складана!

Арцём. Аднаму было вельмі цяжка. Цяпер Дон Кіхот памагае. Разумееце, столькі людзей галадае!

Андрэй. Дзе галадае?

Дон Кіхот *(страсна)*. На нашай зямлі, сеньёры... У Афрыцы, у Лацінскай Амерыцы, у Індыі! Сеньёр Арцём! Прачытайце той дакумент, які так усхваляваў нашы сэрцы.

Арцём *(выцягвае запісную кніжку)*. Гэта лічбы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Я з газет выпісаў... Адзін чалавек з кожных двух на зямным шары дрэнна харчуецца, адзін з трох хранічна галадае. Разумееце? Кожны трэці чалавек!.. У Індыі, напрыклад, людзі атрымліваюць на дваццаць чатыры працэнты яды менш, чым ім патрэбна...

Дон Кіхот *(з захапленнем)*. А цяпер, сеньёры, уявіце на момант, што выпушчан мільён, мільярд нашых

аўтаматаў! І няма больш на зямлі галодных! Ім не патрэбен корм, дагляд. Уключыў у разетку і — усё...

А н д р э й. І ўсё? Ужо што-небудзь атрымліваецца?

Дон Кіхот і Арцём пераглянуліся і цяжка ўздыхнулі.

А р ц ё м. Мы наблізіліся да малака.

А н д р э й. Як гэта разумець — наблізіліся?

К о с ц я. А паглядзець на гэтае малако можна?

А р ц ё м. Зараз. *(Адчыніў маленькія дзверцы ў задняй частцы «альфа-амегі», напіхаў туды травы. Дон Кіхот адчыніў зверху кругленькае вечка і выліў некалькі бутэлечак страўнікавага соку і салянай кіслаты.)* Увага! Я ўключаю працэс стрававання!

Арцём уключыў невялікі рубільнік на спіне «альфа-амегі». «Альфа-амега» ўздрыгнула і загула. Ярка ўспыхнулі два вялікія чырвоныя вокі ў пярэдняй частцы. Яна гудзе ўсё мацней і мацней, пускаючы пару і дым, выплёўваючы іскры.

Б а р ы с *(адбегшы ўбок, валіцца на зямлю)*. Ратуйцеся! Яна зараз узарвецца!

А н д р э й. У вас вогнетушыцелі ёсць? На ўсякі выпадак...

Арцём моўчкі адхінуў куст і паказаў чатыры вогнетушыцелі.

К о с ц я. Усё прадугледзелі!

А р ц ё м. А як жа? Навуковы эксперымент... Я аднойчы ледзь хату не спаліў. Добра, што бацькі дома не было...

А н д р э й *(прыслухоўваецца да голасу «альфа-амегі»)*. А ўзарвацца яна не можа?

А р ц ё м. Хто яе ведае... Не павінна б.

«Альфа» змоўкла. Чырвоныя вочы яе патухлі, загарэўся зялёны агонь. Усе пасунуліся бліжэй, узняўся і падышоў Барыс. Мёртвая цішыня... Косця дакрануўся рукой да машыны, дзіка закрычаў і затрос рукой. Барыс зноў адскочыў і паваліўся.

К о с ц я *(махаючы рукой)*. А, чорт!

А р ц ё м. Асцярожна. У час работы яна награецца. Нам яшчэ не ўдалося зрабіць эфектыўную сістэму ахаладжэння.

А н д р э й. Усё?

Д о н К і х о т. Так, сеньёры, усё.

К о с ц я. Хутка!

А р ц ё м. Паскораны працэс. У каровіным жываце ён працягваецца некалькі гадзін, а мы звялі яго на некалькі мінут.

А н д р э й. Ну і ну! А дзе ж малако?

Арцём падстаўляе шклянку, Дон Кіхот адкрывае на жываце «альфа-амегі» адзін з кранікаў. У шклянку наліваецца чорная, як дзёгаць, жыжка.

Косця. Гэта... малако?

Арцём. Ага...

Косця. А чаму яно... не зусім празрыстае?

Дон Кіхот. Галоўная якасць малака, паважаныя сеньёры, не ў колеры, а ў калорыях!

Арцём. Пакаштуй!..

Косця. Не, няхай хто-небудзь другі. Вось Барыс...

Барыс. Ха! Атруціць хочаце?

Андрэй. Дайце мне... *(Асцярожна падносіць шклянку да носа і нюхае.)* Ну і водар! Аж нос на бок верне. Жывым кароўнікам!

Арцём *(узяў шклянку і прынюхаўся)*. Не кароўнікам, а сіласам.

Дон Кіхот аж перасмыкнуўся, гледзячы, як Андрэй нюхае малако «альфа-амегі». Відаць, ён ужо неаднойчы каштаваў яго. Андрэй зрабіў глыток і вытарашчыў вочы. Потым ён сплюнуў і разяўленым ротам некалькі разоў хапіў паветра.

Андрэй. У-ф!.. Ты воцатную эсенцыю туды не ліў?

Арцём. Не, воцатную эсенцыю не ліў. *(Узяў шклянку, адпіў маленькі глыток і плюнуў.)* Вядома, гэта яшчэ не зусім малако. Але ўжо нешта ёсць. Мы не адступімся, пакуль не даб'ёмся свайго.

Барыс *(дзіка крычыць)*. Ай! Ай!

Усе спалохана ўздрыгнулі.

Андрэй. Што з табой?

Барыс. Ай! Ай! *(Пабег у бок лагера.)*

Арцём. Што з ім? Можа, змяя ўкусіла? *(Аглядае вакол зямлю.)*

Косця. А можа, ён звар'яцеў?

Андрэй. Трэба прасачыць, куды ён пабег.

Арцём ухутвае коўдрай «альфа-амегу».

Косця. Як ты думаеш, Арцём, чаму ніхто з вучоных не дадумаўся да гэтага?

Дон Кіхот. У навуцы заўсёды бывае нехта першы. На гэты раз першымі будзем мы з сеньёрам Арцёмам.

Косця. Колькі ўсё гэта каштавала?

Арцём *(змрочна)*. Адных трансфарматараў больш як на пяцьдзесят рублёў... Я ўжо некалькі гадоў не хаджу ў кіно, эканомлю...

Андрэй. Вы верыце, што вам удасца зрабіць гэтую... «альфа-амегу»?

Дон Кіхот *(горача)*. Не адступімся!.. Вось толькі ніяк не можам знайсці, дзе мы дапусцілі ў разліках памылку... Чаму малако не такое, як у жывой каровы?.. Але мы знойдзем яе! Начэй спаць не будзем, але знойдзем! Нас натхняе ідэя! Дзеля яе і жыцця не шкада, паважаныя сеньёры!

Косця. Што й казаць, ідэя выдатная!

Андрэй. Можа, вам пракансультавацца ў Акадэміі навук?

Арцём. Нельга!.. Хіба вы не ведаеце сучасных вучоных? Перахопяць ідэю або сааўтара навяжуць! Мы ўжо як-небудзь самі...

Андрэй. Пайшлі, трэба даведацца, што з Барысам.

Круг паварочваецца. Дон Кіхот і хлопцы ідуць у лагер. У лагеры Барыс, стоячы на каленях, ліхаманкава капаецца ў часопісах.

Косця. Што з табой, інтэлігент?

Барыс *(не ўзнімаючы галавы)*. Зараз, зараз...

Андрэй. Паслухай!.. Нельга ж так людзей палохаць.

Барыс. Знайшоў! Знайшоў... Слухайце! Вось што піша часопіс «Техника молодежи»... «Молоко без коровы или корова-робот... Печать сообщает, что группа английских ученых создала машину, производящую молоко... без коровы...»

Магільная цішыня.

Дон Кіхот. Сеньёр... Пакажыце гэта мне... *(Чытае.)* «Эта машина перерабатывает траву, морковь, горох — одним словом, все, что требуется в пищу корове. Но коровье молоко содержит только восемнадцать процентов белков, находящихся в кормах, а машина отдает восемьдесят процентов. «Бескоровье» молоко не содержит и некоторых элементов, которые вредны детям и пожилым людям».

Дон Кіхот і Арцём глядзяць адзін на аднаго, знішчаныя, раздаўленыя гэтай заметкай. Катастрофа!

Арцём. Усё!.. Канец... Перахапілі...

Дон Кіхот. О не! Я выклічу гэтых выскачкаў на паядынак і пакараю за гнюснае злачынства! Я бяру ў сведкі неба!..

Арцём. Цяпер гэта ўжо не паможа...

Косця. Сеньёр Дон Кіхот! Арцём! Не падайце ду-

хам!.. Радавацца павінны! Вы ж прадбачылі геніяльнае адкрыццё!

А р ц ё м. Мы прадбачылі, а яны зрабілі...

К о с ц я. Але ж вы першыя! Мы ж ведаем, што вы першыя!

А н д р э й. «Альфа-амегу» трэба заканчваць.

А р ц ё м. Навошта? Каму гэта цяпер патрэбна?

А н д р э й. Як гэта навошта? Іх робат дае толькі малако. А ваша «альфа» будзе даваць і малако, і смятану, і масла!..

Д о н К і х о т. І скалоцьвіны!..

А н д р э й. Вось бачыце? Нават скалоцьвіны... Там хто зрабіў? Капіталісты! Вы думаеце, яны галодных карміць будуць? Дудкі! Не, вы павінны закончыць «альфу».

Д о н К і х о т *(трохі ажывіўся)*. Вы так думаеце?

К о с ц я. Ну, вядома! Інакш і быць не можа!.. Хлопцы... Я прапаную. Хто колькі можа... *(Выварочвае кішэні і дастае адтуль грошы.)* Трымай, Арцём!

А н д р э й *(таксама выварочвае кішэні)*. Шкада, што ў нас грошай мала.

Д о н К і х о т *(вельмі збянтэжаны)*. Сеньёры... У мяне зусім нічога няма... Мяне ніколі не цікавіў гэты ганебны метал...

А н д р э й. Што вы, сеньёр Дон Кіхот! Ад вас нічога не патрабуецца. Хопіць і таго, што вы памагаеце Арцёму.

Барыс таксама выцягнуў з кішэні рубель і хацеў падысці да Арцёма. Але хлопцы дэманстратыўна зрабілі выгляд, што не заўважылі гэта, і адвярнуліся. Барыс, патрымаўшы рубель, адышоў.

Д о н К і х о т. Паважаныя сеньёры! Раней чым пайсці на адпачынак, я хацеў бы пагаварыць вось з гэтым чалавекам. *(Паказаў на Барыса.)*

Андрэй, Косця і Арцём пайшлі ў палатку.

Ну? Што ж ты маўчыш?

Б а р ы с. Я прашу вас... Заступіцеся за мяне перад хлопцамі. Няхай яны дадуць мне работу!

Д о н К і х о т. Каб я заступіўся? Тысячу разоў не! Ты сам! Сам павінен!..

Б а р ы с. Што ж мне рабіць?

Д о н К і х о т. На каленях прасі даравання! Рыдай! Біся галавой аб дрэвы! Зямлю грызі! Але дабіся памілавання! Калі ж не зможаш... Самы страшны грэшнік з пекла не пазайздросціць твайму лёсу! Гэта кажу я, Дон Кіхот Ламанчскі! І потым... Кладзіся спаць тут, а не там!

Дон Кіхот адступіў на тры крокі і знік. З палаткі выйшлі Андрэй, Арцём і Косця.

Андрэй. А дзе Дон Кіхот?

Барыс. Там...

Андрэй. У такім разе — усім спаць!

Арцём падыходзіць да гамака. Барыс выкідвае адтуль яго прасціну, коўдру і падушку.

Барыс. Вымятайся адсюль! Я тут буду спаць!

Арцём. Ты ж памяняўся!..

Барыс. Мала што памяняўся! А цяпер перадумаў! Ясна? І наогул не падыходзьце да мяне! Ясна?

Косця *(падштурхоўваючы хлопцаў да палаткі)*. Хадзем, хлопцы. Нервовыя любяць адзіноту!

*Заслона*

## КАРЦІНА СЁМАЯ

Раніца наступнага дня. На сцэне завіхаюцца Андрэй, Косця і Арцём. Барыс ляжыць у гамаку. Уваходзіць Васілевіч.

Васілевіч. Вітаю гераяў працы!

Косця. Добры дзень, Васіль Пятровіч!

Арцём. Дзень добры...

Васілевіч *(паказваючы на інструменты, развешаныя на дрэвах)*. Што гэта ў вас — выстаўка?

Косця. Не... Гэта мы ствараем аркестр народных інструментаў. Хораша граем! Уся вёска прыходзіць слухаць, асабліва дзяўчаты.

Васілевіч *(здзіўлена гледзячы на панаму і шорты Барыса)*. А гэта што за папуас?

Косця. А гэта вёска даганяе горад. Перадавая культура нават у балота пранікае. Што вы хочаце — дваццатае стагоддзе!

Васілевіч з цікавасцю абыходзіць лагер, разглядаючы пліту, балон, тэлевізар.

Васілевіч. А вы тут, як бачу, шыкоўна ўладкаваліся!

Косця. Інакш нельга: перадавыя даяркі! Для кіно нас здымалі. Вось тады прывезлі пліту і тэлевізар. Пасля хацелі забраць, але мы не аддалі.

Васілевіч. Цяпер вы героі! Пра вас ва ўсе званы б'юць, ва ўсіх газетах пішуць!..

Косця. Стараемся, Васіль Пятровіч, стараемся. Жывём так, як нас бацькі вучылі.

Васілевіч. Яно, канешне, так... Хм... Вось якая справа... Старшыня мне даручэнне даў... Я вам грошы за два тыдні прывёз.

Косця. Гэта будзе вельмі дарэчы. Калі ласка, прашу сюды. *(Падводзіць Васілевіча да стала.)*

Васілевіч садзіцца за стол, надзявае акуляры, выцягвае з партфеля грошы і паперы.

Васілевіч. Так... Паглядзім, хто тут у нас першы?.. Авярковіч Канстанцін!

Косця. Здаецца, гэта я.

Васілевіч *(урачыста)*. Трыццаць дзевяць рублёў і чатырнаццаць капеек. Распісвайся ў ведамасці.

Косця распісаўся, узяў грошы і адышоўся.

Зуеў Арцём... Трыццаць восем рублёў!

Арцём распісваецца і старанна пералічвае грошы.

Правільна! Лічы грошы, не адышоўшыся ад касы. Хопіць на першы раз?

Арцём. Малавата...

Васілевіч. А ты, браце, сквапны. Нядобра гэта... Васілевіч Андрэй...

Андрэй падыходзіць да стала.

У цябе сорак два рублі. *(Васілевіч стараецца як-небудзь прымірыцца з Андрэем, але так, каб не вельмі кідалася ў вочы, што ён першы шукае прымірэння.)* Цяпер табе і жаніцца можна. Столькі грошай!.. Ну, чаго ты надзьмуўся, не раўнуючы, як той індык? На бацьку ваўком глядзіш... Маці мне проста жыцця не дае, згаварыліся са старшынёй... Хоць у вір галавой кідайся!.. Ты заўсёды такі ці толькі з бацькам? Усміхнуўся б, ці што?..

Косця *(цішком штурхануў Андрэя пад бок)*. Хіба пойдзе яму весялосць у галаву, Васіль Пятровіч!

Васілевіч. А што такое?

Косця. Над ім жа ўвесь час дамоклаў меч visіць!

Васілевіч. Чый меч?

**Косця.** Ды ваш праклён! Кожны дзень бяда можа здарыцца.

**Васілевіч.** А... Бывае... Усякае здараецца ў жыцці. Людзі і пасварацца між сабой, і памірацца. Вас не папужай, то вы зусім усякі страх перад бацькамі страціце... Хто ў нас яшчэ застаўся?.. Бараноўскі Барыс?

**Барыс.** Хто? Я? Гэта вы мяне?

**Васілевіч.** Ну, а каго ж? У цябе, брат, больш за ўсіх...

**Барыс.** Што? У мяне больш за ўсіх?

**Васілевіч.** Пяцьдзесят рублёў, як адна капейка.

**Барыс.** Я... Тут нейкая памылка... Гэтага не можа быць!

**Васілевіч.** Наш бухгалтар яшчэ ніколі не памыляўся. Вось чытай сам: Бараноўскі Барыс — пяцьдзесят рублёў. Распісвайся, атрымлівай.

**Барыс.** Пачакайце... Як жа?.. Чаму мне больш?

**Васілевіч.** Твая група кароў дала больш малака. Відаць, лепш стараўся. Атрымлівай...

**Барыс.** Мне не трэба больш! Я не хачу!.. Мне наогул нічога не трэба! Ніякіх грошай!

**Косця.** Бачыце, Васіль Пятровіч, якія ў нас свядомыя людзі? Лепш за ўсіх працаваў, больш за ўсіх зарабіў, а хоча, каб было ўсім аднолькава. Камунізм!

**Андрэй.** Бяры грошы. Хто ж вінаваты, што твая група кароў аказалася лепшай? Выпадковасць!

Косця падштурхнуў Барыса да стала. Той неяк машынальна ўзяў грошы, распісаўся ў ведамасці і выбег.

**Васілевіч.** Глядзі ты! Я лічыў яго лайдаком, а ён вунь які! Дзе вашы каровы? Хачу паглядзець на іх. Ты праводзіш мяне, Андрэй?

**Андрэй.** Зараз...

**Васілевіч** выходзіць.

**Косця.** Ты зразумеў, што ён спецыяльна прыехаў, каб памірыцца з табой? Грошы мог бы і касір прывезці!..

**Андрэй.** Зразумеў...

**Косця.** А чаму ж ты не радуешся?

**Андрэй.** Не магу ж я на галаве хадзіць!

**Косця.** Ну і характар у цябе!

**Андрэй.** Арцём... Вазьмі! *(Адлічыў і падаў Арцёму некалькі рублёў.)*

**Арцём** *(збянтэжана)*. Што ты, Андрэй!

Косця. Ад мяне таксама вазьмі! *(Падае грошы.)*

Арцём *(расчулена)*. Рабяты... Мне... Я... Я не магу... Я ж не змагу столькі аддаць!

Косця. Бяры! Зробіш «альфу» — будзеш нас бясплатна скалоцьвінамі карміць. Я таксама скалоцьвіны люблю!..

*Заслона*

## КАРЦІНА ВОСЬМАЯ

Яшчэ на закрытай заслоне мы бачым цені дзвюх фігур, якія тэмпераментна і даволі выразна жэстыкулююць. Гэта Дон Кіхот і Барыс. Гасне святло. Лагер. Тая ж дэкарацыя. Толькі зніклі інструменты з дрэў. Раніца. Андрэй і Косця ў белых халатах нясуць бітоны з малаком. Спыніліся, каб перамяніць рукі.

Косця. Ты заўважаеш, што сёння нядзеля?

Андрэй. Як гэта ты здагадаўся?

Косця. Мальвіна заспалася.

Андрэй. Ты, напэўна, хацеў сказаць — скарпіён? Ты ж так яе называеш.

Косця *(сумна ўздыхнуў)*. Не трэба, Андрэй...

На сцэну выскачыў узбуджаны Барыс. Ён кінуўся дапамагчы Андрэю, але той не даў яму нават узяцца за ручку бітона.

Андрэй *(падкрэслена ветліва)*. Не круціся, калі ласка, пад нагамі! Я прашу цябе, Бора!

Барыс. Я хачу вам памагчы.

Андрэй. Не патрэбна нам твая дапамога! Ідзі лепш адпачывай.

Барыс *(прымірэнча)*. Хопіць вам, бацюкі! Ну, я памыляўся... Я ж з самага пачатку не быў супраць работы ўвогуле. Я быў супраць канкрэтнай работы, бо лічыў, што яна не для мужчын, якія хутка атрымаюць сярэднюю адукацыю. Ну, усвядоміў. Буду працаваць, як вы. Трэба, значыць, трэба... Ну, што мне — на калені перад вамі станавіцца? Зямлю грызці?

Андрэй і Косця не звяртаюць увагі. Барыс забег з другога боку і хацеў памагчы Косцю.

Косця. Псік, кіска, а то хвост адцісну!

Барыс. Ды зразумейце ж вы!.. Хаджу сярод вас, як кароставы! Няёмка!

Косця. Ха! Бачыў, Андрэй? Яму няёмка! А калі ён

здзекаваўся з нас, тады яму было прыемна! Ану, дай дарогу!

Зʼяўляецца Дон Кіхот. Яго бачыць толькі адзін Барыс. Дон Кіхот знакамі паказвае: хоць зямлю грызі, але заслужы паміла-ванне, інакш не будзе табе ад мяне ратунку. Дон Кіхот знік, а Барыс зноў кінуўся да хлопцаў.

Барыс. Ну, хочаце, хочаце... Я сам на сябе насценгазету выпушчу? Так сам сябе размалюю, што мама родная не пазнае! Знішчу сам сябе! Каменя на камені не застанецца!

Косця. Лёгка ж ты хочаш адкупіцца, Борка! Не выйдзе!

Барыс *(крычыць)*. Ну, я ж прызнаю сваю памылку! Чаго вам яшчэ трэба? Ці вы хочаце, каб я пайшоў і ўтапіўся? Вы гэтага хочаце?

Косця *(здзекліва)*.

«Мне не долго добежать до проруби,
Не запрятав даже русых кос».

Барыс. Я чэсна памыляўся, прызнаю. Ну, я дурань, ідыёт, скаціна! Вы задаволены?

Андрэй і Косця не зважаюць. Раптам Барыс схапіў бітон і панёс. Андрэй і Косця дагналі яго, адабралі бітон і аднеслі на ранейшае месца.

Косця. Не трэба, Борка. А раптам ты надарвешся? Як мы цябе выратуем у нашых палявых умовах?

Барыс *(загарадзіўшы ім дарогу)*. Ведаеце, хто вы? Вы — злосныя шкоднікі! Так-так, іменна шкоднікі! Дзяржаўныя шкоднікі! Вы штучна ствараеце беспрацоўе ў нашай краіне.

Косця. Краіна як-небудзь абыдзецца без цябе. Як ты думаеш, Андрэй? Абыдзецца без яго наша краіна?

Андрэй. Думаю, што абыдзецца.

Косця. Ну, вось бачыш — абыдзецца без цябе краіна?

Андрэй. Панеслі, Косця...

Косця і Андрэй падынялі бітон з малаком. Барыс плюхнуўся ім пад ногі.

Косця. Ты што? Ашалеў?

Барыс. Толькі цераз мой труп! Ці вы дасцё мне работу, ці... Тапчыце мяне! Тапчыце! Варвары! Душагубы! Крывасмокі!

Андрэй і Косця хацелі абысці Барыса, але той хуценька адпоўз і зноў перагарадзіў дарогу сваім целам. Уваходзіць Арцём. Убачыўшы Барыса, ён здзіўлена зняў, працёр акуляры і зноў надзеў іх.

Арцём. Што з ім?

Косця. Падучая хвароба, чарговы прыступ... Патрымай яго, Арцём, пакуль мы перанясём малако.

Арцём сеў на Барыса і прыціснуў яго да зямлі.

Барыс *(намагаючыся вызваліцца)*. Хуліганы! Варвары! Чарнасоценцы!

Андрэй і Косця бягом перанеслі некалькі бітонаў.

Косця. Трымай, трымай яго, Арцём!

Барыс. Арцём! Ты зломіш пазваночнік і ўсё жыццё будзеш плаціць мне аліменты!

Апошні раз нясуць бітоны Андрэй і Косця.

Андрэй. Цяпер можаш пусціць...

Барыс *(узнімаючыся з зямлі)*. Ну, я вам зраблю! Я вам адпомшчу! Я вам біяграфіі сапсую! Усё жыццё будзеце помніць!

Барыс ідзе ў палатку і выходзіць адтуль з вяроўкай у руках. Закінуўшы вяроўку за спіну, Барыс падыходзіць да стала.

Бывай, Арцём! Я на цябе не крыўдую. Ты проста лялька, марыянетка ў руках гэтых двух вар'ятаў. Мне нават шкада цябе. *(Кладзе на стол грошы.)* Гэта мая палучка. Бяры яе на «альфу»... Бывай.

Арцём машынальна паціснуў руку, якую падаў яму на развітанне Барыс. Дэманстратыўна абышоўшы Косцю і Андрэя, Барыс пайшоў у лес.

Косця.

«Напрасно старушка ждет сына домой,
Ей скажут — она зарыдает...»

Арцём *(спалохана)*. Слухайце! Ён жа сапраўды можа задавіцца!

Косця. Яго ніводная асіна не вытрымае!

Круг паварочваецца. Мы бачым тое месца, дзе стаіць ухутаная посцілкай «альфа-амега». Побач угадваецца рака. Барыс стаіць спіной да глядзельнай залы. Калі ён паварочваецца, мы бачым, што на шыі яго ўжо вісяць два камяні.

Барыс. Яны яшчэ пашкадуюць!.. Быў Борка, і няма

Боркі! *(Прыслухоўваецца.)* Бывай, маладое жыццё! «В этой жизни умирать не ново, но жить, конечно, не новей!» Мяне зацкавалі чэрствыя, бяздушныя людзі! *(Спявае.)*

Бывай, жыццё, навек бывайце, людзі,
Так рана абрываецца мой шлях!
Зноў расцвіце вясна — мяне ж не будзе,
Не для мяне зальюцца жаўранкі ў палях.

Я буду там, дзе ні зямлі, ні неба,
Ні гамака, ні тміннай каўбасы,
Анёлы маслам не памажуць хлеба
І ног не паказычуць верасы!

Там не паспаць мне ўволю, ні пажэрці,
Ні загарэць на сонцы не дадуць.
Рагатыя, нібы каровы, чэрці
Мне маладое сэрца прабадуць!

Я не пачую там гітары звонкай,
Але і ў тых, завоблачных, краях
Мне здасца Месяц залатой даёнкай,
Цадзілкаю мне здасца Млечны Шлях!

Барыс адыходзіць ад берага, разганяецца і... спыняецца на самай кромцы. Прыслухоўваецца і гаворыць грамчэй.

Барыс. Потым яны зразумеюць, што Барыс быў не такім ужо благім чалавекам! Быў! *(Усхліпнуў.)* Бывай, сонейка яснае! Бывай, неба блакітнае! Я так любіў вас!.. *(Зноў адыходзіць назад, разганяецца і зноў спыняецца.)* Бывай, жыццё, навек бывайце, людзі!.. *(Змаўкае і прыслухоўваецца. Гаворыць раптам зусім іншым тонам.)* Ну, што ж вы, паразіты, не ідзяце мяне ратаваць? Ці вы хочаце, каб я сапраўды ўтапіўся? Я ж ведаю, што вы тут!

З-за кустоў выходзяць Андрэй, Арцём і Косця. Косця падыходзіць да Барыса і адразае камяні.

Косця. Нават утапіцца як чалавек не можаш!

Круг паварочваецца. Барыса вядуць у лагер.

*(Азірнуўшыся на Барыса.)* «Да, жалок тот, в ком совесть нечиста!»

Барыс. Што вы будзеце са мной рабіць? Што вы будзеце са мной рабіць, га?

Андрэй. Чалавека з цябе будзем рабіць! Здымай штаны! Арцём, нясі хутчэй крапівы!

Барыс. Як?.. Сапраўды здымаць?

Косця. А ты як думаў? Здымай, здымай! *(Задаволена пацірае рукі.)*

Барыс пакорліва прыняўся адшпільваць рэмень. Ён гатовы на ўсё, каб толькі заслужыць дараванне.

Барыс. Хлопчыкі... Толькі вы не вельмі балюча... Не захапляйцеся... Добра, га?

Косця закасвае рукавы і спрабуе дубец.

Косця. Будзь ты хоць адзін раз мужчынам! Андрэй! У мяне ўсё гатова для экзекуцыі!

Чуваць, як да лагера на шалёнай хуткасці падлятае матацыкл. Убягае Юлька.

Юлька. Ух, ледзь паспела!.. Хацела вас папярэдзіць...

Андрэй. Аб чым папярэдзіць?

Юлька. Ой, вы ж яшчэ нічога не ведаеце... Віншую цябе, Андрэй!.. І цябе, Арцём, і цябе, Косцік, і цябе, Барыс... *(Па чарзе паціскае хлопцам рукі.)*

Барыс *(прытрымліваючы адной рукой штаны)*. Дзякую, Юлечка, дзякую!

Косця. Ты можаш сказаць толкам, што адбылося?

Юлька. Учора сход быў... Ой, які сход! Восем хлопцаў падалі заявы... Хочуць, як і вы, даяркамі... Вучыцца ў вас будуць, практыку праходзіць. Сам старшыня іх сюды вядзе... З аркестрам! Чуеце?.. Я хацела вас папярэдзіць, каб вы падрыхтаваліся.

Здалёку, ледзь чутна, даносіцца вясёлы марш.

Андрэй. Касцюк! Ідуць! Сапраўды ідуць! Значыць, перамаглі ўсё-такі! Перамаглі!

Юлька. Вашы маці таксама ідуць сюды...

Косця *(свіснуў)*. Ой, тады лепш уцячы...

Андрэй. Косця! Ты ж цяпер рыцар!

Косця. А што? А і сапраўды, чаго мне баяцца?

Музыка чуецца бліжэй.

Барыс *(ніколі не гаварыў так сур'ёзна, здаецца, што*

*зараз не вытрымае і заплача).* Андрэй... Косця... Я прашу вас...

Паўза.

Андрэй. Што? У чым справа?

Барыс *(кідаючыся то да аднаго, то да другога).* Я вас вельмі прашу, хлопцы!.. Паверце... Адзін раз паверце... Ну, пабіце, пабіце мяне! Толькі паверце!.. Я хачу разам з вамі... Як чалавек... Як усе вы... *(Зараз заплача.)*

Музыка набліжаецца.

Андрэй. Ну як, Косця? Можна яму паверыць?

Косця. Хацелася б паверыць...

Андрэй. Добра, паверым. Толькі глядзі, Барыс!

Шчаслівы Барыс становіцца побач з хлопцамі. І раптам чуецца зычны голас.

Дон Кіхот *(з-за куліс).* Стойце! Стойце! Пачакайце... А я?

На сцэну выбягае Дон Кіхот.

О, шаноўныя і высакародныя рыцары! Дазвольце ж і Дон Кіхоту Ламанчскаму заняць месца ў вашых шарэнгах! Клянуся імем найпрыгажэйшай красуні ў свеце — імем Дульцынеі Табоскай, што Дон Кіхот Ламанчскі будзе варты вашых вялікіх спраў! *(Хоча стаць у канцы шарэнгі побач з Арцёмам.)*

Андрэй. Не, не, сеньёр Дон Кіхот! Ваша месца вось тут, на правым фланзе.

Дон Кіхот. Паважаныя сеньёры! Маладое рыцарскае папаўненне павінна мець уяўленне, да каго яно ідзе! Сустрэнем яго нашым рыцарскім гімнам! *(Запявае песню, хлопцы падпяваюць.)*

Уваходзяць Кавалёнак, Васілевіч, дзяўчаты і маці з лозунгамі: «Слава героям працы!», «Ганарымся вамі, сыны!», «Няхай жывуць рыцары!» У руках Мальвіны самы кароткі плакат: «Ура, Косця!» Кавалёнак махае рукой тым, што знаходзяцца за сцэнай: «Сюды, сюды!» Усе далучаюцца да гімна рыцараў:

Не паміраюць рыцары,
І песні іх жывуць.
І слаўныя традыцыі
На подзвігі завуць.

Ісці ўпярод няспынна!
І не прасіць спачыну!
Мужчына, будзь мужчынам!
Будзь рыцарам, мужчына!

Над намі навальніцамі
Праносяцца гады.
І не старэюць рыцары,
І ўсё шчыльней рады!

Ісці ўпярод няспынна!
І не прасіць спачыну!
Мужчына, будзь мужчынам!
Будзь рыцарам, мужчына.

*Канец*

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Заслонаў.
Рыта — яго жонка.
Андрэеў.
Пётр Шурмін.
Павел Шурмін.
Чэбрыкаў.
Дамарацкі.
Дакутовіч.
Коржань.
Якушаў.
Якушава.
Тоня.
Бегер — маёр СД.
Манш, ён жа Марбах — афіцэр абвера.
Вернер — ваенны камендант Оршы.
Хэйге — шэф дэпо.
Друлінг — афіцэр СД.
Гауптман — начальнік санітарнага поезда.

# ПРАЛОГ

*Ноч. У заснежаным лесе гарыць невялічкі касцёр. Вакол яго сядзяць змарнелыя, у патрапаным адзенні і абутку* З а с л о н а ў, Я к у ш а ў, Я к у ш а в а, А н д р э е ў, П ё т р  Ш у р м і н *і* Ч э б р ы к а ў.

Я к у ш а ў *(горача)*. ...Заслонаў ідзе на верную смерць! Я не магу дазволіць! Як камісар і проста... як чалавек! Амаль два месяцы мы ад самай Вязьмы балоты мясілі! Мёрзлі! Галадалі! А колькі нашых людзей навечна ў тых праклятых балотах лягло!.. Навошта?.. Каб мы цяпер галавой у пятлю?!

З а с л о н а ў. Ну, чаму — адразу ў пятлю, Фёдар Мікітавіч? Я асабіста яшчэ пажыць трохі хачу.

Я к у ш а ў. «Пажыць»! Тваё жыццё да першага слупа! Герой!.. Думаеш, немцы не ведаюць, хто дэпо ўзрываў, станкі вывозіў?

З а с л о н а ў. Загадалі ўзрываць, і я ўзарваў. Немцы не могуць гэтага не разумець. У іх загад — самы галоўны бог.

Я к у ш а ў. Я не разумею цябе, Канстанцін Сяргеевіч... У нас канкрэтнае заданне Масквы — дайсці да Оршы і пачаць партызанскую вайну. Гэта загад! І ты не маеш права мяняць яго самавольна!

З а с л о н а ў. Масква ж не магла прадбачыць, што зменіцца сітуацыя.

Я к у ш а ў. А хіба яна змянілася?

З а с л о н а ў. Змянілася, Фёдар Мікітавіч... З'явілася рэальная магчымасць рубануць немцаў не вакол Оршы, а ў самой Оршы! А што такое Орша для немцаў... Ты ж сам чытаў, што яны пішуць у лістоўках. Усім чыгуначнікам загадана вярнуцца на сваю работу. За невыкананне — расстрэл. Разумееш? Відаць, здорава дапякло ім!.. Ну, вось я спужаўся і вяртаюся...

Я к у ш а ў *(з іроніяй)*. Можа, і мне з табой пайсці за кампанію?

З а с л о н а ў *(спакойна, не звяртаючы ўвагі на іронію)*. Табе нельга, Фёдар Мікітавіч. Ты — камісар. А я хто? Беспартыйны начальнік дэпо. Так сказаць, просты тэхнар...

Я к у ш а ў. Ты камуніст, Канстанцін Сяргеевіч.

З а с л о н а ў. Але ж пра гэта ніхто, акрамя вас, не ведае. У лесе было...

Паўза.

Я к у ш а ў. Калі б я ведаў, Канстанцін Сяргеевіч, што ты такі авантурыст, то я добра б падумаў, перш чым даць табе рэкамендацыю!

З а с л о н а ў. Гэта не авантура, а рызыка.

Я к у ш а ў. Ты ж сам заўсёды быў супраць рызыкі!

З а с л о н а ў. Супраць неабдуманай і неапраўданай. А мая рызыка, Фёдар Мікітавіч, абдумана і разлічана.

Я к у ш а ў. На дурноту немцаў разлічваеш, мысліцель?

З а с л о н а ў. Не, на пратэкцыю Манша. Якога я двойчы ратаваў ад суда за прагулы.

Я к у ш а ў. І дарэмна ратаваў! Бачыш, як хутка ён да іх перакінуўся!

З а с л о н а ў. Ратаваў таму, што рукі ў яго залатыя. Ды і прагулы ў яго былі пусцяковыя. Ездзіў да хворых родзічаў.

Я к у ш а ў. Ты разлічваеш, што немцы паслухаюць нейкага перабежчыка?

З а с л о н а ў. Паслухаюць не перабежчыка, а немца з Паволжа. Для іх ён свой. Родны!.. А ён маю біяграфію ведае.

Я к у ш а ў. Дохлы твой разлік, Канстанцін Сяргеевіч! «Мажліва! Напэўна! Пабачым!» Хіба гэта разлік? А ты — камандзір атрада. Між іншым! І твае «разлікі» ўсіх нас датычаць. Між іншым!

Паўза.

З а с л о н а ў *(ціха)*. Я яшчэ ў Маскве сказаў: са мной пойдуць толькі добраахвотнікі. Цяпер — тое ж самае... Няволіць нікога не хачу.

Я к у ш а ў. Ад нашага атрада засталося шэсць чалавек. Калі загінем і мы, загіне і справа, дзеля якой мы ішлі сюды.

З а с л о н а ў. Ну, а калі не загінем? Мы ж такую пастку для немцаў паставім, што яны самі збягуць з Оршы!

Паўза.

Я к у ш а ў. Ну, што вы ўсе як вады ў рот набралі! Выходзіць, што адзін я панікёр і слабак?! А вы ўсе — храбрацы і героі?! Вы ўсе рвецеся ў бой, адзін я хачу пад кажух, на печку?! Так, ці што?!

Ш у р м і н. Ніхто так не думае, камісар.

Я к у ш а ў. Тады чаму маўчыцё?

Ш у р м і н. Тут такая справа, камісар, што кожны сам за сябе павінен думаць.

Я к у ш а ў *(з іроніяй)*. Ну, і што ж ты надумаў... сам за сябе?

Ш у р м і н. Я пайду ў горад.

Ч э б р ы к а ў. Я таксама.

А н д р э е ў. Хто баіцца, той у карты не садзіцца!

Я к у ш а ў *(узрываецца)*. Тут вайна, а не гульня ў дурня! Ход назад не возьмеш! Немцы не дазволяць! Галавой прыйдзецца плаціць, разумнік! Добра ж, калі толькі сваёй! Цяміш, карцёжнік?

А н д р э е ў. Дык я ж не вас меў на ўвазе, Фёдар Мікітавіч!

Я к у ш а ў. І я не цябе маю на ўвазе!.. Не толькі цябе...

З а с л о н а ў *(мякка)*. Я разумею цябе, Фёдар Мікітавіч. І яны разумеюць. Усе ідуць у горад, адзін ты — не. Дык нельга ж табе туды! Усе ў горадзе ведаюць, што ты не радавы камуніст. І Манш гэта ведае. Тваё сумленне можа быць спакойным. Нават калі б ты захацеў пайсці ў Оршу — мы б цябе не пусцілі.

Паўза.

Я к у ш а ў *(ціха)*. Што ж нам з Кацюшай рабіць?

З а с л о н а ў. Як гэта — што? Базу к вясне рыхтаваць, людзей збіраць! Вясной мы і заявімся да вас, на ўсё гатовенькае! *(Прыслухоўваецца да самалёта ў небе.)* Дыскусію спыніць! Агонь патушыць! Зноў гэтая праклятая «рама»!

Касцёр гасне. У небе гудзіць самалёт.

Я к у ш а ў *(у цемры, зусім ціха)*. Я ведаю, Канстанцін Сяргеевіч, чаму ты рвешся туды... Дарэмна! Партыі ты ўжо даўно даказаў...

З а с л о н а ў *(таксама ціха)*. Я сабе хачу даказаць, Фёдар Мікітавіч...

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Орша. Цёмны, наглуха заштораны кабінет маёра СД Бруна Бегера. У кабінеце Б е г е р і М а н ш.

Б е г е р. Не разумею вас, Манш. Ён пакінуў пасля сябе адны руіны. А вы хочаце, каб я паверыў яму!

М а н ш. Пан маёр, я пражыў тут пятнаццаць гадоў і ведаю кожнага чыгуначніка. Заслонава я ведаю лепш за другіх.

Б е г е р *(з іроніяй)*. У мяне такое ўражанне, што вы, Манш, жывучы сярод рускіх, страцілі кваліфікацыю ваеннага разведчыка. Вы мысліце маштабамі і катэгорыямі таго слесара, у скуры якога сядзелі чатырнаццаць з палавінай гадоў. Не пятнаццаць, Марбах, а чатырнаццаць з палавінай. Вы страцілі нямецкую дакладнасць.

М а н ш *(разгублена)*. Адкуль вам вядома гэта прозвішча?

Б е г е р. Мне вядома, Марбах, не толькі гэта. Мне, напрыклад, вядома, што вам павысілі званне і перавялі з абвера-адзін у абвер-тры. Віншую вас, гаўптман Марбах.

М а н ш *(усё яшчэ ніяк не можа апамятацца)*. Але... абвер-тры не мая спецыяльнасць!

Б е г е р *(па-ранейшаму ціха і спакойна)*. У Берліне, Марбах, лепей ведаюць, дзе і як вас выкарыстаць. Таму я не раю вам, гаўптман, задаваць пытанні. Пытанні буду задаваць я. А вы будзеце на іх адказваць.

М а н ш. Чаму вы, маёр, дазваляеце сабе гаварыць са мной у такім тоне? Я — афіцэр абвера! Званні ў нас амаль аднолькавыя...

Б е г е р *(з іроніяй)*. Вось іменна — амаль!

М а н ш. Амаль! Абвер ніколі не падпарадкоўваўся СД!

Паўза.

Б е г е р *(з тонкім здзекам)*. Паслухайце, Марбах... Ці як вас там... Манш! Відаць, вы занадта доўга жылі ў Расіі. Можа, вам трэба растлумачыць, што такое РСХА — імперскае ўпраўленне бяспекі? Ці прысылаць для тлумачэння Шэленберга? Не трэба? Ён вам вядомы? Не забывайце: вы толькі для мяне афіцэр абвера Марбах. Для ўсіх астатніх вы па-ранейшаму перакладчык Манш. Слесар Манш.

Манш *(узрушана)*. Пан маёр! Паколькі вы ведаеце, хто я такі на самай справе, далажыце ў Берлін... Неразумна трымаць афіцэра ваеннай разведкі ў якасці перакладчыка пры шэфе дэпо! Пара закончыць гэты маскарад. Пятнаццаць гадоў Германія ведала ўсё, што рабілася на стратэгічным чыгуначным вузле, на шляху ад Масквы да заходняй граніцы.

Бегер. Чатырнаццаць з палавінай, Марбах. Вы празмерна доўга жылі ў Расіі... Я не лічу богам вашага Канарыса. Але, відаць, ён глядзіць далей, чым вы. Ён лічыць, што вам неабходна папрацаваць яшчэ тут. Не раскрываючы сваіх картаў. У маім падначаленні. Вам гэта не падыходзіць, гаўптман?

Манш. Я служу маёй радзіме, Германіі, пан маёр!

Бегер. Я таксама... Гэты горад, Марбах, не толькі тыл групы армій «Цэнтр», але і вароты Масквы. Разумееце?.. Камандаванне даручыла мне забяспечыць парадак у гэтых «варотах». І я зраблю ўсё, каб выканаць свой абавязак салдата і... немца. У вас ёсць пытанні, Марбах?

Манш. Няма...

Бегер *(з іроніяй)*. Я рады, што няма. Пакажыце мне вашы запісы пра Заслонава.

Манш. Калі ласка *(перадае Бегеру блакнот)*.

Бегер *(разглядаючы запісы)*. Хто яго бацькі?

Манш. Звычайныя сяляне. Кажуць, што яго бацьку арыштавалі і выслалі ці то ў Сібір, ці то на Поўнач.

Бегер. Гэта гаворыць слесар Манш ці афіцэр абвера Марбах?

Манш. Не разумею вас, пан маёр...

Бегер. Прашу вас, Марбах, быць больш дакладным... Мяне не цікавяць плёткі. Мяне цікавяць толькі факты. І ацэнка гэтых фактаў афіцэрам ваеннай разведкі.

Манш. Дакладна невядома, быў яго бацька «ворагам народа», як тут кваліфікавалі, ці не. Але тое, што ён быў арыштаваны і высланы — факт дакладны.

Бегер. Як успрыняў гэты факт Заслонаў?

Манш. Бездакорнай работай хацеў даказаць сваю лаяльнасць.

Бегер. Лаяльнасць ці адданасць? Для нас гэта вельмі важна.

Паўза.

Манш. Думаю, што лаяльнасць.

Бегер. Як гэта выглядала канкрэтна ў жыцці?

Манш. Ён працаваў у дэпо ад цямна да цямна, без выхадных і водпуску. Прыходзіў дадому і засынаў на парозе. Жонка распранала яго і клала ў ложак.

Бегер. І ўсё гэта толькі для таго, каб даказаць сваю лаяльнасць?

Манш. Трэба ведаць Заслонава. Ён проста не можа працаваць абы-як. Такі характар.

Бегер. Ён многа зарабляў?

Манш. Зарабляў многа, атрымліваў мала. Вылічвалі...

Бегер. Вылічвалі? Чаму? Вы ж кажаце, ён добра працаваў.

Манш. За непаладкі ў дэпо.

Бегер. Вы мелі дачыненне да гэтых непаладак?

Манш. Не да ўсіх...

Бегер. Зразумела. І цяпер вы адчуваеце дакор сумлення.

Манш. Пан маёр! Я рэкамендую вам чалавека, які двойчы аказаў вельмі важную паслугу абверу.

Бегер *(пасля паўзы, здзіўлена)*. Заслонаў?

Манш. Іменна....

Бегер. Якім чынам?

Манш. Ён двойчы выратаваў мяне ад сур'ёзнай небяспекі. Мяне хацелі судзіць за прагулы. Перад вайной камуністы ўвялі спецыяльны закон аб дысцыпліне...

Бегер. Як жа вы, ваенны разведчык, дапусцілі такую легкадумнасць — прагулы?

Манш. У мяне не было выйсця, пан маёр. Я павінен быў сустрэцца ў Смаленску з сувязным. Прыкінуцца хворым было больш небяспечна.

Бегер. Вось чаму вы хадайнічаеце за Заслонава! Выкіньце, Марбах, нямецкі сентыменталізм на сметнік! Заслонаў быў і застаецца небяспечным ворагам Германіі. І тое, што вы расказалі пра яго, лішні раз пацвярджае гэта.

Манш. Пан маёр! Я думаю пра інтарэсы рэйха, а не пра сентыменталізм. Заслонаў — незамянімы спецыяліст, ён выдатна ведае чыгунку. Але гэта толькі адзін бок справы... Калі ён будзе працаваць у нас, працаваць на нас — гэта будзе самая лепшая агітацыя супраць камуністаў.

Бегер. Ён камуніст?

Манш. Не, яго не прынялі. Хоць заяву ён падаваў.

Бегер. Як ён ставіцца да... «матэрыі»?

Манш. У яго яе ніколі не было. Ён еў абы-як, усуха-

мятку, хварэў на гастрыт. Бальніцу і дактароў не прызнаваў. Больш правільна — не меў на гэта часу...

Б е г е р. Вы свабодны, Марбах. Ваш блакнот застанецца ў мяне. Вы па-ранейшаму будзьце для яго слесарам Маншам. Але не забывайце, што вы — афіцэр разведкі.

М а н ш. Я гэтага ніколі не забываю, пан маёр.

М а н ш выходзіць. Бегер, застаўшыся адзін, уважліва вывучае блакнот Манша, робіць у ім паметкі.

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Кабінет маёра Бегера. Са стала вузкім промнем ярка свеціць на пусты стул лямпа. Сам Б е г е р увесь час сядзіць за сталом, застаючыся ў паўзмроку.

Д р у л і н г уводзіць З а с л о н а в а.

Б е г е р *(Друлінгу)*. Вы свабодны.

Д р у л і н г нячутна знікае. Бегер доўга і ўважліва разглядае Заслонава.

З а с л о н а ў. Добры дзень, пан маёр.

Б е г е р *(не адказваючы)*. Праходзьце сюды, Заслонаў. Сядайце.

З а с л о н а ў *(сядаючы)*. Дзякуй, пан маёр.

Бегер зноўку доўга і пільна ўглядаецца ў Заслонава. Твар Заслонава асветлены яркай лямпай. Святло рэжа вочы, але Заслонаў сядзіць спакойна, нерухома.

Б е г е р. Што вам патрэбна, Заслонаў?

З а с л о н а ў. Спакойнае жыццё, пан маёр. Спакойнае і забяспечанае. Я стаміўся ад голаду, вошай і няпэўнасці свайго лёсу. Я хачу сёння легчы спаць, не баючыся за свой заўтрашні дзень. Я стаміўся, пан маёр.

Б е г е р. Калі ж вы паспелі стаміцца? Вайна толькі пачалася!

З а с л о н а ў. А мне здаецца, што яна ідзе ўжо тры гады.

Б е г е р. Гэта ваша перакананне ці... настрой?

З а с л о н а ў. І тое, і другое. Настрой нараджае перакананні.

Б е г е р. Вы даўно так думаеце?

З а с л о н а ў. З дваццаць другога чэрвеня.

Паўза.

Б е г е р. Дзе вас дагнала наша войска?

З а с л о н а ў. У Вязьме. Мы ішлі адтуль пешшу. Нямецкія паязды не возяць рускіх.

Б е г е р. Чэбрыкаў, з якім вы прыйшлі ў Оршу, камуніст?

З а с л о н а ў. Не ведаю, пан маёр. Я не ме. ніякіх адносін да партыйнай арганізацыі.

Б е г е р. А хто яе ўзначальваў, ведаеце?

З а с л о н а ў. Ведаю. Якушаў. Фёдар Мікітавіч Якушаў.

Б е г е р. Дзе і калі вы бачылі яго ў апошні раз?

З а с л о н а ў. У Оршы. Ён паехаў на два дні раней за мяне.

Б е г е р. Чаму вы не паехалі разам з ім?

З а с л о н а ў. У мяне быў загад... Пакінуць Оршу разам з сапёрамі.

Б е г е р. Якія ўзрывалі дэпо?

З а с л о н а ў. Так...

Б е г е р. Вы прымалі непасрэдны ўдзел у гэтай аперацыі?

З а с л о н а ў. Не мог не прымаць, пан маёр. Законы ваеннага часу бязлітасныя. А я не хачу паміраць. Мне трыццаць два гады.

Паўза.

Б е г е р *(раптам)*. За што вас выгналі з камсамола?

Паўза.

З а с л о н а ў. З-за бацькі.

Б е г е р. Хто ваш бацька?

З а с л о н а ў. Мужык. Селянін.

Б е г е р. Дзе ён зараз?

З а с л о н а ў. Не ведаю, пан маёр. Ён быў высланы на Поўнач.

Б е г е р. За што?

З а с л о н а ў. Яго абвінавачвалі, што ён нібыта спаліў сваю гаспадарку. Каб не аддаваць калгасу...

Б е г е р. А ён сапраўды спаліў яе?

З а с л о н а ў. Не... У яго б рука не ўзнялася на такое. Нехта іншы падпаліў...

Б е г е р. Калі вы прынялі рашэнне супрацоўнічаць з намі?

З а с л о н а ў. Даўно. Я люблю нямецкі народ за яго працавітасць і высокую культуру.

Б е г е р *(з іроніяй)*. Чаму ж вы ў такім разе адправі-

лі сваю сям'ю ў савецкі тыл, а не пакінулі яе ў Оршы? Ці, можа, яна не падзяляе вашых поглядаў на высокую нямецкую культуру?

Заслонаў (*не адразу*). Калі б мая сям'я засталася тут, мы б зараз з вамі не размаўлялі.

Бегер. Чаму?

Заслонаў. У НКВД працавалі разумныя людзі.

Бегер. Вы былі знаёмы з імі?

Заслонаў. З некаторымі...

Бегер. Дзе і пры якіх абставінах вы з імі пазнаёміліся?

Заслонаў. На допытах. Калі ў дэпо што-небудзь здаралася, мяне выклікалі на допыт у НКВД.

Бегер. Выклікалі аднаго вас?

Заслонаў. Іншых таксама выклікалі, але мяне часцей. Я быў начальнікам дэпо.

Паўза.

Бегер. Чаму вас, начальніка дэпо, не прынялі ў партыю?

Заслонаў. Мне не давяралі...

Бегер. Чаму?

Заслонаў. Сын рэпрэсіраванага...

Бегер. Дзіўна. Вас не прынялі ў партыю, а дэпо чамусьці даверылі. (*Паўза.*) А чаму вы хацелі ўступіць у партыю? Вы падзяляеце перакананні бальшавікоў?

Заслонаў. Не... На ўсе высокія пасады камуністы ставяць толькі сваіх.

Бегер. Чаму? Не давяраюць беспартыйным?

Заслонаў. Не... Хочуць, каб з начальніка можна заўсёды было спагнаць удвая — і па адміністрацыйнай, і па партыйнай лініі.

Бегер. Як жа вам, беспартыйнаму, бальшавікі даверылі такую высокую пасаду?

Заслонаў (*не адразу*). Яны высока цанілі мяне як спецыяліста.

Бегер (*раптам*). Вы сябравалі з камісарам Якупавым? Гэта праўда?

Заслонаў (*не адразу*). Праўда...

Бегер. А што ў вас было агульнага?

Заслонаў. Сярод камуністаў, пан маёр, шмат прыстойных людзей...

Бегер. Якія таксама ўступілі ў партыю бальшаві-

коў, каб зрабіць кар'еру? Арыгінальнае ў вас разуменне прыстойнасці.

Заслонаў. На любой пасадзе можна быць чэсным і прыстойным...

Бегер устаў, выйшаў з-за стала і наблізіўся да Заслонава. Заслонаў таксама ўстаў.

Бегер. Сядайце... Не падабаецца мне, Заслонаў, як вы адказваеце на пытанні.

Заслонаў. Я што-небудзь не так сказаў?

Бегер. Ды не, усё так. Вы адказваеце, як чалавек, які загадзя добра прадумаў свае адказы.

Заслонаў *(паціскаючы плячыма)*. Я толькі адказваю на вашы пытанні, пан маёр. Я ж не ведаў, пра што вы будзеце ў мяне пытацца...

Бегер доўга глядзіць у вочы Заслонаву, затым вяртаецца на сваё месца.

Бегер. Добра, Заслонаў... Будзем лічыць, што я вам паверыў. Мы возьмем вас начальнікам рускіх паравозных брыгад. Вы будзеце набіраць сабе толькі тых людзей, якіх добра ведаеце. За кожнага з іх вы будзеце адказваць сваёй галавой. Так што ваша жыццё знаходзіцца ў іх руках. А іх жыццё — у вашых. Лагічна, разумна?

Заслонаў. Пан маёр, можна спытаць?.. А вы можаце паручыцца сваёй галавой за ўсіх падначаленых?

Бегер нават сумеўся ад такой дзёрзкасці.

Бегер. Мне падначаленых далі. А вы, Заслонаў, будзеце набіраць падначаленых самі. Самі. Каго добра ведаеце і каму давяраеце... сваё жыццё. Кожны іх учынак, кожны крок не за, а супраць Германіі будзе азначаць для вас шыбеніцу... Пра аплату даведайцеся ў шэфа дэпо Хейге. За добрую працу мы добра плацім. Заўтра вы скажаце пра гэта па радыё. Вас будзе слухаць увесь горад.

Заслонаў. Я кепскі прамоўца, пан маёр...

Бегер *(уважліва глядзіць на Заслонава)*. Вы адмаўляецеся выступаць па радыё? Я правільна зразумеў вас, Заслонаў?

Заслонаў. Я кепскі прамоўца...

Бегер *(з іроніяй)*. А Манш другое сказаў пра вас. Вы чытаць умееце?

Заслонаў. Ну, вядома...

Бегер. Прачытаеце перад мікрафонам тое, што вам напішуць.

З а с л о н а ў. Але, пан маёр... Я заўсёды стараўся быць па-за палітыкай.

Б е г е р *(з ледзь прыкметнай усмешкай)*. Быць па-за палітыкай, Заслонаў,— гэта таксама палітыка. І яна нам падыходзіць. Але вы павінны даказаць нам сваю палітычную незалежнасць ад сваіх ранейшых гаспадароў. Інакш я мушу не паверыць у вашу шчырасць. Як і ў вашу апалітычнасць.

З а с л о н а ў. Разумею, пан маёр... Вы хочаце, каб мяне ўзненавідзелі свае.

Бегер устаў, падышоў і зноў спыніўся перад Заслонавым. Заслонаў таксама ўстаў.

Б е г е р. Хто — «свае»? Значыць, вы, пан Заслонаў, яшчэ не вызначылі, хто для вас — свае? Але ж вы самі прыйшлі да нас і прапанавалі сябе ў саюзнікі. Вы зрабілі гэта таму, што ў вас не было іншага выйсця? Правільна?

З а с л о н а ў. Правільна...

Б е г е р. Вось вы і скажаце «сваім»: у іх няма іншага выйсця! Або саюз з Германіяй, або... Мы не мілуем сваіх ворагаў. Гэта вы таксама скажаце. Калі хочаце дабра... «сваім»!

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

На кватэры Паўла Шурміна сабраліся падпольшчыкі — П ё т р Ш у р м і н, А н а т о л ь А н д р э е ў, М і к а л а й Д а м а р а ц к і і С я р г е й Ч э б р ы к а ў.

П ё т р *(горача, з хваляваннем)*. ...І Тэльман немец! Яму таксама не верыць?

П а в е л. Знайшоў, з кім параўнаць!

П ё т р. Хто памог Заслонаву з работай? Манш! Ён жа не проста слова замовіў! Ён жа паручыўся! І вось цяпер... Хто папярэдзіў? Зноў жа Манш!.. Ты разумееш, дзе мы можам мець свайго чалавека?

П а в е л *(спакойна, разважліва)*. Не спяшайся, брацейнік. Пачакай трохі.

П ё т р. Да канца вайны чакаць?.. Мы яго баімся, а ён — нас!

П а в е л. Разумееш... Ну, вось не ляжыць у мяне душа да яго...

Рыўком адчыніліся дзверы. На парозе ўстрывожаны З а с л о н а ў.

Заслонаў. Знікайце! Па аднаму! У розныя бакі!
Павел. Што здарылася?
Заслонаў. «Хвасты»!.. Гадзіну пятляў па вуліцах... Думаў, згубілі мяне. Стаў веснічкі зачыняць, а за спіной двое. Як з-пад зямлі! Знікаем!
Андрэеў *(збянтэжана)*. Гэта нашы хлопцы, Канстанцін Сяргеевіч...
Заслонаў. Якія хлопцы?!
Андрэеў. Цімка Дакутовіч і Жэнька Коржань...
Заслонаў. Вы што? Зусім звар'яцелі?!. Дзяцей у падполле вярбуеце!
Андрэеў. Гэтыя дзеці, Канстанцін Сяргеевіч, узарвалі двух афіцэраў у машыне і застрэлілі некалькі салдат. А цяпер вось рашылі вас кокнуць.
Заслонаў. Мяне? За што?
Андрэеў. Як здрадніка...
Павел. Не крыўдуй, Канстанцін Сяргеевіч. Не было ў нас выхаду. Давялося сказаць ім праўду. Не ўсю, вядома, а сёе-тое.
Заслонаў. Так... Сумаваць вы не дасцё. А чаму яны ганяюцца за мной, калі ведаюць, хто я такі?
Андрэеў. Ахоўваюць вас...
Заслонаў. Два хлапцы-ўдальцы супраць тысячы?!
Андрэеў *(нерашуча)*. Не супраць тысячы...
Заслонаў. Даўно заікай стаў?
Павел. Апрача гэтых яшчэ дзве групы за вамі ўлягаюць. Адна адсюль, з Оршы, другая з Асінторфа. Не могуць дараваць вашай прамовы па радыё. Ну, а мы не можам сказаць ім праўду.

Паўза.

Заслонаў. Такія ж падшыванцы?
Андрэеў. Камсамольцы.
Заслонаў. Што ж, выходзіць, я сур'ёзнага забойцы не заслугоўваю?
Павел. Дарослыя здагадваюцца, што нездарма вы вярнуліся... А вось гэтыя...
Андрэеў. Нават клятву далі, што павесяць вас...
Заслонаў *(пасля паўзы)*. Во сітуацыя, ёлкі-палкі! Ану, клікні сюды гэтых тэрарыстаў! Хочацца зірнуць на іх.

Андрэеў выйшаў у калідор і адразу ж вярнуўся з Дакутовічам і Коржанем.

Коржань *(крыху збянтэжана)*. Добры вечар, дзядзя Косця.

З а с л о н а ў. Здароў, забойцы! Якім жа макарам вы хацелі мяне на той свет адправіць? Цішком, ножычкам? Ці, наадварот, з музыкай, бомбачкай?

К о р ж а н ь *(вінавата)*. З нагана...

З а с л о н а ў. Ідзі ты! І хто б з вас паліў у мяне? Ты?

К о р ж а н ь. Не. Ён *(паказвае на Цімку)*. У яго нерваў няма. За дзесяць крокаў мусе ў вока трапляе.

З а с л о н а ў. Во, чэрці. Мог бы на ўсё жыццё без вока застацца! Няўжо і рука не здрыганулася б?

Д а к у т о в і ч. Не...

З а с л о н а ў. А я ж жывы чалавек!

К о р ж а н ь. Камсамольскі трыбунал так рашыў.

З а с л о н а ў. Ты паглядзі, нават трыбунал у іх ёсць! А самапал?

Д а к у т о в і ч. Ёсць.

З а с л о н а ў. Пакажы!

Д а к у т о в і ч. Толькі ў маіх руках.

Цімка выцягнуў з-за пазухі наган з вялікай гільзай на канцы ствала.

З а с л о н а ў. А набалдашнік гэты навошта?

Д а к у т о в і ч. Бясшумка. Там каўчук з кола *(хавае наган за пазуху)*.

З а с л о н а ў. Здорава! Сам прыдумаў?

Д а к у т о в і ч. Сам.

З а с л о н а ў. Толькі я не раю гуляць з ім па горадзе. Калі схопяць на вуліцы з гэтай пукаўкай...

Д а к у т о в і ч. Няхай паспрабуюць.

З а с л о н а ў. А вось гэта не трэба — каб спрабавалі...

Д а м а р а ц к і *(з трывогай)*. Ціха!.. Там нехта ёсць!

Д а м а р а ц к і рыўком адчыніў дзверы і кошкай скочыў у калідор. Ён адразу ж вярнуўся, уштурхнуўшы ў пакой Т о н ю. Паўза.

З а с л о н а ў. А гэта хто?

К о р ж а н ь. Тоня...

З а с л о н а ў. А як Тоня тут апынулася? Чаму ёй дома не сядзіцца?

К о р ж а н ь *(з абурэннем)*. Дык яна ж нікуды яго не адпускае аднаго!

З а с л о н а ў. Сястра?

К о р ж а н ь. Якая там сястра!

З а с л о н а ў. Ясна... Чаму ты яго не адпускаеш?

Т о н я. Таму, што ён недаразвіты.

З а с л о н а ў. Хм... Чаму ж ты любіш такога, недаразвітага?

Т о н я. Шкада. Ён адзін у маці. А лезе ўсюды на злом галавы. Калі б ён хоць крышачку баяўся...

З а с л о н а ў. А ты баішся?

Т о н я. Страх, як баюся!

З а с л о н а ў. Баішся, і ўсё роўна лезеш за ім?

Т о н я. А што ж рабіць? Ён жа загіне без мяне!

Д а к у т о в і ч *(ціха)*. Замаўчы!..

З а с л о н а ў. Так і ходзіш за ім увесь час?

Т о н я. Ага, так і хаджу.

Д а к у т о в і ч *(каб перапыніць гэтую непрыемную для яго размову)*. Нам можна ісці?

З а с л о н а ў. Можна.

Д а к у т о в і ч, К о р ж а н ь і Т о н я выходзяць. Усе вінавата маўчаць, баючыся, што Заслонаў выдасць ім за ўсё спаўна.

П а в е л *(вінавата)*. Ніякімі лейцамі іх не ўтрымаць.

З а с л о н а ў *(ціха, пасля паўзы)*. Вось мы каму помнік пасля вайны паставім!

П ё т р. Канстанцін Сяргеевіч... Я з Маншам сёння гаварыў.

З а с л о н а ў. З Маншам? Пра што?

П ё т р. Ён сам са мной загаварыў... Ён папярэдзіў, што калі хто-небудзь з нас пападзецца — вас адразу ж на шыбеніцу... Што вы нібыта за кожнага з нас галавой паручыліся?

З а с л о н а ў. Нешта такое было.

А н д р э е ў. Значыць, калі нехта з нас трапіць да іх у рукі — вам хана?

З а с л о н а ў *(сурова)*. Калі нехта збіраецца трапляць ім у рукі — няхай дома сядзіць!

П ё т р. Трапляць да іх, вядома, ніхто не хоча. Але ведаць, што над вамі ўвесь час тапор на валаску вісіць...

З а с л о н а ў. Ён над кожным вісіць. Таму справу сваю мы павінны рабіць так, каб камар носа не падтачыў. Ніякіх дыверсій у самой Оршы! Ніводнага кроку без маёй каманды!..

А н д р э е ў. Сядзі і не рыпайся?

З а с л о н а ў. Я сёння бачыў іх паравозы. Да зімы яны не гатовы. Вадзяная гаспадарка таксама. А мароз не сёння-заўтра ціскане. Калі мы яму толкам паможам, работы хопіць. Мароз павінен за адну ноч спыніць увесь вузел. Разумееце, чаму ўвесь?

Д а м а р а ц к і *(весела).* Калі мароз, то на ўсё мароз! А калі не на ўсё, то гэта ўжо не мароз, а нехта другі!

З а с л о н а ў. Вось іменна... Ты і Чэбрыкаў возьмеце дэпо і паравозы, якія там стаяць. Звярніце ўвагу мароза на парапаветраныя і вадзяныя помпы, на прэсмаслёнкі. На ўсё, што можа замярзаць!

Д а м а р а ц к і. Ёсць памагчы таварышу Марозу!

З а с л о н а ў. За тваёй групай, Пётр, вадакачка і водаправодная сетка.

П ё т р. Рвануць?

З а с л о н а ў. Я ж казаў — ніякіх дыверсій у самой Оршы! Водаправодныя калодзежы не ўцеплены. Калі ў двух-трох перакрыць на ноч заслонкі — замерзне ўся сетка. А раніцай заслонкі зноў адкрыеш.

П ё т р. Навошта адкрываць?

З а с л о н а ў. На ўсякі выпадак... Ты, Павел, вазьмі на сябе надземную гаспадарку — стрэлкі, «паілкі», паваротны круг.

Д а м а р а ц к і. Калі адбудзецца святочны канцэрт?

З а с л о н а ў. У першую марозную ноч. Пасля маёй каманды. Папярэджваю: ніякай самадзейнасці!

А н д р э е ў *(з крыўдай).* А мне зноў нічога?

З а с л о н а ў. Думай, як заткнуць горла Гебельсу, камісар. Ён на ўсю вайну твой галоўны праціўнік. І потым... Ты ж не выканаў першае заданне.

А н д р э е ў *(ускіпеўшы).* Ну, няма, няма ў горадзе гаркома! Няма! Дзе я яго вазьму?

З а с л о н а ў. Не можа такога быць. Гарком ёсць... А гэтыя, што за мной ганяюцца, нічога не ведаюць? Трыбунал у іх ёсць...

А н д р э е ў. Трыбунал ёсць, а гаркома няма!

З а с л о н а ў. Павінен быць. Выйдзеш на сувязь з гаркомам, Толя, буду ордэн табе прасіць.

А н д р э е ў. Ат!..

П ё т р. Што з Маншам рабіць, Канстанцін Сяргеевіч? Можна, я пагавару з ім?

З а с л о н а ў. Мне гэта зручней зрабіць. Ён заўсёды побач.

П а в е л. Не ляжыць у мяне душа да яго.

П ё т р. Вось ты і пашлі сваю душу да фрыцаў! Няхай яна, як Манш, у іх працуе, а нам служыць!

П а в е л *(спакойна).* Не зразумею я, брацейнік, чаму ты на сцэнку лезеш?

П ё т р *(горача).* Таму што, калі мы не будзем верыць

адзін аднаму... Немцам гэта толькі і трэба! Яны толькі гэтага і дабіваюцца! Каб мы не верылі адзін аднаму! Каб нас па адным ламаць! Таму што ўсіх адразу — у іх сілёнак не хапае!

Заслонаў. Верыць трэба. Пасля таго як праверыш. Дамовіліся, Манша я бяру на сябе. Вы ў гэтую справу не лезьце...

## КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

Ваенная камендатура на станцыі Орша. За вокнамі відаць абледзянелыя канструкцыі на чыгуначных пуцях. Час ад часу яны асвятляюцца бліскавіцай блізкіх агнёў.

Вернер *(па тэлефоне)*. ...Мы робім усё, што можам, пан генеральны камісар... Мабілізавана ўсё насельніцтва Оршы... Так, пан генеральны камісар... Будуць працаваць усю ноч. Зробім усё, пан генеральны камісар... Так, я разумею, што такое Орша, пан генеральны камісар...

Уваходзіць Гаўптман, начальнік санітарнага поезда.

Гаўптман. Пан камендант! Калі вы адправіце наш поезд?

Вернер. Гер гаўптман! Пакуль я не адпраўлю ўсе эшалоны на фронт, з Оршы ў тыл не кранецца ніводзін поезд!

Гаўптман. Вы, пан камендант, забралі наш паравоз! А ў мяне раненыя...

Уваходзіць змарнелы Хейге.

Вернер. Гер гаўптман! Калі я не адпраўлю гэтыя эшалоны сёння пад Маскву, раненых у вас будзе ў дзесяць разоў болей!

Гаўптман. Раненыя замярзаюць у вагонах!

Вернер. За жыццё раненых нямецкіх салдат адказнасць несяце вы, гер гаўптман! А я адказваю за Маскоўскі фронт! Можа, там зараз вырашаецца лёс вайны і будучыня Германіі! Гэта важней, чым адзін эшалон раненых! Хайль Гітлер!

Гаўптман *(узмахнуўшы рукой)*. Хайль! *(Выходзіць.)*

Хейге. Кашмар! Нейкі жудасны кашмар!

Вернер *(стомлена)*. Хейге... Знайдзіце яму да рані-

цы паравоз. Няхай яны робяцца ледзяшамі не ў нас, а па дарозе!

Х е й г е. Майн гот! Адкуль я вазьму паравоз?

В е р н е р. Не ведаю. Гэта ваша справа, вы шэф дэпо. Хейге... Вы ведаеце, хто такі Вільгельм Кубэ?

Х е й г е. Генеральны камісар? Гаўляйтар?

В е р н е р. Ён не толькі генеральны камісар, Хейге. Ён паплечнік і сябра самога фюрэра... Я толькі што меў гонар гаварыць з ім па тэлефоне.

Х е й г е. Вы знаёмы з ім?

В е р н е р *(глядзіць на Хейге, як на ідыёта)*. Хутка і ў вас будзе магчымасць пазнаёміцца з ім.

Х е й г е *(зразумеўшы, не адразу)*. Што ён сказаў вам?

В е р н е р. Што павесіць спачатку вас, потым мяне. Калі заўтра да раніцы станцыя не будзе нармальна працаваць.

Х е й г е. Гэта немагчыма, пан камендант!

В е р н е р. Чаму немагчыма? Кубэ ўсё можа, Хейге.

Х е й г е. Я не пра тое... Каб адрамантаваць водаправодную сетку, патрэбна не менш трох сутак.

В е р н е р. Не праз трое сутак, а праз адны суткі вы будзеце глядзець на Оршу адтуль, з неба. Кубэ заўсёды выконвае свае абяцанні.

Х е й г е *(разгублена)*. Што ж мне рабіць?

В е р н е р. Адрамантаваць за суткі водаправод.

Х е й г е *(з адчаем)*. Гэта немагчыма, пан камендант! Няма труб! Тапары і лапаты не бяруць зямлю! Мы адаграваем яе кастрамі!

В е р н е р. Адагравайце хоць задніцай, але вадакачка павінна заўтра падаць ваду ва ўсе калонкі!

Х е й г е. Кашмар! Нейкі жудасны кашмар!

В е р н е р. Што з паравозамі ў дэпо?

Х е й г е. Пазамярзалі і выйшлі са строю ўсе сістэмы...

В е р н е р. Колькі часу спатрэбіцца на рамонт?

Х е й г е. Іх можна адрамантаваць толькі ў Берліне ці ў Варшаве...

Паўза.

В е р н е р. Адзінаццаць паравозаў за адну ноч... А колькі гадоў, Хейге, вы працуеце на чыгунцы?

Х е й г е. Дваццаць пяць...

В е р н е р. І вы заўсёды так працавалі?

Х е й г е. Пан камендант!.. Я ніколі не працаваў у такіх кашмарных умовах!

Вернер доўга глядзіць на Хейге.

**Вернер.** Вы хочаце сказаць, Хейге, што мы былі не гатовы да вайны з Расіяй?

**Хейге** *(спалохана).* Пан камендант!.. Я толькі хацеў сказаць, што нашы паравозы не прыстасаваны да такой зімы! Гэта ж нейкі кашмар!

Паўза.

**Вернер.** Колькі эшалонаў на станцыі?

**Хейге.** Дзевяць... І адзінаццаць спынена перад Оршай. Кашмар!

**Вернер.** Ці можна паскорыць запраўку паравозаў з рэчкі?

**Хейге.** Нельга... Помпы слабенькія, іншых няма...

Паўза.

**Вернер.** Ведаеце, Хейге, што можа выратаваць ваша жыццё?

**Хейге.** Што?

**Вернер.** Рускія дыверсанты... Мы з вамі, Хейге, адказваем за паравозы, за эшалоны. За станцыю. А за дыверсантаў адказваюць іншыя. Гэта не наша з вамі спецыяльнасць.

**Хейге** *(бездапаможна).* Даруйце, я не разумею... Я кепска спаў...

**Вернер.** Вы, Хейге, ідыёт з дня нараджэння ці сталі ім за дваццаць пяць гадоў службы? *(Паўза.)* Добра падумайце. Хто можа быць дыверсантам? Заслонаў?

**Хейге.** Ну што вы! На ім трымаецца ўся работа ў дэпо!

**Вернер.** Можа, Манш?

**Хейге.** Ён жа немец!

**Вернер.** Вы таксама немец. Вам будзе лягчэй ад таго, што заўтра вас павесяць немцы?

**Хейге.** Бачыць бог, я не вінаваты!

**Вернер.** Скажыце гэта Кубэ. Можа, ён і паверыць такой сведцы...

**Хейге.** Але... дзе я знайду дыверсантаў?

**Вернер.** Вам іх і не трэба шукаць. Вы толькі падайце ідэю. Няхай дыверсантаў шукае Бегер...

Уваходзіць **Бегер.**

**Бегер.** Ці мне здалося, ці вы сапраўды назвалі маё прозвішча?

**Вернер.** Я назваў ваша прозвішча, пан маёр... Хейге

тольki што зрабіў мне заяву. А я сказаў, што з такой заявай ён павінен быў звярнуцца да вас...

Бегер. Я слухаю, Хейге.

Хейге. Пан маёр... У мяне ёсць падставы лічыць, што на станцыі ноччу былі рускія дыверсанты...

Бегер уважліва глядзіць на Хейге. Безумоўна, ён здагадаўся, аб чым дамовіліся між сабой Вернер і Хейге.

Бегер. Вы сказалі: «ёсць падставы». Якія?

Хейге. Вельмі ўжо многа страт за адну ноч...

Бегер. Я пытаюся: якія ў вас ёсць падставы лічыць, што на станцыі ўначы былі рускія дыверсанты?

Хейге. Сутыкнуліся эшалоны... Паравоз зваліўся з рэек.

Бегер. Што сказалі эксперты?

Хейге. Паравоз зваліўся таму, што на рэйках нарасло многа лёду.

Бегер. А эшалоны, чаму сутыкнуліся эшалоны?

Хейге. Замёрзлі стрэлкі...

Бегер. Хто ўваходзіў у камісію экспертаў?

Хейге *(яшчэ не разумеючы, што губіць сябе адказамі)*. Амаль адны немцы...

Бегер *(з сарказмам)*. Чаму ж вы ў такім разе сцвярджаеце, што на станцыі дзейнічалі рускія дыверсанты? Вы што, не згодны з вывадамі экспертаў?

Хейге *(разгублена)*. Не... Я згодзен... Але вельмі многа выпадковасцей. За адну ноч...

Бегер. Паклічце сюды Заслонава.

Хейге. Слухаю... *(Паспешліва выходзіць.)*

Бегер. А што вы думаеце наконт гэтага, камендант?

Вернер. Я згодзен з Хейге, пан маёр. Занадта многа выпадковасцей. Дзіўных выпадковасцей.

Бегер з іранічнай усмешкай глядзіць на Вернера.

Бегер. Праз пятнаццаць мінут разам з Хейге дайце мне адказы на пытанні. Хто канкрэтна ў гэтую ноч адказваў за стрэлкі? Хто абавязаны быў своечасова заўважыць лёд на рэйках? Чаму ён там аказаўся іменна ўначы? Хто абавязаны быў страхаваць тэхніку?

Вернер. Дзяжурная каманда, пан маёр.

Бегер. Немцы? Рускія? Хто?

Вернер. Тры немцы, астатнія рускія.

Бегер. Хто канкрэтна? Прозвішчы!

Вернер. Вы іх атрымаеце праз пятнаццаць мінут.

Вернер выходзіць, сустрэўшы на парозе Заслонава і Манша.

Бегер. Вы ведаеце, Заслонаў, што адбылося на станцыі ўначы?

Заслонаў. Ведаю, пан маёр.

Бегер. Чаму замерзлі адразу ўсе водаправодныя трубы? Як гэта магло здарыцца?

Заслонаў. Інакш і быць не магло, пан маёр.

Бегер. Што гэта значыць?

Заслонаў. Водаправодная сетка старая. Трубы драхлыя, іржавыя, ляжаць неглыбока. На адкрытым паветры тэмпература мінус трыццаць, а ў размеркавальных калодзежах мінус пятнаццаць. Уначы, відаць, наступіў такі момант, калі вада ў трубах спынілася. Гэтага было дастаткова. Тры-чатыры мінуты, і вада замерзла. Трубы парвала...

Бегер. Адкуль у вас такія дакладныя звесткі?

Заслонаў. Я быў сярод экспертаў, якія правяралі калодзежы.

Бегер. А ці магло быць так, Заслонаў... Нехта спусціўся ў калодзежы і перакрыў ваду?

Заслонаў *(не адразу)*. Магло і такое быць, пан маёр. Але ўсе заслонкі ў калодзежах былі адчынены.

Бегер. Вы гэта самі праверылі?

Заслонаў. Не... Мне не даверылі.

Манш. Ва ўсе калодзежы спускаўся Баўх, пан маёр.

Бегер. Яшчэ адно пытанне, Заслонаў... У рускіх магло такое здарыцца?

Заслонаў. Не, не магло, пан маёр. Мы заўсёды старанна і загадзя рыхтаваліся да зімы. Манш можа пацвердзіць.

Бегер. Значыць, аварыю можна было папярэдзіць?

Паўза.

Заслонаў. Безумоўна. Для гэтага трэба было загадзя ўцяпліць усе калодзежы. Як мы гэта рабілі раней.

Бегер. Хто раней гэтым займаўся?

Заслонаў. Займалася спецыяльная служба. А правяраў я асабіста.

Бегер. Чаму вы не зрабілі гэта зараз?

Паўза.

Заслонаў. Я не шэф дэпо, пан маёр. Я начальнік рускіх паравозных брыгад.

Бегер. Але вы ведалі, што калодзежы не ўцеплены?

Паўза.

Заслонаў. Пан маёр... Я ведаў не толькі гэта. Я ведаў, што ўся гаспадарка не гатова да зімы. І перш за ўсё — нямецкія паравозы.

Бегер. Чаму вы нікога не папярэдзілі?

Паўза.

Заслонаў. Не хацеў, каб мяне расстралялі вы... або Вернер.

Бегер. Вы заблыталіся, Заслонаў!

Заслонаў. Не, пан маёр... Вернер сказаў рабочым дэпо пра заяву фюрэра... Вайна будзе закончана да зімы. Калі б я ўсумніўся ў праўдзівасці слоў фюрэра, вы б мяне не пашкадавалі. Ды і прыйшоў я на работу ў дэпо ў пачатку зімы. Не мог жа я пачаць з таго, каб вучыць Хейге, якому вы верыце значна больш, чым мне.

Паўза. Бегер не адрывае вачэй ад Заслонава.

Бегер. Добра, Заслонаў. Я вас больш не затрымліваю.

Заслонаў выходзіць.

Манш. Ён праўду сказаў, пан маёр.

Бегер. Вось гэта мяне і насцярожвае. Не спускайце з яго вачэй, Марбах!

Манш. За ім і ўдзень і ўначы ходзяць нашы людзі.

Бегер. Ён не здагадваецца пра гэта?

Манш. Не... Мне нават здалося, што ён шукае кантакту са мной.

Бегер. Навошта?

Манш. Пакуль не ведаю.

Бегер. Абавязкова даведаіцеся. За Заслонава адказваеце вы асабіста. Вы яго рэкамендавалі на работу ў дэпо... Вы разумееце?

Манш. Разумею, пан маёр.

Бегер. Што вы думаеце пра начное здарэнне?

Манш. Вернеру і Хейге выгадна, каб гэта былі дыверсанты.

Бегер. Ведаю. А што на самой справе?

Манш. Я лічу, што стыхія вінавата толькі напалову. Хтосьці вельмі хітра выкарыстаў яе.

Бегер. Хто? Чыгуначнікі?

Манш. Думаю, што чыгуначнікі.

11 Зак. 1594

Б е г е р. Калі так, іх трэба неадкладна абясшкодзіць.

М а н ш. Спачатку іх трэба знайсці, пан маёр.

Б е г е р. Вы ж казалі, што ўсіх іх добра ведаеце. Знайдзіце! Вы ж разведчык, а не слесар!..

## КАРЦІНА ПЯТАЯ

Кватэра Заслонава на ўскраіне горада. Маленькі пакойчык, у якім стаяць стол, вузенькі жалезны ложак, засланы шэрай коўдрай, некалькі табурэтак і буржуйка, зробленая з бочкі.

З а с л о н а ў сядзіць перад расчыненай буржуйкай. Ён дакрануўся рукой да чайніка і падкінуў у печку некалькі кавалкаў вугалю. Раптоўна, з шумам расчыніліся дзверы, і Ц і м к а сілком увапхнуў у пакой Т о н ю.

Д а к у т о в і ч *(сканфужана)*. Вось... Адубела зусім... Ганю-ганю, не ідзе. Як смала!

З а с л о н а ў. Распранайся хутчэй, баба-яга, і да печкі! Зараз я цябе чаем пагрэю.

Д а к у т о в і ч. Ну, я пайшоў!

З а с л о н а ў. Дахаты ідзі. У такі мароз добры гаспадар сабаку на вуліцу не выганіць. Каму сказаў — распранайся?

Д а к у т о в і ч выходзіць.

Т о н я. Не магу...

З а с л о н а ў. Распрануцца не можаш?

Т о н я. Ага... Рукі зайшліся.

З а с л о н а ў *(здымаючы з Тоні вялікую хустку)*. Ну і ну! А дзе рукавіцы?

Т о н я. Цімку аддала... Калі стаю, можна ў рукавах трымаць. Тады нічога... А вось калі бегчы...

З а с л о н а ў. Ногі яшчэ не адваліліся?

Т о н я. Не ведаю. Я іх зусім не чую.

З а с л о н а ў *(спалохана)*. Ты што? Ану, сядай хутчэй!

Заслонаў усаджвае Тоню перад печкай, здымае з яе ног лёгкія буркі.

Т о н я *(слаба)*. Не трэба, дзядзя Косця. Я сама...

З а с л о н а ў *(з сілай расцірае ёй ногі)*. Шкарпэткі таксама яму аддала?

Т о н я. Ага...

З а с л о н а ў. І ён узяў?!

Т о н я. Не браў... Я сказала, што ў мяне яшчэ ёсць... Ой!

З а с л о н а ў. Цэлыя, калі баліць. Так усюды і бегаеш за ім?

Т о н я. Ага...

З а с л о н а ў. Вельмі любіш яго?

Тоня маўчыць, не адказвае. І раптам ціхенька заплакала.

Што з табой? Баліць?

Т о н я *(скрозь слёзы)*. Не... Ён жаніцца не хоча!

З а с л о н а ў *(атарапела)*. Што-о?

Т о н я. Я сказала яму... Давай пажэнімся...

З а с л о н а ў. Ну? А ён што?

Т о н я. А ён... «У вайну людзі не жэняцца і не любяць... А хто любіць, той дэзерцір і сволач».

З а с л о н а ў. Так і сказаў?

Т о н я. Ага...

З а с л о н а ў. Ну і Цімка! Ну і Сувораў!.. А ты хочаш за яго замуж?

Т о н я. Ага... Баюся, што каго-небудзь з нас заб'юць, і мы не паспеем...

З а с л о н а ў. А калі ажэніцеся — не заб'юць?

Т о н я. Тады ён не так на ражон палезе. Пра дзяцей будзе думаць.

З а с л о н а ў *(яшчэ больш атарапела)*. Пра якіх... дзяцей?

Т о н я. Пра нашых...

З а с л о н а ў. А што, яны ў вас ужо ёсць?

Т о н я. Няма. Але ж будуць, калі мы пажэнімся...

З а с л о н а ў *(з захапленнем)*. Ну і малайчына! Здорава ты ўсё прадумала! Логіка ў цябе, трэба сказаць, проста жалезная. Колькі табе?

Т о н я. Семнаццаць. Мы з ім дзевяць гадоў на адной парце сядзелі... Дзядзя Косця, а як вы думаеце, у вайну любіць можна?

З а с л о н а ў. А як жа! Ну, вядома! Хіба каханне пытае, калі можна любіць, а калі нельга?

Т о н я. Дзядзя Косця! Скажыце гэта яму!..

З а с л о н а ў. Абавязкова! І не проста скажу, а загадаю.

Т о н я *(ціха)*. Дзядзя Косця... А вы жонку сваю вельмі любіце?

З а с л о н а ў. Рыту? Вельмі...

Т о н я. А яна ведае пра гэта?

З а с л о н а ў. Ведае... Пі чай з нямецкім шакаладам.

Т о н я. З нямецкім не хачу. Хай яны ім падавяцца!

Заслонаў. Ну, гэта ты дарма. З паршывай авечкі хоць поўсці касмык!

Тоня *(думаючы пра сваё)*. Шчаслівая яна!

Заслонаў. Хто?

Тоня. Рыта ваша... Дзядзя Косця! А як вы ёй сказалі?

Заслонаў. Што сказаў?

Тоня. Ну... Што любіце яе.

Заслонаў маўчыць. Гасне святло. У кутку пакоя з'яўляецца яркі круг. У ім Рыта ў белай шлюбнай сукенцы. Недзе вельмі далёка дружна крычаць госці: «Гор-ка! Гор-ка!»

Рыта. Як добра, што мы ўцяклі! Праўда? Надакучыла!

Заслонаў. Што ты сказала? Надакучыла цалавацца? Ану, паўтары!

Рыта. Сорамна пры ўсіх.

Заслонаў. А не пры ўсіх?

Рыта. Не сорамна... *(Абдымае яго і цалуе.)*

Заслонаў. Мала!

Рыта. Ненасыць ты! *(Цалуе яго яшчэ раз.)*

Заслонаў. Усё адно мала. Усё жыццё будзе мала!

Рыта. Хопіць! А то прывыкнеш і перастанеш цаніць.

Заслонаў. Нізавошта!

Рыта. Косця... А ты мяне вельмі любіш?

Заслонаў. Вельмі-распravельмі і яшчэ крышачку!

Рыта. Пакажы як?

Заслонаў. Вось так! *(Сціскае кулакі і аж дрыжыць, паказваючы вялікае пачуццё.)*

Рыта. Пакляніся!

Заслонаў. Я ж у бога не веру!

Рыта. А ты не богам, ты небам і зоркамі кляніся!

Заслонаў. Мілая мая Рытулька! Самая прыгожая! Самая цудоўная! Самая разумная! Адзіная на ўсёй зямлі! Я люблю цябе ў сто тысяч разоў мацней, чым Рамэо Джульету! Ты — мая радасць! Ты — маё сонейка! Ты — жыццё маё! Бяру ў сведкі неба і зоркі, што кажу праўду!..

Рыта. Косця... Адкажы мне на адно пытанне.

Заслонаў. Хоць на тысячу!

Рыта. Толькі чэсна... Каго ты больш любіш — мяне ці свае паравозы?..

Заслонаў не паспеў адказаць. Пачуўся ціхі, умоўны стук у акно. Здань Рыты імгненна знікла.

Тоня *(з трывогай)*. Дзядзя Косця! Нехта стукае!

З а с л о н а ў. Не бойся, Тоня. Гэта свае.

Заслонаў ідзе і адчыняе дзверы. Уваходзіць Д а м а р а ц к і з вялікім кошыкам.

Д а м а р а ц к і *(Тоні).* Прывітаннечка! Цяпер я здагадваюся, каго сцеражэ пад вокнамі гэты цюлень!

Дамарацкі так па-майстэрску паказаў Цімку яго паходку, што Тоня засмяялася.

З а с л о н а ў. Ледзь-ледзь адтала.

Д а м а р а ц к і. Мароз на дварэ — каб і лепей, дык на чорта! Нават клапы пахаваліся! Ніводнага на вуліцы. Прайшоў, як на святочным шпацыры.

Тоня хуценька надзявае ватоўку, закручвае хустку.

З а с л о н а ў. Пачакай... *(Спрытна і хутка надзявае ёй на ногі цёплыя шарсцяныя шкарпэткі.)*

Т о н я . Ой, што вы! Не трэба...

З а с л о н а ў. Табе ногі яшчэ на вяселлі спатрэбяцца.

Т о н я. Ой, дзякую! А як жа вы?

З а с л о н а ў *(працягвае ёй рукавіцы).* У мяне яшчэ ёсць. Бяры, не бойся, не нямецкія. Мае. Ну, трошкі сагрэлася?

Т о н я. Ага!

Д а м а р а ц к і. Нос пацёк, значыць, радыятар цэлы. Усё ў парадку.

Т о н я. Дзякую, дзядзя Косця! Можна, я да вас яшчэ зайду?

З а с л о н а ў. У любы час. А яму я скажу... *(Змоўніцкі падміргвае Тоні.)*

Т о н я выходзіць. Дамарацкі ідзе ўслед за ёй, падрабляючы яе паходку. Робіць ён гэта хутчэй машынальна, чым свядома,— прывык.

Д а м а р а ц к і. Такі час, а яны любоў круцяць. Зайздрасць бярэ.

З а с л о н а ў. Не круцяць, Коля. Кахаюць... Прынёс?

Д а м а р а ц к і. А то як жа? *(Асцярожна высыпае з кошыка на падлогу кавалкі вугалю, бярэ адзін.)* Вось той узор, які зрабілі вы... А гэта наша прадукцыя.

З а с л о н а ў *(беручы ў рукі міну).* Колькі зрабілі?

Д а м а р а ц к і. Прынёс дзесяць, а зрабілі пяцьдзесят. Толькі вам я не пакіну ніводнай. Не трэба вам рызыкаваць. Я іх схаваю ў дэпо, каб заўсёды пад рукой былі.

З а с л о н а ў. Спрачацца не будзем, Мікола. Самае надзейнае месца ў мяне. У мяне шукаць не будуць. Я ўвесь час у іх на вачах...

Набліжаецца гул матацыкла і адразу ж абрываецца.

Д а м а р а ц к і. Да вас!

Заслонаў хуценька адшморгвае занавеску на сцяне. За ёй невялічкія дзверы.

З а с л о н а ў. Сюды! У камору! Хутчэй!

Д а м а р а ц к і *(спалохана паказвае на прынесены «вугаль»)*. Міны!

З а с л о н а ў. Коля! Хутчэй!

Заслонаў запіхвае Дамарацкага ў камору, нагой падсоўвае міны да кучкі вугалю. У дзверы стукаюць. Заслонаў ідзе і адчыняе дзверы. Уваходзіць М а н ш.

М а н ш. Добры вечар, Канстанцін Сяргеевіч! Не чакалі?

З а с л о н а ў. Калі шчыра — не чакаў. Добры вечар, пан Манш.

М а н ш. Не трэба так, Канстанцін Сяргеевіч. Не трэба!.. Ну, які я для вас пан? Густаў Манш якім быў, такім і застаўся.

З а с л о н а ў. Ды я ўжо неяк прывык да «пана»...

М а н ш *(цёпла і шчыра)*. Дарагі Канстанцін Сяргеевіч! Мы з вамі былі і засталіся савецкімі людзьмі... Я разумею вас... На вашым месцы, можа б, і я сябе так паводзіў... Немец. У першы ж дзень пайшоў служыць фашыстам... Ну, а што мне заставалася рабіць, Канстанцін Сяргеевіч? Нехта данёс ім, што я немец з Паволжа. Ну, вось яны і зрабілі мне такі гонар... Лепш я, чым хто-небудзь чужы. Вы згодны, Канстанцін Сяргеевіч?

З а с л о н а ў. Згодзен...

М а н ш. А люблю я іх так, як і вы... Але пакуль у нас з вамі няма іншага выхаду. Трэба прыкідвацца, іграць ролю.

З а с л о н а ў. А які выхад вы, Густаў, шукаеце?

М а н ш *(гледзячы ў вочы Заслонаву)*. У нас з вамі, Канстанцін Сяргеевіч, можа быць толькі адзін выхад. І вы добра ведаеце — які...

Манш падыходзіць да табурэткі, садзіцца на яе, працягвае рукі да агню.

З а с л о н а ў. Я не зусім разумею вас, Густаў...

Манш. Калі-небудзь зразумееце... Я прыйшоў папярэдзіць Вас, Канстанцін Сяргеевіч. Немцам не падабаецца, што вы жывяце на ўскраіне. Заўтра вам прапануюць пераехаць на новую кватэру. У цэнтр... Думаю, што немцы хочуць сачыць за вамі...

Заслонаў. Яны што, не давяраюць мне?

Манш. Яны і мне не давяраюць, Канстанцін Сяргеевіч.

Манш узяў некалькі вугальных мін, што прынёс Дамарацкі, і кінуў іх у печку. Заслонаў змярцвеў ад нечаканасці.

Бойцеся Бегера, Канстанцін Сяргеевіч... Гэта вельмі хітры і разумны вораг...

Набліжаецца гул самалётаў. За акном пачалі крыжаваць неба пражэктары, ударылі зенiткі. Першыя выбухі бомб скаланулі зямлю.

Заслонаў. Налёт! Мы з вамі павінны быць на станцыі! Там эшалоны!

Манш. Мы ім не дапаможам! У сховішча!

Заслонаў хапае чайнік і залівае вадой агонь у буржуйцы.

Заслонаў. Хутчэй, Манш, хутчэй! На станцыю!

Манш. Не трэба шукаць смерці, Канстанцін Сяргеевіч! Яна сама нас знойдзе!..

Заслонаў і Манш выбягаюць з пакойчыка. Нейкі момант сцэна пустая. Потым з каморы асцярожна выходзіць Дамарацкі. Ён азіраецца і бачыць, што мін не хапае, а з буржуйкі валіць дым і пара. Ён кідаецца да печкі і, абпальваючы рукі, выцягвае адтуль міны. Выбухі бомбаў ужо зусім побач.

## КАРЦІНА ШОСТАЯ

Кабінет Вернера. За акном уздыбленыя фермы канструкцый. У вокнах новыя шыбы перакрыжаваны белымі палоскамі. У кабінеце Вернер, Бегер, Манш і Друлінг.

Вернер. ...Тое, што раскладзеныя кастры ўказалі самалётам кірунак станцыі — выпадковасць. Кастры расклалі па загаду Хейге, каб адагрэць зямлю і дастаць трубы. Але той факт, што іх самалёты прыляцелі іменна тады, калі не працавала вадакачка, калі на станцыі сабралася вялікая колькасць эшалонаў, не можа быць простай выпадковасцю. Я ўпэўнены... На станцыі дзейнічае група вопытных дыверсантаў, якія па радыё трымаюць сувязь з арміяй. Неабходна тэрмінова папрасіць з Мінска пелен-

гатары. Паколькі наша служба бяспекі аказалася бездапаможнай...

Паўза.

Б е г е р. Я згодзен з вамі, Вернер. Я толькі што атрымаў радыёграму са Смаленска. Усе дзевятнаццаць эшалонаў, адпраўленых з Оршы, спыніліся ў дарозе, перакрыўшы ўвесь рух. Выйшлі са строю паравозы. Усе дзевятнаццаць.

Х е й г е. Кашмар! З дэпо паравозы выйшлі спраўнымі!

Б е г е р. Супакойцеся, Хейге... Паравозы падарваны ў дарозе.

В е р н е р. Міны?

Б е г е р. Паравозы ўзарваны знутры.

Х е й г е. Але, пан маёр!.. Усе эшалоны з Оршы ў бок фронту вядуць нямецкія машыністы! Толькі памочнікі машыністаў і качагары — рускія!

Б е г е р. Вось гэта і наводзіць на роздум... Манш, дзе знаходзіўся Заслонаў у час налёту?

М а н ш. У сховішчы, разам са мной.

Б е г е р. Калі і як там аказаўся?

М а н ш. Мы ехалі з ім на станцыю. Пачаўся налёт, і мы спусціліся ў сховішча.

Б е г е р *(Хейге)*. Вам удалося ўстанавіць, хто ў час налёту апошнім пакінуў дэпо?

М а н ш. Павел Шурмін і Мікалай Дамарацкі. Іх бачыў агент гестапа, якога мы паслалі ў дэпо рабочым.

Б е г е р. Друлінг!

Д р у л і н г моўчкі выходзіць.

Хейге! Пастаўце ахову каля кожнага ўвахода! Усіх, хто праходзіць на тэрыторыю станцыі, правяраць!

Х е й г е. Гэта зараз зрабіць?

Б е г е р. Неадкладна! Выконвайце!

Х е й г е выходзіць. Тэлефонны званок. Вернер здымае трубку.

В е р н е р. Камендант Вернер!.. Ён тут... *(Перадае трубку Бегеру.)* Вас, пан маёр.

Б е г е р. Бегер... Так... Зразумеў... Забяспечым. *(Кладзе трубку.)* Званок гэты больш вам, камендант, чым мне. З Мінска ў Оршу едзе асабісты ўпаўнаважаны Кубэ... Я раю вам паскорыць работы. Калі палкоўнік Краўзе ўбачыць, што стала з Оршай... Я не зайздрошчу вам, камендант.

Вернер *(не стрымаўся)*. А я не зайздрошчу вам, Бегер! Вы дагэтуль не знайшлі дыверсантаў, якія з Оршы зрабілі пекла!

Паўза.

Бегер *(падкрэслена спакойна)*. Лячыце нервы, Вернер. Зрабіце гэта, пакуль не прыехаў палкоўнік Краўзе.

Вернер выходзіць.

Манш! Даведайцеся, з кім меў зносіны Заслонаў.

Манш. З усімі, хто працуе ў дэпо.

Бегер. Вы добра разумееце, што мяне цікавіць. Ён тут?

Манш. Тут.

Бегер. Паклічце.

Манш выходзіць. Праз некалькі секунд уваходзіць Заслонаў.

Заслонаў. Добры дзень, пан маёр.

Бегер. Вы памятаеце, Заслонаў, з якой умовай мы ўзялі вас на работу ў дэпо?

Заслонаў. Іх было некалькі, пан маёр. Якую вы маеце на ўвазе?

Бегер. Што вы галавой адказваеце за кожнага, каго берыцё на работу. Памятаеце?

Заслонаў. Памятаю. Але ж я тады сказаў, што гэта жорстка і бесчалавечна.

Бегер. Вайна, Заслонаў, дыктуе сваё разуменне жорсткасці і чалавечнасці... Арыштаваны вашы людзі. У мяне ёсць неабвержныя доказы, што яны дыверсанты.

Бегер не адрывае ад Заслонава позірку, імкнучыся заўважыць на яго твары хоць бы цень хвалявання.

Заслонаў *(не адразу, спакойна)*. Хто гэтыя людзі?

Бегер. Павел Шурмін і Мікалай Дамарацкі.

Паўза. Бегер па-ранейшаму не спускае вачэй з Заслонава.

Заслонаў. Гэта людзі Хейге, а не мае, пан маёр.

Бегер. Вы дрэнна жартуеце, Заслонаў.

Заслонаў. Я не жартую, пан маёр. Шурміна і Дамарацкага ўзяў у дэпо Хейге. Яшчэ да майго прыходу.

Друлінг уводзіць Шурміна і Дамарацкага. Бегер доўга і пільна ўглядаецца ў кожнага з іх паасобку.

Бегер. Вы апошнімі выходзілі з дэпо ў час налёту?

Павел. Была такая паніка, што я не ведаю, хто ўцякаў першым, а хто апошнім.

Дамарацкі. А мяне зусім не было ў дэпо...

Бегер. Калі вы там з'явіліся?

Дамарацкі. Калі самалёты прыляцелі другі раз.

Бегер. Мы дакладна ведаем, што вы пайшлі з дэпо апошнімі. Дзе вы знаходзіліся ў час бамбёжкі?

Павел. Ляжалі ў варонцы, побач з дэпо.

Бегер. Чаму вы пакінулі дэпо?

Павел. Баяліся, што ўсё рухне на галаву. Адна бомба трапіла ў дэпо...

Бегер. Бомба трапіла ў пусты кут. А паравоз, які стаяў пасярэдзіне дэпо, аказаўся ўзарваны!.. *(Бегер уважліва сочыць за Дамарацкім і Шурміным, затым глядзіць на Заслонава.)* Заслонаў, падыдзіце сюды. Бліжэй!.. Пазнаеце, што гэта такое?

Не адрываючы позірку ад Заслонава, Бегер працягвае далонь.

Заслонаў *(спакойна)*. Здаецца, гэта бікфордаў шнур. Я бачыў падобны ў сапёраў.

Бегер. Правільна. Гэта бікфордаў шнур. Я знайшоў яго ў дэпо. Каля ўзарванага паравоза. Як ён трапіў туды?

Заслонаў *(спакойна, паціскаючы плячыма)*. Можа, застаўся з таго часу, як сапёры ўзрывалі станцыю?

Бегер. Выключаецца. Шнур нямецкі. Ён ніяк не мог быць у вашых сапёраў. Хтосьці выкраў яго ў нашых сапёраў. І зусім нядаўна выкарыстаў яго. А больш дакладна — учора ноччу. Апошнімі з дэпо выходзілі гэтыя двое. Што вы можаце сказаць пра іх?

Заслонаў. Вопытныя машыністы, добрыя рамонтнікі. Могуць адрамантаваць паравоз з завязанымі вачыма.

Бегер. А ўзарваць яго з завязанымі вачыма яны могуць?

Заслонаў *(спакойна паціскае плячыма)*. Ніякіх прэтэнзій да іх у мяне не было. Працавалі бездакорна.

Бегер. На каго працавалі?.. Спадзяюся, гэта яны самі скажуць. Друлінг!..

Друлінг выводзіць Шурміна і Дамарацкага. Услед за ім ідзе і Бегер.

Гасне святло. У левым кутку сцэны загараецца яркі круг святла. У ім — Бегер і Манш.

Манш. Пан маёр! Арышт Заслонава нічога не дасць! Супраць яго ніякіх доказаў. Ніводнага! А як спецыяліст ён незамянімы. Што дэпо працуе, як хранометр,— яго заслуга. Не разумею, як яму ўдаецца вытрымліваць графік выпуску паравозаў на лініі...

Б е г е р. Гэтыя паравозы, Манш, ляцяць у паветра!

М а н ш. Калі я знайду хоць адзін доказ супраць Заслонава, я сам яго павешу! Сам!

Б е г е р. Час працуе супраць вас, Манш. *(Ціха.)* Ведаеце, што робіцца пад Масквой?

М а н ш *(памарудзіўшы з адказам)*. Здагадваюся...

У левым кутку сцэны круг святла гасне і адразу загараецца ў правым — менш яркі, чырвоны, трывожны. У ім З а с л о н а ў і А н д р э е ў. Заслонаў аж кіпіць ад шаленства.

З а с л о н а ў. Я ж сказаў вам! Ніякіх дыверсій без мяне! Толькі па майму загаду! Як гэта магло здарыцца?! Як?! Я ў цябе пытаю! Ты — камісар. Ты адказваеш за дысцыпліну!

А н д р э е ў *(вінавата)*. Дамарацкі не стрымаўся... Зусім новы паравоз у дэпо паставілі... Думаў, усё роўна разбамбяць...

З а с л о н а ў. «Думаў»! Хто ворага лічыць ідыётам, той доўга не наваюе! Галаву ж трэба мець на плячах!

А н д р э е ў *(пасля паўзы)*. Будзем знікаць?

З а с л о н а ў *(не разумеючы)*. Куды знікаць?

А н д р э е ў. У лес, вядома.

З а с л о н а ў. Адны? Без іх?

А н д р э е ў. Ціха... Тут нехта ёсць.

З а с л о н а ў. Хто тут?

Т о н я *(з цемры)*. Я, дзядзя Косця... *(З'яўляецца ў святле.)*

З а с л о н а ў *(строга)*. Чаму ты тут?

Т о н я. Дзядзя Косця... Цімку ўзялі!

З а с л о н а ў *(разгубіўшыся)*. Як узялі? Калі?

Т о н я. Бомбай яго аглушыла... Каля станцыі. Ён прытомнасць страціў... Наган у яго ўгледзелі. І ўзялі... Я толькі на хвілінку аднаго яго пакінула!.. Дзядзя Косця! Што мне рабіць? Я ўсё магу...

З а с л о н а ў. Праз пяць мінут быць дома! І чакаць Цімку. Ну?!

Т о н я знікае. Паўза.

А н д р э е ў. Адна бяда ніколі не ходзіць...

З а с л о н а ў. Прыйдзецца адкрыцца Маншу. Нічога іншага не застаецца... Толя... Калі са мной што-небудзь здарыцца... Ну, гэта я так, на ўсякі выпадак кажу... Ты застаешся за мяне. Толькі прашу цябе — не гарачыся. Кож-

ны крок тры разы ўзважвай! Бачыш, што атрымліваецца ад гарачкі?.. Гэта ты мне абяцаеш?

Андрэеў. Абяцаю, Канстанцін Сяргеевіч...

Цемра.

*Заслона*

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## КАРЦІНА СЁМАЯ

Турма СД. Нізкі, змрочны падвал без вокнаў, без адзінай лямпачкі. Аднекуль збоку на падлогу падае вузкі прамень святла. На падлозе камеры ляжаць змардаваныя да непазнавальнасці, акрываўленыя Павел Шурмін і Цімка Дакутовіч. Шурмін варухнууся і сеў.

Павел. Цімка!.. Ты жывы?

Дакутовіч *(не адразу)*. Жывы...

Павел. Скажы што-небудзь. А то як у магіле...

Паўза.

Дакутовіч. Доўга яны трымаюць яго...

Павел. Помсцяць, што Гітлера з сябе строіў. У кабінеце следчага тэатр зрабіў, артыст!

Дакутовіч. Дзядзя Паша... Нас павесяць або расстраляюць?!

Павел. Знайшоў пра што гаварыць... Якая розніца?

Дакутовіч. Я бачыў павешаных... Страшныя. Твары нейкія сінія. Я потым доўга спаць не мог... Вочы заплюшчу і бачу іх...

Павел. Думай пра што-небудзь іншае. Інакш звіхнешся.

Дакутовіч. Я не хачу... Само думаецца...

З гучным скрыгатам расчыніліся жалезныя дзверы. У праёме, асветлены двума яркімі ліхтарыкамі, стаіць Мікалай Дамарацкі. Паволі, асцярожна, як сляпы, уваходзіць ён у камеру і спыняецца. Як толькі дзверы камеры зачыніліся, сілы яго скончыліся. Ён паваліўся на падлогу там, дзе стаяў. Шурмін і Дакутовіч спрабуюць пакласці яго зручней, прыўзнімаюць галаву.

Павел. Пакладзі пад галаву пінжак.

Дакутовіч *(спалохана)*. У яго кроў з рота ліецца!

Павел. Яны яму, сволачы, лёгкія адбілі!

Дамарацкі. Паша... Ты тут?

Павел. Тут, Коля... Памаўчы. Табе нельга гаварыць...

Дамарацкі. Не, Паша... Я зараз памру...

Павел. Ну, што ты, Коля! Яшчэ сто гадоў пражывеш.

Дамарацкі. Не трэба, Паша... Слухай... Трэба ратаваць Заслонава і ўсіх нашых...

Павел. Ён трызніць. Паглядзі, там вады не засталося?

Дакутовіч. Ні кроплі...

Дамарацкі. Я вельмі баяўся, што не дайду да вас... Баяўся памерці там... На допыце Манш быў... калі я на падлозе ляжаў... Маёр сказаў яму па-нямецку... «Вы, як афіцэр абвера...» Паша! Абвер — гэта разведка... Я ведаю нямецкую мову... Манш — разведчык, Паша! Нямецкі разведчык!.. Ён усіх нас вакол пальца...

Паўза.

Павел. Коля... Ты правільна зразумеў? Табе не здалося?

Дамарацкі. «Вы, як афіцэр абвера... не маеце права...» *(Двойчы паўтарае гэту фразу на нямецкай мове.)*

Павел. Ах, Пётра, Пётра! Што ж ты нарабіў, брацені к?!

Дамарацкі. Паша... Ты чуеш? *(Нібы трызнячы, некалькі разоў паўтарае адну і тую ж фразу: «Вы, як афіцэр абвера, не маеце права».)*

Павел. Я зразумеў, Коля, зразумеў. Позна...

Дамарацкі. Не, Паша... Нехта з вас павінен выйсці адсюль жывым... Я ўжо не выйду.

Паўза.

Павел *(прыняўшы нейкае рашэнне)*. Цімка выйдзе! Спалохаецца і выйдзе.

Дакутовіч *(нічога не разумеючы)*. Я нікога не баюся!

Павел *(горача і хутка)*. Цімка! У нас няма часу! Праз мінуту за намі могуць прыйсці... Нам яны не павераць. А табе — могуць! Ты павінен выйсці адсюль! Хоць на адзін дзень! Хоць на гадзіну! Каб папярэдзіць нашых, хто такі Манш!

Дакутовіч. Але як выйсці, дзядзя Паша? Як?!

Павел. Дасі згоду быць у іх шпіёнам. А каб паве-

рылі — скажаш, што мы сапраўды дыверсанты! Што паслаў нас з лесу Якушаў...

Д а к у т о в і ч *(крычыць)*. Не! Нізавошта!

П а в е л. Цімка! Гэта адзін шанец з тысячы! Са ста тысяч! Нельга яго ўпусціць! А нам ужо ўсё адно. Горш не будзе... Жывымі яны нас адсюль не выпусцяць.

Д а к у т о в і ч. Не, дзядзя Паша... Усё, што хочаце, толькі не гэта! Не гэта! Вы хочаце памерці чэсна? Я таксама хачу чэсна. Разам з вамі...

Д а м а р а ц к і *(Шурміну)*. Памажы...

П а в е л. Коля, ты куды? Ляжы! Табе нельга...

Д а м а р а ц к і *(збірае астатнія сілы, бярэ Цімку за плечы)*. Прыгожа памерці хочаш?.. Памрэш... Але ты пацягнеш за сабой у магілу ўсіх, хто зараз на волі!.. Не немцы, а ты іх заб'еш!..

Д а к у т о в і ч. Коля! Коля!..

Д а м а р а ц к і. Не перабівай... Не паспею... Цімка... У кожнага чалавека ёсць апошняе жаданне, якое сябры павінны выканаць... Я прашу цябе... Выратуй Заслонава і ўсіх, хто з ім... Цімка... Я зараз памру... Я хачу ведаць перад смерцю... Зробіш ты гэта ці не?.. Цімка!.. Дай мне спакойна памерці...

## КАРЦІНА ВОСЬМАЯ

Маленькі пакойчык Заслонава ў дэпо. За яго сценамі час ад часу чутны свісткі паравозаў, шыпенне пары, работа такарнага станка. З а с л о н а ў, прысеўшы перад буржуйкай, кідае ў яе вугаль. Лёгкі стук у дзверы.

З а с л о н а ў. Уваходзьце.

Заходзіць А н д р э е ў з дарожнай скрынкай.

А н д р э е ў *(хутка і ціха)*. Іх трымаюць у падвале льнозавода! Уваход знутры памяшкання. Вокнаў няма. На двор іх не выпускаюць. Дапытваюць там, на першым паверсе. На двары шмат грузавых машын і моцная ахова. Вартавыя з кулямётамі на вышцы. Унаўы рызыкнуць можна...

З а с л о н а ў. З пісталетамі супраць кулямётаў?.. Манш вернецца з Віцебска заўтра. Паслязаўтра мы з ім сустрэнемся. Я ўжо дамовіўся з ім. Толькі не сказаў чаго...

А н д р э е ў. Ну, і што ён?

З а с л о н а ў. Зацікавіўся.

Андрэеў. Дзе вы сустракаецеся?

Заслонаў. У мяне на кватэры.

Андрэеў. Падстрахуем на ўсякі выпадак.

Заслонаў. Нельга. Дом пад наглядам. Нават калі мяне няма. Ты куды едзеш?

Андрэеў. У Смаленск. Гасцінец ёсць?

Заслонаў. Апошняя. *(Выцягвае з кучы вугалю пад буржуйкай вугальную міну.)* Толькі што Родчанкам дзве аддаў.

Андрэеў. Што будзем рабіць з бронепаравозамі?

Заслонаў. Не чапаць! Ні ў якім разе! Яны пад такой аховай, што блыха не падлезе! Рамантаваць як след. Будзе правяраць спецыяльная камісія. Чыгуначнікі. Зразумеў?

Андрэеў. Шкада выпускаць!

Заслонаў. Трэба. Гэта загад, камісар. Не затрымлівайся.

Андрэеў, моўчкі паціснуўшы Заслонаву руку, выходзіць. Недзе зусім блізка прагучала доўгая аўтаматная чарга. Заслонаў уздрыгнуў, прыслухаўся. Пастаяўшы крыху, ён вярнуўся да буржуйкі. Ледзь чутна рыпнулі дзверы. На парозе стаіць захутаная ў вялікую цёплую хустку Якушава.

Якушава. Ці можна да вас?

Заслонаў. Жанчын на працу не бяром.

Якушава. Не пазнаеце, Канстанцін Сяргеевіч?

Заслонаў *(з жахам)*. Каця?! Ты?! Немцы вакол!

Якушава. Я тры дні ў горадзе, а да вашага дома не падысці. Загад я павінна перадаць вам асабіста.

Заслонаў. Які загад?

Якушава. Райкома партыі...

Заслонаў. Нарэшце!.. Які загад?

Якушава. Неадкладна выходзіць з горада. Усім!

Заслонаў. Неадкладна не магу, Каця... Схапілі трох нашых.

Якушава. Ведаю. Ім вы не дапаможаце, а самі...

Заслонаў. І ўсё ж мы паспрабуем... Павінны, Каця. Заўтра ці паслязаўтра.

Якушава. Загад ёсць загад, Канстанцін Сяргеевіч.

Заслонаў. Ты лепей скажы... Самалёты вы прыслалі?

Якушава. Мы...

Заслонаў. Малайцы! Больш удалага моманту не будзе. Усё ўшчэнт! Як Федзя?

Якушава. Чакае — не дачакаецца.

З а с л о н а ў. Хто сюды правёў?
Я к у ш а в а. Жэнька Коржань.
З а с л о н а ў. Аўсвайс ёсць?
Я к у ш а в а. Ёсць.

У дзверы прасунулася галава Ж э н ь к і К о р ж а н я.

К о р ж а н ь. У дэпо Бегер! Забіты Родчанкі!
З а с л о н а ў. Знікай! Знікай з горада!

Я к у ш а в а знікае. Заслонаў прысеў перад буржуйкай. На парозе Б е г е р.

Б е г е р. Заслонаў! Вы братоў Родчанкаў ведаеце?
З а с л о н а ў. Ведаю. Машыністы...
Б е г е р. Вы сёння бачыліся з імі?
З а с л о н а ў. Я падпісваў іх маршрутныя лісты. Я заўсёды гэта раблю.
Б е г е р. Хто іх браў на работу ў дэпо?
З а с л о н а ў. Я браў...
Б е г е р *(з іроніяй)*. Значыць, гэта вашы людзі, а не Хейге?
З а с л о н а ў. Мае... З імі што-небудзь здарылася?
Б е г е р *(не спускаючы вачэй з Заслонава)*. Яны забіты. Абодва.
З а с л о н а ў. Забіты?.. За што?..
Б е г е р. Іх спынілі вартавыя, каб абшукаць. А яны раптам пабеглі.

Паўза.

З а с л о н а ў. Я нічога не разумею, пан маёр.
Б е г е р. Я таксама. Чаму яны пабеглі? Як вы думаеце?
З а с л о н а ў. Не ведаю, пан маёр.
Б е г е р. Я ведаю. У іх было нешта такое, чаго яны не хацелі паказваць вартавым.
З а с л о н а ў. Што іменна?
Б е г е р. А вось гэта вы і павінны мне сказаць.
З а с л о н а ў. Чаму я?
Б е г е р. Таму, што нябожчыкі гаварыць не могуць. А вы, Заслонаў, жывы. Апранайцеся. Паедзеце са мной.
З а с л о н а ў. Я арыштаваны?
Б е г е р *(з іроніяй)*. Ну, а як вы думаеце?

## КАРЦІНА ДЗЕВЯТАЯ

Кабінет маёра Бегера. На падлозе ў непрытомнасці ляжыць Цімка Дакутовіч. Над ім схіліўся Друлінг.

Бегер. Вы перастараліся, Друлінг.

Друлінг. Не, пан маёр, ён зараз ажыве.

Друлінг прыўзнімае і садзіць Цімку на табурэтку.

Бегер *(падыходзіць да Цімкі)*. Ну, малады чалавек? Будзем працягваць?

Дакутовіч *(ледзь чутна)*. Не трэба...

Бегер. Будзеце гаварыць праўду?

Цімка моўчкі ківае.

Навошта ж было столькі ўпарціцца?.. Не шкадуеце вы сябе, малады чалавек.

Друлінг падводзіць Цімку да стала і садзіць на стул пад яркі прамень лямпы.

Дакутовіч *(просіць)*. Дайце вады...

Друлінг моўчкі глядзіць на Бегера. Той ківае галавой у знак згоды. Цімка выпівае шклянку вады двума глыткамі.

Бегер. Пачнём з самага пачатку. Дзе вы ўзялі зброю?

Дакутовіч *(не адразу)*. Мне далі...

Бегер. Хто даў? Больш дакладна!

Дакутовіч *(пасля паўзы)*. Якушаў...

Бегер. Хто такі Якушаў?

Дакутовіч. Начальнік палітаддзела.

Бегер. Я ведаю, кім ён быў да вайны. Хто ён цяпер?

Дакутовіч. Камандзір атрада...

Бегер. Дзе знаходзіцца атрад?

Дакутовіч. Знаходзіўся ў Зарэччы...

Бегер. Што значыць — «знаходзіўся»?

Дакутовіч. Ён мяняе месца кожныя два-тры дні.

Бегер. Дзе і калі вы павінны сустрэцца з Якушавым?

Дакутовіч. У Вясёлках ці ў Загаллі. Пасля задання...

Бегер. Якога задання?

Паўза.

Дакутовіч. Я павінен забіць Заслонава...

Паўза.

Б е г е р. Чый гэта загад? Якушава?
Д а к у т о в і ч. Не... Штаба.
Б е г е р. Колькі ў атрадзе чалавек?
Д а к у т о в і ч. Сто. Амаль сто...
Б е г е р. Ці ёсць у горадзе людзі Якушава?
Д а к у т о в і ч *(не адразу)*. Ёсць...
Б е г е р. Хто? Прозвішчы?
Д а к у т о в і ч *(пасля паўзы)*. Браты Родчанкі...
Б е г е р. Яшчэ!

Паўза.

Д а к у т о в і ч. Шурмін і Дамарацкі...
Б е г е р. Яшчэ!
Д а к у т о в і ч. Больш не ведаю...

Паўза.

Б е г е р. Добра, Дакутовіч. Я памагу выканаць ваша заданне. А вы за гэта паможаце мне сустрэцца з Якушавым.

Д а к у т о в і ч. Я не магу вярнуцца ў лес, пакуль не выканаю заданне.

Б е г е р. Заўтра вы яго выканаеце. А потым пойдзеце да Якушава. А зараз аформім нашы сяброўскія адносіны. Пісаць зможаце?

Д а к у т о в і ч. Змагу...
Б е г е р. Вось папера. Пішыце. Я буду дыктаваць.
Д а к у т о в і ч. Вады...
Б е г е р. Друлінг!

Друлінг дае шклянку вады. Цімка выпівае яе трыма глыткамі.

Пішыце... *(Дыктуе.)* «Я, Цімафей Дакутовіч, даю згоду супрацоўнічаць з германскімі органамі бяспекі... Я раблю гэта па ўласнай волі, разумеючы ўсю недарэчнасць далейшага супраціўлення Германіі». Напісалі?

Д а к у т о в і ч. Напісаў...

Б е г е р. «Каб даказаць сваю шчырасць і адданасць фюрэру і Германіі, я выдаю нямецкім уладам месцазнаходжанне бальшавіка-фанатыка Якушава і яго атрада». Стаўце подпіс... А чаму вы баіцёся зірнуць мне ў вочы?

Д а к у т о в і ч. Я не баюся... *(Узнімае вочы і вытрымлівае доўгі позірк Бегера.)*

Б е г е р. Вы разумееце, Дакутовіч, які дакумент падпісалі?

Д а к у т о в і ч *(не адразу)*. Разумею...

Бегер. Цяпер вам лепш знаходзіцца ў нас, чым у Якушава. Вы згодны са мной?

Дакутовіч. Згодзен...

Бегер. Заўтра вы застрэліце Заслонава і пойдзеце ў лес. З групай нашых людзей. Калі вы паспрабуеце падмануць нас, фатаграфія вашай заявы, якую вы толькі што напісалі сваёй рукой, у той жа дзень будзе апублікавана ў газетах. Разумееце?

Паўза.

Дакутовіч *(не адразу, ціха)*. Разумею...

Бегер. Ці хочаце вы паглядзець, як будуць вешаць Шурміна?

Паўза.

Дакутовіч. Хачу...

Бегер. Вы мне падабаецеся, Дакутовіч. Вы храбры чалавек і далёка пойдзеце...

## КАРЦІНА ДЗЕСЯТАЯ

Ускраіна Оршы. Марозная зімовая ноч. У цемры зусім блізка грукоча поезд. Працяжна і трывожна трубіць паравоз. Калі поезд прайшоў, у правым кутку сцэны загараецца круг чырвонага святла. У ім Андрэеў, Чэбрыкаў, Пётр Шурмін.

Андрэеў. Ну, што ж... Пара, Сярога!

Пётр. Давай развітаемся... На ўсякі выпадак.

Андрэеў. Пачуеш нашу работу — дзейнічай. Дзве-тры мінуты ў цябе будзе.

Чэбрыкаў. Не пачую я выбуху пад зямлёй.

Андрэеў. Пачуеш. Мёрзлая зямля яшчэ больш гудзе.

Чэбрыкаў. На месцы відаць будзе. Ну, я пайшоў...

Андрэеў. Ні пуху ні пер'я!

Чэбрыкаў. К чорту...

Чэбрыкаў знікае ў цемры.

Пётр. Сапраўды чорту ў зубы палез...

Андрэеў. Дай курнуць.

Пётр *(здзіўлена)*. Ты ж не курыш!

Андрэеў. Не будзь скупярдзяем, Пятруха. Давай! *(Закурыў і закашляўся.)*

Пётр. Ты чаму гэта ў чаравічках? Без ног захацеў застацца?

Андрэеў. Там насып, як сцяна. У валёнках не ўзбярэшся.

Пётр. А, чорт! Я пра гэта не падумаў! Дзе ты раней быў?

Андрэеў *(зноў зацягваецца і кашляе)*. На насыпе я адзін спраўлюся.

Пётр. Шнура на колькі хопіць?

Андрэеў. Секунд на трыццаць — сорак.

Пётр. Караткаваты...

Андрэеў. Пазыч у немцаў даўжэйшы. Які быў...

Пётр. Я пра цябе думаю: ці паспееш...

Андрэеў. Паспею... Усё, пайшлі. *(Ускідвае на плечы вялікі мех.)*

Пётр. Толя... Як ты думаеш, ці выратуе гэта іх? Калі ў нас атрымаецца?

Андрэеў *(не адразу)*. Гэта адзінае, што мы можам зрабіць для іх...

Святло гасне. Далёкі гудок паравоза.

## КАРЦІНА АДЗІНАЦЦАТАЯ

Кабінет Бегера. У кабінеце Бегер, Вернер і Хейге.

Бегер *(злавесна-спакойным тонам)*. Ну! Я чакаю, Хейге. Як трапілі міны ў топкі бронепаравозаў? За дэпо адказваеце вы! А паравозы ўсю ноч знаходзіліся ў дэпо.

Хейге. Пан маёр... У дэпо ніхто не мог пранікнуць! Вартавыя ўсю ноч знаходзіліся і ўнутры памяшкання і знадворку!

Бегер. І тым не менш міны трапілі ў вугаль. Якім чынам?

Хейге. Пан маёр!.. Бронепаравозы ўзарваны не на станцыі, а на перагоне... Магчыма, у дарозе...

Бегер. Міны зваліліся з неба і трапілі ў топкі паравозаў!.. Каго вы хочаце ашукаць? Мяне? Сябе? Ці каго-небудзь трэцяга?

Непрыкметна зайшоў Манш.

Хейге. У дэпо, пан маёр, гэта зрабіць немагчыма!

Манш. Магчыма, пан Хейге. Дыверсанты праніклі ў дэпо праз люк.

Хейге. Які люк? Пра што вы гаворыце, Манш?

Манш. Люк каналізацыі. Які знаходзіцца за такарным станком.

Х е й г е. У дэпо былі вартавыя! Усю ноч!

М а н ш. Я толькі што агледзеў люк. Уначы пехта быў там. У мяне няма сумнення. Паравозы замініраваны ў дэпо. І зроблена гэта сёння ноччу...

Б е г е р. Вернер! Усіх салдат, якія ахоўвалі ноччу дэпо, дапытаць і — на фронт!

В е р н е р. Калі б гэта дапамагло вярнуць у строй бронепаравозы.

Б е г е р. Вы празмерна дасціпны, камендант. Думаю, што ў гэтай сітуацыі... Вы свабодны! Вы, Хейге, таксама.

В е р н е р і Х е й г е выходзяць.

Дзве буйныя дыверсіі за адну ноч... Гэта вайна, Марбах. Сапраўдная вайна...

М а н ш. Цяпер я ўпэўнены: гэта чыгуначнікі. Эшалон, які ўзарвалі ноччу, перагарадзіў дарогу на дзесяць — дванаццаць гадзін. Разлік тонкі! Дзесяткі параненых. Многія з іх замёрзлі, пакуль іх падабралі. Нарэшце гэты люк...

Б е г е р. Заслонаў ведаў пра люк?

М а н ш. Напэўна. Але ўзарваць эшалон з салдатамі і замініраваць два паравозы, седзячы ў турме... Вы паспяшаліся, маёр!

Б е г е р. Што вы хочаце сказаць, Марбах?

М а н ш *(адчуваючы на гэты раз сваю перавагу і таму больш дзёрзка, як заўсёды)*. Вы паспяшаліся арыштаваць Заслонава.

Б е г е р. Вы што-небудзь ведаеце?

М а н ш. Мог бы ведаць, каб не вы.

Б е г е р. Ну-ну, працягвайце! Што было б, каб не я?

М а н ш. Перад маёй паездкай у Віцебск Заслонаў папрасіў мяне сустрэцца з ім.

Паўза.

Бегер пільна, з падазрэннем глядзіць на Манша.

Б е г е р. Чаму вы не сказалі мне пра гэта раней?

М а н ш. Не паспеў. Праз дваццаць мінут пасля размовы з Заслонавым я і Хейге выехалі ў Віцебск.

Б е г е р. Значыць, у вас з ім была гаворка?

М а н ш. Не было. Ён толькі сказаў, што хоча пагаварыць са мной па важнай справе.

Б е г е р *(не спускае вачэй з Манша)*. І вы не здагадваецеся, пра што ён хацеў гаварыць?

М а н ш. Не. Мы дамовіліся сустрэцца ў яго на кватэры пасля майго вяртання з Віцебска.

Б е г е р. Вы можаце сустрэцца з ім цяпер.

М а н ш. У СД?.. Тут шчырасць бывае толькі прымусовай. З Віцебска я прывёз цікавы дакумент пра Заслонава. Яго знайшлі ў архівах, якія рускія не паспелі вывезці.

Б е г е р. Што іменна?

М а н ш *(працягвае Бегеру паперу)*. Аўтабіяграфія Заслонава. Напісана яго ўласнай рукой.

Б е г е р *(чытае)*. Цікава... Тры жаданні ў жыцці. І за кожнае можна павесіць. Можна і трэба!.. Вы і цяпер будзеце сцвярджаць, што Заслонаў не бальшавік?

М а н ш. Не буду. Зараз гэта лёгка праверыць, пан маёр. Ён жа не ведае, што гэты дакумент у нашых руках. І не дапускае, што мы ведаем пра яго запаветныя жаданні...

Б е г е р. Ну і што?

М а н ш. Калі ён не прызнаецца нам у сваіх жаданнях, значыць, ён хлусіць і ў астатнім. Значыць, яго чэснасць — гэта толькі гульня ў чэснасць. Не больш.

Б е г е р. Лагічна, але... Трэба быць апошнім ідыётам, каб прызнацца ворагу ў такіх жаданнях.

М а н ш. Ідыётам або... сумленным чалавекам.

Б е г е р. Для мяне, Марбах, ужо не мае значэння, хто такі Заслонаў — наш саюзнік ці наш праціўнік. Яго трэба ўбраць. Жывы Заслонаў нам больш не патрэбны. Ён нам патрэбен мёртвы. Пры той умове, што яго прыкончаць свае...

Паўза.

М а н ш. Хто гэта зробіць? Дакутовіч?

Б е г е р. Вы. Страляць будзе Дакутовіч. А вы яго падстрахуеце. Гэта той выпадак, калі трэба дзейнічаць пэўна.

М а н ш. Калі гэта трэба зрабіць?

Б е г е р. Заўтра. Вы што, не згодны? Шкадуеце старога знаёмага?

М а н ш. Згодны. Але вы зноў спяшаецеся, маёр. Заслонаў і так у нашых руках. А астатнія? Тыя, хто ўзарваў эшалон і замініраваў бронепаравозы, пакуль ён сядзеў у турме?

Б е г е р. Вы спадзяецеся, што Заслонаў выдасць іх?

М а н ш. Не выдасць, вядома. А раптам ён скажа мне нешта цікавае?.. І жывога і мёртвага Заслонава трэба выкарыстаць максімальна.

Паўза.

Б е г е р. Я даю вам, Марбах, тры дні. Больш таго... Мне не падабаецца гэты смаленскі агент. Мелка плавае, усяго баіцца. Назавіце яго прозвішча Заслонаву. І калі агент праз дзень знікне, вы больш не будзеце сумнявацца, хто такі Заслонаў!..

## КАРЦІНА ДВАНАЦЦАТАЯ

Спачатку цемра, затым у правым кутку сцэны пачынае паступова чырванець круг святла. У святле Р ы т а З а с л о н а в а ў белай шлюбнай сукенцы. Здзіўлены голас Заслонава з цемры:
— Рыта? Як ты сюды трапіла?
З а с л о н а ў з'яўляецца ў святле побач з Рытай.

Р ы т а. Я на крылах ляцела да цябе, мой любы!

З а с л о н а ў. Ты ж далёка! За тысячы вёрст!

Р ы т а. Не, мой любы... Я заўсёды побач з табой...

З а с л о н а ў. Пачакай, пачакай... Як ты прайшла сюды? А вартавыя?

Р ы т а. Каханне ніхто не стрымае. Ніякія вартавыя!..

З а с л о н а ў. Яны ж заб'юць цябе!

Р ы т а. Каханне нельга забіць, мой любы. Няма такой кулі...

З а с л о н а ў. Тут кроў і смерць! Адсюль жывымі не выходзяць!

Р ы т а. Я выратую цябе!

З а с л о н а ў. Гэта немагчыма! Яны сочаць за кожным маім крокам! За кожным маім словам!

Р ы т а. Мы разам з табой паляцім у наш самы шчаслівы дзень. Паляцім?

З а с л о н а ў. Паляцім!.. Што гэта?!. Мы ляцім... У мяне галава кружыцца ад вышыні...

Р ы т а. Зараз пройдзе, мой любы... Добра, што мы ўцяклі? Надакучыла!

На галаве Рыты з'яўляецца вэлюм.

З а с л о н а ў. Што ты сказала? Цалавацца надакучыла?

Р ы т а. Сорамна пры ўсіх!

З а с л о н а ў. А цяпер?

Р ы т а. Цяпер — не! *(Абдымае яго і цалуе.)*

З а с л о н а ў. Мала!

Р ы т а. Ненасыць ты! *(Цалуе яго яшчэ раз.)* А ты мяне моцна любіш?

З а с л о н а ў. Вельмі-расправельмі і яшчэ крышачку!..

Голас Бегера з цемры:
— З кім вы размаўлялі, Заслонаў?

Загараецца святло і асвятляе камеру, у якой знаходзіліся раней Шурмін і Дамарацкі. На падлозе, прыхіліўшыся спіной да сцяны, сядзіць З а с л о н а ў. Непадалёку ад яго сядзіць на табурэтцы Б е г е р.

З а с л о н а ў *(з цяжкасцю прыўзнімаецца)*. А-а... Гэта зноў вы, пан маёр... Што вам ад мяне трэба? Чаго вы хочаце?.. Я прыйшоў да вас добраахвотна... Я набраў тры дзесяткі машыністаў, якія водзяць вашы паязды. Я сабраў вам лепшых рамонтнікаў, якія рамантуюць вашу тэхніку. Я суткамі знаходзіўся ў дэпо... Чаго вы дабіваецеся ад мяне?

Б е г е р. Пастаўце, Заслонаў, сябе на маё месца. За два месяцы хтосьці вывеў са строю больш ста паравозаў, замарозіў водаправод. Звалена пад адхон паўтара дзесятка эшалонаў з салдатамі, з тэхнікай. Вось і сёння ноччу нехта ўзарваў поезд...

З а с л о н а ў. Гэта таксама я зрабіў?

Б е г е р. Не, гэта зрабіў нехта іншы. Але скажу вам шчыра, Заслонаў... Быў час, калі мы вас падазравалі.

З а с л о н а ў. А зараз?

Б е г е р. Зараз — не. Не можа такі чалавек, як вы, працаваць на бальшавікоў. Гэта не лагічна, не натуральна. Мне толькі хацелася б удакладніць некаторыя дэталі вашай біяграфіі.

З а с л о н а ў. І дзеля гэтага вы пасадзілі мяне ў турму і збілі да паўсмерці?

Б е г е р. Не трэба, Заслонаў. Выдаткі вайны бываюць і больш непрыемныя. У Новасібірску вас пабілі мацней! Дарэчы, хто і за што вас там біў?

З а с л о н а ў *(імгненна апрытомнеўшы ад нечаканасці)*. Не ведаю, пан маёр. Следства не знайшло вінаватых...

Б е г е р. Ну, а самі вы што думаеце пра гэта?

З а с л о н а ў. Відаць, тыя людзі, якіх я прымушаў добра працаваць. А ім гэта не падабалася. Вось яны і захацелі мяне правучыць.

Б е г е р. Калі гэта было?

З а с л о н а ў. Дакладна не памятаю. Здаецца, у чэрвені трыццаць трэцяга...

Б е г е р. Вы былі паранены?

З а с л о н а ў. Вам паказаць раны?

Б е г е р. Не, не трэба. Я вам і так веру... *(Паўза.)*

Дзіўны вы чалавек, Заслонаў. Вы верай і праўдай служылі бальшавікам, якія напляваЛі ў вашу душу.

Заслонаў. Я не дзіўны, я сумленны чалавек, пан маёр. А ў жыцці бывае так, што сумленных часта б'юць. І свае, і чужыя. Вось як мяне, напрыклад...

Бегер. Нават у сумленнага чалавека, Заслонаў, бывае мяжа, за якой яго сумленнасць канчаецца... З камсамола вас выключылі, з лётнага вучылішча прагналі. Бацьку вашага арыштавалі, сям'ю выслалі. У вас і мару адабралі. Я разумею, як гэта балюча, калі ў чалавека адбіраюць мару... Скажыце, Заслонаў, няўжо ў вас ніколі не з'явілася жаданне адпомсціць бальшавікам за ўсё, што яны зрабілі вам? І наогул, ці былі ў вас якія-небудзь жаданні? *(Паўза.)* Ну, што вы маўчыцё, Заслонаў?

Заслонаў. Думаю...

Бегер. Думаеце? Пра што?

Заслонаў. Гаварыць вам праўду ці не?

Бегер. Праўда заўсёды даражэй цэніцца, чым няпраўда.

Паўза.

Заслонаў. Былі ў мяне жаданні... Тры...

Бегер. Нават тры? Якія?

Паўза.

Заслонаў. Хацеў стаць добрым інжынерам...

Бегер. Натуральна. Кожны чалавек хоча ўзяць ад жыцця максімум.

Заслонаў. І даць максімум. *(Паўза.)* Хацеў стаць камуністам...

Бегер. Вы падзялялі іх перакананні?

Заслонаў. Не... Я ўжо гаварыў вам, што на кіруючыя пасады яны прызначаюць толькі сваіх, членаў партыі.

Бегер. Памятаю. Каб патрабаваць з камуніста двойчы — і па адміністрацыйнай і па партыйнай лініі. Так?

Заслонаў. Так...

Бегер. Ну што ж, тут ёсць логіка... І ў вас ні разу не з'явілася жаданне адпомсціць ім за тое, што яны скалечылі жыццё блізкіх людзей, ваша жыццё?

Заслонаў *(не адразу, узважваючы кожнае слова)*. Выдаткі, пан маёр, бываюць розныя... Вы ж самі сказалі, што я мог быць забіты. А вы ўсяго толькі пакалечылі мяне. Выходзіць, што я павінен быць удзячны вам!

Б е г е р. Не трымайце камень за пазухай, Заслонаў... А якое ў вас было трэцяе жаданне? Забыліся? Не памятаеце?

З а с л о н а ў *(пасля паўзы)*. Памятаю... Хацеў пабачыць Сталіна...

Б е г е р. Сталіна? Навошта?

З а с л о н а ў. Хацеў пагаварыць з ім...

Б е г е р. Пра што?

З а с л о н а ў. Пра многае... Пра жыццё.

Б е г е р. І пра «выдаткі» сталі б з ім гаварыць?

З а с л о н а ў. І пра «выдаткі» таксама...

Б е г е р. Дзякуйце богу, што ён не ажыццявіў ваша жаданне... Вы, Заслонаў, сапраўды сумленны чалавек. І на рэдкасць мужны. Сярод рускіх я сустракаю такога ўпершыню. Я хачу, каб вы былі нашым ідэйным саюзнікам.

З а с л о н а ў. З саюзнікамі, пан маёр, так не абыходзяцца.

Б е г е р. Свае білі вас мацней. Аднак жа вы ім даравалі! Спадзяюся, даруеце і нам. Зараз я прышлю да вас доктара. Вы свабодны, Заслонаў. Ідзіце ў дэпо і працуйце...

Б е г е р выходзіць.
Заслонаў напружана глядзіць яму ўслед, жадаючы дазнацца — выйграў ён гэтую дуэль альбо не?.. І адразу ў левым кутку сцэны загараецца круг святла. У ім Б е г е р, набірае нумар тэлефона.

Б е г е р. Манш?.. Я выпускаю Заслонава... Так, ён пацвердзіў свае жаданні... Усе тры... Не, я перадумаў, Манш. Я даю вам не тры дні, а адзін дзень. Больш дакладна — адзін дзень і адну ноч. Роўна праз суткі Заслонаў будзе забіты. *(Набірае другі нумар.)* Друлінг? Прывядзіце да мяне Дакутовіча. І прынясіце яго рэвальвер...

## КАРЦІНА ТРЫНАЦЦАТАЯ

Невялікі пакойчык, у якім жыве Заслонаў. У ім усё так, як было на старой кватэры — вузенькая кушэтка, засланая простай шэрай коўдрай, стол, некалькі табурэтак, буржуйка.
Зморшчыўшыся ад болю, З а с л о н а ў спрабуе надзець куртку ў рукавы. Перадумаў і накінуў куртку на плечы і зноў павесіў левую руку на перавязь, паставіў на буржуйку чайнік.
У дзверы ціха, асцярожна пастукалі. Заслонаў падышоў, павярнуў ключ і адчыніў дзверы. Уваходзіць М а н ш з пакетам у руках.

М а н ш. Добры вечар, Канстанцін Сяргеевіч! Вядома, не чакалі? Угаворы даражэй за грошы. Памятаеце, я абяцаў прыйсці да вас у госці?

З а с л о н а ў *(шчыра, сардэчна)*. Дзякую, Манш. Я вельмі чакаў вас. Вось толькі частаваць няма чым.

М а н ш *(таксама проста і сардэчна)*. Я гэта ведаў. Вось кансервы, хлеб, цукар. Нават шнапс ёсць. Дрэнь, вядома, але дзе ты возьмеш лепшага?

З а с л о н а ў. Дзякую. Гарэлку я не п'ю, вы ж гэта ведаеце.

М а н ш. Памятаю, усё памятаю, Канстанцін Сяргеевіч!.. Але ж тое да вайны было. А зараз і вайна, і мароз, і ўвогуле жыццё паскуднае!

З а с л о н а ў. Бяду ў ёй не ўтопіш. А сам затануць можаш... Дзякую вам, Манш. Маёр сказаў, што вы хадайнічалі за мяне. Так што я двойчы вам абавязаны.

М а н ш *(даверліва)*. Скажу вам шчыра, Канстанцін Сяргеевіч... Прасіць-та я прасіў, але мала верыў, што яны вас выпусцяць. Звяр'ё!.. Моцна вас білі?

З а с л о н а ў. Ад душы. Не шкадавалі.

М а н ш. Хто? Бегер?

З а с л о н а ў. Не... Ён рукі свае шкадуе. Ёсць там у яго майстры...

М а н ш. Друлінг? Гэта дробная птушка. Самы страшны звер — гэта Бегер! І разумны, і хітры. Вось каго вам трэба баяцца!..

З а с л о н а ў. Усе немцы адным мірам мазаны.

М а н ш *(з крыўдай)*. І я — таксама? Я таксама немец... Я разумею вас, Канстанцін Сяргеевіч... Ведаю, што вы пра мяне думаеце. «Чалавек ты нібыта савецкі, а кроў у цябе іхняя, нямецкая...» Гітлер прымусіў увесь свет ненавідзець немцаў. Спатрэбіцца сто, а можа, і дзвесце гадоў, каб людзі зноў сталі немца чалавекам лічыць... Канстанцін Сяргеевіч! Вазьміце мяне да сябе! Маці сваёй клянуся, я не немец, я — сумленны чалавек! Дайце мне любое заданне! Праверце мяне! Выпрабуйце! Хочаце, я заб'ю Бегера?

Гэты маналог Манш гаворыць пранікнёна, шчыра, амаль са слязьмі ў голасе.

Паўза. Заслонаў моўчкі глядзіць на Манша.

З а с л о н а ў. Я веру табе, Густаў... Задання ў мяне для цябе пакуль няма. А вось просьба ёсць. І вельмі вялікая. Аб ёй я і хацеў пагаварыць...

М а н ш. Што трэба зрабіць? Я зраблю ўсё!

З а с л о н а ў. Выратуй нашых хлопцаў. Шурміна і Дамарацкага...

М а н ш *(з болем)*. Не магу, Канстанцін Сяргеевіч...

З а с л о н а ў. Чаму?

М а н ш. Позна...

З а с л о н а ў *(нават не адразу рашаецца спытаць)*. Што з імі?

М а н ш. Дамарацкі памёр... Забілі. А Шурміна павесілі...

З а с л о н а ў *(не адразу)*. Калі?

М а н ш. Тры дні назад.

З а с л о н а ў. Чаму пра гэта ніхто не ведае?

М а н ш *(паціскае плячыма)*. Канстанцін Сяргеевіч... А вы хочаце ведаць, хто іх прадаў?

З а с л о н а ў. Хто? Ты ведаеш?

М а н ш. Ведаю... Слесара Іванова, у акулярах, невысокага росту, ведаеце?

З а с л о н а ў. Якога Хейге нядаўна ўзяў на работу?

М а н ш. Ён самы... Гэта агент смаленскага гестапа. Яго спецыяльна падсадзілі ў дэпо, каб ён раскрыў падпольную арганізацыю...

Паўза.

З а с л о н а ў. Як ты даведаўся пра яго?

М а н ш. Чуў размову Хейге і Бегера. Мне яны нічога не сказалі. Хоць я і немец, але не давяраюць... Мне забіць яго?

З а с л о н а ў. Не трэба... Другія зробяць. Цімка Дакутовіч жывы?

М а н ш. Жывы.

З а с л о н а ў. Выратаваць яго зможаш?

М а н ш *(падумаўшы)*. Паспрабую... Канстанцін Сяргеевіч... Калі я выратую Дакутовіча, вы паверыце мне?

З а с л о н а ў. Паверу.

М а н ш. Усё. Мне нельга марудзіць. Трэба хоць на гэты раз апярэдзіць Бегера! Я прыйду да вас з Дакутовічам. Чакайце!

З а с л о н а ў. Дзякую, Густаў! *(Моцна, па-сяброўску паціскае яму руку.)* Буду чакаць!..

М а н ш выходзіць. Заслонаў ідзе да стала, адкрывае бляшанку кансерваў.
Святло ў пакойчыку Заслонава гасне. Цьмяна асвятляецца вуліца і вугал дома, у якім жыве Заслонаў. Каля сцяны дзве цём-

ныя постаці. Гэта **Цімка Дакутовіч** і **Тоня**. Але іх не пазнаць, размаўляюць яны шэптам.

Т о н я. А калі ён да раніцы не выйдзе?

Д а к у т о в і ч. Буду стаяць да раніцы. Гэтую сволач я жывым не выпушчу!

Т о н я. А ты зможаш?

Д а к у т о в і ч. Што?

Т о н я. Ну... Забіць свайго?..

Д а к у т о в і ч. Я горла яму перагрызу!

Т о н я. А ў мяне б рука не ўзнялася...

Д а к у т о в і ч. Ціха!..

Чуваць, як стукнулі дзверы пад'езда. Набліжаецца постаць чалавека, які ідзе, асвятляючы дарогу перад сабой маленькім ліхтарыкам. Гэта **Манш**. Але ў цемры яго не пазнаць. Пачуў чалавека, насцярожыўся.

М а н ш *(ціха)*. Хто тут?

Д а к у т о в і ч. Твая смерць, фашысцкая сволач!

Цімка ўскідвае руку з наганам, але... чуваць толькі слабыя пстрычкі, стрэлу няма. І ў той жа момент страляе Манш. Цімка падае. Манш нахіляецца, каб пазнаць, каго ён забіў. Узмахвае рукой Тоня, якую Манш не заўважыў.

Здалёк пачуліся галасы немцаў. Яны набліжаюцца.

Зноў асвятляецца пакойчык Заслонава. Заслонаў, пачуўшы стрэл на вуліцы, насцярожыўся, падышоў да акна, прыўзняў коўдру, якой акно завешана, зірнуў на вуліцу. Не ўбачыўшы нічога падазронага, зноў вярнуўся да буржуйкі, уважліва агледзеў некалькі кавалкаў вугалю, перш чым кінуць іх у печку.

За яго спіной нячутна, ціха адчыніліся дзверы. На парозе — **Тоня**. Але яе не пазнаць, настолькі яна змянілася. Пачуўшы за спіной шорах, Заслонаў азірнуўся.

З а с л о н а ў. Тоня?!. Ты?!. Што з табой?!. Тоня, што здарылася?.. Што-небудзь дрэннае?.. Цімка жывы. Мне толькі што пра гэта сказалі. Яго выратуюць і прывядуць сюды. Ты чуеш мяне, Тоня?.. Ну, добра... Не хочаш гаварыць — памаўчы. Зараз ты чаем сагрэешся, і душа ў цябе адтае. Абяцаю табе зрабіць усё, каб ўратаваць Цімку.

Заслонаў налівае кубак чаю і працягвае Тоні. Тая моўчкі адмаўляецца.

Не хочаш? Чаму? Ну, гэта ты дрэнна... Чай, браце, і ў бядзе і на марозе лепшае лякарства. А можа, глыток гарэлкі? Каб сагрэцца? Не хочаш? Правільна. Я таксама за чай...

Тоня моўчкі забірае ў Заслонава кубак і ставіць яго на стол, затым здымае з плеч Заслонава куртку і хоча падзець яму ў рукавы.

Тоня, ты што?.. Я павінен некуды ісці?.. Не магу, Тонечка. Я павінен дачакацца Манша. Ён пайшоў ратаваць Цімку...

Тоня ці ўсхліпнула, ці то ўскрыкнула. Заслонаў спалохана глядзіць на яе, баючыся, што яна страціла розум.

Т о н я *(чужым голасам)*. Я забіла Манша...

З а с л о н а ў *(не паверыўшы)*. Што?.. Навошта?

Т о н я. Ён забіў Цімку...

З а с л о н а ў. Дзе? Калі?.. Манш толькі што выйшаў адсюль! А Цімка ў турме...

Т о н я. Мы не паспелі... Спазніліся... Мы бачылі, як ён увайшоў да вас... І чакалі. Цімка хацеў застрэліць яго... Але пісталет чамусьці не выстраліў. Тады Цімка кінуўся на яго... А той стрэліў яму ў твар...

З а с л о н а ў *(усё яшчэ не верыць)*. Чакай, чакай... Ты ж кажаш, што забіла Манша?

Т о н я. Калі Манш стрэліў у Цімку... Я кінула яму ў спіну нож... Мяне Цімка навучыў... Яны каля дзвярэй ляжаць...

З а с л о н а ў. Хто... ляжыць?

Т о н я. Цімка і Манш... Вось... *(Выцягвае з-за пазухі і падае Заслонаву два рэвальверы.)* Гэта Цімкаў, а гэты яго...

Толькі цяпер Заслонаў канчаткова паверыў Тоні.

З а с л о н а ў. За што, скажы мне, Цімка хацеў забіць Манша?

Т о н я. Манш — нямецкі шпіён. Афіцэр іхняй разведкі... Цімка называў неяк па-нямецку... Я не памятаю.

З а с л о н а ў. Абвер?

Т о н я. Ага, абвер... Шурмін і Дамарацкі перад смерцю даведаліся... І паслалі Цімку, каб вас папярэдзіць... Мы спазніліся...

З а с л о н а ў *(імгненна прымае рашэнне)*. Памажы!

Заслонаў з дапамогай Тоні надзявае куртку, узяў Цімкаў наган і, цэлячы ў падлогу, некалькі разоў націснуў на курок. Чуваць слабыя пстрычкі.

Халастыя!.. Уцякайма, Тоня! Зараз яны будуць тут! Пачакай...

Заслонаў падышоў да акна, прыслухаўся, адхіліў край коўдры, асцярожна зірнуў на вуліцу. Там чуваць усхваляваныя галасы немцаў.

Яны ўжо тут. У дзверы не выйдзем. Ты зможаш праз акно? Там страха...

Т о н я. Змагу... *(Ідзе да акна.)*

З а с л о н а ў *(назіраючы за немцамі на вуліцы)*. Пачакай... Хай яны ўвойдуць у пад'езд... Усё! Давай!

Заслонаў адчыняе акно. У пакой уварвалася завіруха. Тоня знікае за акном. На лесвіцы ўжо чутны крокі і галасы. Заслонаў падскочыў да дзвярэй, павярнуў ключ, кінуўся да буржуйкі, разгроб кучу вугалю, знайшоў у ёй дзве міны і кінуў іх у печку. Выключыўшы святло, З а с л о н а ў знікае за акном. У пакоі цемра. Толькі чырвоным вокам глядзіць адчыненая буржуйка.

Чуваць, як раз'юшана стукаюць у дзверы, як выламалі іх.

І ў гэты момант чуецца моцны выбух. І ўсё залівае чырвоным святлом пажара.

## ЭПІЛОГ

На ўзгорку, пад высокімі бярозамі стаяць З а с л о н а ў, А н д р э е ў, Ч э б р ы к а ў, П ё т р Ш у р м і н, Я к у ш а ў, Я к у ш а в а, К о р ж а н ь і Т о н я. Гэта тое месца, з якога падпольшчыкі ўваходзілі ў Оршу.

Я к у ш а ў *(камандуе)*. Брыгада! На пахаванне загінуўшых баявых таварышаў!.. Смірна-а-а!

Чуваць, як варухнуўся і заціх нябачны нам вялікі строй людзей. Заслонаў зрабіў крок наперад і зняў шапку.

З а с л о н а ў. Таварышы партызаны!.. Сёння мы хаваем сваіх баявых сяброў, якія загінулі смерцю храбрых у барацьбе з фашызмам... Яны яшчэ толькі пачыналі сваё жыццё. Яны вельмі любілі жыццё і хацелі жыць... І вось іх няма і ўжо ніколі не будзе сярод нас... Ніколі!.. У гэты ўзгорак разам з імі назаўсёды ляглі незгуляныя вяселлі, ненароджаныя дзеці, неараспяваныя песні, неажыццёўленыя мары... Гэта страшэнная несправядлівасць вайны!.. У гэты трагічны момант, стоячы паміж Жыццём і Смерцю, мы, як ніколі, востра і балюча адчуваем, наколькі бясцэнна чалавечае жыццё. Ніхто і нішто не верне матулі сына, жонцы — мужа, дзецям — бацьку!.. Ад імя тых, хто сёння лёг у гэты ўзгорак, мы пытаемся ў жывых... Людзі! Вас многа! Мільёны! Мільярды! І ніхто з вас не хоча вайны і смерці! Дык чаму ж вы дазваляеце страляць ружжам і гарматам? Што вам дзяліць між сабой? Неба? Сонца? Зямлю?.. Іх хопіць на ўсіх! Што ж вы робіце, людзі?.. Ва-

шай крывёй, якую вы пралілі на войнах, можна напоўніць акіян! З вашых касцей, што засталіся на палях бітваў, можна насыпаць горы!.. Вы чуеце, як цяжка з дня ў дзень, удзень і ўначы плешча пад вамі і гайдае зямлю крывавы акіян? Вы чуеце, як страшна варушацца гэтыя горы, клічучы ваш розум і ваша сумленне! Спыніцеся, адумайцеся, пакуль не позна! Як шалёных сабак, знішчыце тых, хто развязвае войны! Ратуйце сябе і дзяцей сваіх! Пакуль не позна!.. Таварышы партызаны! Адсюль мы пойдзем у новы бой. Можа быць, што для некага з нас ён стане апошнім. Але мы ідзём у бой з верай, што гэта будзе апошняя вайна на зямлі! Дзеля гэтага мы жывём і змагаемся! Дзеля гэтага, калі трэба будзе, мы загінем, як загінулі яны! Мы клянёмся над іх магілай не выпускаць зброі да таго часу, пакуль не знішчым апошняга фашыста на зямлі!..

Хор з соцень галасоў паўтарае ўслед за Заслонавым:

— Клянёмся!

Мы клянёмся жыць пасля вайны сумленна, справядліва, высакародна, таму што жыццё наша абмыта гарачай крывёю нашых таварышаў!

— Клянёмся!

А калі мы парушым гэтую святую клятву, станем людзьмі нікчэмнымі, недастойнымі, хай устануць яны з магіл і праклянуць нас на векі вечныя!

— Клянёмся! Клянёмся! Клянёмся!

З а с л о н а ў *(ступіўшы крок назад, ціха)*. Прыступіць да пахавання!

Ён першы кінуў жменю зямлі ў брацкую магілу. За ім кінулі астатнія. У жудаснай цішыні чуваць, як падае зямля на труны. Усе, хто стаіць на ўзгорку, узнімаюць уверх вінтоўкі і аўтаматы. Гучаць тры залпы.

З а с л о н а ў. Брыгада! Марш!

Мы не бачым калоны, але чуем, як яна ідзе.

Усе спускаюцца з узгорка і стаяць, чакаючы, каб далучыцца да калоны. Чуваць цяжкі крок вялікай калоны. Ідуць жывыя. Усе жывыя...

*К а н е ц*

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Вяршыла Віктар Паўлавіч — міністр узгадненняў.

Міралюбаў Ягор Фёдаравіч — намеснік міністра па зацвярджэннях.

Папсуева Тамара Цімафееўна — намеснік міністра па пярэчаннях.

Мілашкіна Нюра — сакратарка міністра.

Мурашка Мікалай Ягоравіч — вынаходнік.

Залівака Іван Пятровіч — вынаходнік.

Загуменная Кацярына Антонаўна — бабуля-празарлівіца.

Крутая Ніна Іванаўна — дырэктар фабрыкі лёгкага і сярэдняга адзення.

Брунетка
Шатэнка
Бландзінка } асістэнткі Ніны Іванаўны.

Першая тэлефаністка.

Другая тэлефаністка.

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

Кабінет міністра ўзгадненняў Вяршылы Віктара Паўлавіча. Першае, што кідаецца ў вочы,— вялізны пульт з тэлефонамі. Тэлефонаў многа, некалькі дзесяткаў. Паабапал пульта сядзяць дзве тэлефаністкі. Яны ўвесь час здымаюць тэлефонныя трубкі і коратка, ціха адказваюць. Часам, у залежнасці ад важнасці званка, яны просяць міністра зняць трубку тэлефона-«дублёра». «Дублёры» стаяць у яго на стале, пад рукой. Тэлефоны звоняць бесперапынна, на розныя галасы.

За сталом засяроджаны Вяршыла. Побач Нюра Мілашкіна за маленькім столікам на колцах. На століку дзве папяровыя гары. Нюра аўтаматычна, як робат, бярэ паперу з адной гары, кладзе яе на стол перад міністрам. Той, ледзь зірнуўшы на паперу, падпісвае яе. Падпісаныя дакументы Нюра кладзе на другую гару. Міністр камандуе: «Сіні!.. Зялёны!.. Чырвоны!..» Яго каманды падобныя на каманды хірурга ў час аперацыі: «Пінцэт!.. Скальпель!.. Зажым!..» Нюра аўтаматычна, імгненна падае міністру каляровыя алоўкі.

Вяршыла. Сіні!.. Чырвоны!.. Зялёны!.. Сіні!.. Чырвоны!.. Чорны!.. Нюра! Я прасіў чорны! А ты падаеш мне зялёны!..

Нюра. Ой, прабачце, Віктар Паўлавіч!..

Вяршыла. Я ж так і наблытаць магу... Зялёны!.. Чырвоны!..

Нюра. Закажыце вы факсіміле, Віктар Паўлавіч. У век аўтаматыкі і электронікі пісаць рэзалюцыі ад рукі...

Вяршыла. Сіні!.. Нельга, Нюра... Што такое факсіміле?.. Чырвоны!.. Бюракратызм і казёншчына... Факсіміле можа кожны паставіць... Зялёны!.. А мы ж маем справу з людзьмі... Чорны!.. Убачыць чалавек маю рэзалюцыю ў арыгінале «Ад-мо-віць!» і будзе задаволены... Таму што зразумее... Яго паперу чыталі! Над ёй думалі!.. А не проста ўзялі і адмахнуліся... Чырвоны!.. Чалавечыя адносіны да справы, Нюрачка, вышэй за ўсё!..

Нюра. Не шкадуеце вы сябе, Віктар Паўлавіч. Жыццё ў чалавека адно. Трэба хоць крышачку і пра сябе падумаць.

Вяршыла. Што ты, Нюрачка, гаворыш? Чорны!.. Прыйшоў учора дадому і родную жонку не пазнаў. Кажу, вы па якім пытанні, таварыш?.. Чырвоны!.. Думаеш, я помню, як маіх дзяцей завуць?

Нюра. Дзіўна, што яны ўвогуле ў вас ёсць!

Першая тэлефаністка. Яго няма. У яго сёння прыёмны дзень.

Вяршыла. Чорны!..

Другая тэлефаністка. Ён заняты... У яго народ... Хвілінку! Віктар Паўлавіч! Вазьміце трэці...

Вяршыла. Што здарылася?

Другая тэлефаністка. Універмаг на Маскоўскай гарыць. Пытаюць, каго раней выклікаць — пажарнікаў ці міліцыю?

Вяршыла. Прывыклі чужой галавой думаць! Нават такога пытання самі вырашыць не могуць! *(Націскае кнопку селектара.)* Аддзел сумненняў?

Голас з дынаміка. Слухаю, Віктар Паўлавіч!

Вяршыла. Сцяпан Сцяпанавіч... Вось тут мне званяць... Універмаг на Маскоўскай гарыць. Пытаюць, што рабіць?

Голас з дынаміка. Няхай тушаць, Віктар Паўлавіч!

Вяршыла. Гэта не адказ, Сцяпан Сцяпанавіч! Гэта я і без цябе ведаю. Калі няшчасны выпадак — трэба адразу тушыць. А калі яны самі яго падпалілі?

Голас з дынаміка. Як гэта — самі?

Вяршыла. Проста. Зрабілі растрату на вялікую суму і, каб схаваць канцы, падпалілі. Вось і думай, каго туды раней пасылаць? Пажарнікаў ці пракурора? *(Паўза.)* Ты думаеш, Сцяпан Сцяпанавіч?

Голас з дынаміка. Думаю, Віктар Паўлавіч... А які ў іх тавараразварот?

Вяршыла. Адкуль я ведаю? Пачакай... *(Звяртаецца да другой тэлефаністкі.)* Зіна, спытай, які ў іх тавараразварот?

Другая тэлефаністка *(у тэлефон)*. Які ў вас тавараразварот?.. *(Міністру.)* Кажуць, заняўся другі паверх...

Вяршыла. Я ў іх не пра паверх пытаю! Мне патрэбен іх тавараразварот!

Другая тэлефаністка *(у тэлефон)*. Міністр пытае ў вас не пра паверх, а пра тавараразварот... Колькі? *(Міністру.)* Дзвесьце мільёнаў.

В я р ш ы л а. Гэта сур'ёзна. Ты чуеш, Сцяпан Сцяпанавіч?

Г о л а с з д ы н а м і к а. Чую, Віктар Паўлавіч. Дзвесце мільёнаў...

В я р ш ы л а. Што ім рабіць?

Г о л а с з д ы н а м і к а *(пасля паўзы, шчыра)*. А д'ябал яго ведае!

В я р ш ы л а. Бюракрат ты, Сцяпан Сцяпанавіч! Тут, разумееш, вялікі універмаг гарыць! А ты мяне на нараду да д'ябала пасылаеш! Залічы яго ў штат, калі ён разумнейшы за цябе!.. *(Здымае трубку тэлефона-«дублёра».)* Вы мяне слухаеце?.. Ужо трэці? Ён што ў вас? З пораху зроблены?.. А чаму так хутка дайшло да трэцяга паверха?.. Вось гэта якраз і наводзіць мяне на думкі... Значыць, так. Слухайце мяне ўважліва і пастарайцеся нічога не пераблытаць. Выклікайце ў такой паслядоўнасці... Спачатку следчага па асабліва важных справах. Няхай ён прычыну знойдзе. Затым міліцыю, а потым пажарнікаў. *(Паклаў трубку.)* Усё, Нюрачка. Астатняе развязі маім намеснікам. Зараз без пяці дванаццаць. А прыём назначан на дванаццаць. Колькі ў нас сёння запісалася?

Н ю р а. Сёння мала. Чатыры чалавекі.

В я р ш ы л а. Добры сімптом. Хто? Па якой справе?

Н ю р а *(зазірнуўшы ў сваю запісную кніжку)*. Крутая Ніна Іванаўна. Дырэктар фабрыкі лёгкага і сярэдняга адзення.

В я р ш ы л а. Ясна. Зацвердзіць новыя мадэлі.

Н ю р а. Загуменная Кацярына Антонаўна. Пенсіянерка.

В я р ш ы л а. І тут ясна. Павялічыць пенсію...

Н ю р а. Ды не. Хоча пагаварыць з вамі аб парушэнні сацыялістычнай законнасці.

В я р ш ы л а. Во пенсіянеры пайшлі! Контрразведка! Усё бачаць, усё ведаюць! Далей хто?

Н ю р а. Залівака Іван Пятровіч. Вынаходнік.

В я р ш ы л а. Чакай, чакай... Хтосьці штосьці мне пра яго гаварыў. А вось хто і што — не памятаю.

Н ю р а. І апошні, Мурашка Мікалай Ягоравіч.

В я р ш ы л а. Хто? Адкуль?

Н ю р а. Ні хто, ні адкуль — не гаворыць.

В я р ш ы л а. Ну, хоць з якой галіны? З якога горада?

Н ю р а. Гаворыць, што ўсё скажа толькі вам.

В я р ш ы л а. Не падабаецца мне гэтае інкогніта! Вось

з яго давайце і пачнём. Папрашу цябе, Нюрачка, запісваць нашу размову.

Н ю р а. Добра, Віктар Паўлавіч...

Н ю р а выходзіць, штурхаючы перад сабой столік з дзвюма папяровымі гарамі.

П е р ш а я т э л е ф а н і с т к а. Я ж вам сказала... Ён заняты! У яго сёння прыёмны дзень... Не ведаю... Пазваніце ў канцы дня.

Д р у г а я т э л е ф а н і с т к а. Хто? Хвілінку... Віктар Паўлавіч, здыміце ВЧ.

В я р ш ы л а *(зняўшы самую вялікую трубку самага вялікага тэлефона)*. Вяршыла слухае... А!.. Гэта ты, пагарэлец! Прывітанне! Ты на маім месцы пасядзеў бы!.. Тут, браце, такія пажары!.. Ну і добра, што згарэў!.. Цьфу! Я хацеў сказаць: вельмі дрэнна, што згарэў. У яго дзвесце мільёнаў тавараабароту... А пры чым тут я? Рэкамендацыю на тушэнне пажару я выдаў... *(Да другой тэлефаністкі.)* Зіна! Праз колькі мінут мы выдалі рэкамендацыю на тушэнне універмага?

Д р у г а я т э л е ф а н і с т к а *(зірнуўшы ў запісы)*. Праз пятнаццаць мінут...

В я р ш ы л а. Ну вось!.. Рэкамендацыю на тушэнне пажару мы выдалі вам праз пятнаццаць мінут. Пасля таго як атрымалі сігнал трывогі. Ты калі-небудзь вырашаў справы за пятнаццаць мінут?.. Ну, хіба я вінаваты, што следчага па асабліва важных справах не аказалася на месцы? Няхай сядзіць там, дзе яму належыць сядзець!.. Разбірайся, браце, са сваім універмагам сам! Сам падпаліў, сам і тушы!.. Ды не, гэта я так жартую... А пры чым тут боцман?.. Будзь здароў! У мяне прыёмны дзень.

Уваходзіць Н ю р а, за ёю — М у р а ш к а з вялікім чамаданам.

М у р а ш к а *(сарамліва і баязліва, яшчэ ад парога)*. Добры дзень вам!

В я р ш ы л а. Добры дзень. Праходзьце. Сядайце.

Мурашка ідзе з чамаданам і, чырванеючы ад няёмкасці, садзіцца на самы ўскрайчык крэсла каля міністэрскага стала. Чамадан ставіць каля ног.

В я р ш ы л а. Вы сюды адразу з поезда?

М у р а ш к а. Не...

В я р ш ы л а. А гэта? *(Паказвае на чамадан.)*

М у р а ш к а *(сарамліва)*. Тут... маё вынаходніцтва...

В я р ш ы л а. Такое вялікае?

Мурашка. Ага... Такое...

Вяршыла. Значыць, вы таксама вынаходнік?

Мурашка. Ага. Таксама.

Вяршыла. Прозвішча? Імя? Па бацьку?

Мурашка *(хуценька ўзняўшыся з крэсла)*. Мурашка... Мікалай Ягоравіч. Вы можаце проста, па прозвішчу...

Вяршыла. Вы сядайце. У нас такі парадак. Нюра, ты пішаш?

Нюра. Пішу, Віктар Паўлавіч.

Вяршыла. Колькі вам гадоў?

Мурашка *(прыўзняўся з крэсла)*. Пяцьдзесят два...

Вяршыла. Сядайце, сядайце!.. Даруйце за фармальнасці. Але мы вядзём сацыялагічнае даследаванне. Хто і на што скардзіцца. І ў каго больш скаргаў — у старых ці ў маладых.

Мурашка. Ага... Я разумею.

Вяршыла. Адукацыя?

Мурашка *(узняўшыся, сарамліва)*. Незакончаная вышэйшая...

Вяршыла. А калі больш дакладна?

Мурашка. Тры курсы політэхнічнага...

Вяршыла. Вы сядайце, сядайце. Што ж вам перашкодзіла, Мікалай Ягоравіч, закончыць поўны курс? Вы ж былі ўжо, калі можна так сказаць, на фінішнай прамой!

Мурашка *(зноў узнімаецца)*. Захапленне...

Вяршыла. Сядайце. У нагах праўды няма. Ох, жанчыны! Колькі яны падножак нашаму брату даюць!

Мурашка. Ды не... Я захапіўся вынаходніцтвам.

Вяршыла. І што ж вы вынайшлі, Мікалай Ягоравіч?

Мурашка *(узнімаецца і падае міністру паперу)*. Спачатку прачытайце вось гэта...

Вяршыла. Што гэта? Анатацыя?

Мурашка. Не... Даведка аб стане майго здароўя...

Вяршыла. А навошта яна мне? Вы ж, спадзяюся, не ў касманаўты прыйшлі запісвацца? Я не доктар.

Мурашка *(просіць)*. Я вас вельмі прашу! Прачытайце!..

Вяршыла. Навошта?

Мурашка. Я абышоў ужо многа інстанцый. І ўсюды патрабавалі даведку аб стане майго здароўя. Хто ў канцы размовы, а хто — у сярэдзіне... Я вас вельмі прашу! Прачытайце!

Вяршыла. Ды не буду я чытаць! Я ж і так бачу, што вы здаровы! Як той Мурамец!

Мурашка *(раптам падае на калені перад сталом міністра)*. Малю вас, таварыш міністр!

Вяршыла *(спалохана ўскочыўшы)*. Што вы! Што вы, таварыш Мураўёў! Зараз жа ўстаньце! Устаньце і сядзьце!

Мурашка. Не ўстану, пакуль вы не прачытаеце!

Вяршыла. Як вам не сорамна, таварыш Мураўёў! Устаньце! Сядзьце!

Мурашка. Не ўстану, пакуль не прачытаеце!

Вяршыла. О, божа мой! Давайце вашу паперку! *(Амаль выхоплівае паперку з рук Мурашкі.)* Я прачытаю вашу даведку пасля таго, як вы сядзеце!

Мурашка *(сядаючы)*. Дзякую! Шчыра дзякую!

Вяршыла *(садзіцца з вялікім аблягчэннем)*. Фу!.. Ну і напалохалі вы мяне, таварыш Мураўёў! Здаровы, дарослы чалавек... І раптам такое... Фу! Першы раз у маёй практыцы.

Мурашка. Даруйце... Больш не буду.

Вяршыла *(разгортвае даведку і чытае)*. «...Выдадзена грамадзяніну Мурашку Мікалаю Ягоравічу... Пяцьдзесят два гады... Жанаты... У тым, што грамадзянін Мурашка Мікалай Ягоравіч абсалютна здаровы... На ўліку ў псіха-неўралагічным дыспансеры не стаіць... *(Спатыкнуўшыся на апошніх словах, з некаторым падазрэннем, уважліва паглядзеў на Мурашку.)* У лячэнні патрэбы не мае...» Подпіс... Пячатка... *(Хутчэй машынальна, чым свядома, паглядзеў даведку на святло.)* Ну, я ж казаў, што вы — Ілья Мурамец! *(Налівае з графіна шклянку вады і залпам выпівае.)* Чаму вы, Мікалай Ягоравіч, прыйшлі іменна да нас? А не ў інстытут? Не на завод?

Мурашка. Я абышоў усіх... Без вашай рэзалюцыі ніхто не бярэцца ўкараняць.

Вяршыла. Што ж вы такое вынайшлі? Што-небудзь нумарное? Сакрэтнае? Га?

Мурашка. Справа ў тым, Віктар Паўлавіч, што я... прыдумаў дурамер...

Паўза.

Вяршыла. Дура... Што-што?

Мурашка. Дурамер. Апарат такі...

Вяршыла. Апарат? Навошта?

Мурашка. Для вымярэння чалавечай дурноты...

В я р ш ы л а. Так-так... цікава-цікава... *(Раптам зарагатаў і адразу ж абарваў смех.)* Вы што? Сур'ёзна?

М у р а ш к а. Вельмі... Я патраціў на яго ўсё жыццё... Інстытут пакінуў...

В я р ш ы л а. Не-не, пачакайце!.. Вы сапраўды сур'ёзна? Дзе ж гэты ваш...

М у р а ш к а. Дурамер? Вось тут. *(Паказвае на чамадан.)*

В я р ш ы л а. Такі малецькі?

М у р а ш к а. Ага... На мікрасхемах і паўправадніках.

В я р ш ы л а. І вы заўсёды носіце яго з сабой?

М у р а ш к а. Бачыце, Віктар Паўлавіч... Хтосьці ўжо тры разы пранікаў у маю кватэру і разбіваў апарат ушчэнт. Я аднаўляў яго па чарцяжах. Я зрабіў пяць экземпляраў усёй дакументацыі і хаваю яе ў розных месцах. Адзін — у камеры хавання на вакзале. Тройчы рабілі замах на маё жыццё. Двойчы хацелі ўтапіць, калі я купаўся ў возеры...

В я р ш ы л а *(крыху спалохана)*. Як? Якім чынам?

М у р а ш к а. Проста. Хапалі за ногі і цягнулі на дно. Адзін раз адбіўся. Другі раз ледзь адкачалі... А яшчэ раз на мяне хацела наехаць чорная «Волга» без нумарных знакаў.

Вялікая паўза.

В я р ш ы л а *(зусім разгублена)*. Так-так-так... Мікалай Ягоравіч... Зрабіце ласку... Пакажыце-ка вашу даведачку...

М у р а ш к а *(з гатоўнасцю)*. Калі ласка!.. *(Працягвае даведку.)*

В я р ш ы л а *(спахапіўшыся)*. Не-не! Не трэба! Гэта я проста машынальна... Падумаў пра нешта сваё, а з языка сарвалася зусім іншае... На нашай рабоце, Мікалай Ягоравіч, звар'яцець можна! *(Убачыўшы, што Мурашка ўсё яшчэ трымае даведку ў руцэ.)* Не-не! Не трэба!.. Лічыце, што я не надта ўдала пажартаваў. Прабачце...

М у р а ш к а. Калі ласка, Віктар Паўлавіч, калі ласка... Я прывык. Не вы першы так жартуеце...

В я р ш ы л а *(страшэнна разгублены і не ведае, што рабіць)*. Так-так-так... *(Да першай тэлефаністкі.)* Хто так настойліва дабіваецца?

П е р ш а я т э л е ф а н і с т к а. Тэлебачанне.

В я р ш ы л а. Што ім трэба?

П е р ш а я т э л е ф а н і с т к а. У нашым горадзе нара-

дзілася чацвярня! Чатыры хлопчыкі! Упершыню за ўсю гісторыю!

Вяршыла. Цудоўна! Шкада, што не я бацька!

Першая тэлефаністка. Яны пытаюць, як падаваць? Як факт у панараме навін? Або прысвяціць ім спецыяльны выпуск?

Вяршыла. Няхай зробяць і тое, і другое. Спецвыпуск ды яшчэ з анонсам паглядзяць усе!.. *(Да Мурашкі.)* Значыць, вы прыдумалі...

Мурашка. Дурамер, Віктар Паўлавіч.

Вяршыла. Так-так-так... І што ж вы хочаце з ім рабіць?

Мурашка. Арганізаваць серыйную вытворчасць.

Вяршыла. Серыйную?.. Навошта?

Мурашка. Каб усіх пагалоўна праверыць і дакладна ведаць...

Вяршыла. Што ведаць?

Мурашка. Хто ёсць хто...

Вяршыла *(з тайнай надзеяй тэлефаністкам)*. Дзяржаўных званкоў няма?

Першая тэлефаністка. Няма, Віктар Паўлавіч. Звычайныя...

Вяршыла. Так-так-так... Дык, кажаце, серыйны выпуск?

Мурашка. Ага, серыйны. Гэта мэта майго жыцця.

Вяршыла. Добранькая ў вас мэта, Мікалай Ягоравіч!.. Вось што, Нюрачка. Пакліч сюды маіх намеснікаў.

Нюра выходзіць.

*(Тэлефаністкам.)* Тэрміновага нічога няма?

Другая тэлефаністка. Нічога, Віктар Паўлавіч.

Вяршыла *(яўна марудзіць, выйграе час)*. Прабачце, Мікалай Ягоравіч... *(Набірае нумар па ВЧ.)* Ну, як там твой універмаг? Датла?.. Прычына невядомая?.. Як гэта, чаму?.. Павінен жа я цікавіцца? Усё-такі дзвесце мільёнаў тавараабароту! Дзе ты іх зараз возьмеш?.. Ды не здзекуюся я, а спачуваю! Будзь здароў! *(Кладзе трубку.)*

Уваходзяць Нюра, Папсуева і Міралюбаў.

Мурашка *(падхапіўся з крэсла)*. Добры дзень вам!

Вяршыла. Сядайце, таварышы. Прашу пазнаёміцца. Таварыш Мураўёў...

Мурашка. Мурашка я...

Вяршыла. Прабачце!.. Інжынер-вынаходнік...

Намеснікі недаўменна глядзяць то на Вяршылу, то на Мурашку.

Папсуева *(сурова, як на допыце)*. Аўтарскія пасведчанні ёсць?

Мурашка *(хуценька ўзнімаецца, сканфужана)*. Няма...

Папсуева. Ніводнага?

Мурашка. Ніводнага.

Папсуева. Ну, такіх вынаходцаў!.. Я пярэчу!..

Вяршыла *(паказвае рукой Мурашку, каб той сеў)*. Пачакайце, Тамара Цімафееўна... Вы ж яшчэ не ведаеце, супраць чаго пярэчыце.

Папсуева. А мне і ведаць не трэба! Я пярэчу супраць усіх, у каго няма афіцыйных дакументаў на вынаходніцтва!.. Дарэчы, што ён вынайшаў?

Вяршыла. Таварыш Мурашка прыдумаў... дурамер...

Паўза.

Папсуева. Што прыдумаў?

Вяршыла. Апарат для вымярэння чалавечай дурноты...

Паўза. Папсуева нечакана, як раней Вяршыла, зарагатала і таксама, як ён, рэзка абарвала смех.

Папсуева. Глупства!

Вяршыла. Ды не, Тамара Цімафееўна... На самай справе.

Паўза.

Папсуева. І дзе ж ён... гэты градуснік?

Мурашка *(паказвае на чамадан)*. Вось тут...

Паўза.

Вяршыла *(у прысутнасці намеснікаў трымае сябе больш упэўнена і смела)*. Я папрашу вас, Мікалай Ягоравіч... Зрабіце нам, калі ласка, афіцыйнае паведамленне. Гэта мае намеснікі... Папсуева Тамара Цімафееўна... Першы намеснік. І Міралюбаў Ягор Фёдаравіч...

Мурашка. Вельмі прыемна! Вельмі прыемна!.. *(Ускочыўшы, па чарзе кланяецца абодвум намеснікам.)*

Вяршыла. Самыя вопытныя нашы спецыялісты. Усе складаныя пытанні мы заўсёды вырашаем сумесна. Пачынайце!

М у р а ш к а *(узнімаецца, разгублена)*. З чаго пачынаць?

П а п с у е в а. Ну, хоць бы з таго, па якому прынцыпу дзейнічае гэты ваш... бязмен?

М у р а ш к а. На мікрасхемах і паўправадніках...

П а п с у е в а. Я не пра тое! Для яго трэба рыхтаваць спецыяльныя тэсты? Ці яшчэ што?

М у р а ш к а. Не, тэсты не патрэбны. Паказанні апарата рэгіструюцца на спецыяльнай шкале... У працэнтах...

П а п с у е в а. У працэнтах чаго?

М у р а ш к а *(нясмела)*. Працэнты паказваюць, колькі ў чалавеку дурноты...

Паўза.

П а п с у е в а. І што? Гэта адразу відаць?

М у р а ш к а. Ага, адразу...

Усе ашаломлена маўчаць.

П а п с у е в а *(нечакана)*. У вас ёсць даведка аб стане вашага здароўя?

В я р ш ы л а *(паспешліва)*. Ёсць-ёсць! Я правяраў... *(Хуценька папраўйся.)* Я глядзеў...

Паўза.

М і р а л ю б а ў *(зацікаўлена)*. І вы можаце паказаць нам яго зараз?

М у р а ш к а *(стаўшы зусім іншым чалавекам)*. Вядома! *(Кідаецца да чамадана і адкрывае яго.)* Спачатку ён быў у мяне вельмі груваскі. Стацыянарны... Потым я зрабіў яго партатыўным. Каб можна было карыстацца ў любых умовах... *(Расказваючы ўсё гэта, Мурашка імгненна разгортвае апаратуру: вымае з чамадана шкалу з вялікай чырвонай стрэлкай і ўстанаўлівае яе на тэлескапічнай штанзе, выцягвае з чамадана элегантнае складное бліскучае крэсла. Над спінкай храміраваны да сонечнага зіхацення паўабруч, падобны на той, якім абсталявана кожнае стаматалагічнае крэсла. У глыбіні сцэны Мурашка ставіць два магутныя дынамікі, затым ужо вымае і вельмі асцярожна ставіць на стол перад міністрам невялікі ярка-чырвоны апарат з бліскучымі тумблерамі, кнопкамі, рычажкамі. Хуценька злучае апарат правадамі з крэслам, дынамікамі і штангай.)* Вось і ўсё.

В я р ш ы л а. Так хутка?

М у р а ш к а. На зборку патрабуецца не больш сямівасьмі мінут. Шмат разоў хранаметраваў.

В я р ш ы л а *(з некаторай асцярогай разглядваючы апарат).* І ўсё ж мне не зусім зразумела, як ён дзейнічае?..

М у р а ш к а *(паказваючы на храміраваны паўабруч).* Вось тут знаходзіцца адзін датчык...

П а п с у е в а. Значыць, гэты рагач павінен дакрануцца да чалавечай галавы?

М у р а ш к а. Ага. Датчык павінен увайсці ў непасрэдны кантакт з шэрым рэчывам мозгу...

П а п с у е в а. Як гэта — непасрэдны?! Вы што? Трэпанацыю чэрапа будзеце кожнаму рабіць?

М у р а ш к а. Што вы! Не! Датчык улаўлівае біятокі мозгу праз чарапную каробку.

Паўза.

П а п с у е в а. Значыць, падвопытны павінен накласці галаву на гэтыя вілы?

М у р а ш к а. Ага...

П а п с у е в а. А калі ён не захоча рабіць гэта добраахвотна? Вы будзеце прымушаць сілком?

М у р а ш к а. Не... Я прадугледзеў і такі варыянт. *(Націскае кнопку, і металічнае крэсла набывае такое палажэнне, пры якім галава чалавека абавязкова дакранецца да паўабруча.)* Я ўжо працую над больш дасканалым апаратам...

М і р а л ю б а ў *(з цікавасцю).* Чым ён будзе адрознівацца ад гэтага?

М у р а ш к а. Ён будзе лавіць біятокі мозгу з адлегласці трох-пяці метраў...

П а п с у е в а. Ну, ведаеце!.. Лавіць біятокі мозгу з-за вугла — супрацьзаконна! Усё роўна, што чытаць чужыя пісьмы ці падслухоўваць тэлефонныя размовы! На гэта ў нас ніколі не пойдуць!

В я р ш ы л а *(з некаторай трывогай паказваючы на апарат).* А гэты яшчэ не ловіць на адлегласці?

М у р а ш к а. Гэты — не. Ён працуе на прынцыпу непасрэднага кантакту.

М і р а л ю б а ў *(з вялікай цікавасцю разглядаючы апарат).* Вы сказалі, што сюды ўманціраваны адзін датчык. *(Паказвае на бліскучы паўабруч.)* А дзе другі?

М у р а ш к а *(паказвае на цэнтр сядзення крэсла).* Другі знаходзіцца вось тут...

П а п с у е в а *(нечакана ўзрывасцца).* Ну, гэта ўжо

чорт ведае што такое! Пры чым тут гэтае месца? Тут жа мазгоў, наколькі я ведаю, няма і быць не можа! Вы ўжо загадзя, знарок праграмуеце непаўнацэннасць чалавека!

М у р а ш к а. Тут знаходзяцца так званыя адчувальныя... Вельмі адчувальныя зоны Захар'іна — Хеда...

В я р ш ы л а. Чые зоны?

М у р а ш к а. Захар'іна — Хеда... Яны вельмі тонка рэагуюць на малюсенькі дотык... Гэта медыцынскі тэрмін — Захар'іна — Хеда... Біятокі мозгу рухаюцца па пазваночніку. Па спінным мозгу. Уверх ідзе плюс, уніз — мінус...

П а п с у е в а. Вы ведаеце, адкуль ідзе плюс, адкуль — мінус? Вы ўпэўнены, што не наадварот?

М у р а ш к а. Праверана шмат разоў. Уніз ідзе толькі мінус...

М і р а л ю б а ў. Было б нелагічна, Тамара Цімафееўна, калі б уніз ішоў плюс, а ўверх — мінус!

В я р ш ы л а. Растлумачце нам, калі ласка, Мікалай Ягоравіч, прызначэнне гэтай шкалы. На ёй апроч лічбаў ёсць яшчэ і літары...

М у р а ш к а. Стрэлка на шкале паказвае ўзровень інтэлекту чалавека. Калі яна стаіць на цэнтры, на літары «Н», значыць, «норма». Гома нармаліс...

В я р ш ы л а. Далей управа літара «Д»...

М у р а ш к а. Яна стаіць на лічбе «пяцьдзесят». Гэта азначае, што ў чалавеку толькі пяцьдзесят працэнтаў розуму...

В я р ш ы л а. А астатнія пяцьдзесят?

М у р а ш к а *(вінавата)*. Дурнота...

М і р а л ю б а ў. Значыць, пяцьдзесят працэнтаў — гэта ўжо «Д»?

М у р а ш к а. Ага...

В я р ш ы л а. Ці не занадта строга вы падыходзіце да гома сапіенс?

М у р а ш к а *(вінавата)*. Гэта не я... Такія міжнародныя стандарты.

П а п с у е в а. Адкуль вы ведаеце міжнародныя стандарты? За мяжой ужо ёсць аналагічныя апараты?

М у р а ш к а. Апаратаў няма. Але ёсць спецыяльная літаратура...

П а п с у е в а. У чыіх перакладах вы яе чыталі? Дзе, хто і калі яе выдаваў?

М у р а ш к а. Я чытаў у арыгіналах. У працэсе работы

над апаратам я авалодаў англійскай, французскай, нямецкай, кітайскай і хіндзі...

Міралюбаў *(са спачуваннем)*. А кітайскай і хіндзі навошта?

Мурашка. Вельмі мудрыя народы...

Вяршыла *(працягваючы вывучаць шкалу)*. Вось тут у канцы шкалы ў вас стаяць адразу дзве літары «П» і «Д». Што гэта?

Мурашка *(сканфужана)*. Тое ж самае, што і «Д»... Толькі... у закончаным выглядзе.

Папсуева *(з абурэннем)*. Такіх, таварыш Мурашка, у нашай краіне няма і быць не можа! «П» і «Д» — гэта ўжо знявага чалавечай асобы!

Міралюбаў. Прабачце, Тамара Цімафееўна... Я вельмі сумняваюся, што ідыёт можа быць асобай.

Папсуева. Ягор Фёдаравіч! У нашай краіне кожны чалавек — асоба!

Міралюбаў. Зладзюга, злачынец — таксама?

Вяршыла. Таварышы! Таварышы! Вы ўхіліліся ад мэты нашага пасяджэння. Мы з вамі абмяркоўваем канкрэтную вынаходку. І выказвацца мы павінны таксама канкрэтна і дакладна. Абстрактная філасофія тут недарэчы. Мікалай Ягоравіч... А вось гэта, левая частка шкалы... Тут зноў такія ж лічбы і літары «Т» і «Г».

Мурашка Адхіленні могуць быць і ў другі бок... «Талент» і «Геній».

Паўза.

Вяршыла *(падхапіўшыся)*. Паслухайце! Гэта ж у прынцыпе мяняе ўсю справу! А я ўвесь час сядзеў і думаў... Што мне карціць? Што мяне непакоіць? Цяпер усё зразумеў! Абсалютна ўсё!

Мурашка. Даруйце...

Вяршыла. Чаму вы, Мікалай Ягоравіч, надумаліся вымяраць дурноту?

Папсуева *(яшчэ не зразумеўшы Вяршылу)*. Вось іменна! Чаму? І прымушаць праходзіць гэтую зневажальную праверку?!

Вяршыла. Вы прыходзіце да чалавека і адразу падазраяце ў ім патэнцыяльнага «Д»! А калі ён талент альбо нават геній?

Папсуева *(усё яшчэ не разумеючы Вяршылу)*. Вось іменна! А ў нас большасць такіх!

Мурашка *(разгублена)*. Калі не вымяраць дурноту, нічога нікому не дакажаш...

Вяршыла *(з натхненнем ад уласнага адкрыцця)*. А калі вымяраць на вашым апараце не дурноту, а... мудрасць?!

Мурашка *(яшчэ больш разгублена)*. Вы хочаце сказаць, што трэба перарабляць апарат?

Вяршыла. Ні ў якім разе! Усё застаецца, як было! І шкала тая ж самая!.. Толькі трэба гаварыць чалавеку, што мы вымяраем яго мудрасць! Разумееце? Мудрасць!.. «Дурамер»! Фу! Гэта ж гучыць абразліва! Вульгарна! Не дурамер, а мудрамер! Муд-ра-мер!

Мурашка. А што рабіць са стрэлкай?.. Яна ж усё роўна будзе аб'ектыўна паказваць узровень інтэлекту...

Вяршыла. І цудоўна! І няхай паказвае! Што яна пакажа? Адхіленне? Адхіленне ад чаго? Ад мудрасці! Не знайшлі мудрасці? Ну і што з таго? Але ж затое мы шукалі яе! Шукалі! І чалавеку прыемна, і аспект зусім іншы! Падумайце... Якога ж узроўню мы дасягнулі, калі пачалі вымяраць мудрасць! Усё! Вырашана! Назавём апарат мудрамерам!

Міралюбаў. Віктар Паўлавіч... А калі стрэлка пакажа «Д» ці нават, прабачце, «П»-«Д»?

Вяршыла. Ну і што? Нічога страшнага. Проста чалавеку не хапае трохі мудрасці. Толькі і ўсяго! Мікалай Ягоравіч! На якой лічбе ў вас літара «Д»?

Мурашка. На лічбе «пяцьдзесят»...

Вяршыла. Вось так і будзем пісаць: «Таварышу Іванову не хапае пяцідзесяці працэнтаў мудрасці». А хто ведае, колькі яе павінна быць? Трыццаць? Пяцьдзесят? Сто?

Міралюбаў. Нейкая двайная бухгалтэрыя атрымліваецца...

Вяршыла. Згодзен. Але яна неабходна. Мы ж не можам напісаць у афіцыйным дакуменце, што рэкамендуем у серыйную вытворчасць нейкі «дурамер»... Што пра нас падумаюць? Што ўсе мы тут трошкі таго... *(Круціць пальцам каля скроні.)*

Папсуева. Значыць... Вы ўсё ж хочаце...

Вяршыла. Назваць дурамер мудрамерам! Нюра! Папраў у протаколе з самага пачатку. Напішы: «Абмяркоўвалі апарат, які прапанаваў таварыш Мураўёў...»

Мурашка. Мурашка я...

Вяршыла. Прабачце!.. «...апарат, які прапанаваў

таварыш Мурашка Мікалай Ягоравіч... Пад назвай мудрамер...»

П а п с у е в а. Віктар Паўлавіч... Вы сапраўды хочаце рэкамендаваць гэты... кіняцільнік?

В я р ш ы л а. А чаму і не, Тамара Цімафееўна?

П а п с у е в а. А вы ўсё добра прадумалі?

В я р ш ы л а. Што вы нас палохаеце, Тамара Цімафееўна?

П а п с у е в а. Зараз зразумееце... Дазвольце задаць некалькі пытанняў таварышу Мурашку...

В я р ш ы л а. Ну вядома, Тамара Цімафееўна. Сваё рашэнне мы павінны прыняць калегіяльна.

П а п с у е в а. Тым больш... Таварыш Мурашка! Вы ўпэўнены, што ўсе людзі пажадаюць сесці ў ваша... электрычнае крэсла? Добраахвотна! Без прымусу!

М у р а ш к а. Упэўнены. Кожнаму чалавеку хочацца ведаць, хто ён на самай справе. Чаго ён варты? І што ён можа?

П а п с у е в а. Упэўнены, што кожны зацікаўлены?

М у р а ш к а. Кожны!.. І дзяржава таксама...

П а п с у е в а. Я б на вашым месцы ўстрымалася гаварыць ад імя дзяржавы! Хто вам даў такое права?

М у р а ш к а. Мы выйграем мільярды, калі пасадзім дурняў на іх месца!

П а п с у е в а. А вы ведаеце, дзе іх месца?.. Нюра! Аб'яві зараз па селектары супрацоўнікам міністэрства... Кожны, хто хоча, можа зайсці ў кабінет міністра і праверыць узровень свайго інтэлекту. *(Да Мурашкі.)* Колькі часу займае працэдура?

М у р а ш к а. Некалькі секунд. Апарат рэагуе вельмі тонка...

П а п с у е в а *(да Нюры)*. Скажы, што гэта зойме ўсяго некалькі секунд.

В я р ш ы л а. Тамара Цімафееўна! Навошта ж у маім кабінеце рабіць вавілонскае стоўпатварэнне?

П а п с у е в а. Ніякага стоўпатварэння не будзе. У нас народ дысцыплінаваны. Будзе жывая чарга.

В я р ш ы л а. Нюра! Растлумач людзям, у чым справа. Каб не падумалі, што гэта новая атэстацыя.

Н ю р а *(націснуўшы кнопку селектара, у мікрафон)*. Усе мяне чуюць?

Г а л а с ы з д ы н а м і к а:

— Усе!

— Што здарылася, Нюрачка?

— Шэф выклікае?

— Для чарговай пакачкі?

Н ю р а. Увага ўсім! Зараз у кабінеце Віктара Паўлавіча знаходзіцца вынаходнік Мікалай Ягоравіч Мурашка. Ён стварыў апарат, на якім за некалькі секунд можна праверыць узровень свайго інтэлекту, сваіх здольнасцей і магчымасцей. Кожны, хто жадае, можа зайсці сюды і праверыцца. *(Паўза.)* Вы мяне зразумелі?

Паўза.

Г а л а с ы з д ы н а м і к а:

— А навошта гэта?

— Для якой мэты?

— Гэта загад ці просьба?

— Ні фіга сабе!

Н ю р а. Віктар Паўлавіч запрашае толькі тых, хто жадае. *(Выключае селектар.)*

В я р ш ы л а. Дзякую, Нюра. Наглядайце, каб у прыёмнай быў парадак.

П е р ш а я т э л е ф а н і с т к а. У яго зараз людзі... Вельмі важнае пытанне... Дзяржаўнага значэння. Пазваніце ў канцы дня.

Д р у г а я т э л е ф а н і с т к а. Віктар Паўлавіч! Ужо трэці раз звоняць з міністэрства здароўя!

В я р ш ы л а. Па якім пытанні?

Д р у г а я т э л е ф а н і с т к а. Пытаюць, што рабіць са спаборніцтвам хірургаў? Які паказчык лічыць самым галоўным? Колькасць аперацый ці колькасць тых, хто выжыў пасля аперацыі?

Паўза. Вяршыла задумаўся.

В я р ш ы л а. Ну, вядома, колькасць аперацый! Хірург не вінаваты, калі нехта памрэ пасля аперацыі. Можа, хворы быў ужо ў безнадзейным стане?

Д р у г а я т э л е ф а н і с т к а. А калі памрэ ў час аперацыі?

В я р ш ы л а. Такую аперацыю ў спаборніцтве не залічваць. Ставіць прочырк. Зіна! Гаварыце ўсім, што я заняты!.. Калі ласка, Тамара Цімафееўна. Працягвайце...

П а п с у е в а. Адкажыце мне, таварыш Мурашка, на такое пытанне... Ну, запусцім мы гэты ваш... градуснік у серыю... Дапусцім нават такое, што справа дойдзе да масавай праверкі... Дапусцім, што мы выявім гэтых самых...

няпаўнацэнных... А што далей рабіць? Звальняць іх з работы?

Мурашка *(горача)*. Абавязкова! Для таго ж я і прыдумаў свой апарат! Для ўсеагульнай масавай чысткі! Хай зямля гарыць у дурняў пад нагамі!

Папсуева. Нават так? Не ведаю, не ведаю... За невыкананне плана... За маральнае разлажэнне здымаюць. А вось каб за дурноту... Такое не памятаю...

Міралюбаў *(пакрысе заводзіцца)*. Таму што раней, Тамара Цімафееўна, не ведалі — разумны ён ці...

Папсуева. Добра, добра, Ягор Фёдаравіч! Ну, выкрылі вы яго, так сказаць, і звонку і знутры. Нават знялі з пасады. Яму ж трэба адразу даваць другую пасаду! За яго гарой прафсаюзы паўстануць. Наша заканадаўства не прадугледжвае пакарання за... адсутнасць некаторай часткі мудрасці. Не дасцё ім ніякай работы — яны ўзбунтуюцца. Беспрацоўныя заўсёды бунтуюць. Вось я і пытаю... Што вы будзеце з імі рабіць?

Мурашка *(нерашуча)*. Можна адкрыць для іх курсы павышэння кваліфікацыі...

Папсуева. Лікбез? Школы! Універсітэты! Акадэміі!.. Каб усіх перавучыць? Адкуль узяць сродкі? Пры нашым напружаным бюджэце!.. *(Паўза.)* Бачыце, таварыш Мурашка, якую праблему вы нам падкідваеце? Цяпер у нас усё ціха, спакойна. Дурняў нібыта і зусім няма...

Вяршыла. Давайце дамовімся... Мы ж інтэлігентныя людзі!.. Не будзем ужываць у размове гэтае непрыгожае слова! Будзем называць іх, ну, скажам... «кліентамі».

Папсуева. Прабачце!.. «Кліентаў» нібыта і зусім няма. І ўсе задаволены...

Міралюбаў. Значыць, будзем жыць па-ранейшаму! Як страусы!

Папсуева. Як страусы!.. Даведайся мы — і адразу ўзнікне столькі праблем!..

Вяршыла. Ну, Тамара Цімафееўна... Вы ўжо зусім нас запалохалі!

Папсуева. Не, Віктар Паўлавіч... Я вас не палохаю. Я вас чэсна папярэджваю... А вазьміце вы праблему ў больш канкрэтным ракурсе, з другога боку... Дапусцім, што наладзім мы выпуск гэтых самавараў... Ну і што? Хто іх купіць? Дзяржава? Прыватныя асобы?

Міралюбаў. Усе купяць!

Папсуева. Не будзьце наіўнымі, Ягор Фёдаравіч!

Міралюбаў. На экспарт будзем пастаўляць! За валюту! За долары!

Папсуева. Там збыту не будзе. За мяжой дурань... Прабачце!.. «Кліент» доўга не пратрымаецца. Там яго адразу раскусяць. Воўчыя законы! Канкурэнцыя...

Вяршыла. Тамара Цімафееўна! Не чапайце міжнародныя праблемы! Яны і без таго складаныя. Вернемся да нашых, унутраных... Нюра! Скажы там, у прыёмнай... Няхай заходзяць па чарзе.

Нюра выходзіць.

Папсуева. Хто будзе правяраць?

Вяршыла. Як хто? Мы з вамі.

Папсуева. Не! Я маю на ўвазе масавую праверку. Пасля таго як ваш прымус будзе зроблены. Калі будзе зроблены... На каго ўскласці такія адказныя функцыі? На прафсаюзы? Не справяцца! На народны кантроль? Яму народных пісьмаў хапае! Значыць, трэба ствараць яшчэ адзін вельмі адказны орган. У той час, калі мы скарачаем штаты!..

Першая тэлефаністка. Віктар Паўлавіч! Даруйце... З міністэрства школ.

Вяршыла. Што яны хочуць узгадніць? Падручнікі, ранцы, партфелі, форму, прычоскі мы ўжо даўно зацвердзілі.

Першая тэлефаністка. Яны пытаюць... Спаць першакласнікам у школе ці не спаць?

Вяршыла. Спаць? У школе?! Яны што там? Звар'яцелі? У школе трэба вучыцца! Веды набываць! А не спаць!

Першая тэлефаністка. Дык гэта ж першакляшкі, Віктар Паўлавіч! Шасцігодкі. У дзіцячым садзе ў такім узросце спяць пасля абеду.

Паўза.

Вяршыла. Скажыце, няхай спяць. Дзеці — наша будучыня. Яны павінны быць здаровымі. Іх трэба берагчы.

Першая тэлефаністка. Яны пытаюць яшчэ, дзе паставіць ложкі? Спальні ж у школе не прадугледжаны...

Вяршыла (*нарэшце не вытрымлівае і ўзрываецца*). Дзе?! У сябе па галаве!!! Пакуль дзеці будуць спаць, няхай стаяць нерухома, як слупы! І трымаюць ложкі!..

Уваходзіць разгубленая Нюра.

Н ю р а. Нікога няма, Віктар Паўлавіч. Толькі наведвальнікі...

В я р ш ы л а. Як нікога! Можа, селектар быў не ўключаны?

Н ю р а. Ды не, усе ж адказвалі. Вы самі чулі.

В я р ш ы л а. Можа, няправільна зразумелі? Нюра, абыдзі, калі ласка, усе аддзелы і ўпраўленні. Запрасі сюды ўсіх жадаючых. Толькі жадаючых! Ніякай агітацыі. Ніякага прымусу.

Н ю р а выходзіць.

П а п с у е в а. І потым... З іх жа смяяцца будуць! Здзекавацца!

В я р ш ы л а *(не зразумеўшы)*. З каго смяяцца?

П а п с у е в а. З «кліентаў». Гэта ўнясе разлад у наша маналітнае грамадства! Раздоры! Антаганізм! Не бяруся нават прадказваць. Страшна падумаць!..

М і р а л ю б а ў. Паслухаць вас, Тамара Цімафееўна, дык можна падумаць, што палавіна нашага грамадства — «кліенты»!

П а п с у е в а. Не, чаму ж... Ёсць, вядома, і геніі. Можа, нават і ў нашым міністэрстве. Але зараз яны не ведаюць, што яны геніі, і спакойна працуюць. А калі даведаюцца? Яны ж запатрабуюць павялічыць ім зарплату. Як мінімум, у два-тры разы! А ў нас штатны расклад, фонд заработнай платы. Каб трымаць аднаго генія, прыйдзецца скараціць адзін, а то і два аддзелы!..

В я р ш ы л а. Я не згодзен з вамі, Тамара Цімафееўна! Вы дагаварыліся да таго, што і геніі нам не патрэбны! Лепш адзін геній, чым два ці тры аддзелы!

П а п с у е в а. Віктар Паўлавіч... Возьмеце вы гэты... тэрмастат дадому? Каб праверыць, скажам, жонку?

В я р ш ы л а *(крыху сумеўшыся ад нечаканасці)*. А што? Гэта нават цікава...

П а п с у е в а. Вы так думаеце? А калі высветліцца, што ваша жонка разумнейшая за вас? Ну, не на пяцьдзесят... А на дваццаць пяць працэнтаў? Ці толькі на пятнаццаць? Толькі на пятнаццаць! Яна ж даведаецца пра гэта!

В я р ш ы л а *(схамянуўшыся, шчыра)*. Жудасць.

П а п с у е в а. А калі высветліцца, што вы разумнейшыя за яе працэнтаў на пяцьдзесят?

В я р ш ы л а. Гэта ўжо лепш...

П а п с у е в а. Лепш? У сто разоў горш! Ваша жыццё зробіцца пеклам! Вы ж згрызяце сябе! Чаму такую неда-

рэку-лахудру ў жонкі ўзяў? Чаму на ёй свет клінам сышоўся? А я — міністр! Я ж бы мог ажаніцца з доктарам навук!.. І ўсё. Канец сямейнай ячэйцы. А на ячэйках, між іншым, уся наша дзяржава трымаецца...

М і р а л ю б а ў. Вы — дэмагог, Тамара Цімафееўна!.. Рэактыўны самалёт не трэба было рабіць! Можна зваліцца і разбіцца! Атам не трэба было расшчапляць! Можна ўзарвацца! Смерць тэлевізару! Ад яго можна аслепнуць!.. Далоў тэлефон! Ён губіць жывыя, непасрэдныя сустрэчы!..

В я р ш ы л а. Ягор Фёдаравіч! Мы сабраліся для таго, каб выслухаць розныя думкі.

М і р а л ю б а ў. Хіба гэта думкі? Гэта ж нейкае цемрашальства!

В я р ш ы л а. Не трэба, Ягор Фёдаравіч. Супакойцеся.

М і р а л ю б а ў. Не магу я супакоіцца!

П а п с у е в а *(спакойна)*. Я не дэмагог, Ягор Фёдаравіч. Я — рэаліст. А вы — карась-ідэаліст! Дон Кіхот!.. Вы не ведаеце ні сучаснага жыцця, ні сучасных людзей... Віктар Паўлавіч... У вас ёсць добра знаёмы дырэктар завода адпаведнага профілю?

В я р ш ы л а. Вядома, ёсць. Сябра маленства і юнацтва. На адной парце дзесяць гадоў сядзелі...

П а п с у е в а. Спытайце ў яго, ці возьмецца ён за выпуск гэтага вашага... керагаза.

В я р ш ы л а *(тэлефаністкам)*. Злучыце мяне з Какашынскім. 64-17-31. *(Здымае трубку і чакае.)* Прывітанне, Леў Сяргеевіч!.. Як у цябе з загрузкай абсталявання?

Г о л а с з д ы н а м і к а. Нармальна. Уперад не лезем і ззаду не застаемся. А што?

В я р ш ы л а. Ці можна размясціць на тваім заводзе адзін вельмі цікавы і перспектыўны апарат? Не складаны для асваення...

Г о л а с з д ы н а м і к а. Вага?

В я р ш ы л а. Вага чаго?

Г о л а с з д ы н а м і к а. Твайго апарата!

В я р ш ы л а *(прыкрыўшы далонню трубку, шэптам пытаецца)*. Колькі важыць ваш апарат?

М у р а ш к а *(таксама шэптам)*. Трыццаць пяць кілаграмаў!

В я р ш ы л а *(па тэлефоне)*. Трыццаць пяць кілаграмаў!

Г о л а с з д ы н а м і к а. Рэалізацыйная цана?

В я р ш ы л а *(шэптам)*. Колькі арыенціровачна ён будзе каштаваць?

Мурашка *(шэптам)*. Не больш як трыста рублёў.

Вяршыла *(па тэлефоне)*. Не больш як трыста рублёў...

Голас з дынаміка. Жартаўнік ты, Віктар Паўлавіч! У мяне падлік ідзе на тысячы тон і на дзесяткі мільёнаў рублёў. А ты што хочаш мне падсунуць?

Вяршыла. Ты хоць бы спытаў, што за апарат?

Голас з дынаміка. Не мае значэння! Хоць перпетуум мобіле. З мяне здымаюць скуру за тоны і мільёны!

Вяршыла. Апарат незвычайны! Дзівосны! І ўсім патрэбен! Табе таксама.

Голас з дынаміка. Гэта ўжо лірыка, Віктар Паўлавіч. Вось скажы мне асвоіць верталёт ці падводную лодку — за тыдзень асвоім. А трыццаць пяць кілаграмаў не пад сілу. Не пацягну!.. Прабач, у мяне нарада тэхнолагаў. Вітаю!

Паўза.

Папсуева. Ну што, Віктар Паўлавіч?

Вяршыла. Прадпрыемства мы знойдзем. Не ў цяжкай, дык у лёгкай прамысловасці. Пусцім па графе «тавары народнага спажывання».

Папсуева. А хто будзе заказчыкам?

Уваходзіць разгубленая Нюра.

Нюра. Нікога няма, Віктар Паўлавіч... Ніводнага чалавека! Усе кабінеты пустыя...

Паўза.

Вяршыла. А дзе яны?

Нюра. Не ведаю... Зніклі кудысьці.

Вяршыла. Як гэта зніклі? Усе?

Нюра. Усе...

Вяршыла. І члены калегіі таксама?

Нюра. І члены калегіі...

Вяршыла. Дзіўна... Можа, яны на прафсаюзным сходзе?

Папсуева *(з сарказмам)*. Або на канцэрце мастацкай самадзейнасці!..

Вяршыла. Пакіньце вашы жартачкі, Тамара Цімафееўна!.. Да абедзеннага перапынку яшчэ гадзіна, а людзей ужо няма!

Папсуева. Я не здзіўлюся, калі праз гадзіну наша міністэрства ўспыхне, як бочка з порахам! Ад кароткага

замыкання, шаравой маланкі, вібрацыі ці гравітацыі! І мы ператворымся ў попел разам з гэтай *(паказвае на крэсла, апарат і дынамікі)*... фігай.

В я р ш ы л а *(ледзь стрымлівае сябе)*. Будзем заканчваць абмеркаванне. Вы, Тамара Цімафееўна, як я разумею,— супраць?

П а п с у е в а. Як кожны разумны чалавек на маім месцы. Катэгарычна!

М і р а л ю б а ў. Значыць, вы, Тамара Цімафееўна,— разумны чалавек. Гома сапіенс? А ўсе мы — малпы! Папугаі! Кракадзілы?! *(Пачынае лічыць, каб супакоіцца.)* Адзін, два, тры, чатыры, пяць, шэсць, сем...

В я р ш ы л а. Спакойна, Ягор Фёдаравіч! Не забывайце, што Тамара Цімафееўна — наменнік па пярэчаннях. І мы яшчэ раз пераканаліся, што яна не дарма есць свой хлеб...

М і р а л ю б а ў. За тое, што Тамара Цімафееўна піша «забараняю!» — у яе адны падзякі! За тое, што я пішу «дазваляю!» — у мяне адны вымовы! Сем строгіх з апошнім папярэджаннем! Адзінаццаць строгіх з занясеннем. Без занясенняў я ўжо і не лічу!..

П а п с у е в а *(са здзекам)*. Кожнаму сваё, Ягор Фёдаравіч!

М і р а л ю б а ў. Адзін, два, тры, чатыры, пяць, шэсць... дзевяць... Віктар Паўлавіч! Я хацеў бы ведаць! Чаму чалавека не садзяць у турму, не вешаюць, не расстрэльваюць за тое, што ён забараняе? Чаму яго з усіх бакоў абсыпаюць падзякамі за тое, што ён губіць? Думкі! Прапановы! Ідэі! Вынаходніцтвы!

П а п с у е в а *(з іроніяй)*. Вы мяне маеце на ўвазе, Ягор Фёдаравіч?

М і р а л ю б а ў. У тым ліку і вас, Тамара Цімафееўна!

В я р ш ы л а. Ягор Фёдаравіч! Тут не месца вырашаць такія пытанні.

М і р а л ю б а ў. А дзе месца? Дзе? Скажыце! І я туды адразу ж пабягу! Палячу! Папаўзу! Адзін, два, тры, чатыры, пяць...

Д р у г а я т э л е ф а н і с т к а. Віктар Паўлавіч! Пяты раз звоняць будаўнікі.

В я р ш ы л а. Скажыце, што я заняты! Што мяне няма!

Д р у г а я т э л е ф а н і с т к а. Але яны ведаюць, што вы тут і што вы прымаеце наведвальнікаў.

В я р ш ы л а. Тады скажыце ім, што я... памёр!

Другая тэлефаністка *(разгублена)*. Так прама і сказаць?

Вяршыла. Так прама і скажыце. Узяў і памёр! Часова...

Другая тэлефаністка *(па тэлефоне)*. Вы ведаеце... Ён памёр... Узяў і памёр... Часова...

Вяршыла. Проста канец свету! Не хочуць думаць! Не хочуць ні за што адказваць! Кожны другі ідзе на работу, а галаву дома пакідае! *(П'е ваду з графіна.)* Прабачце... Ягор Фёдаравіч, вы за апарат?

Міралюбаў. Аберуч! Гэта адкрыццё веку! Электрычнасць, лазер і атамная энергія, разам узятыя!

Папсуева. Нарываецеся на чарговую вымову, Ягор Фёдаравіч. Не хапае ранейшых?

Міралюбаў. А хоць сто!.. Мы з вамі разглагольствуем пра перабудову дзяржавы! Свету! Сусвету! А пачынаць трэба з чалавека! Хто ён? Навошта ён? Што ён можа?

Папсуева. І «кліентаў» перарабляць будзеце?

Міралюбаў. Ідыётаў — таксама, Тамара Цімафееўна. Трэба ад іх пазбаўляцца! Любымі сродкамі!

Вяршыла. Ягор Фёдаравіч! Мы ж дамовіліся не ўжываць абразлівых тэрмінаў!

Міралюбаў. Хопіць! Набалбаталіся! Будзем называць рэчы сваімі імёнамі! Або мы іх! Або яны нас! Міру паміж намі быць не можа!

Папсуева. Я б на вашым месцы, Ягор Фёдаравіч, не была б такой катэгарычнай. Пры сучаснай дэмаграфічнай сітуацыі... «Кліенты» неабходны нам, як лакмусавая паперка. Адкуль разумны будзе ведаць, што ён разумны, калі побач не будзе... «кліента»?

Міралюбаў. Адзін, два, тры, чатыры, пяць, шэсць, дзевяць... *(Спакойна.)* Усё, Віктар Паўлавіч... Вы сказалі, што абмеркаванне закончана. Я не разумею, чаму вы цягнеце...

Папсуева. Вы нават не ўяўляеце, на што вы замахнуліся!

Вяршыла. Тамара Цімафееўна... Вы непаслядоўныя. Спачатку вы заяўлялі, што «кліентаў» у нас зусім няма! Што ў нас адны толькі асобы, таленты і геніі. Цяпер вы намякаеце на дэмаграфічную сітуацыю. Дык усё ж... Ёсць «кліенты» ці няма іх? Калі ёсць, то мудрамер патрэбен. Калі іх няма, то і мудрамера баяцца не трэба!

Папсуева *(упершыню разгубілася)*. Я пра выгады дзяржавы клапачуся...

Міралюбаў. Якія выгады, Тамара Цімафееўна? Яны ж, гэтыя... «кліенты», краіну спусташаюць! Каб не яны, мы б ужо даўно ў камунізме жылі!

Папсуева. Вы такімі словамі, Ягор Фёдаравіч, не кідайцеся...

Міралюбаў. Я хутка камяні буду кідаць! Гранаты! Бомбы!

Вяршыла *(страціўшы цярпенне)*. Хопіць!.. Спыняю спрэчкі! Будзем зацвярджаць і рэкамендаваць.

Папсуева. Што рэкамендаваць? Ката ў мяшку?

Другая тэлефаністка. Віктар Паўлавіч! Прабачце... Зноў будаўнікі! Яны звоняць бесперапынна.

Вяршыла. Вы сказалі ім, што я памёр?

Другая тэлефаністка. Яны кажуць: жывога ці мёртвага, але давайце.

Вяршыла. Божа мой! Нават памерці спакойна не дадуць!.. Скажыце ім, што на гэты раз я планы карэкціраваць не буду! Не тыя часы!

Другая тэлефаністка. У іх ЧП, Віктар Паўлавіч!..

Вяршыла. Ат! У іх кожны дзень ЧП! Цэгла ёсць — раствору няма! Раствор ёсць — цэглу не падвезлі! Або санвузел замест кухні паставілі!

Другая тэлефаністка. Не, Віктар Паўлавіч... У іх палац абваліўся. Ад даху да падмурка...

Вяршыла *(спачатку не ўсвядоміўшы пачутага)*. Ат! Падумаеш! На дзень раней ці на дзень пазней... *(Паўза.)* Які палац?

Другая тэлефаністка. Той, што на паўгода раней тэрміну пабудавалі. Ну, памятаеце, пра яго ўсе газеты пісалі, тэлебачанне паказвала. Нават у праграме «Час»...

Вяршыла. Наколькі я ведаю... У такіх выпадках ствараюць спецыяльныя камісіі для расследавання прычын...

Другая тэлефаністка. Дык вось старшыня гэтай камісіі і звоніць вам.

Вяршыла. Цікава, што яму ад мяне трэба? Ён прычыну знайшоў?

Другая тэлефаністка. Знайшоў. Дужа многа сэканомілі.

Вяршыла. А эканомію куды падзелі?

Другая тэлефаністка. На прэміі пайшла...

Вяршыла. І міністр узвядзення гмахаў таксама атрымаў?

Другая тэлефаністка. І міністр...

Вяршыла. Колькі?

Тэлефаністка піша лічбу на паперы і моўчкі падае яе Вяршылу.

Другая тэлефаністка. Ён не толькі прэмію, ён яшчэ і ордэн за гэты палац атрымаў.

Вяршыла. Дык што хоча ад мяне старшыня камісіі? Ён павінен званіць не мне, а пракурору! Самаму галоўнаму! Самаму генеральнаму!

Другая тэлефаністка. Ён не ведае, што рабіць з прэміяй...

Вяршыла *(крычыць)*. Рабацяг не чапаць! Яны не вінаватыя! Яны выконвалі загад! А ў міністра прэмію адабраць! І... ордэн таксама...

Другая тэлефаністка. Нельга адабраць, Віктар Паўлавіч. Міністра няма.

Вяршыла. Як гэта няма? А дзе ён?

Другая тэлефаністка. Пайшоў на павышэнне.

Вяршыла. Куды?

Тэлефаністка зноў піша нейкае слова на паперы і моўчкі падае яе Вяршылу. Той, азірнуўшыся, хуценька спальвае над сталом, як шыфраграмы, абедзве запіскі. Здымае пінжак, акуратна вешае яго на спінку крэсла.

Ягор Фёдаравіч... Падыдзіце да мяне, калі ласка... Бліжэй... Не бойцеся, я вас не ўкушу... Ягор Фёдаравіч, я прашу вас... Ушчыпніце мяне...

Міралюбаў, нічога не разумеючы, бездапаможна азіраецца на прысутных.

Я вам загадваю, Ягор Фёдаравіч! Ушчыпніце мяне!

Міралюбаў *(страшэнна разгублены)*. Ушчыпнуць міністра... Нават па загаду... Прабачце, я не магу...

Тады рашуча ўзнімаецца Папсуева, адсоўвае ўбок Міралюбава і з усяе сілы шчыпае Вяршылу за руку. Вяршыла нечакана рагоча дзікім, вар'яцкім смехам.

Вяршыла *(раптоўна абарваўшы смех)*. Адключыць усе тэлефоны! Абрэзаць усе правады! Пакуль мы не закончым абмеркаванне! Нас няма! Мы памёрлі! Усе да аднаго! *(Паўза.)* Мікалай Ягоравіч, у вас усё гатова для эксперымента?

М у р а ш к а. Апарат гатоў. Можна пачынаць.

М і р а л ю б а ў. Я прапаную зрабіць перапынак. У мяне валідол у стале застаўся...

В я р ш ы л а. Добра... Аб'яўляю перапынак на пятнаццаць мінут!

*З а ц я м н е н н е*

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

Той жа кабінет міністра ўзгадненняў. Н ю р а, т э л е ф а н і с т к і, абступіўшы мудрамер, разглядаюць яго, мацаюць рукамі, шэптам размаўляюць між сабой. Убачыўшы, што ідзе М у р а ш к а, разбягаюцца і займаюць свае месцы.

Уваходзяць П а п с у е в а, В я р ш ы л а і М і р а л ю б а ў. Садзяцца.

В я р ш ы л а. Можна пачынаць, Мікалай Ягоравіч?

М у р а ш к а. Можна, Віктар Паўлавіч...

В я р ш ы л а. Ну, хто першы? *(Паўза.)* Добраахвотнікі ёсць?

П а п с у е в а *(здзіўлена)*. Вы хочаце пачаць з нас?

В я р ш ы л а. А з каго? Паколькі ўсе нашы супрацоўнікі некуды зніклі, пакажам прыклад мы... Сядайце, Тамара Цімафееўна!

П а п с у е в а. Я?! Гэта вы мне?

В я р ш ы л а. Вам, вам, Тамара Цімафееўна! Вы — мой першы намеснік. Таму з вас і пачнём. Тым больш што вы самі прапанавалі не купляць ката ў мяшку.

П а п с у е в а. Вы сумняваецеся ў маёй прафесійнай кампетэнтнасці? У маіх здольнасцях?

В я р ш ы л а. Іменна таму, што я не сумняваюся ні ў вашых здольнасцях, ні ў вашай кампетэнцыі, Тамара Цімафееўна, з вас і пачнём. Вы так бліскуча даказалі сваю эрудыцыю. Столькі аргументаў прывялі ў абарону сваёй пазіцыі... Вы для ўсіх нас будзеце... як вы сказалі? Лакмусавай паперкай! У лепшым сэнсе слова.

П а п с у е в а. Але ж і Ягор Фёдаравіч...

В я р ш ы л а. Ягор Фёдаравіч! Адны эмоцыі! Сваімі аргументамі вы загналі яго ў вугал. Прабачце, Ягор Фёдаравіч. Але я хачу быць аб'ектыўным.

М і р а л ю б а ў. Згодзен з вамі, Віктар Паўлавіч. Уся мая аргументацыя не варта пазногця на мезенчыку Тамары Цімафееўны!

Папсуева. У рэшце рэшт, я — жанчына! Можа, вы загадаеце і распрануцца перад вамі?

Вяршыла. Мікалай Ягоравіч, распранацца для кантролю не трэба?

Мурашка. Не. Апарат ловіць біятокі праз адзенне.

Вяршыла. Чуеце, Тамара Цімафееўна? Распранацца не трэба.

Папсуева. Я блізарукая. Я не бачу адсюль ні шкалы, ні стрэлкі. А мне хацелася б самой...

Міралюбаў. Я пастаўлю крэсла перад самай шкалой.

Мурашка *(збянтэжана)*. Прашу прабачэння... Я не папярэдзіў... Апарат мае гукавую сігналізацыю...

Вяршыла. Якую сігналізацыю?

Мурашка. Музычную.

Вяршыла. Растлумачце.

Мурашка. Усё вельмі проста... На пэўным участку шкалы гучыць пэўная музыка. Адначасова з лічбамі-паказчыкамі яна абазначае ўзровень інтэлекту.

Вяршыла. Цікава! Які ў вас рэпертуар?

Мурашка. Класічны... З маленства люблю класіку. Чыстую, сапраўдную. Не ў сучаснай аранжыроўцы.

Вяршыла. Гэта вы здорава прыдумалі! Значыць, я, седзячы за гэтым сталом, магу пачуць... Хто ёсць хто?

Мурашка. Іменна так.

Вяршыла. Што ў вас азначае літара «Н»?

Мурашка. Норма. Гома нармаліс...

Вяршыла. І што будзе іграць гэтая літара?

Мурашка. Танец маленькіх лебедзяў з балета Пятра Ільіча Чайкоўскага «Лебядзінае возера».

Вяршыла. У вас нядрэнны густ. Ну, а калі дойдзе да літары «Д»?.. Ну, калі трапіцца чалавек... з адсутнасцю некаторай часткі мудрасці?

Мурашка. Міхал Клеафас Агінскі. Паланез «Развітанне з радзімай»...

Вяршыла. Ну, навошта ж вы, Мікалай Ягоравіч, такую цудоўную музыку аддалі літары «Д»?

Мурашка *(канфузліва)*. Бачыце, Віктар Паўлавіч... Я ў кожны музычны сігнал заклаў падтэкст...

Вяршыла. Ну, які ж падтэкст можа быць у літары «Д»?

Мурашка. Падтэкст развітання...

Вяршыла. Развітання з радзімай?

Мурашка. Не... Развітанне з пасадай, са сваёй ра-

нейшай працай... З пэўнымі матэрыяльнымі дабротамі. Такое развітанне крышку сумнаватае...

Вяршыла. Вы лічыце, што яму ўсё ж прыйдзецца развітвацца?

Мурашка. Упэўнены. Інакш навошта ж праверка?

Паўза.

Вяршыла. Хм... Увогуле нейкая рацыя ў вашым рэпертуары ёсць... Ну, а літары «П» і «Д»... Поўны «кліент»... Як будзе ён гучаць?

Мурашка. На гэтых літарах у мяне запраграмаваны туш.

Вяршыла. Дзе ж логіка? На літары проста «Д» у вас паланез Агінскага. А на «ПД» — туш!.. Туш — гэта ж гімн! Яго іграюць толькі на ўрачыстасцях! На святах!

Мурашка. Я думаў, што выкрыць «ПД» — гэта таксама свята...

Вяршыла. Якое ж тут свята? Чаму радавацца?

Мурашка *(збянтэжана)*. Свята розуму... Вышэйшай справядлівасці.

Вяршыла *(сваім намеснікам)*. Як на вашу думку? Логіка ў гэтым ёсць?

Папсуева. Лухта несусветная!

Міралюбаў. Выдатна задумана! Брава!

Вяршыла. Так... Пяройдзем на левую палавіну шкалы. «Т». Гэта што?

Мурашка. Талент...

Вяршыла. А «Г»?

Мурашка. Геній...

Вяршыла. Як у вас агучан талент?

Мурашка. Аляксандр Парфіравіч Барадзін. Арыя князя Ігара «О, дайце, дайце мне свабоду!» З оперы «Князь Ігар».

Вяршыла. Падтэкст зразумелы без тлумачэнняў... А чым вы зарадзілі літару «Г»?

Мурашка. Міхаіл Іванавіч Глінка. «Слаўся!»

Вяршыла *(не адразу)*. Вы можаце зараз прадэманстраваць, як гэта ўсё гучыць?

Мурашка. Ухаластую датчыкі не ўключаюцца. Камусьці з вас трэба сесці ў гэтае крэсла.

Вяршыла. Ну што, Тамара Цімафееўна? Апрабуйце рэпертуар!

Папсуева. Віктар Паўлавіч! Вы ведаеце мяне ўжо не адзін год. Ведаеце, што ў мяне вышэйшая адукацыя!..

Прэміі, граматы, падзякі! Нават урадавыя ўзнагароды! І вы ўсё яшчэ мне не давяраеце? Сумняваецеся?

Вяршыла. Іменна таму, што не сумняваюся, я і прапаную пачаць з вас. Я, напрыклад, упэўнены, што апарат выдасць вам «Т» або нават «Г».

Папсуева. Я ж вам сказала... Я — жанчына!

Вяршыла. Так... А некалі, у добрыя старыя часы, урачы нават халеру і чуму на сабе выпрабоўвалі... Можа, вы рызыкнеце, Ягор Фёдаравіч?

Міралюбаў. На даным этапе, Віктар Паўлавіч, мне гэта супрацьпаказана.

Вяршыла. Чаму? І вы баіцёся?

Міралюбаў. Не, Віктар Паўлавіч, не баюся... Але я зараз знаходжуся ў такім заведзеным стане... Сёння ў мяне полюсы памяняліся... Увесь плюс уніз пайшоў. А ўверх — мінус... Баюся скампраметаваць апарат.

Вяршыла. Так... значыць, і вы выйшлі з гульні... Нюра! Ты збіраешся паступаць ва універсітэт. Не хочаш праверыць сябе перад паступленнем?

Нюра. Не, Віктар Паўлавіч.

Вяршыла. Чаму? Ты ж разумніца! З паўслова ўсё разумееш! З табой працаваць адна асалода!

Нюра. Памыляецеся, Віктар Паўлавіч. Я — вар'ятка...

Вяршыла. Нюра! Гэта ж... самапаклёп.

Нюра. Не, не паклёп, Віктар Паўлавіч... Я люблю чалавека... А ў яго сям'я, дзеці... Ён мяне зусім не любіць. І не палюбіць ніколі... Я гэта ведаю. І ўсё роўна жыць без яго не магу... *(Раптам ускочыла і выбегла.)*

Вяршыла. Так... Ну што ж... Нічога не застаецца...

Паўза.

Першым у крэсла сяду я... А вы ўслед за мной! *(Узнімаецца без асаблівага энтузіязму.)*

Папсуева *(становіцца перад крэслам)*. Я вам гэта не дазволю.

Вяршыла *(здзіўлена)*. Тамара Цімафееўна! Ну, што вы баяліся за сябе, я разумею... А чаму вы баіцёся за мяне?.. Паколькі вы не хочаце быць лакмусавай паперкай, ёю буду я! *(Робіць крок да крэсла.)*

Папсуева. Толькі цераз мой труп!

Вяршыла. Што з вамі, Тамара Цімафееўна? Адкуль такі страх?

Папсуева. Я баюся не за вас!

**В я р ш ы л а.** А за каго? За мудрамер?

**П а п с у е в а.** За тую высокую інстанцыю, якая... назначыла вас міністрам!

**В я р ш ы л а.** Не разумею...

**П а п с у е в а.** Ніхто, у тым ліку вы самі, не мае права сумнявацца ў правільнасці рашэння гэтай інстанцыі! Калі вас назначылі — значыць, вы таго варты!..

**В я р ш ы л а** *(не адразу).* Нас усіх назначылі сюды...

**П а п с у е в а.** Іменна! Таму ніхто з нас не мае права верыць нейкаму сепаратару больш, чым... Ніхто! Інакш мы можам дакаціцца чорт ведае да чаго!..

Вяршыла з палёгкай садзіцца ў сваё міністэрскае крэсла і згаджаецца з Папсуевай, хоць выгляду не падае. Уваходзіць Н ю р а і сядае за свой стол. Хавае мокрыя вочы.

**В я р ш ы л а.** Што ж рабіць у такім разе? Апарат мы абавязаны праверыць... Каб даць сваё заключэнне. Мы сваімі вачамі павінны бачыць яго ў рабоце!

**П а п с у е в а** *(адчуўшы, што небяспека адступіла).* Ёсць прапанова... У вашай прыёмнай наведвальнікі. Вось давайце іх і праверым!

Паўза.

**В я р ш ы л а.** А калі яны не дадуць згоды?

**П а п с у е в а.** Трэба зрабіць так, каб яны не здагадаліся, што гэта праверка.

**В я р ш ы л а** *(падумаўшы).* Рабіць гэта тайпа, не папярэдзіўшы... Нядобра!.. Нават на магнітафон нельга запісваць чалавека, калі ён не ведае...

**П а п с у е в а.** Але ж гэта не афіцыйная праверка! Вынікі яе застануцца паміж намі! Мы ім ходу не дадзім!

Паўза.

**В я р ш ы л а.** Можа, правядзём гэтую працэдуру ў вашым кабінеце?

**П а п с у е в а.** Можна і ў маім. Але ж яны запісаліся на прыём да вас. І ведаюць, што вы пачалі прыём.

Паўза. Вяршыла думае.

**В я р ш ы л а.** Добра... Прымаем такое рашэнне... Мы займаемся сваёй справай, а таварыш Мурашка — сваёй...

**М у р а ш к а.** Віктар Паўлавіч! Мне трэба, каб кожны абавязкова сеў у крэсла з датчыкамі.

Папсуева. Ну, гэта не праблема. Ягор Фёдаравіч! Адсуньце ад стала мяккія крэслы і пастаўце гэтае...

Міралюбаў і Мурашка коцяць мяккія крэслы ў куткі кабінета. Мурашка ставіць сваё крэсла каля стала, правярае правады.

Вяршыла. Мікалай Ягоравіч... Каб не кідацца ў вочы і не выклікаць падазрэння... Сядзьце крыху далей. Вунь за той столік. Вам будзе зручна?

Мурашка. Безумоўна. *(Садзіцца за столік у глыбіні сцэны.)*

Міралюбаў *(адчуваючы сябе ніякавата, як і Вяршыла)*. Можа, нам увогуле пайсці?

Вяршыла. А хто будзе пратакол падпісваць? Мы павінны засведчыць усё, што адбудзецца, калегіяльна!.. Нюра, з каго пачнём?

Нюра. Відаць, з бабулі. Восемдзесят два гады. І прыйшла яна самая першая.

Вяршыла. Восемдзесят два?.. Ёй ужо няма куды спяшацца. Давайце пачнём з вынаходцы. Мне ўжо нехта званіў пра яго. Не памятаю хто. Сказалі, што гэта будучы Нобелеўскі лаўрэат. У яго нешта незвычайнае... Мікалай Ягоравіч!.. Вы толькі не адразу... Дайце нам пагаварыць з чалавекам. Вырашыць пытанне. А потым ужо, к канцу, уключайцеся.

Мурашка. Зразумеў.

Вяршыла. Зрабіце ласку, нагадайце рэпертуар. Каму што?

Мурашка. Гома нармаліс... Танец маленькіх лебедзяў.

Вяршыла *(запісваючы для памяці)*. «Танец маленькіх лебедзяў».

Мурашка. Літара «Д». «Кліент»... «Развітанне з радзімай».

Вяршыла *(піша)*. Агінскі. «Развітанне з радзімай».

Мурашка. «ПД»...

Вяршыла. Не трэба расшыфроўваць. Запомніў. Туш... *(Піша.)* Падумайце ўсё ж, чым замяніць. Ёсць у гэтым «свяце розуму», як вы сказалі, нейкая нацяжка. Дайце яму што-небудзь не наша... Замежнае. Які-небудзь рок ці блюз...

Мурашка. Віктар Паўлавіч... У мяне ж толькі класіка.

Вяршыла. Пашукайце што-небудзь з заходняй класікі.

Мурашка. Падумаю... Левая палавіна шкалы. «Т»...

Вяршыла. Памятаю. Талент. «О, дайце, дайце мне свабоду!». *(Піша.)* Што ў вас далей?

Мурашка. «Г». Геній. «Слаўся!» Міхаіла Іванавіча Глінкі.

Вяршыла. Падумайце над літарай. Непрыемна гучыць. Рэжа вуха.

Мурашка. «Слаўся!» непрыемна гучыць?

Вяршыла. Я пра літару кажу, а не пра музыку. Музыка цудоўная! Ну што, таварышы, пачнём? *(Паўза. Выпівае вады з графіна. Хвалюецца.)* Нюра! Будучага Нобелеўскага лаўрэата!

Нюра выходзіць і адразу вяртаецца. За ёй у кабінет улятае Іван Пятровіч Заліважа.

Заліважа *(вітаючыся з кожным за руку, кожнаму гаворыць)*. Заліважа Іван Пятровіч! Вынаходнік!

Вяршыла *(паказваючы на выпрабавальнае крэсла)*. Сядайце, Іван Пятровіч.

Заліважа. Не магу! Гару! Пылаю! У мяне кожная секунда на ўліку! Хачу тварыць для дзяржавы! Для народа! *(Бегае па кабінеце.)*

Вяршыла. Тады і я мушу ўстаць. Каб размаўляць з вамі нароўні. *(Прыўзнімаецца з крэсла.)*

Заліважа. Што вы! Што вы! *(Валіцца ў эксперыментальнае крэсла)*. Вам Міхаіл Сямёнавіч званіў?

Вяршыла. Хто? А... Званіў.

Заліважа. А Пал Палыч?

Вяршыла. Званіў...

Заліважа. Значыць, вы ўжо ў курсе?

Вяршыла. У агульных рысах...

Заліважа. У вас ёсць магчымасць увайсці ў гісторыю сусветнай навукі!

Вяршыла. Якім чынам?

Заліважа. Зусім проста! Вось на гэтай паперцы трэба вашай рукой накрэсліць некалькі слоў! «Выдзеліць сродкі на паспяховае завяршэнне навуковай працы Заліважі Івана Пятровіча». Бачыце, колькі людзей ужо напісалі гэтыя словы? Пятнаццаць! Вы будзеце шаснаццатым! І больш ад вас нічога не патрабуецца!

Вяршыла *(беручы ў Заліважі паперу)*. Колькі срод-

каў трэба для паспяховага завяршэння вашых даследаванняў?

Заліва ка. Ат! Дробязь! Трыццаць мільёнаў. І мы адразу ж выйграем эканамічнае спаборніцтва з капіталізмам! Згадзіцеся, што гэта варта не трыццаці мільёнаў! Мільярды! Трыльёны!

Вяршыла. У чым сутнасць вашага вынаходніцтва? Мы павінны ведаць, на што санкцыяніруем трыццаць мільёнаў.

Заліва ка. Вынаходніцтва?! Адкрыццё!

Вяршыла. Хай будзе так. Некалькі слоў пра ваша адкрыццё...

Заліва ка. Я працую над вывядзеннем новай пароды курэй-нясушак. Яны будуць кудахтаць не пасля таго, як знясуць яйка, а перад гэтым! Разумееце? Да яйка! Куд-куд-куды! Куд-куд-куды!

Вяршыла. А якая розніца, калі яны будуць рабіць гэтае самае «куд-куд-куды»? Да яйка ці пасля яго?

Заліва ка. Што вы? Велізарная! Агромністая! Мы створым адзіны цэнтр у краіне са спецыяльнай апаратурай. Цэнтр будзе звязаны прамым провадам з усімі куратнікамі. Гм... Я хацеў сказаць — з усімі птушкафермамі і птушкафабрыкамі. Па спецыяльнаму сігналу з цэнтра ўсе куры пачынаюць кудахтаць. Разумееце? Уся краіна адразу куд-куд-куды! Куд-куд-куды!

Вяршыла. А што далей?

Заліва ка. Вы яшчэ не зразумелі?! Далей усе куры нясуць яйкі! Адразу па ўсёй краіне!

Вяршыла. Дык яны і без спецыяльнага сігналу нясуцца...

Заліва ка. Ха! Мы ж будзем падаваць сігнал для кудахтання не адзін раз у дзень, а два! Тры! Пяць разоў! Пяць яек у дзень ад кожнай курыцы! Уяўляеце? Мы ж усю краіну закідаем яйкамі!.. Што краіну? Свет! Мы не толькі людзей... Мы свіней, кароў, авечак будзем карміць яечняй! Вось вам і вырашэнне бялковай праблемы! *(Ускочыў і зноў забегаў па кабінеце.)*

Вяршыла. Сядзьце, Іван Пятровіч! Сядзьце!..

Заліва ка. Не магу! Не сядзець — дзейнічаць трэба!

Вяршыла. Вы мяне прымушаеце... *(Прыўзнімаецца з крэсла.)*

Заліва ка. Даруйце! Забыўся! *(Валіцца ў крэсла.)*

Міралюбаў. У мяне адно пытанне да Івана Пятровіча...

Вяршыла. Калі ласка, Ягор Фёдаравіч... Гэта мой намеснік.

Залівака *(ускочыўшы, кланяецца)*. Вельмі прыемна! Вельмі! *(Падскочыўшы, цісне руку Міралюбаву.)* Хоць мільён пытанняў! Любыя! У мяне на кожнае пытанне па тры адказы! А, Б, В!

Міралюбаў. Скажыце, Іван Пятровіч... А певень вытрымае?

Залівака. Што вытрымае?

Міралюбаў. Ну... Каб курыца несла некалькі яек у дзень? Ён жа таксама прымае нейкі ўдзел у гэтай справе.

Залівака. Канечне, яму будзе нялёгка! Давядзецца папрацаваць, закасаўшы рукавы. Але ў мяне і гэтая праблема прадугледжана. Мы кожнай курыцы дадзім па персанальным пеўню. Як ва ўсіх пярнатых і млекакормячых!

Вяршыла. Вы ўжо правяралі сваю ідэю?

Залівака. А як жа? У лабараторных умовах! На адной курыцы! *(Бегае па кабінеце.)*
Прабачце! Забыўся. *(Валіцца ў крэсла.)*

Вяршыла моўчкі ўзнімаецца.

Вяршыла. І які вынік?

Залівака. Цудоўны! Казачны! Вось акт аб эксперыменце! Вось пратакол і заключэнне вучонага савета! Вось рэзалюцыі сямі міністраў! Пісьмы двух акадэмікаў, якія падтрымліваюць ідэю і гатовы самі прыняць удзел у эксперыменце... Праўда, абодва яны на пенсіі! Але ў прынцыпе гэта не мае значэння.

Вяршыла *(праглядаючы паперы)*. На што вы хочаце патраціць гэтыя трыццаць мільёнаў?

Залівака. Трыццаць — гэта толькі для пачатку! Так сказаць, на нулявы цыкл! Мне патрэбны НДІ куразнаўства, вылічальны цэнтр і свая эксперыментальная база. Як бачыце, прашу мінімум. У маштабах краіны — гэта капейка. Грош! А выйгрыш — трыльёны!

Вяршыла. Ваша думка, Тамара Цімафееўна?

Папсуева. Праблема бялка — самая вострая біялагічная праблема ў свеце. І калі б удалося яе вырашыць... Сапраўды Нобелеўскай не шкада.

Вяршыла. Што скажаце вы, Ягор Фёдаравіч?

Міралюбаў *(філасофскі)*. Адной вымовай больш, адной — менш.

В я р ш ы л а. Нюра! Зялёны!

Н ю р а. Калі ласка, Віктар Паўлавіч. *(Працягвае зялёны аловак.)*

В я р ш ы л а *(узняўшы аловак)*. Значыць, уся краіна адразу?..

З а л і в а к а. Уся! Куд-куд-куды! Куд-куд-куды! А потым горы яек! Манбланы! Гімалаі!..

Залівака не паспявае дагаварыць. Аглушальна грыміць туш. Усе аж уздрыгнулі ад нечаканасці. Туш прагрымеў адзін раз, другі, трэці...

В я р ш ы л а. Эй вы там, на палубе! Спыніце музыку!

З а л і в а к а. Што вы! Не трэба! Гэта ж так сімвалічна!

Вялікая паўза. Вяршыла думае, сумняваецца і нарэшце адсоўвае ад сябе паперы.

В я р ш ы л а. Вось што, Іван Пятровіч... Пакуль што я не магу падпісаць вашу просьбу...

З а л і в а к а *(страшэнна ўражаны такой нечаканасцю)*. Не можаце? Чаму?!

В я р ш ы л а. Бачаце, якая справа, Іван Пятровіч... У вас тут не хапае адной рэзалюцыі... І таму я не магу падпісаць...

З а л і в а к а. Як не хапае? Там пятнаццаць рэзалюцый і ўсе станоўчыя! Рэзалюцыі сямі міністраў! Нават міністра фінансаў! Што вам яшчэ трэба?

В я р ш ы л а. У вас няма рэзалюцыі міністра харчавання. А ваш інстытут будзе падпарадкоўвацца яму. Патрэбна яго віза, Іван Пятровіч...

З а л і в а к а. Лічыце, што яна ў вас ужо ёсць! Там у мяне цётка і дваюрадны брат працуюць!.. Адтуль мне адразу сюды?

В я р ш ы л а *(без асаблівага энтузіязму)*. Адтуль да нас...

З а л і в а к а. Вельмі ўдзячны! Вельмі! Не развітваюся. Праз гадзіну буду ў вас! *(Вылятае з кабінета.)*

Паўза.

В я р ш ы л а. Вы ўпэўнены, Мікалай Ягоравіч, што ваш апарат... даў правільную ацэнку?

М у р а ш к а. Больш чым упэўнены.

В я р ш ы л а. А чаму так гучна?

М у р а ш к а. Надта высокі ўзровень біятокаў мозгу.

В я р ш ы л а. Звар'яцець можна. У яго ж пятнаццаць

рэзалюцыи! Сем міністраў! Дактары навук! Акадэмікі! Заключэнне вучонага савета! І ўсе ж яны думалі! Хоць адным паўшар'ем... І то атрымліваецца многа!

Міралюбаў. А можа, усе яны — яго цёткі і дваюрадныя браты?

Вяршыла. Пакіньце, Ягор Фёдаравіч!.. Я сур'ёзна...

Мурашка. Апарат нават зашкаліла...

Вяршыла *(з жахам)*. А я ж ледзь не падпісаў! Проста гіпноз нейкі! *(Паўза.)* Што ж атрымліваецца, Мікалай Ягоравіч? Што ваш апарат выратаваў нам трыццаць мільёнаў?

Мурашка *(вінавата)*. Выходзіць, так...

Вяршыла *(усё яшчэ ніяк не можа супакоіцца)*. Але ж міністры! Акадэмікі! Пратакол! У вас, Мікалай Ягоравіч, хоць адзін міністр стаіць за спіной? Хоць адзін акадэмік? На худы канец — ну хоць бы доктар навук? Адзін!

Мурашка. Ніводнага... На словах усе — за. А паперкі, рэзалюцыі — ніводнай...

Папсуева. Адна пісаная рэзалюцыя важыць больш, чым сто вусных! Трэба было паверыць акадэмікам. Нам сумнявацца ў іх кампетэнцыі...

Мурашка. Апарат працуе нармальна. Галавой ручаюся!

Папсуева. Што мы панясём высокаму начальству, калі яно нас пакліча? Вашу галаву? Ці апарат?

Вяршыла. Што ж рабіць? Нам трэба дакладна ведаць, а не прыблізна!

Папсуева. Трэба прадоўжыць выпрабаванні. Калі апарат зноў зрэагуе алагічна... Выкінуць яго разам з аўтарам!

Вяршыла. Тамара Цімафееўна!

Папсуева. А што? Жылі спакойна, мірна... Пісалі рэзалюцыі. Ніхто ніколі не сумняваўся ў іх правільнасці! А цяпер? Сядзім і ламаем галаву.

Паўза.

Вяршыла. Нюра! Хто там наступны?

Нюра. Дырэктар фабрыкі лёгкага і сярэдняга адзення Крутая Ніна Іванаўна і тры яе асістэнткі.

Вяршыла *(да Мурашкі)*. Вы можаце праверыць усіх чатырох адразу?

Мурашка. Не. Толькі па адной.

Вяршыла *(да Нюры.)* Няхай уваходзіць адна. Без асістэнтак...

Нюра *(адчыніўшы дзверы)*. Уваходзьце, Ніна Іванаўна!

Уваходзіць Крутая.

Крутая. Добры дзень!

Вяршыла. Добры дзень! Зноў вы, Ніна Іванаўна?

Крутая. Зноў я, Віктар Паўлавіч.

Вяршыла. Сядайце... *(Паказвае на выпрабавальнае крэсла.)*

Крутая. Крэсла ў вас нейкае дзіўнае. Раней я не бачыла яго ў вас!

Вяршыла. Сучасны дызайн... Мастакі мудрагеляць. З чым на гэты раз, Ніна Іванаўна?

Крутая. Усё з тым жа, Віктар Паўлавіч. Як заўсёды. Зацвердзіць асартымент нашых будучых тавараў.

Вяршыла. Для чаго існуе ваш уласны міністр?

Крутая. Для накачкі. А справу можаце вырашыць толькі вы. За вамі апошняе слова.

Вяршыла. Лёгка жывецца вашаму міністру! Як у Хрыста за пазухай. Пакажыце ваш асартымент...

Крутая кладзе перад ім паперы і пачынае ўважліва аглядаць крэсла, у якім сядзіць. Усе напружана назіраюць за ёй. Толькі Вяршыла чытае паперы і робіць адзнакі алоўкам.

Навошта вам столькі трусоў? На дзесяць гадоў наперад? То вы кажаце, што вам мужчын не хапае, а то вы трусы плануеце аж на тры арміі!

Крутая. Нашы даследаванні паказалі, што яны хутка зношваюцца ад сучасных крэслаў. Штаны тыя нічога, вытрымліваюць. А вось трусы, паколькі яны з баваўны, выходзяць са строю датэрмінова.

Вяршыла. Вы ж ведаеце, што баваўны не хапае! Рабіце з сінтэтыкі!

Крутая. Спрабавалі. Мужчыны ў адзін голас запратэставалі. Сказалі, што адчуваюць сябе, як у панцыры. І іскры ўначы сыплюцца... Вельмі ўжо кволы ваш брат пайшоў. Раней палатняныя насілі і не скардзіліся. А цяпер, бачыце, падавай вам чыстую баваўну!

Вяршыла *(узнімаючы галаву ад папер)*. Ну, ведаеце... Гэта ўжо самае сапраўднае марнатраўства!

Крутая. Што вы маеце па ўвазе?

Вяршыла *(далікатна паказвае на свае грудзі)*. Гэтыя самыя... прыстасаванні. Тры мільёны! Яны ж бу-

дуць ляжаць мёртвым грузам на базах! А зменіцца мода... Іх жа потым на цюбецейкі ці кепкі не перайначыш!

Крутая. Вы ведаеце, колькі ў нас жанчын?

Вяршыла. Ну, не на кожнай жа назе яны іх носяць?

Крутая. Яны іх носяць... Калі б вы іх там насілі, Віктар Паўлавіч, вы б без роздуму падпісалі на дзесяць мільёнаў! Каб з дзесяці адзін выбраць!

Вяршыла. Значыць, бераце не якасцю, а колькасцю? Асуджаная практыка!

Крутая. Ну, а што ж рабіць, Віктар Паўлавіч? Закупіце нам французскае абсталяванне, французскія матэрыялы...

Гучыць танец маленькіх лебедзяў.

Што гэта ў вас? Музычная паўза? Аэробіка?

Вяршыла. Не... Гэта нашы тэхнікі апаратуру правяраюць. *(Паўза. Вяршыла думае, вагаецца.)* Добра, Ніна Іванаўна... Я вам стаўлю не тры мільёны, а пяць. Дзесяць — гэта вы ўжо занадта! Пяці мільёнаў на першы раз хопіць?

Крутая. Ну, Віктар Паўлавіч! Не чакала! Шчыра прызнаюся... Думала, што і за тры мільёны давядзецца з вамі ўзагрудкі!.. А вы такі царскі падарунак нам паднеслі!

Вяршыла. Ну, павінен жа я быць рыцарам? Жанчыны — мая слабасць... Ёсць яшчэ пытанні, Ніна Іванаўна?

Крутая. Ёсць. Трэба зацвердзіць некалькі новых мадэляў на летні сезон. Мы хочам выпускаць іх з літарай «Н» і атэставаць на Знак якасці.

Вяршыла. Дзе вашы мадэлі?

Крутая. Тут. *(Падышоўшы да дзвярэй, кліча.)* Сорак пяць — дзевяноста!

Уваходзіць першая асістэнтка, брунетка. Прафесійным крокам ходзіць перад сталом, робіць прафесійныя позы манекеншчыцы.

Мадэль сорак пяць — дзевяноста. Мастак-мадэльер Марына Стрыжова. Касцюм рэкамендуецца для загарадных прагулак. Звярніце ўвагу... Сучасны модны сілуэт, сучасныя тканіны... Але гэта не проста касцюм, а касцюм-загадка...

Вяршыла. Загадка?

Крутая. Дапусцім, жанчына не паспявае вярнуцца з загараднай прагулкі або дачы дадому, каб пераапрануц-

ца. А вечарам яна павінна быць у тэатры. Мы прадугледзелі і такі варыянт. Прагулачны касцюм становіцца вячэрнім...

Асістэнтка робіць некалькі рухаў, і чорныя штруксы ператвараюцца ў вельветавую спадніцу-максі.

Вяршыла *(з захапленнем)*. Геніяльна! Гэта якраз тое, што трэба сучаснай жанчыне! Зацвярджаю. Давайце вашу наступную мадэль!

Крутая *(падышоўшы да дзвярэй)*. Сорак сем — дванаццаць!

Уваходзіць другая асістэнтка, шатэнка.

Мадэль сорак сем — дванаццаць. Мастак Ігар Прымакоў. Ансамбль для дома, на кожны дзень. Многія лічаць, што дома жанчына можа хадзіць у любым адзенні. Гэта вялікая і трагічная памылка! Жанчына павінна быць прыгожай і прывабнай заўсёды і ўсюды. І ў першую чаргу дома, перад мужам. Трываласць сямейных адносін залежыць ад хатняга адзення жанчыны... Хацелася б, Віктар Паўлавіч, звярнуць вашу ўвагу на такую характэрную дэталь, якая падкрэслівае поўную роўнасць сучаснай жанчыны з мужчынам, яе незалежнасць і самастойнасць. Усё тое, што дала ёй эмансіпацыя. Наш касцюм прадугледжвае элегантны рабочы пояс жанчыны.

Шатэнка імгненна вымае з сумкі пояс і зашпільвае яго на сабе.

Гэты пояс-патранташ трывала замацоўвае на жаночай таліі маленькі тапорык для рубкі мяса і сячэння дроў, нажоўку па дрэве і метале, малаток, пласкагубцы і кусачкі, два напільнікі, брусок і рашпіль, набор ножыкаў і ножніцы... Звычайныя і для бляхі. Праўда, прыгожа? І галоўнае — зручна, у любы момант усё пад рукой. Ніводнага лішняга руху!

Вяршыла *(з захапленнем)*. Паслухайце!.. Гэта ж не мадэль! Гэта ж цудоўнае вынаходніцтва! На яго трэба адразу ж браць аўтарскае пасведчанне і запатэнтаваць! Абавязкова скажыце мне, калі выкінеце ў продаж. Гэта ж найлепшы падарунак на Восьмага сакавіка! Ды і на Новы год таксама!.. *(Да асістэнткі.)* Вы можаце ісці. Я віншую вас!

Шатэнка выходзіць.

Крутая *(кліча)*. Пяцьдзесят — дзевяноста дзевяць!

Уваходзіць... **Венера Мілоская** ў вельмі смелым купальніку. Вяршыла нават прыўзняўся і абамлеў ад захаплення.

Мадэль пяцьдзесят — дзевяноста дзевяць... Мастак Уладзімір Юрын. Пляжны касцюм. Прашу звярнуць увагу на такую дэталь... Максімум адкрытага цела для сонца і паветра. Падабаецца?

Вяршыла, не адрываючы вачэй ад «мадэлі», бездапаможна разводзіць рукамі.

Юрын — наш лепшы мастак. Спецыялізуецца на пляжных касцюмах.

**Вяршыла.** Гэта адчуваецца... *(Да бландзінкі.)* Падыдзіце бліжэй... Вось сюды... Сядайце ў гэтае крэсла... Расслабляйцеся... *(Не тоячыся, любуецца прыгажосцю «мадэлі»).*

Асістэнтка сядае ў крэсла і прымае позу зачаравання. Вяршыла зусім размяк. І тут нечакана загучаў паланез Агінскага «Развітанне з радзімай». Твар Вяршылы адразу закамянеў, набыў варожы выгляд.

**Крутая.** Ну як, Віктар Паўлавіч? Зацвярджаеце?

**Вяршыла** *(не адразу).* Апошнюю?.. Не...

**Крутая.** Што вы, Віктар Паўлавіч! Такі цудоўны ансамбль! Нарасхват пойдзе! Мы яго будзем прапаноўваць на Знак якасці!.. Падпісвайце!

**Вяршыла.** А на ім хопіць месца, каб паставіць Знак якасці?

**Крутая** *(да асістэнткі).* Ты можаш ісці, Галя...

**Асістэнтка** выходзіць яўна пакрыўджаная. Але выходзіць усё ж прафесійна-грацыёзна, як і трэба Венеры Мілоскай.

**Крутая.** Я вас сёння не пазнаю, Віктар Паўлавіч! У чым справа? Вам жа спачатку спадабалася мадэль! Я ж на вачах вашых бачыла!

**Вяршыла.** Разумееце, Ніна Іванаўна... У кожным прадмеце павінна быць адзінства формы і зместу... Кожны касцюм... Як вам лепей сказаць?.. Павінен падкрэсліваць розум, інтэлект чалавека, яго сутнасць...

**Крутая.** Пры чым тут розум, Віктар Паўлавіч? Гэта ж пляжны касцюм! Навошта на пляжы інтэлект? Пляж — не інстытут кібернетыкі!

**Вяршыла.** Ніна Іванаўна... Я зацвердзіў усе вашы пазіцыі! А іх сто трыццаць сем. Гэтую пазіцыю я зацвердзіць не магу.

К р у т а я. Ну, павінны ж быць нейкія аргументы!.. Чаму?

В я р ш ы л а. Гэты, з вашага дазволу, касцюм... Падман. Ён заводзіць чалавека ў ілюзорны, міражны свет. Ён адбірае ў чалавека інтэлект!

К р у т а я. Госпадзі! Даўся вам гэты інтэлект!.. На дэманстрацыі мод гэты касцюм спадабаўся ўсім!

В я р ш ы л а. Ха! Касцюм!.. Фігавыя лісткі! Трылісцікі... Мы з вамі, Ніна Іванаўна, павінны думаць аб маральнасці і нявіннасці тых, хто будзе насіць такія... касцюмы! І хто будзе на іх глядзець!.. Я лічыў вас, Ніна Іванаўна, больш сур'ёзным кіраўніком...

К р у т а я. А я, Віктар Паўлавіч, ніколі не думала, што вы такі... пурытанін! Не давяраеце нашым лепшым майстрам! Яны атрымліваюць спецыяльныя прызы ў Лондане і Парыжы!

В я р ш ы л а. Гэта вам не Лондан і не Парыж, Ніна Іванаўна!

К р у т а я. Бачу! Хто вы такі, што бераце на сябе смеласць выносіць прысуд рэчам, у якіх вы... Якія вы не зусім разумееце?

В я р ш ы л а. Ах, не разумею?.. А чаму ж вы штодня бегаеце да мяне ўзгадняць свае мадэлі?

К р у т а я. Мяне прымушае рабіць гэта мой міністр!

В я р ш ы л а. Ах, ваш міністр!.. А чаму ён сам не зацвярджае свае трылісцікі? Баіцца?

К р у т а я *(падышоўшы да Вяршылы)*. Ведаеце, хто вы, Віктар Паўлавіч?

В я р ш ы л а. Ведаю. Міністр узгадненняў.

К р у т а я. Не. Вы не міністр, Віктар Паўлавіч... Вы — пень у штанах! Пень на дарозе! Які ні аб'ехаць ні абысці!.. *(Выходзіць, моцна грукнуўшы дзвярыма.)*

Няёмкая паўза: у прысутнасці падначаленых назвалі міністра пнём.

П а п с у е в а. Прыгожы ансамбль...

В я р ш ы л а. Прыгожы? Вы б яго надзелі, Тамара Цімафееўна?

П а п с у е в а. Ну, ведаеце... пры маёй пасадзе... Я думала, што мужчынам такое падабаецца.

В я р ш ы л а. Вы не былі мужчынам... Адкуль вам ведаць, пры вашай пасадзе, што ім падабаецца, а што не?..

Н ю р а. Віктар Паўлавіч... Там, у прыёмнай, яшчэ бабуля чакае...

Вяршыла. Якая бабуля?

Нюра. Пенсіянерка. Загуменная Кацярына Антонаўна.

Вяршыла. А-а! Зусім забыўся!.. Запрашай.

Нюра выходзіць і тут жа вяртаецца. Услед за ёй уваходзіць мілая, сімпатычная бабуля. Яна спынілася каля парога і корпаецца ў сумцы.

Вяршыла. Праходзьце, бабуля, сюды. Бліжэй да стала. Што вы там спыніліся ў парозе?

Загуменная. Зараз, мае дзеткі, зараз... *(Вымае з сумкі хатнія тапкі, надзявае іх замест старэнькіх, стоптаных пантофляў. Затым беражліва разгортвае насавую хусцінку і чапляе на жакет ордэн «Маці-гераіня». Толькі пасля гэтага ідзе да стала.)*

Вяршыла *(выходзіць ёй насустрач)*. Добры дзень, Кацярына Антонаўна! *(Паказвае на тапкі.)* А гэта вы навошта?

Загуменная. Ну што вы, таварыш міністр! У вас тут так прыгожа, так чыста!.. Ступіць боязна. Тут жа людзі прыбіраюць. Іх паважаць трэба.

Вяршыла. Сядайце, Кацярына Антонаўна, сюды. *(Падсоўвае ёй выпрабавальнае крэсла.)* Тут вам будзе зручна. А гэта ў вас што?

Загуменная. «Маці-гераіня»...

Вяршыла. Ух ты! Першы раз бачу зблізку. Колькі ж у вас дзетак?

Загуменная. Ай, не так ужо і шмат. Адзінаццаць...

Вяршыла. Адзінаццаць?! І ўсе жывыя?

Загуменная. Усе, дзякуй богу. Ёсць сярод іх і ўрачы, і інжынеры, і старшыня калгаса. Нават адзін акадэмік ёсць.

Вяршыла. Вось гэта сямейка! *(Да Папсуевай.)* Вось з каго трэба браць прыклад, Тамара Цімафееўна!.. І ўнукі ёсць?

Загуменная. А як жа без унукаў? Раўнюсенька трыццаць тры. Па трое на кожнага. Вось праўнукаў пакуль малавата. Шасцёра ўсяго...

Вяршыла. Ну, ведаеце, Кацярына Антонаўна!.. Я б вам за такое Героя Савецкага Саюза не пашкадаваў! «Не то, что нынешнее племя!»

Загуменная. Ай, мае вы дзеткі! Цяпер жа людзям часу няма. Яны то тэлевізар глядзяць, то музыку кру-

цяць, то на сходах розных сядзяць. Калі б было меней сходаў, можа б, і дзяцей было больш...

Вяршыла. Не забываюць яны вас?

Загуменная. Хто? Дзеткі? Ну што вы, таварыш міністр! Мае дзеці не такія. Кожнае свята прыязджаюць. І на Май, і на Кастрычнік, і на Новы год. Як панаедуць, то не ведаю, дзе пасадзіць, дзе каго пакласці! Хоць і пяцісценка, а месца не хапае.

Вяршыла. А як з гэтым?.. Матэрыяльна памагаюць?

Загуменная. Ай, і не кажыце, таварыш міністр! Кожны месяц па некалькі пераводаў. Не паспяваю і на пошту бегаць! Я ж яшчэ і пенсію атрымліваю. Хоць і невялікую, але ўсё ж атрымліваю. Ведаеце, колькі ў мяне на кніжцы? *(Нахіляецца, шэптам.)* Аж сем тысяч! Як раней, то, відаць, мяне ўжо даўно б раскулачылі!

Вяршыла. Ну што вы, Кацярына Антонаўна! Вашы грошы — святыя грошы!.. А сюды вы па якой справе? Як бачу, ніхто вас увагай не абыходзіць, ніхто не крыўдзіць...

Загуменная. Каб жа не крыўдзілі!.. Я ўжо ўсіх абышла, некалькі пар пантофляў стаптала. А праўды так і не знайшла. Вось у адным месцы мне і падказалі, што толькі вы і можаце мне памагчы.

Вяршыла. Вось чортавы бюракраты! Такога чалавека прымушаюць хадзіць па інстанцыях!.. А на каго ці на што вы скардзіцеся? Хто вас пакрыўдзіў?

Загуменная. Я не скарджуся, таварыш міністр... Даруйце, як вас па бацюшку?

Вяршыла. Віктар Паўлавіч...

Загуменная. Не скарджуся, Віктар Паўлавіч. Я прашу. За свае грошы прашу. А з мяне кпяць. Некаторыя нават гэтай самай... псіхічкай называюць.

Вяршыла. Такіх трэба здымаць з работы і... на пятнаццаць сутак! Каб дзесятаму заказалі! А што вы просіце, Кацярына Антонаўна?

Загуменная. Ай, дробязь, Віктар Паўлавіч! Нават няёмка гаварыць.

Вяршыла. Смела гаварыце. Мы вас правільна зразумеем. На тое мы тут і сядзім.

Загуменная. Дамавіну хачу заказаць.

Вяршыла *(не адразу)*. Што заказаць?

Загуменная. Дамавінку. У якой на могілкі адвозяць.

В я р ш ы л а. Наколькі я ведаю... Ёсць жа спецыяльныя камбінаты. А ў вашым раёне няма такога?

З а г у м е н н а я. Камбінат то ёсць. А мой заказ не прымаюць. Кажуць — не паложана.

В я р ш ы л а *(з абурэннем)*. Дажыліся! Дабюракраціліся! Дакаціліся! Нюра! Знайдзіце мне нумар іх камбіната. Я сам з імі пагавару!

Н ю р а. Зараз, Віктар Паўлавіч.

В я р ш ы л а. Заява ў вас пры сабе?

З а г у м е н н а я. Пры сабе, пры сабе, дзеткі. *(Корпаецца ў сумачцы.)* Вось заўсёды так... Калі трэба — як скразняком змахне... Ага! Вось яна. *(Працягвае паперку Вяршылу.)*

В я р ш ы л а *(яшчэ не разгарнуўшы заявы)*. Хто ж у вас памёр, Кацярына Антонаўна?

З а г у м е н н а я. Ніхто, дзякуй богу. Усе жывы і здаровенькі.

В я р ш ы л а *(са здзіўленнем)*. Для каго ж вы труну заказваеце?

З а г у м е н н а я. Для сябе, мае дзеткі...

Усеагульнае ашаламленне. Папсуева круціць пальцам каля скроні, стараючыся, каб гэта ўбачыў Вяршыла.

В я р ш ы л а. Для сябе?! Але ж вы яшчэ... Даруйце... Жывая!

З а г у м е н н а я. А як жа я паспею заказаць, калі памру?

В я р ш ы л а. Бабуля! У вас адзінаццаць дзяцей і трыццаць тры ўнукі! Няўжо яны не паклапоцяцца?

З а г у м е н н а я. Ай, пра што вы кажаце, Віктар Паўлавіч! Вядома, паклапоцяцца. Але навошта ж ім лішні клопат?.. Хадзіла я ў той камбінат... Там заўсёды чарга. Людзі нервуюцца, плачуць, лаюцца... І на тых, хто жыве. І на тых, хто памёр... Ведаеце, колькі я за сваё жыццё ў чэргах настаялася? У-га! Па хлеб, па мыла, па керасін, паркаль, па муку, па масла, па сялёдку... Калі скласці ўсё гэта ў адно месцейка, дваццаць гадоў з майго жыцця выкрасліць трэба. Дальбог, не меней!.. Не хачу, каб мае дзеці праз мяне яшчэ ў чарзе стаялі. Непакоіліся... Перажывалі... Я ж не толькі дамавінку, я і стужкі да вяночкаў хачу заказаць. Ад іх імя... Няхай прыедуць яны на ўсё гатовае і паплачуць трошкі па мне... Яны ж у мяне вельмі харошыя! Занятыя ад начы і да начы... То канферэнцыі, то сімпозіумы, то футбол...

Вяршыла. Ну, матуля... Усякае чуць даводзілася. А такое чую ўпершыню. Аналагаў яшчэ не было. І дзе ж вы, прабачце, будзеце трымаць... дамавіну?

Загуменная. У хаце, за шырмачкай. А як адчую, што пара мая прыйшла, пераапрануся ва ўсё чыстае і лягу... І нікому ніякіх клопатаў. Толькі перад гэтым усім тэлеграмы пашлю...

Нечакана вельмі гучна загучала арыя князя Ігара «О дайце, дайце мне свабоду!».

Загуменная. Ой, якая прыгожая музыка ў вас! Проста сэрца ў ёй купаецца! А то цяпер як пачнуць дзьмуць — ва ўсім калгасе шыбы з вокнаў высыпаюцца...

Вяршыла *(справіўшыся з хваляваннем)*. Можа, мяне і асудзяць, але просьбу вашу, Кацярына Антонаўна, я выканаю.

Загуменная *(расчулена)*. Дзякую, сынок! Вось нездарма ж падказалі людзі да цябе ісці... Толькі ты ўжо, калі ласка, напішы, каб прыгажэйшая была. Грошы ў мяне ёсць. Я заплачу... Жыццё ў мяне ой якое было! Не дай бог нікому такога. То хоць паляжу ў прыгожым доміку. Гэты ж ужо апошні будзе...

Вяршыла. Напішу, каб самы прыгожы быў. І бясплатна.

Загуменная *(спалохана замахала рукамі)*. Не! Не! Не трэба бясплатна! Што пра мяне людзі скажуць? Я ж багатая!.. Вось толькі, калі можна... Напішы ты, сынок, каб з дубу зрабілі... Я разумею, чаму ты так глядзіш на мяне. Думаеш, з глузду з'ехала бабка! Нібыта не ўсё роўна ёй, у якой дамавіне будуць яе костачкі тлець?.. Ды не... Мне ўсё адно... А раптам я яшчэ затрымаюся на гэтым свеце? А шашаль возьме ды і паточыць маю дамавінку... Калі яна будзе з простых дошак змайстравана. А дуб яму не па зубах...

Вяршыла *(хутка піша і аддае заяву)*. Вось, Кацярына Антонаўна... Напісаў, каб без усякай чаргі! Самую прыгожую і абавязкова з дубу.

Загуменная. Дзякую, сынок! Праўду кажуць: свет не без добрых людзей. Дзякую! *(Нізка кланяецца Вяршылу.)* Хоць я ў бога і не веру, але памалюся за цябе... Сардэчны ты чалавек, хоць і міністр! *(Кланяецца Папсуевай і Міралюбаву.)* І вам, дзеткі, дзякую! *(Ідзе да дзвярэй, нізка кланяючыся. Там яна здымае тапкі, зноў надзявае пантофлі і, яшчэ раз пакланіўшыся, выходзіць.)*

Вялікая паўза.

Папсуева. Вар'ятка нейкая! Трэба праверыць, ці не збегла яна з Навінак...

Вяршыла *(не вытрымлівае і крычыць)*. Замаўчыце, Тамара Цімафееўна! Замаўчыце! Яна не вар'ятка! Яна разумнейшая за нас з вамі!..

Папсуева. Калі кожная бабуля захоча яшчэ пры жыцці заказаць сабе дамавіну, у чым будзем хаваць сапраўдных нябожчыкаў?

Міралюбаў *(узнімаецца, падыходзіць да Папсуевай і, гледзячы ёй у вочы, пачынае лічыць)*. Адзін, два, тры, чатыры, пяць, шэсць, сем, восем...

Вяршыла *(спакойна)*. Ягор Фёдаравіч... Сядзьце на сваё месца. *(Падае першай тэлефаністцы кавалачак паперы.)* Люда! Закажыце мне вось гэты нумар. Тэрмінова!.. Таварышы... Думаю, усе вы пераканаліся, што апарат працуе бездакорна. Яго трэба неадкладна зацвярджаць і запускаць у серыю. Паколькі думкі падзяліліся, пратакол зараз падпісваць не будзем. Справа не зусім звычайная. Я павінен параіцца...

Першая тэлефаністка. Віктар Паўлавіч! Здыміце пяты. Там абанент, якога вы прасілі...

Вяршыла *(па тэлефоне)*. Мама? Гэта ты?.. Ага, гэта я, Віктар... Віця... Ды не, нічога не здарылася... Проста захацелася пачуць твой голас... Як ты там?.. Здароўе як?.. Я пытаюся, як здароўе?.. Можа, лякарствы якія патрэбны?.. Што я хацеў?.. Хачу сказаць, што ў нядзелю мы прыедзем да цябе ў госці... Ага... Усе... І Наташа, і дзеці... Мы засумавалі па табе... Гэта ж колькі не бачыліся!.. Не, на гэты раз не ашукаем... Абавязкова прыедзем... Да сустрэчы, мама! Цалую цябе... *(Паклаў трубку, доўга сядзіць моўчкі.)* Значыць, я пайшоў. Прашу не разыходзіцца і чакаць мяне. Вы, Мікалай Ягоравіч, таксама будзьце тут.

Мурашка. Добра, Віктар Паўлавіч. Буду чакаць...

Вяршыла выходзіць. Святло паступова гасне. Нейкі час на сцэне поўная цемра. Потым на сцэне пачынае святлець. Гэта ўжо раніца. Няма тэлефаністак і Нюры. Папсуева і Міралюбаў спяць там, дзе сядзелі... Вельмі асцярожна азіраючыся, ціхенька ўзнімаецца Міралюбаў. Ён на пальчыках падыходзіць да выпрабавальнага крэсла, павольна абыходзіць яго, некалькі разоў дакранаецца да бліскучага паўабруча — спачатку адным пальцам, затым далоню, затым ужо абедзвюма рукамі. І боязна, і надта ж хочацца! Нарэшце ён асцярожна садзіцца ў крэсла. Паўза. Пачынае гучаць танец маленькіх лебедзяў.

Міралюбаў шчасліва ўсміхаецца, заплюшчыў вочы і слухае, слухае цудоўную мелодыю. Яму нават не хочацца ўзнімацца з крэс-

ла. Але ён прымушае сябе ўзняцца. Ён на пальчыках, як балерына, танцуе танец маленькіх лебедзяў, выкідваючы такія фантастычныя па, якія і не сніліся маленькім лебедзям. Пад музыку, танцуючы, ён ідзе на сваё месца і, шчасліва ўсміхаючыся, засынае. Цяпер ужо, здаецца, па-сапраўднаму. Гома нармаліс! Большага ён і не хацеў.

Папсуева *(ціха ўзнімаецца і падыходзіць да Міралюбава)*. Ягор Фёдаравіч!.. Ягор Фёдаравіч!.. *(Грамчэй.)* Ягор Фёдаравіч!..

Але шчаслівы Міралюбаў спіць, як дзіця. Папсуева падыходзіць да Мурашкі і таксама спачатку ціха, а затым грамчэй кліча яго.

Мікалай Ягоравіч!.. Мікалай Ягоравіч!.. Прачніцеся!..

Спіць моцным сном і Мурашка, супакоены тым, што нарэшце ў яго з'явілася рэальная надзея. Папсуева надзвычай асцярожна, кругамі падыходзіць да магічнага крэсла. Доўга не адважваецца, але вельмі ўжо вялікая спакуса, якая ўрэшце перамагае. Папсуева ціха, па сантыметры ў секунду, апускае сваё цела ў крэсла. Села, чакае. Маўчанне. Папсуева крыху паёрзала ў крэсле, прыўзнялася і зноў села. Адзін раз, другі... І раптам рэзка, аглушальна грыміць туш. Ён, як прашча, выстрэльвае з крэсла Папсуеву і ў адзін міг пераносіць яе на тое месца, дзе яна перад гэтым спала. Падхапіліся спалоханыя Мурашка і Міралюбаў. Толькі Папсуева «спіць». А туш грыміць! Уваходзіць Вяршыла.

Вяршыла. Што тут у вас адбываецца? Чаму такое землетрасенне? Хто ўключыў? Мікалай Ягоравіч! Спыніце музыку! Вы ж увесь горад на ногі ўздымеце!

Мурашка *(завіхаючыся каля апарата)*. Нічога не разумею! Да апарата ніхто не падыходзіў. А яго зашкаліла і замкнула...

Папсуева *(зларадна)*. Ну?! Цяпер бачыце? Без усякай прычыны і зашкаліла і замкнула! Я ж казала, што гэтаму сепаратару нельга верыць! А вы хочаце вырашаць ім чалавечы лёс!..

Вяршыла. Ды зрабіце ж вы што-небудзь, Мікалай Ягоравіч!

Нарэшце Мурашку ўдалося ўціхамірыць свой мудрамер. Ён націснуў нейкую кнопку, і ў кабінеце ўсталявалася напружаная цішыня. Усе ўважліва глядзяць на Вяршылу. Але на яго твары такая складаная гама пачуццяў, што прачытаць яе немагчыма. Ён нават знешне змяніўся, стаў нейкім іншым. Ён прайшоў за свой стол, сеў і доўга маўчыць.

Міралюбаў. Ну што, Віктар Паўлавіч?

Вяршыла *(не адразу)*. Віншую вас, таварышы... Нас скарацілі...

П а п с у е в а. Каго іменна?

Паўза.

В я р ш ы л а. Усіх. Усё міністэрства. *(Паўза.)* Нас ператварылі ў інстытут мудраметрыі...

П а п с у е в а. У што ператварылі?

В я р ш ы л а. Навукова-даследчы інстытут мудраметрыі... Аклады на пяцьдзесят працэнтаў вышэй міністэрскіх.

Паўза.

М у р а ш к а *(разгублена)*. А як жа я? Што будзе з маім апаратам?

В я р ш ы л а. Вас, Мікалай Ягоравіч, мы бяром у свой інстытут малодшым навуковым супрацоўнікам. Будзеце разам з намі ўдасканальваць апарат. На яго даводку нам далі дзесяць гадоў.

М у р а ш к а. Што?! Якая даводка? Пра што вы гаворыце, Віктар Паўлавіч! Вы ж пераканаліся, што апарат дасканалы!

В я р ш ы л а. Я вас разумею, Мікалай Ягоравіч!.. Нават, калі хочаце, крыху спачуваю... Але... Вы кажаце, не патрэбна даводка?

М у р а ш к а. Не патрэбна!

В я р ш ы л а. Тады растлумачце мне... Чаму яго раптам ні з таго ні з сяго зашкаліла і замкнула?

М у р а ш к а. Не ведаю... Упершыню такое здарылася.

В я р ш ы л а. Вось бачыце... А трэба! Абавязкова! Каб ніякіх нечаканасцей. У апарат «там» паверылі і далі нам дзесяць гадоў... на яго дапрацоўку.

М у р а ш к а *(ледзь не плача)*. Я ў канцы дня вам скажу, у чым справа. З ім жа ўпершыню такое! Не трэба дзесяць гадоў! Дайце мне дзесяць гадзін! Максімум дзесяць дзён дайце! Не больш!

Вяршыла па-сяброўску бярэ яго за плячо і адводзіць крыху ўбок.

В я р ш ы л а *(ціха, з асаблівым значэннем)*. Вы дзе працуеце Мікалай Ягоравіч?

М у р а ш к а. Зараз? Нідзе... Звольнілі... Скарацілі...

В я р ш ы л а. Калі гэта здарылася?

М у р а ш к а. Даўно. Шэсць гадоў назад.

В я р ш ы л а. Жонка яшчэ не кінула?

М у р а ш к а. Пакуль не...

В я р ш ы л а. Дзеці ёсць?

М у р а ш к а. Двое...

В я р ш ы л а. Карміць іх трэба?

М у р а ш к а. Пакуль яны мяне кормяць...

В я р ш ы л а. І вы яшчэ супрацiўляецеся... Мы ж вам даём пастаянную пасаду малодшага навуковага супрацоўніка... Вы не доктар навук?

М у р а ш к а. Не, што вы!..

В я р ш ы л а. І не кандыдат?

М у р а ш к а. Не...

В я р ш ы л а. Больш высокую пасаду даць не можам. Праз год ці два атрымаеце ступень і будзеце разам з намі даводзіць патрошкі, пакрысе свой мудрамер. Мы яго абавязкова зробім, Мікалай Ягоравіч!

М у р а ш к а *(крычыць)*. Навошта ж дзесяць гадоў?! Хопіць дзесяць гадзін!

В я р ш ы л а. Так трэба, Мікалай Ягоравіч. Так трэба... Сама жар-птушка села ў вашы рукі, а вы яе трымаць не хочаце! Трымайце сваю жар-птушку мацней! Трымайце! А то...

Вяршыла не дагаварыў. У кабінет улятае З а л і в а к а. Пальцамі рукі ён паказвае «вікторыю». Захлынаючыся ад шчасця, ён нават гаварыць не можа — бегае і кожнаму па чарзе паказвае «вікторыю». Нарэшце з яго вырваўся пераможны кліч: «Вікторыя! Вікторыя!»

Мурашка ў роспачы падае ў выпрабавальнае крэсла, закрыўшы твар рукамі. І апарат запрацаваў. Урачыста і велічна, як гімн чалавеку, чалавечай мудрасці, гучыць «Слаўся!». Вяршыла, Міралюбаў і Папсуева ўздрыгнулі ад нечаканасці і міжволі сталі вакол Мурашкі ганаровай вартай. Стаў і Залівака, цяпер ужо паказваючы «вікторыю» пальцамі абедзвюх рук.

На гэтай урачыстай і велічнай ноце і закрываецца заслона.

## ЗМЕСТ



*Литературно-художественное издание*

**Матуковский Николай Егорович**

**МУДРОМЕР**

Избранные пьесы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Матукоўскі Мікалай Ягоравіч**

**МУДРАМЕР**

Выбраныя п'есы

Рэдактар Н. І. Семашкевіч. Мастак С. В. Макееў. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар І. М. Паланейчык.

ІБ № 3204

Здадзена ў набор 20.06.88. Падп. да друку 14.03.89. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 18,06+0,84 укл. Ум. фарб.-адб. 19,74. Ул.-выд. арк. 19,66. Тыраж 6000 экз. Зак. 1594. Цана 1 р. 60 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.